17. Национальный исторический архив Беларуси.

18. Kempa, T. Mikołaj Krzyaztof Radziwiłł Sierotka (1549–1616). Wojewoda wileński / T. Kempa. – Warszawa : Septer, 2000. – 382 s.

19. Собаль, В. Е. Археалагічныя даследаванні ў Нясвіжы ў 1997–1998 гг. / В. Е. Собаль // Мастацкая спадчына Нясвіжа : матэрыялы Міжнар. навук. канф., Нясвіж, 2006. – С. 129–137.

20. Archiwum Głőwny Akt Dawnych. Archiwum Radziwiłłowskie w Warszawie.

21. Реставрация памятников архитектуры / С. С. Подъяпольский [и др.] ; под ред. С. С. Подъяпольского. – М. : Стройиздат, 1988. – 240 с.

22. Bersohn, M. Dawna zbrojownia książąt Radziwillów w Nieswieżu / M. Bersohn – Warszawa, 1904. – 150 s.

23. Отдел рукописей и редких книг библиотеки РАН в Санкт-Петербурге. – Ф. 812. – Доп. опись. – Ед. хр. 140. – Л. 13.

24. Коссажецькій, К. Слуцька фортеця в період воси першоі половини XVII ст. / К. Коссажецькій // Zamojsko-wołyńskie zeszyty muzealne = Замосцько-волинські музейні зошити. – Zamość, 2004. – Т. 2 : Numer specialny. Twierdze kresowe Rzeczypospolitej. = Спеціальний номер. Пограничні фортеці Речі Посполитоі. – S. 41–59.

25. Сыракомля, У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах / У. Сыракомля. – Мінск : Полымя, 1994 – 117 с.

26. Дыярыюш князя Міхала Казіміра Радзівіла ваяводы віленскага, гетмана вялікага ВКЛ // Спадчына. – 1995. – № 4. – С. 40–65.

27. Мяцельскі, А. Знаходкі агнястрэльнай зброі ў Нясвіжскім замку / А. Мяцельскі // Беларус. гіст. часопіс. – 2011. – № 2. – С. 44–45.

28. Мяцельскі, А. Новыя знаходкі агнястрэльнай зброі з Нясвіжскага замка / А. Мяцельскі, В. Ціхінская // Беларус. гіст. часопіс. – 2012. – № 6. – С. 42–45.

29. Korrespondencja. Papiery Pana Ambrożego // Athenaeum. – Wilno, 1845. – T. 6. – S. 150–160.

30. Bytnośċ Stanislawa Augusta w Nieświżu // Obraz Polaków i Polski w XVIII wieku. – Poznań, 1845. – T. 16. – S. 28–66.

**Рэзюмэ**

*А. А. Мяцельскі*

**Фартыфікацыя Нясвіжскага замка канца XVI – пачатку XVIII стст. (па матэрыялах гісторыка-археалагічных даследаванняў 2001–2011 гг.)**

Артыкул прысвечаны этапам фарміравання фартыфікацыйных збудаванняў Нясвіжскага замка. Пабудаваны ў канцы XVI – пачатку XVII ст. замак пасля вайны 1654–1667 гг. быў значна ўзмоцнены, аб чым сведчыць павелічэнне памераў яго бастыёнаў, будаўніцтва дадатковых вынасных бастыёнаў, запаўненне вадой раней сухога абарончага рова, будаўніцтва за р. Уша тэт-дэ-пона. Аднак ў XVIII ст. замак страціў фартыфікацыйнае прызначэнне і паступова ператварыўся ў палацавы комплекс, упісаны ў старую фартыфікацыю.

**Summary**

*A. A. Miacelski*

**Fortification of the castle Nesvizhsky end 16$^{th}$ – early 18$^{th}$ century (based on historical and archaeological research 2001–2011 years)**

The article is devoted to the stages of creating the fortifications of the castle Nesviz. Built in the end of 16$^{th}$ – early 18$^{th}$ century. Castle, after the war of 1654–1667 has been strengthened, as evidenced by the increase in the size of its bastions, the construction of additional remote bastions filled with water before dry defensive ditch construction at river Usha Tête de Pont. However, in the 18$^{th}$ century fortified castle lose importante and gradually turned into a palace complex is inscribed in an old fortification.

*УДК 903.01(476)«08/10»*

***В. У. Мядзведзева,** Інстытут гісторыі НАН Беларусі, аддзел захавання і выкарыстання археалагічнай спадчыны, старшы навуковы супрацоўнік, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск, Беларусь)*

# Вырабы касцярэзнага рамяства IX–XI стст. на тэрыторыі Беларусі як гістарычная крыніца (па матэрыялах аднабаковых грабянёў)

Па разнастайных касцяных прадметах (у тым ліку і аднабаковых грабянях ці расчосках) можна прасачыць узаемаадносіны насельніцтва тэрыторыі Беларусі ў IX–XI стст. як з бліжэйшымі суседнімі землямі, так і з аддаленымі краінамі. Акрамя таго, расчоскі з'яўляліся вырабамі, у якіх заключаны значны аб'ём гістарычнай і культурнай памяці, а інфармацыйная характарыстыка гэтых рэчаў шырокая і рознабаковая. З'яўляючыся прадметамі бытавой прыналежнасці, яны тым не менш валодалі наборам розных функцый – практычнай, саслоўнай, магічнай, эстэтычнай, рэгіянальнай, рытуальнай, абрадавай і інш.

Рознабаковымі, шматграннымі былі эканамічныя, гандлёвыя, культурныя і іншыя міжнародныя сувязі насельнікаў Беларусі ў раннім сярэдневякоўі з Усходняй і Заходняй Еўропай. Кантакты ажыццяўляліся па некалькіх водных гандлёва-культурных шляхах, асноўнымі з іх былі шлях «з варагаў у грэкі» і заходнедзвінскі. Заходняя Дзвіна, якая з'яўлялася галоўнай воднай магістраллю Полацкай зямлі, з IX па XII ст. была адным з самых значных адгалінаванняў шляху «з варагаў у грэкі», па якім плавалі ад Балтыйскага да Чорнага мора ўсходнія славяне, скандынавы і балты. Таму на тэрыторыі Беларусі ўздоўж усяго шляху і яго адгалінаванняў сустракаюцца розныя прывазныя рэчы (у тым ліку і вырабы з косці) скандынаўскага, заходнееўрапейскага, усходняга паходжання. У IX–XI стст. значна ўмацаваліся гандлёвыя, эканамічныя, культурныя сувязі з заходнееўрапейскімі цэнтрамі рамяства і гандлю. Насельніцтва беларускіх земляў кантактавала з суседняй Прыбалтыкай, а таксама са Скандынавіяй, іншымі культурна-гандлёвымі цэнтрамі Заходняй Еўропы. Гэтыя сувязі мелі не аднабаковы характар: праз тэрыторыю Беларусі на захад і ўсход траплялі разнастайныя тавары. Такое ўзаемадзеянне спрыяла культурнаму і духоўнаму росту насельніцтва розных тэрыторый. Відавочнымі і значнымі былі даволі цесныя, шматгадовыя кантакты насельніцтва Беларусі, асабліва Полацкай зямлі, са скандынаўскімі краінамі. Аб міжнародных сувязях з паўночна-еўрапейскімі краінамі і сведчаць аднабаковыя грабяні (расчоскі) і іх футаралы. Стыль выканання вырабаў гаворыць аб запазычанні іх матэрыяльных носьбітаў ці ідэй, менавіта, са Скандынавіі [11, с. 16–17; 12, с. 127–128; 18, с. 300–308; 17, с. 161–162].

Найбольш значная калекцыя аднабаковых грабянёў-расчосак (37 экз.), зробленых па замежных аналагах, была выяўлена ў Полацку – стольным горадзе Полацкай зямлі. Спачатку расчоскі належалі да дарагіх вырабаў, даступных, у асноўным, сацыяльным вярхам і заможным пластам насельніцтва, таму яны, у большасці, і знойдзены ў Полацку, дзе жылі князі, іх блізкія і прыбліжаныя да іх людзі. Расчоскі маюць агульнаеўрапейскае распаўсюджванне, таму можна меркаваць, што на тэрыторыю Беларусі яны трапілі з балтыйска-скандынаўскіх цэнтраў. Аднак потым была наладжана іх мясцовая вытворчасць, спачатку як пераймание агульнаеўрапейскіх формаў, традыцый, а потым як уласная інтэрпрэтацыя прататыпаў. Аб гэтым сведчаць нарыхтоўкі, паўфабрыкаты, незакончаныя апрацоўкай рэчы, а таксама форма, памеры, арнамент, якія істотна адрозніваліся ад заходнееўрапейскіх. Наогул, па словах расійскага даследчыка Р. С. Мінасяна «Древнерусское производство формировалось при непосредственном участии представителей различных технических школ. Весьма существенный вклад привнесли сюда скандинавские ремесленники» [26, с. 197].

Расчоскі, альбо аднабаковыя грабяні (гэта значыць нарэзаныя частымі зубцамі толькі з аднаго боку) належаць да катэгорыі «Бытавыя вырабы», групы «Прадметы туалету». Тут праяўляецца іх асноўная практычная функцыя як прадметаў асабістай гігіены. Грабяні былі, звычайна, невялікіх памераў, часта добра арнаментаваны, знаходзіліся ў футаралах і бытавалі ў межах IX–XI стст. Прымянялі іх часцей за ўсё мужчыны, напэўна, для расчэсвання валасоў, вусоў і барады, а таксама ўсе жыхары ў гігіенічных мэтах. Выраб такіх прадметаў быў складаны і патрабаваў шырокага асартыменту інструментаў (сякеры, розныя пілкі і нажы, напільнікі, свердзелы, долаты, цыркулі і інш.), а таксама значных навыкаў іх выпрацоўкі і высокай кваліфікацыі майстра, таму рабілі іх, менавіта, касцярэзы-прафесіяналы [13, с. 67–70; 19, с. 80–82; 21, с. 78–89].

Акрамя побытавай раскрываецца і рэгіянальная функцыя гэтых рэчаў. Выяўлены аднабаковыя грабяні на тэрыторыі Беларусі ў 25 месцах паўсюдна – Полацкая і Тураўскія землі, Панямонне і Падняпроўе (гл. табліцу). Расчоскі найбольш характэрны для тэрыторый Віцебскай, Мінскай і Гомельскай

абласцей, што звязана з арэалам пражывання крывічоў і радзімічаў. Знойдзены дадзеныя прадметы на розных відах археалагічных помнікаў: у гарадах (на дзяцінцах, пасадах, тэрыторыі вакольных гарадоў), а таксама на гарадзішчах, селішчах, у курганных могільніках. Усяго на тэрыторыі Беларусі на дадзены момант вядома 122 экз. расчосак (цэлых і фрагментаваных), іх накладак і футаралаў.

Большасць расчосак знойдзена пры археалагічных даследаваннях на тэрыторыі Полацкай зямлі: у 12 месцах – 83 экз. Напрыклад, у Полацку выяўлена 37 экз., Віцебску – 18, Прудніках – 8, Друсвятах – 5, Лукомлі – 3, Мінску – 2, Браславе – 1, а таксама ў курганных могільніках каля в. Чарневічы Глыбоцкага р-на, Глінішча Полацкага р-на, Навасёлкі Мядзельскага р-на – па 1 экз., Дарахі Гарадоцкага р-на (2), Ізбішча Лагойскага р-на (4) [28, с. 212–213, мал. 1: *2*, 2: *1–3, 5*, табл. 1; 31, с. 254–255]. У Тураўскай зямлі аднабаковыя грабяні вядомы з 5 месцаў – 10 экз.: Тураў (3), Пінск (2), Клецк (1), курганы каля в. Гарадзішча Пінскага р-на (2) і Надаткі Мазырскага р-на (2). На тэрыторыі Панямоння знойдзена 20 расчосак у гарадах: Гродна (3), Ваўкавыск (7), Навагрудак (10). У Падняпроўі аднабаковыя грабяні выяўлены на 5 помніках – 9 экз.: Гомель (2), Мсціслаў (1), а таксама ў курганных могільніках каля вв. Гадзілавічы Рагачоўскага р-на (2), Мохаў Лоеўскага р-на (2), пас. Усход Магілёўскага р-на (2) [27, с. 71–72].

Расчоскі маюць агульнаеўрапейскае распаўсюджванне, але радзімай іх паходжання лічыцца Скандынавія, дзе яны з’явіліся ў III–IV стст. і адкуль распаўсюдзіліся на тэрыторыі Заходняй, Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў VI–VII стст. [26, с. 193–197]. На тэрыторыю Беларусі яны трапілі ў IX ст. і гэта была Полацкая зямля. Тут спачатку выкарыстоўвалі прывазныя прадметы, імпартнага паходжання (мал. 2: *1, 2*; 3: *8*; 7: *7*; 9: *6*), якія выраблялі ў большасці з трубчастых костак буйной рагатай жывёлы, рагоў паўночных аленяў, маржовых іклаў. Замежныя грабяні былі вялікіх памераў (даўжынёй 14–25 см, вышынёй да 5 см), канцавыя часткі з відарысамі жывёл, дэкор вельмі складаны, амаль заўсёды камбінаваны (адметнасцю з’яўляліся S-падобныя ўзоры). На тэрыторыю Полацкай зямлі яны траплялі з балтыйска-скандынаўскіх цэнтраў, аднак хутка была запазычана іх ідэя і наладжана мясцовая вытворчасць падобных узораў, частка якіх распаўсюджвалася на іншыя землі Беларусі. Мясцовыя вырабы адрозніваліся ад сваіх прататыпаў па сыравіне (выкарыстоўваліся, у асноўным, рогі ласёў), па памерах (былі даўжынёй 8–12 см, вышынёй 2–3 см), форме (простая, без канцавых аздабленняў), арнаментацыі (без арнаменту, ці вочкава-геаметрычны). Аб тым, што расчоскі выраблялі мясцовыя майстры, сведчаць знаходкі рагоў са слядамі апрацоўкі, нарыхтоўкі накладак і пласцін з намечанай нарэзкай зубцоў, а таксама іх паўфабрыкаты. Хаця не выключана, што некаторая частка аднабаковых грабянёў была прывезена з балтыйска-скандынаўскіх тэрыторый.

На тэрыторыі Беларусі грабяні-расчоскі, у асноўнай сваёй масе, у напластаваннях пазней XI ст. не сустракаюцца, таму яны з’яўляюцца дастаткова надзейнай крыніцай для стратыграфічнага датавання помнікаў.

Расчоскі падзяляюцца на два тыпы: цэльныя і састаўныя (трохслойныя).

***Тып А*** – аднабаковыя грабяні цэльныя вузкія (IX–XI стст.). Дадзеных вырабаў знойдзена 10 экз. (Полацк і Гомель – па 2, Віцебск, Мінск, Прудніҡі, Гродна, Клецк, Мсціслаў – па 1 экз.) (мал. 1; 10: *4*) [33, с. 298, мал. 17: *2*; 24, с. 47, рис. 24: *8*; 34, мал. 65: *3*; 41, мал. 63: *2*; 42, с. 72, мал. 104: *8*; 45, с. 270, рис. 4: *3*]. Такія расчоскі былі зроблены з адной рогавай пласціны, у большасці – высокія, вузкія. У верхняй частцы ці збоку мелі скразную адтуліну для прывешвання. Як лічыла В. І. Давідан, такія грабяні служылі, напэўна, для замацавання, сколвання і ўпрыгожвання прычоскі [4, с. 102, рис. 4: *1–3*]. Па меркаванні іншых даследчыкаў, некаторыя з іх маглі таксама прымяняць для расчэсвання воўны ці ільну, альбо выкарыстоўваць у ткацтве.

Грэбень з Полацка (мал. 1: *1*) – гэта высокі (10 см), вузкі (2,0–3,5 см) і тонкі (0,2 см) выраб падтрапецыяпадобнай формы. У верхняй частцы ёсць невялікая прадаўгаватая (0,2 × 0,5 см) скразная адтуліна для замацавання. Грэбень не арнаментаваны і датаваны IX–X стст.

Аднабаковы грэбень з Прýднікаў (мал. 1: *4*) знойдзены на селішчы і датаваны IX ст. Зроблены з адной пласціны даўжынёй 5,0 см, вышынёй 5,7 см, таўшчынёй 0,6 см, збоку мае скразную адтуліну для прывешвання дыяметрам 0,5 см. Знізу нарэзаны частыя, тоўстыя зубцы, каля зубцоў і зверху грэбень аздоблены тонкімі палоскамі геаметрычнага сеткавага арнаменту.

Расчоска з Мінска (мал. 1: *5*) з захаванай даўжынёй 9,5 см, таўшчынёй 0,5 см, з абламанымі рэдкімі вялікімі зубцамі, таму вышыню вызначыць немагчыма. З абодвух бакоў аздоблена вочкавым арнаментам і датавана X ст.

Падобныя расчоскам з Полацка, Прýднікаў, Гродна і Мсціслава прадметы вядомы ў Белай Вежы і Старой Ладазе (IX – першая палова X ст.), а аналагічны полацкаму грэбеню знойдзены ў Звянігарадзе, дзе выкарыстоўваўся для расчэсвання прадзіва, у Калабжэгу і Вроцлаве (Польшча), якія датаваны X–XIII стст. і якія прымянялі для расчэсвання ільну, ці ў ткацтве, а таксама ў Рызе, Таліне, Шлезвігу, Даргуне (Германія, XI ст.), Швецыі і іншых месцах [1, рис. 12: *7*; 37, с. 147, рис. 2: *3*; 50,

s. 352, taf. XVII: *3*; 51, p. 14, 2.att.: *12*; 53, s. 231, rys. 27: *q*, rys. 44: *q*; 57, s. 157–159].

***Тып Б –*** аднабаковыя грабяні-расчоскі састаўныя – 112 экз. (мал. 2–5, 8–11). Расчоскі гэтага тыпу былі складзены з некалькіх (ад 6 да 8) пласцін з зубцамі з аднаго боку і замацаваны з двума накладкамі пры дапамозе металічных ці касцяных цвічкоў, штыфтоў, заклёпак. Накладкі мелі дугападобную спінку, рознае афармленне канцавых частак і часта былі добра аздоблены (мал. 6). Захоўваліся такія грабяні ў футаралах, упрыгожаных цыркульна-лінейным ці геаметрычным арнаментам, з якімі расчоскі былі злучаны спецыяльным шарнірам (мал. 7, 11). У адносінах арнаментацыі раскрываецца яшчэ адна функцыя грабянёў – эстэтычная. Па форме, памерах і арнаменту дадзеныя вырабы можна падзяліць на падтыпы.

*Падтып а.* Прамыя, не арнаментаваныя альбо слаба аздобленыя грабяні-расчоскі (мал. 2) (9 экз., Полацк, Мінск, Віцебск), якія датаваны IX–X стст. [32, с. 89, мал. 7: *1–4*; 33, с. 298, мал. 17: *1*; 47, с. 91, рис. 48: *1, 2*]. Грабяні гэтага падтыпу былі зроблены па замежных (скандынаўскіх) аналагах, аднак ад апошніх у асобных экзэмплярах захаваліся толькі блізкія памеры (14 см), форма ж была мясцовая. Магчыма, некаторыя з іх былі прывазнымі. Характэрнай рысай такіх расчосак з'яўляецца альбо поўная адсутнасць арнаментацыі, або яна была слаба адлюстравана, а таксама прамавугольная форма грабянёў, накладак і ў большасці невялікія памеры (8–12 см). У той час як іх паўночна-заходнія аналагі былі часта мудрагелістай, даволі складанай формы, заўсёды добра аздоблены камбінаванымі арнаментамі і вялікіх памераў (14–25 см). Расчоскі без арнаменту сведчаць аб спрашчэнні іх апрацоўкі, як вынік большай таннасці і даступнасці вырабаў.

Вызначальнымі і адметнымі з гэтага падтыпу з'яўляюцца расчоскі з Полацка. Тры з іх (мал. 2: *1, 2*; 3: *8*) бліжэй да скандынаўскіх прататыпаў: даўжынёй 13–14 см, вышынёй 3,0–3,5 см, аднак з прамымі бакамі і вузкімі амаль прамымі верхнімі накладкамі без арнаменту, змацаванымі штыфтамі. Іншыя па ўсіх параметрах мясцовыя: даўжынёй 8–10 см, вышынёй 2,5 см, з прамымі бакамі і не аздобленымі накладкамі.

*Падтып б.* Масіўны грэбень з рэдкімі зубцамі (мал. 5: *1*) (Віцебск, X–XI стст.). Ад грэбеня дадзенага падтыпу захавалася толькі частка даўжынёй 9 см, вышынёй 4,5 см. Сам грэбень масіўны, тоўсты і гэткія ж вялікія рэдкія зубцы (0,2–0,6 см). Крыху дугападобная накладка з краю арнаментавана чатырма вертыкальнымі палоскамі [2, с. 106, рис. 95: *1*].

*Падтып в.* Гэта самы масавы падтып, да якога адносіцца асноўная большасць аднабаковых грабянёў з такіх гарадоў, як Полацк, Віцебск, Пруднікі, Браслаў, Дрысвяты, Лукомль, Ваўкавыск, Навагрудак, Тураў, Пінск і інш. (мал. 3–5, 8–10) [2, с. 106, рис. 95: *2–7*; 3, табл. 21, рис. 5: *4, 5, 8*, 8: *5, 6*; 7, мал. 19: *5*; 8, с. 51, 53, рис. 16: *1*, 18: *1–4*; 9, с. 95–96, мал. 66: *1, 2*; 10, с. 59, мал. 3: *13*; 22, с. 59, рис. 11: *1*; 23, с. 162; 29, с. 273, мал. 2: *7*; 30, с. 9; 32, с. 89, мал. 7: *5–7*; 45, с. 270, рис. 4: *8, 9*; 48, с. 50, рис. 7: *1*]. Грабяні гэтага падтыпу прамыя, арнаментаваныя, з дугападобнымі накладкамі і на канцах бывае маюць невялікія выступы. Храналагічна яны былі распаўсюджаны ў X – першай палове XI ст. Прапорцыі такіх вырабаў складалі ў асноўным 7–10 см у даўжыню пры вышыні 2–3 см. Усе яны арнаментаваны цыркульным, лінейным, геаметрычным арнаментамі, або іх спалучэннямі. Дадзеныя прадметы часта былі ў футаралах, аздобленых такім жа арнаментам, што і накладкі спінак (мал. 7). Часцей сустракаецца геаметрычны дэкор у выглядзе ромбаў, выкананых парнымі нарэзкамі і калі-нікалі заштрыхаваных. Такі малюнак запаўняе ўсю сярэднюю частку накладак, а канцы ўпрыгожаны папярочнымі лініямі. На некаторых грабянях прысутнічаюць арнаменты ў выглядзе сеткі, а таксама вочкавыя, якія складаюцца з круга з кропкай усярэдзіне (мал. 6).

Аналіз рэчавых знаходак з сярэдневяковых пахавальных помнікаў на тэрыторыі Беларусі дазваляе канстатаваць, што сярод пахавальнага інвентару асобая роля належыць грабяням. Пры археалагічных даследаваннях у курганных могільніках выяўлена 17 расчосак з дзевяці месцаў (гл. табліцу). Усе яны знойдзены ў футаралах, толькі чатыры з іх цэлыя, астатнія – фрагментаваныя (мал. 11). Датаваны прадметы X–XI стст., і большасць з іх знойдзена ў мужчынскіх шматінвентарных пахаваннях. Арыенціроўка пахаваных у асноўным заходняя па абраду трупапалажэння. Тапаграфія размяшчэння грабянёў каля касцякоў розная: каля пояса, каля тазавых костак, каля ног, пад чэрапам, каля сценкі ямы [28, с. 212–217; 46, с. 134, мал. 70: *11*, 83: *7*]. У першых выпадках распалажэнне гэтых рэчаў суадносіцца з найбольш традыцыйнымі спосабамі іх нашэння: прывешвання каля грудзей, або да пояса – і сведчыць аб тым, што яны з'яўляліся асабістай уласнасцю памерлых. Пакладанне ж грэбеня каля сценкі – гэта дараванне ад родзічаў, каб ён служыў і ахоўваў свайго гаспадара і ў іншым жыцці. Як бачна, утылітарная функцыя грабянёў дапаўняецца іх магічнай функцыяй і выкарыстаннем гэтых рэчаў у розных аспектах жыццядзейнасці чалавека, таму што ў іх праяўляецца адзінства практычнага і сімвалічнага [15, с. 21–22; 16, с. 37–42; 19, с. 80–88; 49, с. 316].

Знаходжанне расчосак у пахаваннях сведчыць аб іх рытуальным характары і дастаткова ўстойлівай традыцыі выкарыстання ў пахавальнай абраднасці. Абрадавая функцыя грабянёў вынікае яшчэ з язычніцкіх часоў і значэнне іх як рытуальных

прадметаў захоўвалася на працягу многіх стагоддзяў. Па словах расійскай даследчыцы В. А. Кандрацьевай: «Сам факт нахождения гребня в захоронении свидетельствует о ритуальном характере предмета, его назначении “сопутствовать” человеку в иной потусторонней жизни. Характерно при этом, что в этих ритуалах гребень рассматривается как носимый, так сказать походный предмет – индивидуальная собственность покойного или же он является напутственным приношением или даром, по-видимому, от семьи и родственников умершего» [15, с. 22; 16, с. 40; 19, с. 85]. Трэба адзначыць, што грабяні шырока выкарыстоўвалі і ў вясельнай абраднасці, аб чым пазначана нават у этнаграфічных даных [19, с. 84–85].

Аналогіі расчоскам вельмі шырокія і маюцца на вялікіх тэрыторыях і шмат у якіх месцах (Расія, Украіна, Польшча, Германія, Швецыя, Нарвегія і г.д.) [4, с. 95–108; 5, с. 54–63; 6, с. 167–174; 14; 20, с. 94–98; 25, с. 218–225, рис. 186–190; 35, с. 152–154; 36, с. 21, табл. 11: *1–5*, 13: *1–7*; 38, с. 86–88, табл. 31–32; 39, с. 70–80; 40, с. 176–182; 43, с. 39–42, рис. 2; 44, с. 164–169; 52; 54, s. 87–140; 55, s. 366–379; 56, s. 205–217; 57, s. 288–296; 58, taf. 37–40, 121–122, 192, 292; 59, s. 23–24, 42–43, 58–59, 81–82; 60, s. 41–144; 61, s. 301–328; 62, s. 419–428; 63, s. 485–533; 64, s. 199–222; 65, s. 159–181; 66, s. 161–193; 67, tabl. XXXII: 2 *a–f*].

Такім чынам, магчыма канстатаваць, што грабяні-расчоскі служаць у якасці рознабаковай гістарычнай крыніцы і асвятляюць многія напрамкі і сферы жыццядзейнасці сярэдневяковага насельніцтва на тэрыторыі Беларусі: гаспадарчую дзейнасць, побыт, культуру, абрады, міжнародныя сувязі і інш.

Як бачна, пры вытворчасці аднабаковых грабянёў на тэрыторыі Беларусі існавалі два ўзроўні майстэрства: запазычанае (пераймальнае) і мясцовае, якое не падпарадкоўвалася агульнаеўрапейскім прынятым канонам. На змену прадметам паўночнаеўрапейскіх форм усё часцей прыходзілі ўзоры мясцовай выпрацоўкі. Гісторыя вытворчасці гэтай масавай групы касцяных вырабаў дэманструе запазычанне жыхарамі сярэдневяковай Беларусі разглядаемага атрыбуту заходнееўрапейскай культуры, наступнае яго засваенне і пераход да ўласнай вытворчасці, аб чым сведчаць нарыхтоўкі, паўфабрыкаты і незакончаныя апрацоўкай экзэмпляры. Неабходна адзначыць, што менавіта імпартных рэчаў выяўлены адзінкі (два фрагменты расчоскі з Полацка і адзін фрагмент з Навагрудка) (мал. 7: *7*; 9: *6*), магчыма, прывазнымі былі і некаторыя іншыя грабяні з Полацка і Віцебска (мал. 2: *1, 2, 9*; 3: *8*). Таму гісторыя развіцця касцяных вырабаў з тэрыторыі Беларусі хаця і дэманструе ў некаторых выпадках запазычанне асобных навыкаў заходнееўрапейскай культуры і наступнае іх засваенне, усё ж такі асноўная маса прадметаў мае менавіта мясцовае паходжанне. Трэба таксама звярнуць увагу на тое, што сярэдневяковае насельніцтва Беларусі запазычвала матэрыяльныя носьбіты, аднак у большасці запазычанай была ідэя, або некаторыя элементы і арнаменты расчосак. Падабенства аднабаковых грабянёў з тэрыторыі Беларусі з такімі ж заходнееўрапейскімі прадметамі ў адносінах да іх формы, арнаменту, тэхнікі выканання сведчыць пра культурныя, эканамічныя і гандлёвыя сувязі, што існавалі паміж землямі Беларусі і іншымі тэрыторыямі.

**Літаратура**

1. Артамонов, М. И. Белая Вежа / М. И. Артамонов // СА. – 1952. – Вып. 16. – С. 42–76.

2. Бубенько, Т. С. Средневековый Витебск. Посад – Нижний замок (X – первая половина XIV в.) / Т. С. Бубенько. – Витебск : Вит. гос. ун-т, 2004. – 276 с.

3. Гуревич, Ф. Д. Древний Новогрудок (посад – окольный город) / Ф. Д. Гуревич. – Л. : Наука, 1981. – 160 с.

4. Давидан, О. И. Гребни Старой Ладоги / О. И. Давидан // АСГЭ / Государственный ордена Ленина Эрмитаж. – Л., 1962. – Вып. 4 : Славянские древности. – С. 95–108.

5. Давидан, О. И. К вопросу о происхождении и датировке ранних гребенок Старой Ладоги / О. И. Давидан // АСГЭ / Государственный ордена Ленина Эрмитаж. – Л., 1968. – Вып. 10 : Материалы и исследования по археологии СССР. – С. 54–63.

6. Давидан, О. И. Новые находки гребней в Старой Ладоге / О. И. Давидан // РА. – 1999. – № 1. – С. 167–174.

7. Дук, Д. У. Ляпная кераміка і рэчавы комплекс вакольнага горада старажытнага Полацка (па выніках раскопак 2008 г.) / Д. У. Дук // Беларускае Падзвінне : вопыт, методыка і вынікі палявых даследаванняў (да 80-годдзя пачатку археалагічных раскопак у г. Полацку): зб. навук. прац рэсп. навук.-практ. семінара, Полацк, 20–21 лістап. 2008 г. / пад агульн. рэд. Д. У. Дука, У. А. Лобача. – Наваполацк : ПДУ, 2009. – С. 9–30.

8. Зверуго, Я. Г. Древний Волковыск (X–XIV вв.) / Я. Г. Зверуго. – Минск : Наука и техника, 1975. – 144 с.

9. Іоў, А. В. Старажытнае паселішча на Ясельдзе / А. В. Іоў, В. С. Вяргей. – Мінск : Беларус. навука, 2012. – 175 с. : іл.

10. Клімаў, М. В. Асобныя аспекты развіцця паўночнай часткі Вялікага пасада г. Полацка (па выніках археалагічных даследаванняў 2009 г. на вул. Ф. Скарыны) / М. В. Клімаў // Беларускае Падзвінне : вопыт, методыка і вынікі палявых і міждысцыплінарных даследаванняў : зб. навук. прац Міжнар. навук. канф., прысв. 160-годдзю з дня нараджэння А. П. Сапунова, Полацк, 21–23 крас. 2011 г. : у 2 ч. / пад агульн. рэд. Д. У. Дука, У. А. Лобача. – Наваполацк, 2011. – Ч. 1. – С. 55–64.

11. Кондратьева, О. А. Отражение славяно-балтофинских этнокультурных связей в изделиях древнерусского художественного косторезного ремесла (по материалам роговых гребней IX–XI вв.) / О. А. Кондратьева // Вопросы финно-угроведения. Этнография, антропология, археология, фольклористика, литературоведение :

тез. докл. на XVI Всесоюз. конф. финно-угроведов, Сыктывкар, июнь 1979 г. – Сыктывкар, 1979. – Ч. II. – С. 16–17.

12. Кондратьева, О. А. Древнерусские гребни IX–XI вв. как источник для изучения межэтнических и культурных контактов / О. А. Кондратьева // Тез. докл. сов. делегации на V МКСА. – М., 1985. – С. 127–128.

13. Кондратьева, О. А. Технология производства средневековых односторонних наборных гребней / О. А. Кондратьева // Археология и история Пскова и Псковской земли : материалы науч. семинара. – Псков, 1986. – С. 67–70.

14. Кондратьева, О. А. Изделия косторезного ремесла Руси IX–XI вв. как исторический источник (по материалам гребней) : автореф. дис. … канд. ист. наук : 07.00.06 / О. А. Кондратьева ; Лен. отд. Ин-та археологии АН СССР. – Л., 1986. – 23 с.

15. Кондратьева, О. А. Гребень в погребальном обряде (по материалам восточноевропейских могильников X–XI вв.) / О. А. Кондратьева // Археология и история Пскова и Псковской земли : тез. докл. к предстоящей науч. конф. по теме: «Древнерусское язычество и его традиции». – Псков, 1988. – С. 21–22.

16. Кондратьева, О. А. Гребень в погребальном обряде (по материалам древнерусских могильников X–XI вв.) / О. А. Кондратьева // Язычество восточных славян : сб. науч. тр. – Л., 1990. – С. 37–42.

17. Кондратьева, О. А. Древнерусские гребни. Источниковедческий аспект / О. А. Кондратьева // VI Междунар. конгресс славянской археологии : тез. докл. сов. делегации, г. Прилеп, Югославия, 1990 г. – М., 1990. – С. 161–162.

18. Кондратьева, О. А. Древнерусские гребни IX–XI вв. : местное производство и общеевропейские традиции / О. А. Кондратьева // Памятники старины. Концепции. Открытия. Версии : памяти В. Д. Белецкого (1919–1997). – СПб., Псков, 1997. – Т. 1. – С. 300–308.

19. Кондратьева, О. А. «Язык» гребня. К вопросу о семиотическом статусе вещи / О. А. Кондратьева // Раннесредневековые древности Северной Руси и ее соседи. – СПб., 1999. – С. 80–88.

20. Кондратьева, О. А. Новые находки гребней из Псковского городища / О. А. Кондратьева, С. В. Белецкий // Старая Ладога и проблемы археологии Северной Руси : сб. статей, посвящ. памяти Ольги Ивановны Давидан. – СПб., 2002. – С. 94–98.

21. Кондратьева, О. А. Некоторые вопросы производства односторонних наборных гребней в IX–XI вв. на Руси и их европейские параллели / О. А. Кондратьева // Археология, история, нумизматика, этнография Восточной Европы : сб. статей, посвящ. памяти проф. И. В. Дубова / Гос. ун-т, ист. ф-т ИИМК РАН, Рос. этнограф. музей ; под ред. проф. А. Н. Кирпичникова, доц. В. Н. Седых. – СПб., 2004. – С. 78–89.

22. Лысенко, П. Ф. Города Туровской земли / П. Ф. Лысенко. – Минск : Наука и техника, 1974. – 200 с.

23. Лысенко, П. Ф. Древний Пинск XI–XIII вв. / П. Ф. Лысенко. – Минск : БелАДИ, 1997. – 192 с.

24. Макушников, О. А. В поисках древнего Гомия / О. А. Макушников. – Гомель, 1994. – 64 с.

25. Меснянкина, С. В. Изделия из кости и рога / С. В. Меснянкина // Археология севернорусской деревни X–XIII веков : средневековые поселения и могильники на Кубенском озере : в 3 т. / отв. ред. Н. А. Макаров. – М. : Наука, 2008. – Т. 2 : Материальная культура и хронология. – С. 215–253.

26. Минасян, Р. С. О скандинавском компоненте в древнерусском производстве / Р. С. Минасян // АСГЭ / Государственный Эрмитаж. – СПб., 1999. – Вып. 34 : К 100-летию со дня рождения Михаила Илларионовича Артамонова. – С. 193–198.

27. Мядзведзева, В. У. Касцяныя грэбні з курганоў X–XII стст. Рагачоўшчыны / В. У. Мядзведзева // Старажытнасці Рагачоўшчыны : матэрыялы навук.-практ. канф., Рагачоў, сак. 2000 г. / Ін-т гісторыі НАН Беларусі, Рагачоўскі краязн. музей ; уклад. Г. В. Цітовіч [і інш.]. – Мінск ; Рагачоў, 2000. – С. 71–72.

28. Мядзведзева, В. У. Грэбні ў пахаваннях X–XII стст. на тэрыторыі Беларусі / В. У. Мядзведзева // Гіст.-археалаг. зб. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Мінск, 2002. – № 17. – С. 212–217.

29. Мядзведзева, В. У. Касцяныя вырабы з сярэднявечных гарадоў (па матэрыялах раскопак М. А. Ткачова) / В. У. Мядзведзева // Castrum, urbis et bellum : зб. навук. прац. / навук. рэд. Г. Семянчук, А. Мяцельскі. – Баранавічы, 2002. – С. 272–285.

30. Мядзведзева, В. У. Майстэрства касцярэзаў Лукомля і яго акругі X–XIII стст. / В. У. Мядзведзева // Лепельскія чытанні : навук.-практ. канф., прысвеч. 565-годдзю г. Лепеля, Лепель, 27 кастр. 2004 г. / Установа культуры «Лепельскі раённы краязнаўчы музей»; уклад. А. У. Стэльмах. – Лепель, 2004. – С. 7–10.

31. Мядзведзева, В. У. Расчоска / В. У. Мядзведзева // Археалогія Беларусі : энцыкл. : у 2 т. / рэдкал.: Т. У. Бялова (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2011. – Т. 2 : Л–Я. – С. 254–255.

32. Мядзведзева, В. У. Касцярэзнае рамяство Полацка X–XVIII стст. / В. У. Мядзведзева // Беларускае Падзвінне : вопыт, методыка і вынікі палявых і міждысцыплінарных даследаванняў : зб. навук. прац Міжнар. навук. канф., прысвеч. 160-годдзю з дня нараджэння А. П. Сапунова, Полацк, 21–23 крас. 2011 г. : у 2 ч. / пад агульн. рэд. Д. У. Дука, У. А. Лобача. – Наваполацк, 2011. – Ч. 1. – С. 83–94.

33. Мядзведзева, В. У. Матэрыяльная культура Мінска XI–XVIII стст. (касцярэзны аспект) / В. У. Мядзведзева // Гіст.-археалаг. зб. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Мінск, 2012. – № 27. – С. 297–324.

34. Пазднякоў, В. С. Клецк X–XVIII стст. : матэрыяльная і духоўная культура беларускага феадальнага горада / В. С. Пазднякоў. – Мінск : БелНДІДАС, 2008. – 287 с.

35. Понсов, В. А. Односторонние костяные составные гребни из раскопок в Новгороде / В. А. Понсов // Древнее производство, ремесло и торговля по археологическим данным : тез. докл. IV конф. молодых ученых ИА АН СССР. – М., 1988. – С. 152–154.

36. Рыбина, Е. А. Гребни, расчески / Е. А. Рыбина, Р. Л. Розенфельдт // Археология. Древняя Русь : Быт и культура / под общ. ред. акад. Б. А. Рыбакова. – М., 1997. – С. 19–22.

37. Свешников, И. К. Исследование пригорода древнерусского Звенигорода / И. К. Свешников // Труды V МКАС : в 4 т., Киев, 18–25 сент. 1985 г. / Междунар. Уния Славян. археол., Ин-т археол. АН СССР, Ин-т археол. АН УССР ; редкол.: П. П. Толочко [и др.]. – Киев, 1988. –

Т. 2 : Секция III. Жизнь и быт средневекового города. – С. 142–147.

38. Сергєєва, М. С. Косторізна справа у Стародавньому Києві / М. С. Сергєєва. – Київ : КНТ, 2011. – 256 с.

39. Смирнова, Л. И. Новгородские гребни из моржового клыка / Л. И. Смирнова // Новгород и Новгородская земля. История и археология : материалы науч. конф., Новгород, 23–25 янв. 1996 г. / Новгород. госуд. объедин. музей-заповедник ; редкол.: П. Г. Гайдуков [и др.]. – Новгород, 1996. – Вып. 10. – С. 70–80.

40. Смирнова, Л. И. К вопросу о верхней границе бытования односторонних составных гребней в Новгороде / Л. И. Смирнова // Новгород и Новгородская земля. История и археология : материалы науч. конф., Новгород, 28–30 янв. 1997 г. / Новгород. госуд. объедин. музей-заповедник; редкол.: П. Г. Гайдуков [и др.]. – Новгород, 1997. – Вып. 11. – С. 176–182.

41. Тарасаў, С. В. Полацк IX–XVII стст. : Гісторыя і тапаграфія / С. В. Тарасаў. – Мінск : Беларус. навука, 1998. – 183 с.

42. Трусаў, А. А. Стары замак у Гродне XI–XVIII стст. : гіст.-археалаг. нарыс / А. А. Трусаў, В. Е. Собаль, Н. І. Здановіч ; навук. рэд. Г. В. Штыхаў. – Мінск : Навука і тэхніка, 1993. – 152 с.

43. Флёрова, В. Е. Резная кость юго-востока Европы IX–XII веков : Искусство и ремесло. По материалам Саркела – Белой Вежи из коллекции Государственного Эрмитажа / В. Е. Флёрова. – СПб. : Алетейя, 2001. – 252 с. : ил.

44. Цнотливы, Э. Зарождение костеобрабатывающего ремесла в прибалтийском районе в IX–X вв. / Э. Цнотливы // Труды V Междунар. конгр. археологов-славистов. – Киев, 1988. – Т. 2. – С. 164–169.

45. Шадыро, В. И. Городище и селище Прудники / В. И. Шадыро // Lietuvos archeologija 21. – Vilnius, 2001. – P. 267–274.

46. Штыхаў, Г. В. Крывічы : па матэрыялах раскопак курганоў у Паўночнай Беларусі / Г. В. Штыхаў. – Мінск : Навука і тэхніка, 1992. – 191 с.

47. Штыхов, Г. В. Древний Полоцк (IX–XIII вв.) / Г. В. Штыхов. – Минск : Наука и техника, 1975. – 136 с.

48. Штыхов, Г. В. Города Полоцкой земли (IX–XIII вв.) / Г. В. Штыхов. – Минск : Наука и техника, 1978. – 160 с.

49. Шуклина, Ю. К. Волосы и гребни в традиционных представлениях народов Западной Сибири в конце I тысячелетия н. э. / Ю. К. Шуклина // Культура Сибири и сопредельных территорий в прошлом и настоящем : материалы Всерос. 43-й археол.-этногр. конф. молодых ученых, Томск, 1–3 апр. 2003 г. – Томск, 2003. – С. 315–316.

50. Aus, T. Vorläufige ausgrabungsergebnisse von der Harju-strasse in Tallinn / T. Aus, B. Dubovik // Toimetised Eesti NSV Teaduste Akadeemia. Ühiskonnateadused. – Tallinn, 1989. – 38. – P. 349–354.

51. Caune, A. Arheologiskie izrakumi Rīgā, Trokšņa un L. Pils ielā / A. Caune // Zinātniskās atskaites sesijas. Materiāli par arheologu un etnogrāfu 1973 gada pētījumu rezultātiem. – Rīga : Zinātne, 1974. – P. 12–17.

52. Chmielowska, A. Grzebienie starożytne i średniowieczne z ziem polskich / A. Chmielowska // Acta Archaeologica Lodziensia. – Łódź, 1971. – Nr. 20. – 160 s.

53. Cnotliwy, E. Rzemiosło rogownicze na Pomorzu wczesnośredniowiecznym / E. Cnotliwy. – Wroclaw ; Warszawa ; Kraków ; Gdańsk : PAN, 1973. – 331 s.

54. Cnotliwy, E. Wczesnośredniowieczne grzebienie z Kruszwicy / E. Cnotliwy // Slavia Antigua 34. – Warszawa, Poznan, 1994. – S. 87–140.

55. Cnotliwy, E. Grzebienie w kulturze wczesnosłowiańskiej na terenie południowej i środkowej Polski / E. Cnotliwy // Kraje słowiańskie w wiekach średnich. Profanum i Sacrum. – Poznań, 1998. – S. 366–379.

56. Dulinicz, M. Grzebień z osady w Poświętnem w woj. mazowieckim / M. Dulinicz, M. Natuniewicz-Sekula // Hereditatem cognoscere. Studia i szkice dedykowane Profesor Marii Miśkiewicz. – Warszawa, 2004. – S. 205–217.

57. Eketorp–III. Den medeltida befästningen på Öland. Artefakterna. – Almqvist & Wiksell International, Stocholm, 1998. – 371 s.

58. Herman, B. Die Vendelzeit Gotlands im auftrage der Kungl. Vitterhets historie och Antikvitets Akademien / B. Herman. – Stockholm, 1969. – II. Tafeln. – 500 s.

59. Herman, B. Die Vendelzeit Gotlands im auftrage der Kungl. Vitterhets historie och Antikvitets Akademien / B. Herman. – Stockholm, 1975. – I : 1 Text. – 200 s.

60. Hilczerówna, Z. Rogownictwo gdańskie w X–XIV wieku / Z. Hilczerówna // Gdańsk wczesnośredniowieczny. – Gdańsk, 1961. – T. IV. – S. 41–144.

61. Hilczerówna, Z. Wczesnośredniowieczne grzebienie zdobione motywami zwierzęcymi z ziem polskich / Z. Hilczerówna // Slavia Antiqua. – 1962. – T. 9. – S. 301–328.

62. Jaworski, K. Uwagi o grzebiennictwie dolnośląskim na przełomie X i XI wieku. Na marginesie rozważań nad dwoma zabytkami z Niemczy i Wrocławia / K. Jaworski // Kraje słowiańskie w wiekach średnich. Profanum i Sacrum. – Poznań, 1998. – S. 419–428.

63. Luik, H. Kahepoolsed kokkupandud luukammid Eestis / H. Luik // Proceedings of the Estonian Academy of Sciences / Humanities and social Sciences. – 1996. – T. 45, N 4. – S. 485–533.

64. Szurkowska, K. Wczesnośredniowieczne grzebienie z Gniezna / K. Szurkowska // Studia i Materiału Historyczne 3. – Gniezno, 1990. – S. 199–222.

65. Tilko, S. Kaula ķemmes no 10.–13. gs. Daugavas Lejteces kapulaukiem / S. Tilko // Arheologija un Etnogrāfija. – Riga, 2011. – L. XXV. – P. 159–181.

66. Thunmark-Nylén, L. Churhyard Finds from Gotland (11$^{th}$–12$^{th}$ centuries) / L. Thunmark-Nylén // Archaeology East and West of the Baltic. Papers from the Second Estonian-Swedish Archaeological Symposium Sigtuna, May 1991 / ed. by Ingmar Jansson. – Stockholm, 1995. – S. 161–193.

67. Żak, J. Grzebienie z wystrojem zwierzęcym z ziem polskich i zachodnio-słowiańskich / J. Żak // Wiadomości Archeologiczne. Bulletin archéologiqtee Polonais. – Warszawa, 1955. – T. XXII. – Z. 2. – S. 180–185.

**Касцяныя аднабаковыя грабяні (расчоскі) на тэрыторыі Беларусі**

| № п/п | Помнік | Месца знаходкі | Аўтар раскопак | Год знаходжання | Датаванне | Коль-касць |
|---|---|---|---|---|---|---|
| *Гарады, гарадзішчы, селішчы* | | | | | | |
| 1. | г. Полацк | Верхні замак | М. К. Каргер | 1957 | IX–X | 1 |
| | | Верхні замак | В. Р. Тарасенка | 1959–1960 | IX–X | 7 |
| | | Верхні замак | Г. В. Штыхаў | 1967 | X–XI | 2 |
| | | Вялікі пасад, Ніжні замак | С. В. Тарасаў | 1986–1989 | IX–XI | 20 |
| | | Вялікі пасад | Д. У. Дук | 2000, 2003, 2008, 2010 | X–XI | 5 |
| | | Вялікі пасад | М. В. Клімаў | 2009 | XI | 2 |
| 2. | г. Віцебск | Ніжні замак | Г. В. Штыхаў | 1964, 1966 | X–XI | 3 |
| | | Ніжні замак, Узгорскі астрог | В. М. Ляўко | 1976, 2003 | X–XI | 3 |
| | | Верхні замак | Л. У. Калядзінскі | 1979, 1988 | X–XI | 5 |
| | | Ніжні замак | Т. С. Бубенька | 1984, 1987, 1997 | IX–XI | 7 |
| 3. | г. Мінск | Замчышча, Пасад | Г. В. Штыхаў | 1974, 1976 | XI | 2 |
| 4. | г. Лукомль | Пасад | Г. В. Штыхаў | 1970 | X–XI | 3 |
| 5. | г. Браслаў | Гарадзішча | Л. В. Аляксееў | 1966 | x–xi | 1 |
| 6. | в. Дрысвяты, Браслаўскі р-н | Гарадзішча | М. А. Ткачоў | 1976, 1980 | XI | 3 |
| | | | Г. М. Семянчук | 2001 | XI | 2 |
| 7. | в. Пруднікі Міёрскі р-н | Гарадзішча, селішча | В. І. Шадыра | 1983–1984, 1987, 1990, 1994 | X–XI | 8 |
| 8. | г. Гродна | Стары Замак | З. Дурчэўскі | 1938 | X–XI | 1 |
| | | | А. А. Трусаў | 1985, 1987 | X–XI | 2 |
| 9. | г. Ваўкавыск | Гарадзішча | Я. Г. Звяруга | 1967–1968 | XI | 7 |
| 10. | г. Навагрудак | Дзяцінец, Вакольны горад | Ф. Д. Гурэвіч | 1957–1958, 1960, 1963, 1965 | X–XI | 10 |
| 11. | г. Тураў | Гарадзішча | В. В. Сядоў | 1961 | X–XI | 3 |
| 12. | г. Пінск | Гарадзішча | П. Ф. Лысенка | 1964 | | 2 |
| 13. | г. Клецк | Вакольны горад | Т. С. Бубенька, В. С. Пазднякоў | 1986 | XI | 1 |
| 14. | в. Гарадзішча, Пінскі р-н | Селішча | В. С. Вяргей | 1990 | IX–XI | 2 |
| 15. | г. Гомель | Вакольны горад | А. А. Макушнікаў | 1987 | X–XI | 2 |
| 16. | г. Мсціслаў | Пасад | А. А. Трусаў | 1984 | XI | 1 |
| | *Разам:* | – | – | – | – | 105 |
| *Курганныя могільнікі* | | | | | | |
| 17. | в. Чарневічы, Глыбоцкі р-н | Курганны могільнік-1 | Г. Цэгак-Галубовіч | 1938 | IX–XI | 1 |
| 18. | в. Гадзілавічы, Рагачоўскі р-н | Курган 5 | Г. Ф. Салаўёва | 1963 | X–XI | 2 |
| 19. | в. Глінішча, Полацкі р-н | Курган | Г. В. Штыхаў | 1967 | X | 1 |
| 20. | в. Дарахі, Гарадоцкі р-н | Курган 4 | Г. В. Штыхаў | 1973 | X–XI | 2 |
| 21. | в. Надаткі, Мазырскі р-н | Курган 2 | Г. М. Залашка | 1982 | X–XI | 2 |
| 22. | в. Ізбішча, Лагойскі р-н | Курганы 34, 64 | В. У. Казей | 1988 | X–XI | 4 |
| 23. | в. Навасёлкі, Мядзельскі рн | Курган 12 | В. Н. Рабцэвіч | 1989 | XI | 1 |
| 24. | пас. Усход, Магілёўскі р-н | Курган 46 | І. А. Марзалюк | 2008 | X–XI | 2 |
| 25. | в. Мохаў, Лоеўскі р-н | Курган 78 | А. А. Макушнікаў | 2011 | X | 2 |
| | *Разам:* | – | – | – | – | 17 |
| | *Усяго:* | – | – | – | – | 122 |



Мал. 1. Аднабаковыя грабяні (расчоскі) з тэрыторыі Беларусі: *1, 2* – Полацк; *3* – Віцебск; *4* – Пруднікі; *5* – Мінск; *6, 9* – Гомель; *7* – Гродна; *8* – Мсціслаў



Мал. 2. Расчоскі з тэрыторыі Полацкай зямлі: *1–6* – Полацк; *7* – Мінск; *8, 9* – Віцебск



Мал. 3. Расчоскі з тэрыторыі Полацкай зямлі: *1–9* – Полацк; *10* – Дрысвяты



Мал. 4. Расчоскі з тэрыторыі Полацкай зямлі: *1–6* – Пруднікі; *7, 8* – Віцебск



Мал. 5. Расчоскі з тэрыторыі Полацкай зямлі: *1–8* – Віцебск



Мал. 6. Накладкі ад расчосак і футаралаў з тэрыторыі Полацкай зямлі: *1–13* – Полацк; *14* – Дрысвяты; *15* – Віцебск; *16* – Браслаў



Мал. 7. Футаралы расчосак з тэрыторыі Полацкай зямлі: *1–2, 7* – Полацк; *3* – Віцебск; *4, 5* – Лукомль; *6* – Пруднікі



Мал. 8. Расчоскі і накладкі ад іх з тэрыторыі Панямоння: *1–7* – Ваўкавыск; *8, 9* – Гродна



Мал. 9. Расчоскі, іх накладкі і футаралы з тэрыторыі Панямоння: *1–10* – Навагрудак

Мал. 10. Расчоскі і накладкі з тэрыторыі Тураўскай зямлі: *1* – Тураў; *2–3* – Пінск; *4* – Клецк; *5, 6* – в. Гарадзішча Пінскага р-на



Мал. 11. Расчоскі з курганных могільнікаў, размешчаных на тэрыторыі Беларусі: *1* – в. Гадзілавічы Рагачоўскага р-на; *2* – в. Дарахі Гарадоцкага р-на; *3, 7–9* – в. Ізбішча Лагойскага р-на; *4* – в. Надаткі Мазырскага р-на; *5* – пас. Усход Магілёўскага р-на; *6* – в. Навасёлкі Мядзельскага р-на; *10* – в. Глінішча Полацкага р-на

**Резюме**

*О. В. Медведева*

**Изделия косторезного ремесла IX–XI вв. на территории Беларуси как исторический источник (по материалам односторонних гребней)**

Рассмотрена и проанализирована одна со значимых групп костяных предметов – односторонние гребни. На их основе можно проследить взаимоотношения населения территории Беларуси в IX–XI вв. как с ближайшими соседними землями, так и с отдаленными территориями. Кроме того, гребни-расчески – изделия, в которых заключен значительный объем исторической и культурной памяти, а информационная характеристика этих вещей широка и разнообразна. Являясь предметами бытовой принадлежности, они, тем не менее, обладали набором различных функций – практической, сословной, магической, эстетической, региональной, ритуальной. Расчески служат и в качестве разностороннего исторического источника, а также освещают многие направления и сферы жизнедеятельности средневекового населения на территории Беларуси: хозяйственную деятельность, быт, культуру, обряды, международные связи и др.

**Summary**

*O. V. Medvedeva*

**Products of bone carving crafts of the IX–XI centuries at the territory of Belarus as a historical source (on materials of one-side ridges)**

The article devotes to analyzing one of the significant group of bone items one – side ridges. It is possible to reconstruct the relationships between the territory of Belarus and the nearest neighboring lands and remote territories at the $9^{th}$–$11^{th}$ centuries on this basis. In addition such ridges concentrated a huge amount of historical and cultural memory. Characteristics of these things were broad and diverse. Being the objects of household accessories, they nevertheless had a set of different functions – practical, magical, esthetical, ritual, pointed to the stratifical and regional belongings. Combs were historical sources and covered many directions and spheres of medieval life at the territory of Belarus: economic activity, model of life, culture, ceremonies, international relations, etc.

*Пастyпіў 22.05.2013 г.*

*УДК [903.01/08:658.5](477.47)«653»*

***А. В. Петраускас,*** *Институт археологии НАН Украины, старший научный сотрудник, кандидат исторических наук (г. Киев, Украина);*
***В. В. Янченко,*** *Институт археологии НАН Украины, младший научный сотрудник (г. Киев, Украина)*

# Экспериментальное моделирование в Институте археологии НАН Украины и возможности его использования для развития музея «Парк «Киевская Русь»

Формирование государства и национальной идеи невозможно без изучения исторического достояния, которое досталось стране от прошлого. Особенно, если государство не имеет непрерывного исторического опыта суверенного развития, что характерно именно для Украины. Отсутствие такого опыта невероятно актуализирует задачу изучения и популяризации того фрагмента исторического наследия, связанного с существованием государственных образований на территории Украины, особенно если эти образования, в той или иной степени, связаны с современной Украиной процессом непрерывного историко-суверенного развития.

Научные исследования Киевской Руси – это история европейской гуманитарной науки на протяжении последних двух столетий. За этот период было открыто огромное количество памятников, проанализирован большой объем источников, предложены бесчисленные версии и ответы на них. И данный процесс, очевидно, бесконечен – это специфика любого научного познания. Не менее важной областью приложения исследовательского внимания, с нашей точки зрения, является «непосредственное воспроизведение предмета исторической действительности».

Это дает потомкам возможность почувствовать «живое прикосновение предков», ощутить атмосферу их жизни, самим провести время в ней, т. е. дать возможность понять специфику Киевской Руси «с обратной стороны музейного витринного стекла» с изнанки. Единственной возможностью добиться этого является «воссоздание образа», но не на мониторах и макетах, а в оригинале, в реальных размерах, причем с возможностью «глубокого погружения» в воссозданную действительность Киевской Руси.

Опытом комплексного решения проблемы воссоздания образа и атмосферы Киевской Руси является проект «Парк «Киевская Русь» (далее – ПКР). Проект создает образный комплексный фрагмент исторической реальности в современной урбанизированной среде, хотя и в максимально удобном для создания образа месте. В 34 км от Киева, в исторической местности (между древнерусскими Василевом и Витичевом, на левом берегу реки Стугна), с максимальной достоверностью проект воспроизводит архитектурный и культурный облик киевского Детинца (укрепленного городища) X–XIII вв. и атмосферу средневекового государства – Киевской Руси. Однако при этом авторы хотят особо подчеркнуть, что Детинец планируется как безусловно узнаваемый образ древнего Киева по образу и духу размерно-пространственной структуры, контуров, комплексов зданий и цветовой гамме. В то же время планируется создание современного градостроительного комплекса по своим функциям. Его создание нормировано рядом условий и правил современного градостроительства, а также наличием ряда функций, неизвестных древнему оригиналу (водопровод, канализация, энергоснабжение, техника безопасности). Функциональная необходимость заставляет ввести в состав Детинца ряд технологических объектов, которые будут визуально закрыты или технологически замаскированы. Так что образ Детинца не претерпит существенных изменений вследствие влияния современного урбанизированного века. Для решения задачи воспроизведения средневековой атмосферы предлагается восстановить не только образ древнего города-крепости, но и инфраструктуры Киеворусского государства, что позволяет на ограниченном пространстве, фактически, создать образ киевской Руси в целом. В том числе в плановых проектах ПКР много внимания уделяется экспериментальному моделированию процессов древнерусского производства и промыслов. Подобные работы были бы невозможны без сотрудничества со специалистами по экспериментальной археологии, научными сотрудниками Института археологии НАН Украины, которые уже давно занимаются данной проблематикой.

Отечественными и зарубежными учеными проводится достаточно большое количество исследований по экспериментальной археологии. Вспомним работу чешских исследователей Ренаты Малинова и Ярослава Малина [38], которые характеризуют историю экспериментальных исследований Европы, изучение жилищного строительства, эксперименты в области гончарства и металлургии, лесохимических промыслов, каменной индустрии [19]. Реконструкцию прошлого мы можем видеть и в так называемом Koelner Versuehen – воспроизведении похода легионеров [40, s. 55–57].

рэдкал.: Т. У. Бялова [і інш.]. – Мінск : Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2011. – Т. 1.– С. 414–415.

11. Исаенко, В. Ф. Неолит Припятского Полесья / В. Ф. Исаенко. – Минск : Наука и техника, 1976. – 128 с.

12. Исаенко, В. Ф. Памятники бронзового века / В. Ф. Исаенко // Археологическая карта Белоруссии. – Минск : Полымя, 1976. – Вып. 3. – 150 с.

13. Калечыц, А. Г. Верхнедняпроўская культура / А. Г. Калечыц // Археалогія Беларусі : у 4 т. – Мінск : Беларус. навука, 1997. – Т. 1 : Каменны і бронзавы вякі. – С. 170–190.

14. Клейн, Л. С. Археологическая типология / Л. С. Клейн. – Ленинград : Изд-во акад. наук СССР, 1991. – 448 с.

15. Клейн, Л. С. Феномен советской археологии / Л. С. Клейн. – СПб. : Фарн, 2003. – 128 с.

16. Крайнов, Д. А. Фатьяновская культура / Д. А. Крайнов // Археология СССР. Эпоха бронзы лесной полосы СССР. – М. : Наука, 1987. – С. 58–76.

17. Крайнов, Д. А. Культуры шнуровой керамики и ладьевидных топоров в Восточной Прибалтике / Д. А. Крайнов, И. А. Лозе // Археология СССР. Эпоха бронзы лесной полосы СССР. – М. : Наука, 1987. – С. 51–57.

18. Крывальцэвіч, М. М. Азярное 1 – паселішча эпохі бронзы на поўначы Палесся / М. М. Крывальцэвіч // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. – 1999. – Вып. 2. – 108 с.

19. Крывальцэвіч, М. М. Археалёгія і палітыка / М. М. Крывальцэвіч // Шуфляда. Часопіс найноўшай гісторыі. – 1999. – № 1. – С. 33–54.

20. Крывальцэвіч, М. М. «Шнуравы гарызонт» на Беларусі : праблемы ідэнтыфікацыі і генэзіса / М. М. Крывальцэвіч // Od neolityzacji do początków epoki brązu : przemiany kulturowe w międzyrzeczu Odry i Dniepru między VI i II tys. przed Chr. / red. J. Czebreszuk, M. Kryvaltsevič, P. Makarowicz. – Poznań, 2001. – S. 259–274.

21. Крывальцэвіч, М. М. Могільнік сярэдзіны III – пачатку II тысячагоддзяў да н. э. на Верхнім Дняпры – Прорва 1 / М. М. Крывальцэвіч. – Мінск : Ін-т гісторыі НАН Беларусі, 2006. – 202 с.

22. Лакіза, В. Л. Культурна-храналагічная класіфікацыя старажытнасцей бронзавага веку Беларускага Панямоння / В. Л. Лакіза // Od neolityzacji do początków epoki brązu. Przemiany kulturowe w międzyrzeczu Odry i Dniepru między VI i II tys. przed Chr. / pod red. J. Czebreszuka, M. Kryvalceviča, P. Makorowicza. – Poznań : Wydawnictwo Poznańskie, 2001. – S. 291–314.

23. Лакіза, В. Позні неаліт, ранні і сярэдні перыяды бронзавага веку Паўночна-Заходняй Беларусі. Стан і перспектывы даследаванняў / В. Лакіза // Wspólnota dziedzictwa kulturowego ziem Białorusi i Polski. – Warszawa : Ośrodek Ochrony Dziedzictwa Archeologicznego, 2004. – S. 99–119.

24. Лакіза, В. Л. Старажатнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння / В. Л. Лакіза. – Мінск : Беларус. навука, 2008. – 343 с.

25. Лакіза, В. Л. Бершты-Русакова / В. Л. Лакіза // Археалогія Беларусі : энцыклапедыя : у 2 т. / рэдкал.: Т. У. Бялова [і інш.]. – Мінск : Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2009. – Т. 1. – С. 107–108.

26. Лакіза, В. Л. Падгорнаўскага тыпу помнікі / В. Лакіза // Археалогія Беларусі : энцыклапедыя : у 2 т. / рэдкал.: Т. У. Бялова [і інш.]. – Мінск : Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2011. – Т. 2. – С. 155–156.

27. Лакиза, В. Л. К проблеме позднего неолита и начала бронзового века северо-западной Беларуси / В. Л. Лакиза // Человек. Адаптация. Культура. – М. : Ин-т археологии РАН, 2008. – С. 388–399.

28. Телегин, Д. Я. Поселения днепро-донецкой этнокультурной общности эпохи неолита : свод археологических источников / Д. Я. Телегин, Е. Н. Титова. – Киев : Наук. думка, 1998. – 142 с.

29. Третьяков, П. П. Финно-угры, балты и славяне на Днепре и Волге / П. П. Третьяков. – М. ; Ленинград : Наука, 1966. – 309 с.

30. Чарняўскі, М. М. Неаліт Беларускага Панямоння / М. М. Чарняўскі. – Мінск : Навука і тэхніка, 1979. – 144 с.

31. Чарняўскі, М. Могільнікі культуры шарападобных амфар на Гродзеншчыне / М. Чарняўскі // З глыбіні вякоў. Наш край : гіст.-культ. зб. – Мінск : Крок уперад, 1992. – С. 5–15.

32. Чарняўскі, М. М. Нёманская культура / М. М. Чарняўскі // Археалогія і нумізматыка Беларусі : энцыклапедыя / рэдкал.: В. В. Гетаў [і інш.]. – Мінск : Беларус. энцыклапедыя, 1993. – С. 462.

33. Чарняўскі, М. М. Эвалюцыя неалітычных культур на Беларускім Панямонні і Падзвінні / М. М. Чарняўскі // Час. Помнікі. Людзі : тэз. дакладаў Міжнар. канф. памяці рэпрэсаваных археолагаў. – Мінск, 1993. – С. 153–155.

34. Чарняўскі, М. М. Нёманская культура / М. М. Чарняўскі, У. Ф. Ісаенка // Археалогія Беларусі : у 4 т. – Мінск : Беларус. навука, 1997. – Т. 1 : Каменны і бронзавы вякі. – С. 145–170.

35. Чарняўскі, М. М. Культура шарападобных амфар / М. М. Чарняўскі // Археалогія Беларусі : у 4 т. – Мінск : Беларус. навука, 1997. – Т. 1 : Каменны і бронзавы вякі. – С. 211–219.

36. Чарняўскі, М. М. Помнікі са шнуравой керамікай Панямоння / М. М. Чарняўскі // Археалогія Беларусі : у 4 т. – Мінск: Беларус. навука, 1997. – Т. 1 : Каменны і бронзавы вякі. – С. 307–311.

37. Чарняўскі, М. М. Неаліт з грабеньчата-накольчатай керамікай Заходняй Беларусі. Асаблівасці эвалюцыі / М. М. Чарняўскі // Od neolityzacji do początków epoki brązu. Przemiany kulturowe w międzyrzeczu Odry i Dniepru między VI i II tys. przed Chr. / pod red. J. Czebreszuka, M. Kryvalceviča, P. Makorowicza. – Poznań : Wydawnictwo Poznańskie, 2001. – S. 231–240.

38. Чарняўскі, М. М. Да пытання вылучэння прыпяцка-нёманскай ранненеалітычнай культуры / М. М. Чарняўскі // Гіст.-археалаг. зб. – 2003. – № 18. – С. 25–33.

39. Чарняўскі, М. М. Неаліт Беларусі : праблемы перыядызацыі і храналогіі / М. М. Чарняўскі // Wspolnota dziedzictwa kulturowego ziem Bialorusi i Polski. – Warszawa : Ośrodek Ochrony Dziedzictwa Archeologicznego, 2004. – S. 99–119.

40. Чарняўскі, М. М. Нёманская неалітычная культура ў Беларусі : генезіс і эвалюцыя / М. М. Чарняўскі // Na rubiezy kultur. Badania nad okresem neolitu i wczesna epoka brazu / pod red. U. Stankiewicz, A. Wawrusiewicza. – Bialystok : Instytucja kultury woj. Podlaskiego, 2011. – S. 77–86.

41. Чебрешук, Я. К исследованию среднеевропейских факторов культурных перемен в лесной зоне Восточной

Европы в III тысячелетия до н. э. / Я. Чебрешук, М. Шмит // Гіст.-археалаг. зб. – 2003. – Вып. 18. – С. 34–57.

42. Чернявский, М. М. Некоторые итоги изучения неолитических поселений Белорусского Понеманья / М. М. Чернявский // Древности Белоруссии. – Минск : Ин-т истории АН БССР, 1966. – С. 83–97.

43. Чернявский, М. М. Бронзовый век / М. М. Чернявский // Очерки по археологии Белоруссии. – Минск : Наука и техника, 1970. – С. 109.

44. Чернявский, М. М. Неманская культура / М. М. Чернявский // Очерки по археологии Белоруссии. – Минск : Наука и техника, 1970. – С. 84–87.

45. Чернявский, М. М. Каменный и бронзовый века Понеманья и Подвинья / М. М. Чернявский // Белорусская археология : достижения археологов за годы Советской власти / редколл.: Г. В. Штыхов, В. Ф. Исаенко, Л. Д. Поболь. – Минск : Наука и техника, 1988. – С. 37–48.

46. Юрэцкі, С. С. Верхнедняпроўская неалітычная культура : пытанні гістарыяграфіі / С. С. Юрэцкі // Романовские чтения-8 : сб. статей Междунар. науч. конф. – Могилев : МГУ им. А. А. Кулешова, 2011. – С. 78–79.

47. Язэпенка, І. Да пытання аб інтэрпрэтацыі матэрыялаў неалітычных паселішчаў Беларускага Падняпроўя / І. Язэпенка // Гіст.-археалаг. зб. – 1994. – № 3. – С. 10–26.

48. Antoniewicz, W. Czasy przedhistoryczne i wczesnodziejowe ziemi Wileńskiej / W. Antoniewicz // Wilno i ziemia Wileńska. – Wilno : Wydawnictwo wojewodzkiego komitetu regionalnego, 1930. – T. 1. – S. 103–126.

49. Cehak-Hołubowiczowa, H. Zabytki archeologiczne województwa Wileńskiego i Nowogródskiego / H. Cehak-Hołubowiczowa. – Wilno : Dziennik urzedowej K.O.S. Wil., 1936. – 40 s.

50. Czebreszuk, J. Z zachodu na wschod i ze wschodu na zachod : kultury pucharowe i ugrupowania lesno-wschodnioeuropejskie na przelomie epok / J. Czebreszuk // Wspólnota dziedzictwa kulturowego ziem Białorusi i Polski. – Warszawa : Ośrodek Ochrony Dziedzictwa Archeologicznego, 2004. – S. 119–136.

51. Gardawski, A. Zagadnienie kultury «ceramiki grzebykowej» w Polsce / A. Gardawski // Wiadomości Archeologiczne. – 1958. – T. XXV. – Z. 4. – S. 287–313.

52. Girininkas, A. Akmens amzius / A. Girininkas // Lietuvos archeologia. – 2009. – T. 1. – P. 134–141.

53. Józwiak, B. Społesnosci subneolitu wschodnioeuropejskiego na Niżu Polskim w międzyrzeczu Odry i Wisły / B. Józwiak. – Poznań : Instytut Prahistorii Universitetu im. Adama Mickiewicza, 2003. – 449 s.

54. Józwiak, B., Domaradzka, J. Studia nad osadnictwem spolecnosci subneolitycznych w Polsce polnocno-wschodniej / B. Jozwiak, J. Domaradzka // Na rubiezy kultur. Badania nad okresem neolitu i wczesna epoka brazu / pod red. U. Stankiewicz, A. Wawrusiewicza. – Bialystok : Instytucja kultury woj. Podlaskiego, 2011. – S. 87–101.

55. Kempisty, E. Kultura ceramiki grzebykowo-dolkowej na Mazowszu i Podlasiu / E. Kempisty // Wiadomości Archeologiczne. – 1973. – T. XXXVIII. – Z. 1. – S. 3–76.

56. Kosko, A. Problem wschodniej rubieży kultur neolitycznych Niżu Środkowoeuropejskiego : VI–III tys. BC / A. Kosko, M. Szmyt // Wspólnota dziedzictwa kulturowego ziem Białorusi i Polski. – Warszawa : Ośrodek Ochrony Dziedzictwa Archeologicznego, 2004. – S. 80–98.

57. Szmyt, M. Between West and East. People of the Globular Amphora Culture in Eastern Europe. 2960–2350 B.C. / M. Szmyt // Baltic–Pontic Studies. – Poznan, 1999. – Vol. 6. – 349 p.

58. Wawrusiewicz, A. Okres neolitu i wczesnej epoki brazu na Podlasiu. Stan i perspekywy badan / A. Wawrusiewicz // Na rubiezy kultur. Badania nad okresem neolitu i wczesna epoka brazu / pod red. U. Stankiewicz, A. Wawrusiewicza. – Bialystok : Instytucja kultury woj. Podlaskiego, 2011. – S. 87–101.

## Резюме

*С. С. Юрецкий*

### К проблеме культурной идентификации неолитических древностей Белорусского Понеманья (историографический обзор)

Рассмотрена одна из основных проблем в изучении неолита Белорусского Понеманья – культурная идентификация местных неолитических древностей. Проанализирована научная литература, связанная с выделением в данном регионе следующих археологических культур: припятско-неманской, неманской, шаровидных амфор и круга культур шнуровой керамики. Рассмотрена концепция М. М. Чернявского, касающаяся неманской культуры, ее генезиса и развития, а также концепция В. Л. Лакизы о выделении на территории Белорусского Понеманья таксонов круга культур шнуровой керамики (группы памятников типа Бершты–Русаково и подгорновской группы памятников). Определены основные перспективные направления для дальнейшего исследования эпохи неолита рассматриваемого региона.

## Summary

*S. S. Yuretsky*

### The problem of the cultural identification of the Neolithic antiquities of Belarusian Neman (river flow)

The article is devoted to the problem of the cultural identification of the Neolithic antiquities. The author analyzes scientific literature, devoted to the archeological cultures of this region: Neman culture, Pripyat-Neman culture, Globular Amphora Culture and Corded Ware culture. Also the attention is paid to the concepts of M. M. Cherniavskij about genesis of the Neman culture. The author analyzes scientific approaches of V. L. Lakiza about taxa of the Corded Ware culture: group of sites Bershty–Rusakovo and Podgornovskoj group of sites. The writer also identifies the main prospective directions for further research of the topic.

*Пастуniў 28.10.2013 г.*

*УДК [903.1+903.21](4)«633»:930.2*

**В. У. Ашэйчык,** *Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, аспірант, магістр гістарычных навук (г. Мінск, Беларусь)*

# Крамянёвы інвентар яніславіцкай культуры: асноўныя накірункі вывучэння і некаторыя праблемы таксанамічнага падзелу

## 1. Уводзіны

З яніславіцкай культурай (далей – ЯнК) звязваецца развіццё чалавечай супольнасці позняга мезаліту на значных абшарах Польшчы, Украіны, Беларусі і Літвы. Сёння практычна ўсе вядомыя помнікі ЯнК – гэта стаянкі-паселішчы ці стаянкі-майстэрні. Выключэнне складаюць адзінкавыя пахавальныя комплексы. Сярод іх пахаванне з Яніславіц [52, 53, 62, 129] і пахаванне на паселішчы ў Возьнай Всі [128; 76, s. 48, 84][1]. З эпанімнага пахавання паходзіць і адзіны дакладна яніславіцкі комплекс вырабаў з арганічных матэрыялаў[2]. Часам у літаратуры да ЯнК адносяць некаторыя выпадковыя знаходкі (касцяныя наканечнікі з двума пазамі, арнаментаваныя рагавыя «магічныя жэзлы»[3]) з тэрыторыі паўночна-ўсходняй Польшчы, Літвы і Калінінградскай вобласці Расіі [67, s. 295; 80, s. 236–237; 88, s. 143–144; 92, s. 150–152]. Выказвалася таксама меркаванне пра верагоднасць прыналежнасці да ЯнК часткі рагавых прылад са Смаргонскага кар'ера, сярод якіх было арнаментаванае «жазло шамана» [39, с. 73–76; 41]. Аднак сувязь гэтых артэфактаў з ЯнК толькі гіпатэтычная.

Абсалютную ж большасць ідэнтыфікаваных з моманту выдзялення і на працягу апошніх 50 гадоў старажытнасцей ЯнК складаюць крамянёвыя матэрыялы, што робіць іх галоўным відам крыніц у даследаваннях яніславіцкай праблематыкі. У дадзеным артыкуле аўтар прапануе гістарыяграфічны агляд асноўных падыходаў да вывучэння крамянёвага інвентару і аналіз некаторых найбольш дыскутаваных даследчых праблем, што ўздымаліся ў сувязі з гэтым.

## 2. Гісторыя вылучэння ЯнК і базавая характарыстыка таксону

Упершыню паняцце яніславіцкай культуры для ідэнтыфікацыі мезалітычных помнікаў выкарыстаў польскі археолаг С. К. Казлоўскі ў 1964 годзе [81, s. 338–343]. Даследчык звярнуў увагу на падабенства паміж матэрыяламі некаторых стаянак Малапольшчы і інвентаром пахавання каля Яніславіц [52], ад якога ЯнК і атрымала сваю назву. Адначасова Х. Венцкоўска адзначыла тыпалагічнае адзінства некаторых мезалітычных комплексаў з тэрыторыі Мазовіі [141, 142]. Крыху пазней на іх падставе даследчыца сумесна з М. Марчак вылучыла вісляньскі індустрыяльны цыкл [148, s. 22–32; 149, s. 28–40]. У хуткім часе выявілася, што абедзьве назвы акрэсліваюць адну і тую ж з'яву [83, s. 33, 44; 92, s. 120]. Нягледзячы на розныя падыходы ў вылучэнні, абодва тэрміны «яніславіцкая культура» і «вісляньскі цыкл»[4] выкарыстоўваюць у археалагічнай

[1] Некаторыя даследчыкі схіляюцца да думкі пра прыналежнасць да ЯнК двух пахаванняў з Перкунова [72] у паўночна-ўсходняй Польшчы і некаторых пахаванняў на могільніках Дуанкальніс і Спігінас на воз. Біржуліс [49–51] у заходняй Літве [67, s. 296–297; 80, s. 237; 92, s. 153–154; 128, s. 54; 113]. Тым не менш культурная атрыбуцыя гэтых аб'ектаў з'яўляецца дыскусійнай і іх прыналежнасць да ЯнК пераканаўча не абгрунтавана.

[2] Шкілет пахаванага ў сядзячым становішчы мужчыны суправаджаў 41 крамянёвы артэфакт (7 яніславіцкіх вастрый са зламанай асновай, 14 яніславіцкіх трохвугольнікаў, 11 пласцін, 3 аднапляцовачныя нуклеусы ад рэгулярных пласцін, 2 нуклеусы ў пачатковай фазе эксплуатацыі, 2 пронуклеусы, 1 фрагмент канкрэцыі з уступнай апрацоўкай, 1 крамянёвы адбойнік) і каля 50 касцяных і рагавых знаходак, сярод якіх 3 прылады з касцей тура і аленя (штылеты ? наканечнікі дзідаў ? элементы капальных прылад ?), некалькі прылад з рагоў аленя, нажы-скрабачы з іклаў дзіка, нашыйнік з зубоў аленя (захавалася 20 яго элементаў) і інш.

[3] Названыя знаходкі не былі прадстаўлены ў Яніславіцкім пахаванні.

[4] Схема культурнага падзелу польскага мезаліту Х. Венцкоўскай і М. Марчак заснавана на прынцыпах і з выкарыстаннем тэрміналогіі, прапанаваных С. Крукоўскім і пазней дапрацаваных Р. Шыльдам. Мінімальнай адзінкай культурнага падзелу служыць «індустрыя» (przemysł). Індустрыя аб'ядноўвае крамянёвыя комплексы, што з'яўляюцца аднолькавымі з пункту гледжання тыпалагічнага складу і структуры (выражанай у працэнтных суадносінах паміж групамі тыпалагічных прылад). Шэраг індустрый, тыпалагічна падобных адна да адной, аб'ядноўваюцца ў «індустрыяльныя цыклы» (cykle przemysłowe). Прамежкавым звяном паміж індустрыяй і цыклам служыць «група індустрый» (grupa przemysłów). Важнае месца ў гэтай схеме займае таксама паняцце «міжіндустрыяльных элементаў» (elementy międzyprzemysłowe) [120, s. 132–134; 121; 145, s. 350]. С. К. Казлоўскі ў якасці базавага таксону выкарыстоўвае паняцце «археалагічная культура». Больш дробнай адзінкай служыць «культурная група» (grupa kulturowa). Адзінкамі вышэйшага ад археалагічнай культуры ўзроўню з'яў-

літаратуры. Пры гэтым ва ўсходнееўрапейскіх працах найчасцей можна сустрэць тэрмін, які прапанаваў С. К. Казлоўскі.

Пачатковая распрацоўка канцэпцыі ЯнК у якасці аднаго з таксонаў еўрапейскага мезаліту адбывалася на працягу другой паловы 1960-х – пачатку 1970-х гадоў галоўным чынам намаганнямі С. К. Казлоўскага [82; 83; 87; 89; 90] і Х. Венцкоўскай [143; 144; 148; 149], і ў адносна завершаным выглядзе была прадстаўлена ў дзвюх манаграфіях згаданых аўтараў [92; 145]. Асноўны вынік пералічаных даследаванняў: базавая тыпалагічная характарыстыка ЯнК, вызначэнне асноўнай тэрыторыі распаўсюджання культуры і першыя версіі яе датавання.

Своеасаблівасць і адметнасць ЯнК вызначаецца наступным наборам крамянёвага інвентару [92, s. 136–150; 145, s. 378–379]:

спецыфічныя мікраліты, звычайна блізкай да трохвугольнай формы, зробленыя з рэгулярных пласцін. Адзін іх бок часткова альбо спрэс рэтушаваўся, вастрыё афармлялася з дапамогай мікраразцовага прыёму, а аснова магла апрацоўвацца рэтушшу, утварацца зломам альбо заставацца натуральнай. Такія вырабы атрымалі назву «яніславіцкія вастрыі», паводле тыпалогіі С. К. Казлоўскага, ці «вастрыі тыпу Вялішаў», паводле Х. Венцкоўскай;

няроўнабокія, прамавугольныя ці амаль прамавугольныя трохвугольнікі выцягнутых прапорцый[1];

аднапляцовачныя нуклеусы ад рэгулярных пласцін з плоскай ці злёгку закругленай адшчэпняй і адпаведныя сколы-нарыхтоўкі;

скрабачы (скрабкі нерэгулярных формаў), звычайна вельмі шматлікія ў комплексах.

Да характэрных элементаў крамянёвага інвентару ЯнК таксама аднесены сярэдневысокія, нізкія і высокія сіметрычныя трапецыі, пласціны са скошаным рэтушшу канцом, скрабкі на пласцінах і адшчэпах, укладышы з сячэнняў рэгулярных пласцін. Сярод іншых прылад – шматлікія рэтушаваныя пласціны і адшчэпы, а таксама даволі рэдкія разцы, цёслы, праколкі і пракруткі.

На падставе картаграфавання элементаў мікралітычнага набору С. К. Казлоўскі вызначыў арэал кампактнага размяшчэння помнікаў ЯнК, які распаўсюджваўся на басейны верхняй і сярэдняй Віслы, Буга, верхняй Прыпяці, Нарава і Нёмана [92, s. 155–157, mapa 19]. Пазнейшыя даследаванні дазволілі пашырыць яго на ўвесь басейн Прыпяці (гл. напр. [12]), а таксама ніжняе цячэнне Бярэзіны і Сажа [23, с. 114–123; 18; 19].

С. К. Казлоўскі прапанаваў датаваць ЯнК пачынаючы ад першай паловы барэальнага і да канца атлантычнага перыядаў [92, s. 159–161]. Пытанне аб ніжняй і верхняй храналагічных межах ЯнК дагэтуль з'яўляецца дыскусійным, аднак усе даследчыкі згаджаюцца з познамезалітычнай (у рамках атлантычнага перыяду) храналогіяй пераважнай большасці яніслаўіцкіх комплексаў [8, с. 41; 9, с. 8; 10, с. 190–192; 11, с. 88; 12, с. 137–138; 21, с. 188; 22, с. 61; 67, s. 297–298; 96, p. 156–158; 99, s. 52; 113; 133, s. 128; 145, s. 379–380][2].

### 3. Асноўныя накірункі вывучэння крамянёвага інвентару ЯнК

Асноўнае месца ў большасці прац, якія прысвечаны ЯнК, займаюць тыпалагічна-параўнаўчыя штудыі. У межах традыцыйнай метадалогіі, характэрнай для прац у тым ліку С. К. Казлоўскага і практычна ўсіх усходнееўрапейскіх даследчыкаў,

ляюцца «культурная супольнасць» (wspólnota kulturowa; у англійскамоўнай версіі – «група культур») і «культурнае кола» (krąg kulturowy; у англійскамоўнай версіі – «тэхнакомплекс») [79; 92, s. 224; 93, s. 8, 86]. У практычным ужытку польскай археалогіі тэрміны абедзвюх схем з'яўляюцца ўзаемазамяняльнымі, хоць і не заўсёды цалкам сінанімічнымі (гл. напр. [70, s. 10–11]). Бясспрэчнымі сінонімамі выступаюць «цыкл» і «культура». Паняцце ж культурнага кола (ці тэхнакомплексу), наогул, можа выкарыстоўвацца прыхільнікамі абедзвюх тэрміналагічных канцэпцый (гл. напр. [145, s. 438]).

Па-за тэрміналагічнымі прэферэнцыямі, адрозненні паміж двума «лагерамі» даследчыкаў польскага мезаліту ў 1960-х гадах праяўляліся ў падыходах да крыніцазнаўчых падмуркаў канцэпцый. Х. Венцкоўска і М. Марчак абапіраліся выключна на «чыстыя» матэрыялы, атрыманыя ў выніку метадычна праведзеных раскопак, С. К. Казлоўскі шырока выкарыстоўваў і матэрыялы паверхневых збораў (гл. [92, s. 14]).

[1] Паводле метрычных характарыстык, С. К. Казлоўскі падзяліў гэтую катэгорыю на чатыры тыпы (гл. [92, s. 26–29]), два з якіх акрэсліў назвай «яніслаўіцкія трохвугольнікі» – вялікія (шырынёй больш за 6 мм і даўжынёй больш за 25 мм) і малыя (шырынёй больш за 5 мм і даўжынёй да 25 мм). Менавіта яніслаўіцкія трохвугольнікі даследчык лічыў характэрнымі для ЯнК.

[2] Разважанні наконт храналогіі ЯнК заснаваны ў першую чаргу на аргументах тыпалогіі. Найважнейшым храналагічным індыкатарам лічацца трапецыі з рэгулярных пласцін, час распаўсюджвання якіх у мезаліце Еўропы адносяць да атлантыку альбо ў пераходны перыяд паміж барэалам і атлантыкам (гл. [84]).

Усе нешматлікія датаванні 14C, атрыманыя для комплексаў ЯнК, прыпадаюць на атлантычны перыяд: Руды Востраў – 7875 ± 50 BP (Ki-6261), 7800 ± 60 BP (Ki-6260) [11, с. 162; 12, с. 137]; Дэнбы 29 – 7250 ± 100 BP (Gd-2278), 7140 ± 120 BP (Gd-2555), 6760 ± 70 BP (KN-3764) [64, s. 48; 65, s. 40]; Крыніца 4 – 7210 ± 40 BP (ГИН-5843) [8, с. 41]; Яніслаўіцы – 6580 ± 80 BP (Gd-2432) [129]; Тамашоў II – 6555 ± 45 BP (GrN-7051) [107, s. 185]; Возьна Весь 1 – 5900 ± 100 BP (Gd-2431) [128, s. 51]. На стаянцы Кабяляй 2 у Літве для торфу, які перакрываў пласт з яніслаўіцкімі знаходкамі, атрымана дата 7060 ± 150 BP (Ta-2610) (гл. [114, p. 56–57; 116, p. 71–76]).

асноўнай мэтай з'яўлялася рэканструкцыя «гістарычнага працэсу». Сродкам дасягнення гэтай мэты служылі вылучэнне і спробы высвятлення змен у распаўсюджанні ў часе і прасторы «археалагічных культур» – адзінак таксанаміі археалагічнага матэрыялу. Лічылася, што апошнія адлюстроўваюць этнакультурныя супольнасці людзей, якія рэальна існавалі ў старажытнасці. Вылучэнне таксонаў адбывалася на падставе вывучэння фармальных (марфалагічных і колькасных) параметраў выбраных крамянёвых вырабаў, прызнаных «вядучымі» тыпамі. Праблематыка тыпалагічных даследаванняў ЯнК, выкананых у традыцыйным ключы, акрамя апісання складу асобных яе комплексаў і фармулявання абагульненай характарыстыкі крамянёвага інвентару ўсяго таксона ці яго геаграфічна вылучанай часткі, зводзіцца да разгляду наступных пытанняў: унутраны падзел і таксанамічны статус ЯнК, наяўнасць слядоў уплыву з боку іншых таксанамічных адзінак, храналогія, паходжанне і гістарычны лёс. Такі набор пытанняў складае асноўны змест практычна любога абагульняючага даследавання і, пераважна ў скарочаным варыянце, з'яўляецца стандартам аналітычнай часткі амаль кожнай публікацыйнай працы.

Некаторыя з пералічаных пытанняў будуць больш падрабязна разглядацца ніжэй (гл. пункт 4). Перад гэтым аўтар хацеў бы спыніцца на шэрагу аспектаў, што датычацца практыкі правядзення тыпалагічнага аналізу крамянёвага інвентару, а таксама прапанаваць гістарыяграфічны агляд асноўных нетыпалагічных даследаванняў ЯнК.

### *3.1. Некаторыя аспекты тыпалагічнага аналізу крамянёвага інвентару*

Прынцыпы фармальнай сістэматыкі прылад працы шырока абмяркоўваліся ў польскай археалагічнай літаратуры 1960–1970-х гадоў. Вынікам стала распрацоўка даволі сталай наменклатуры і класіфікацыйных схем крамянёвых вырабаў. Няма сэнсу пералічаць тут усе працы, што закранаюць згаданую праблематыку, аднак варта звярнуць увагу на манаграфію Р. Шыльда і яго калег [124]. Прапанаваны ў ёй тыпаліст стаў узорным для многіх пазнейшых даследаванняў польскіх аўтараў. Неабходна таксама адзначыць, што ў мезалітазнаўчых працах асноўная ўвага звярталася на класіфікацыю мікралітаў [87, s. 73–78; 92, s. 17–36; 144, s. 56–60; 149, s. 12–15]. Менавіта апошнім адводзілася роля культуравызначальных элементаў. Арыгінальную і грунтоўную тыпалогію мікралітаў, якая выходзіць па-за рэгіянальныя межы, распрацаваў С. К. Казлоўскі [92, s. 17–36; 95, p. 13–31; 96, p. 57–79]. Яго тыпалогія набыла вялікую папулярнасць і выкарыстоўваецца ў якасці базавай большасцю польскіх даследчыкаў мезаліту і сёння. Сваю версію агульнаеўрапейскага тыпаліста прапанаваў Т. Галіньскі [67, s. 19–43].

Усходнееўрапейскія даследчыкі стварылі ўласныя класіфікацыйныя схемы. Тут неабходна назваць тыпалогію «наканечнікаў» Р. Рыманцене [29, с. 152–156; 31], а таксама ўніверсальныя тыпалогіі крамянёвых вырабаў фінальнага палеаліту–неаліту, прадстаўленыя Д. Я. Цялегіным [33; 34; 35, с. 7–13] і У. Ф. Ісаенкам [16]. Зрэшты, згаданыя тыпалагічныя распрацоўкі не набылі шырокага практычнага значэння. У параўнанні з заходнімі, спецыялісты з усходу праяўляюць меншую «метадычную дысцыплінаванасць» і вельмі часта пакідаюць без тлумачэння падыходы да тых ці іншых сваіх сістэм класіфікацыі. Гэтая акалічнасць часам істотна ўскладняе параўнанне публікаваных матэрыялаў з тэрыторыі Украіны ці Беларусі з польскімі матэрыяламі, а таксама стварае цяжкасці для ўпэўненага ўспрымання зробленых на іх падставе высноў. Неабходна таксама звярнуць увагу на фактычнае розначытанне многіх тэрмінаў ва ўсходне-еўрапейскай літаратуры і параўнальна аднародную тэрміналагічнасць у працах польскіх калег.

Для вывучэння ЯнК важнае значэнне мае тыпалогія яніславіцкіх вастрый і няроўнабокіх прамавугольных трохвугольнікаў. Базавымі ў дадзеным выпадку з'яўляюцца напрацоўкі С. К. Казлоўскага. Яго вызначэнне і падзел на падтыпы яніславіцкіх вастрый цалкам прымаецца польскімі даследчыкамі. Альтэрнатыўны ж варыянт назвы – вастрыі тыпу Вялішаў – поўны сінонім, за якім не стаіць ніякага змястоўнага адрознення.

Усходнееўрапейскія аўтары не заўсёды прытрымліваліся арыгінальнай дэфініцыі гэтых вырабаў. Так, Д. Я. Цялегін яніславіцкімі называў толькі вастрыі з рэтушаванай асновай. Ён таксама вылучыў тып так званых «данецкіх вастрый», вызначэнне якіх адпавядае яніславіцкім вастрыям са зламанай асновай ([34, с. 53; 35, с. 10]; гл. таксама [33, с. 38]). Л. Л. Залізняк прапаноўваў тыпалогію яніславіцкіх вастрый, якая фактычна паўтарае класіфікацыйную схему С. К. Казлоўскага [6, с. 94]. Аднак у сваіх галоўных працах па мезаліце Палесся ён дзеліць гэтыя вырабы на дзве групы – з рэтушаванай і нерэтушаванай асновай, улічваючы іх як асобныя катэгорыі мікралітаў пры параўнаўчым аналізе комплексаў ЯнК з Украіны і Польшчы [7, с. 58, 70–73, 78; 8, с. 6–7]. Пэўным чынам такі падыход супярэчыць меркаванням С. К. Казлоўскага. Апошні, абапіраючыся на картаграфічныя аргументы, лічыў усе тры асноўныя разнавіднасці яніславіцкіх вастрый з папярочнай асновай (рэтушаванай, зламанай ці натуральнай) раўназначнымі для культурнай інтэрпрэтацыі [92, s. 140–142]. Р. Рыманцене залічвае яніславіцкія вастрыі да роз-

ных тыпаў і відаў «ланцэпадобных наканечнікаў (ланцэтаў)». У межах гэтага паняцця даследчыца разглядае і ўсе трохвугольнікі [31, с. 27–30].

Няроўнабокія трохвугольнікі С. К. Казлоўскі падзяліў на тыпы, сярод якіх два атрымалі назву «яніславіцкіх» і былі залічаныя да характэрных элементаў аднайменнай культуры (гл. вышэй заўвагу ў пункце 2). Іншыя даследчыкі ЯнК у сваіх працах альбо выкарыстоўвалі схему класіфікацыі трохвугольнікаў С. К. Казлоўскага без змен (напр. [65, s. 31; 99; 113]), альбо прымянялі ўласныя, аднак вельмі набліжаныя да яе [66; 111; 124]. Х. Венцкоўска і М. Марчак ужывалі спрошчаную схему падзелу трохвугольнікаў на раўнабедраныя і няроўнабокія, не падзяляючы на падтыпы, аднак звяртаючы асноўную ўвагу на іх прапорцыі [144, s. 70; 146; 149, s. 14]. Аналагічным чынам – на сіметрычныя нізкія (раўнабедраныя шырокія) і асіметрычныя высокія (няроўнабокія вузкія) – падзяліў трохвугольнікі Д. Я. Цялегін [33, с. 37–38; 34, с. 53; 35, рис. 1: *24*, *26*]. У працах Л. Л. Залізняка выкарыстоўваецца тэрмін «яніславіцкія трохвугольнікі», аднак без канкрэтызацыі значэння (гл. [7, 8]). Фактычна, у яго гэта катэгорыя аб'ядноўвае ўсе няроўнабокія трохвугольнікі выцягнутых прапорцый. Падобным чынам, мадыфікаваным у параўнанні з арыгінальнай канцэпцыяй С. К. Казлоўскага, ужывалі гэту назву і некаторыя іншыя ўсходнееўрапейскія даследчыкі (гл. напр. [22, 39]).

Заўважаныя розначытанні ў тыпалагічнай атрыбуцыі асобных катэгорый мікралітаў не надта прынцыповыя, аднак могуць мець уплыў на інтэрпрэтацыю матэрыялаў помнікаў ЯнК у межах аўтарскіх канцэпцый яе таксанамічнага падзелу, што больш падрабязна будзе разгледжана ніжэй.

Пэўная разнастайнасць адзначаецца і ў аналітычных працэдурах, скіраваных на тыпалагічнае параўнанне комплексаў ЯнК. Таксанамічныя пабудовы С. К. Казлоўскага грунтуюцца на прысутнасці альбо адсутнасці асобных элементаў мікралітычнага набору і на картаграфаванні гэтых элементаў [92]. На іншыя кампаненты крамянёвага інвентару даследчык звяртаў менш увагі. Х. Венцкоўска і М. Марчак [149, 144, 145] надавалі большае значэнне колькасным паказчыкам і тыпалагічнай структуры ўсяго комплексу. Большая вага катэгорый звычайных прылад (не мікралітаў) характэрна для інтэрпрэтацыйных разважанняў усходнееrапейскіх археолагаў.

Былі зроблены спробы выкарыстання статыстычных метадаў для апрацоўкі матэрыялаў. Так, С. К. Казлоўскі для ілюстрацыі сваіх высноў выкарыстоўваў кумуляцыйныя графікі (метад заснавальніка французскай тыпалагічнай школы Ф. Борда), складзеныя на падставе тыпаліста мікралітаў [87, s. 77–78]. Д. Я. Цялегін прапаноўваў ужываць для аналізу крамянёвых калекцый «метад дадавання адзнак» [33; 35, с. 14], у аснову якога быў пакладзены метад амерыканскіх даследчыкаў У. Робінсана і Дж. Брэйнарда [118; 17, с. 26–27]. На падставе гэтай методыкі Л. Л. Залізняк абгрунтаваў культурны падзел мезаліту Палесся [7, с. 67–83; 8, с. 5–10], а Т. Астраўскас – Літвы [113]. Статыстычныя метады (у першую чаргу непараметрычны тэст Калмагорава-Смірнова) выкарыстоўвалі Р. Шыльда і яго калегі для параўнання крамянёвага інвентару некаторых помнікаў ЯнК басейна Віслы [124].

### *3.2. Нетыпалагічныя даследаванні крамянёвага інвентару ЯнК: тэхналогія, сыравіна, функцыянальнае прызначэнне*

У першай палове 1970-х гадоў, галоўным чынам намаганнямі Р. Шыльда і відавочна пад уплывам ідэй англасаксонскай «новай археалогіі», у польскай археалагічнай навуцы выкрышталізавалася новая канцэпцыя даследавання помнікаў мезалітычнай эпохі. Указваючы на непрадуктыўнасць, значную абмежаванасць інтэрпрэтатыўных магчымасцей «культурнай» таксаноміі, а таксама на метадычныя хібы ў практычным выкарыстанні традыцыйных сродкаў тыпалагічнага аналізу, калектыў даследчыкаў пад кіраўніцтвам Р. Шыльда прапанаваў «шматаспектны аналіз адкрытых пясчаных стаянак» [124]. Гэты падыход прадугледжвае камбінаванае выкарыстанне ў ходзе даследавання разнастайных метадаў: аналізу агульнай структуры крамянёвага інвентару (дынамічнай тэхналагічнай класіфікацыі), марфалагічнага аналізу рэтушаваных форм, спалучанага са статыстычным аналізам колькасных параметраў, трасалагічнага аналізу прылад працы, аналізу прасторавай структуры распаўсюджвання знаходак на помніку (планіграфіі) і палеагеаграфічнага аналізу. Такое па магчымасці поўнае і ўсебаковае вывучэнне крамянёвага інвентару і кантэксту яго залягання дазволіла выйсці на больш грунтоўны ўзровень інтэрпрэтацыі археалагічных фактаў. У цытаванай працы даследчыкі апублікавалі вынікі аналізу шэрагу познамезалітычных комплексаў, якія залічваліся пераважна да ЯнК, і прыйшлі да высновы, што пэўныя адрозненні ці падабенства паміж імі ў тыпалагічным і тэхналагічным плане абумоўлены разнастайнымі чыннікамі – не толькі «культурнай традыцыяй» і храналогіяй, але і ў вельмі значнай ступені фактарамі функцыянальнага характару і асаблівасцямі сацыяльна-гаспадарчай сістэмы чалавечых груп, што пакінулі пасля сябе гэтыя помнікі [124, s. 114–126].

Цытаваная тут праца вельмі моцна паўплывала на польскіх даследчыкаў мезаліту. Да поўнага заняпаду тыпалагічна-параўнаўчых даследаванняў і культурнай праблематыкі справа не дайшла, аднак акцэнты ў даследчай праблематыцы значна змясціліся ў бок тэхналогіі крэмнеапрацоўкі, а таксама аспекту выкарыстання сыравінных рэсурсаў.

*3.2.1. Вывучэнне тэхналогіі крэмнеапрацоўкі ЯнК*

Першыя спробы характарыстыкі элементаў тэхналогіі крэмнеапрацоўкі ЯнК рабіліся яшчэ да вылучэння гэтай адзінкі і прадстаўлены ў артыкуле, які прысвячаўся публікацыі пахавальнага комплексу ў Яніславіцах [52]. М. Хмялеўска, паралельна вельмі падрабязнаму апісанню марфалогіі крамянёвых вырабаў (нуклеусаў, пласцін-нарыхтовак і мікралітаў), адзначае і пэўныя тэхналагічныя асаблівасці апрацоўкі крэменю – падрыхтоўку і падпраўку пляцовак знойдзеных нуклеусаў, прышліфоўку карнізаў, вострыя працоўны вугал, – а таксама спрабуе вызначыць метад атрымання сколаў-нарыхтовак [52, s. 26–34, 44–45].

С. К. Казлоўскі, у першым манаграфічным даследаванні ЯнК, закрануў і некаторыя тэхналагічныя аспекты яе індустрыі. Даследчык апісаў нуклеусы, прызнаўшы ў якасці характэрных для ЯнК аднапляцовачныя экзэмпляры ад рэгулярных пласцін з плоскай ці злёгку выпуклай адшчэпняй, адзначыў асаблівасці іх уступнай апрацоўкі, даў агульную характарыстыку пласцін з яніславіцкіх комплексаў, указаў на асаблівасці стратэгіі выбару нарыхтовак для розных тыпаў прылад, а таксама агучыў меркаванне пра тэхніку атрымання пласціністых сколаў-нарыхтовак (удар праз пасярэднік) і вызначыў характэрныя тэхнічныя прыёмы другаснай апрацоўкі [92, s. 136–140].

На працягу другой паловы 1970-х – пачатку 1980-х гадоў больш паглыблена, хоць і не сістэматычна, да праблематыкі тэхналогіі ЯнК звяртаўся шэраг польскіх даследчыкаў. Так, працэс падрыхтоўкі і эксплуатацыі нуклеусаў і вырабу прылад, звязаных з ЯнК, быў прааналізаваны Б. Гінтэрам у артыкуле, які прысвячаўся публікацыі матэрыялаў стаянкі Данброўка 3 [69].

Дэталёвы паўторны аналіз інвентару пахавання з Яніславіц дазволіў К. Цырэку ахарактарызаваць прыёмы падрыхтоўкі і эксплуатацыі нуклеусаў і працэс атрымання пласцін-нарыхтовак [53, s. 216–220]. Таксама даследчык прапанаваў цікавую версію рэканструкцыі спосабу вытворчасці яніславіцкіх мікралітаў – вастрый і трохвугольнікаў [53, s. 220–223; 54; 61]. Гэтае пытанне пазней дыскутавалася ў літаратуры [147, 58]. На пэўныя характэрныя рысы тэхналогіі ЯнК і яе асобных помнікаў К. Цырэк звяртаў увагу яшчэ ў адной публікацыі [55, s. 22–50, 85].

К. Шымчак на аснове морфаметрычнага аналізу паспрабаваў вызначыць асаблівасці «тэхналагічнага стылю» ЯнК у вытворчасці пласціністых нарыхтовак [132].

Важным крокам у тэхналагічных даследаваннях ЯнК стаў распрацаваны Р. Шыльдам метад так званай дынамічнай тэхналагічнай класіфікацыі [124, s. 12–21; 123]. Гэты метад прадугледжвае класіфікацыю ўсіх элементаў крамянёвых комплексаў паводле спецыяльна падрыхтаваных тыпалістоў і ў межах груп, што адпавядаюць розным этапам тэхналагічнага працэсу – ад выбару сыравіны і ўступнай апрацоўкі канкрэцый да завершаных марфалагічных прылад, – і статыстычны аналіз выяўленай такім чынам агульнай структуры інвентару. У выніку праведзенай дынамічнай класіфікацыі для аналізу матэрыялаў вялікай групы яніславіцкіх помнікаў Польшчы, была прасочана залежнасць розніцы паміж комплексамі ад асаблівасцей арганізацыі гаспадарання сыравіннымі рэсурсамі і функцыянальнага прызначэння стаянак [124, s. 62–74, 114–126]. Пэўныя назіранні за тэхналагічнымі асаблівасцямі крамянёвай індустрыі ЯнК, у прыватнасці морфаметрычны аналіз дэбітажу ці інтэрпрэтацыя тэхнікі атрымання нарыхтовак, у названай працы зроблены і па-за межамі аналізу вынікаў дынамічнай класіфікацыі і прадстаўлены паралельна апісанню матэрыялаў [124, s. 127–202].

Метад дынамічнай класіфікацыі атрымаў шырокае прызнанне сярод польскіх даследчыкаў (гл. напр. [78]), неаднаразова выкарыстоўваўся для вывучэння матэрыялаў яніславіцкіх помнікаў (гл. напр. [65, 102, 125]), а яго пазнавальныя магчымасці для тэхналагічных рэканструкцый абмяркоўваліся ў літаратуры [48, s. 22, 31–33; 137].

Фундаментальнае даследаванне тэхналогіі крэмнеапрацоўкі ЯнК было здзейснена М. Вонсам у пачатку XXI стагоддзя [136–138]. З дапамогай метаду складанак[1] і канцэпцыі «ланцужка аперацый»[2] (*chaîne opératoire*) даследчык рэканструяваў стратэгіі крэмнеапрацоўчай вытворчасці на трох яніславіцкіх стаянках басейна Віслы – Дэнбы 29, Гвоздзец 9 і Вістка Шляхэцка III/60. Аналіз атрыманых складанак, дапоўнены морфаметрычным аналізам артэфактаў, дазволіў апісаць характэрныя прыёмы і метады падрыхтоўкі нуклеусаў, атрымання нарыхтовак, вырабу прылад працы, а таксама ахарактарызаваць агульную тэхналагічную канцэпцыю крамянёвай індустрыі ЯнК. Даследчыкам была выяўлена паўтаральнасць апошняй для розных комплексаў ЯнК, спароднёнасць якіх вызначалася да гэтага толькі на падставе тыпалагічных крытэрыяў [137]. Аналітычнае даследаванне М. Вонса дапаўнялася эксперыментальным мадэляваннем эксплуатацыі ў націскной тэхніцы алоўкападобнага нуклеуса ад мікрапласцін, аналагічнага вырабам са стаянкі Дэнбы 29. Эксперыменты праводзіліся сумесна з В. Мігалем [106].

[1] Падрабязней пра метад складанак, ці рэмантажны метад, гл. напр. [63, 135]. Складанкі яніславіцкіх матэрыялаў падбіраліся і спарадычна выкарыстоўваліся даследчыкамі пры аналізе прасторавай арганізацыі помнікаў і для апісання элементаў тэхналогіі і раней (гл. [52, 69, 124, 125, 102, 65]).

[2] Пра канцэпцыю *chaîne opératoire* гл. напр. [73, 105, 126].

*3.2.2. Сыравінны аспект*

Важным аспектам вывучэння розных відаў першабытнай супольнасці з'яўляецца сістэма гаспадарчага выкарыстання сыравінных рэсурсаў. Пытанні, звязаныя са здабычай і распаўсюджваннем крамянёвай сыравіны, трапілі ў поле зроку польскіх археолагаў яшчэ ў першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя (напр. [97, 98]), а з канца 1960 – пачатку 1970-х гадоў даследаванні ў гэтым накірунку пачалі набываць сістэмны характар (гл. [46, 75, 122, 47]).

Названая праблематыка, аднак, у абагульняючых працах па ЯнК практычна не прадстаўлена і разглядаецца толькі мімаходзь [12, с. 134; 92, s. 138, 154; 96, p. 33, 157; 145, s. 410]. Значная ўвага ролі сыравіннага фактару пры аналізе яніславіцкіх комплексаў, як ўжо адзначалася вышэй, была нададзена ў працы Р. Шыльда і суаўтараў 1975 г. [124].

Грунтоўнае манаграфічнае вывучэнне пытанняў, звязаных з выкарыстаннем разнастайных гатункаў крэменю мезалітычнымі супольнасцямі, у тым ліку і ЯнК, на тэрыторыі Польшчы, здзейсніў К. Цырэк. Вынікі гэтага даследавання былі прадстаўлены аўтарам у канцы 1970-х ггадоў у якасці доктарскай дысертацыі і публікаваліся ў пачатку 1980-х гадоў [55, 56].

К. Цырэк выявіў асаблівасці сыравіннай структуры крамянёвых комплексаў у розных рэгіёнах даследаванага абшару – басейнах Віслы і верхняй Варты. На падставе гэтага даследчык прапанаваў вылучэнне шэрагу так званых сыравінных правінцый – тэрыторый з асаблівымі наборамі гатункаў крэменю, што выкарыстоўваліся ў мезаліце. Была зроблена спроба рэканструяваць шляхі і механізмы распаўсюджвання шакаладнага, свецяхоўскага, юрскага, балтыйскага крэменю[1] і некаторых іншых гатункаў сыравіны. Даследчык прасачыў асаблівасці марфалогіі крамянёвых вырабаў і тэхналогіі крэмнеапрацоўкі розных яніславіцкіх комплексаў у залежнасці ад гатунку выкарыстанага крэменю. Была выяўлена схільнасць носьбітаў ЯнК да выкарыстання па магчымасці добраякаснай сыравіны – шакаладнага і свецяхоўскага крэменю. Апошні выкарыстоўваўся актыўна, але лакальна, у наваколлі (да 70 км) выхадаў. Шакаладны крэмень сустракаецца на многіх яніславіцкіх помніках па ўсім басейне верхняй і сярэдняй Віслы, яго высокая ўдзельная вага сярод іншых гатункаў адзначаецца ў радыусе да 160 км ад выхадаў, хаця ёсць выпадкі і больш дальняга распаўсюджвання.

У сярэдзіне 1980-х гадоў пабачыла свет манаграфія, падрыхтаваная калектывам Р. Шыльда і прысвечаная вынікам вывучэння цэнтра па здабычы шакаладнага крэменю ў Тамашове. У працы публікаваліся матэрыялы стаянкі Тамашоў 2, якую даследчыкі вызначылі ў якасці крэмнеапрацоўчай майстэрні ЯнК, дзе вялася першасная апрацоўка сыравіны і падрыхтоўка прануклеусаў [125, s. 123–157, 171–184].

Пытанне аб асаблівай ролі шакаладнага крэменю ў крамянёвай індустрыі ЯнК даволі падрабязна разглядалася К. Цырэкам (вышэй цытаваны артыкул і [57]). Распаўсюджванне шакаладнага і іншых так званых усходнелысагорскіх гатункаў крэменю ў мезалітычных інвентарах паўднёва-ўсходняй Польшчы вывучаў Е. Лібэра [99, s. 23–24; 100, s. 43–44; 101, s. 26–29].

У выніку даследавання тэхналогіі крэмнеапрацоўчай вытворчасці ЯнК, якое ажжыццявіў М. Вонс, была выяўлена пэўная залежнасць стратэгіі крэмнеапрацоўкі на асобных помніках культуры ад сыравіны, якая выкарыстоўвалася [137, s. 209–210, 220–227; 138]. Тэхналагічная перспектыва дазволіла даследчыку прыйсці да цікавых высноў аб механізмах распаўсюджвання крамянёвай сыравіны (у першую чаргу шакаладнага крэменю) у межах яніславіцкай супольнасці [139, 140].

Праблемы дальняга распаўсюджвання неарганічных сыравінных матэрыялаў (крэменю, абсадыяну, гематыту і інш.) на тэрыторыі Польшчы і прылеглых рэгіёнаў у эпохі палеаліту і мезаліту даследавала З. Сульгастоўска [130, 131]. Аналізуючы вырабы з імпартных гатункаў, якія адзначаліся на адлегласці больш за 200 км ад радовішчаў, даследчыца спрабавала асвятліць пытанні сацыяэканамічных кантактаў у першабытным грамадстве [130].

*3.2.3. Функцыянальны аналіз*

Практычна не аналізаванымі на дадзены момант застаюцца матэрыялы ЯнК з пункту гледжання функцыянальнага даследавання з дапамогай трасалогіі – метаду, які актыўна развіваецца ў расійскай, амерыканскай і заходнееўрапейскай археалогіі, пачынаючы з сярэдзіны XX ст. Першая спроба вывучэння слядоў ужывання і інтэрпрэтацыі функцыі крамянёвых прылад ЯнК, была зроблена яшчэ ў 1970-я гады [124, s. 32–36], аднак, дала вельмі абмежаваныя вынікі. Больш грунтоўныя трасалагічныя даследаванні былі праведзены толькі для некаторых знаходак з помнікаў тэрыторыі Беларусі, Украіны і Польшчы – асобных матэрыялаў са стаянкі Дэнбы 29 [190], а таксама адзінкавых артэфактаў ЯнК з імпартаваных гатункаў крэменю [151]. З прычыны адзінкавасці прэцэдэнтаў, вынікі гэтых прац пакуль не даюць сур'ёзных інтэрпрэтацыйных магчымасцей.

[1] Пра гатункі крэменю, што распаўсюджаны на тэрыторыі Польшчы гл. працы [70, s. 16–28; 56; 127, s. 29–35; 130, s. 19–28].

### 4. Некаторыя праблемы таксанамічнай атрыбуцыі і падзелу крамянёвых комплексаў ЯнК

Да найчасцей разглядаемых праблем у даследаваннях ЯнК адносяцца наступныя: унутраны падзел і таксанамічны статус ЯнК, храналогія, паходжанне і гістарычны лёс яе носьбітаў. Падрабязны аналіз усіх гэтых пытанняў у межах дадзенага артыкула не падаецца магчымым. Таму для апошніх трох аўтар абмяжуецца толькі адсылкамі да літаратуры. Больш дэталёва будзе разгледжана праблематыка таксанамічнага ўпарадкавання крамянёвых комплексаў ЯнК[1]. Нельга абысці ўвагай і некаторыя пытанні, звязаныя з прадстаўленымі ў літаратуры альтэрнатыўнымі варыянтамі культурнай атрыбуцыі яніславіцкіх старажытнасцей.

#### *4.1. Гістарыяграфічны агляд праблем унутранага падзелу і таксанамічнага статуса ЯнК[2]*

Даследчыкі звярталі ўвагу на некаторыя адрозненні ў складзе крамянёвага інвентару комплексаў ЯнК. Пэўным тыпалагічным адрозненням, у першую чаргу ў мікралітычным наборы, надавалася значэнне розніцы храналагічнага і філагенетычнага характару. А ў адпаведнасці з заўважанымі заканамернасцямі геаграфічнага распаўсюджання асобных тыпаў вырабаў і іх ўзаемасустракальнасці былі зроблены спробы рэгіянальнага падзелу ЯнК. Паралельна вялася дыскусія пра таксанамічны статус яніславіцкай супольнасці і яе лакальных груп.

С. К. Казлоўскі вызначыў у складзе крамянёвага інвентару так званы базавы кампанент (*człon podstawowy*) – першасныя культуравызначальныя элементы. Яніславіцкі базавы кампанент складалі яніславіцкія вастрыі з папярочнымі асновамі і вялікія яніславіцкія трохвугольнікі. Іншым характэрным для ЯнК мікралітам адводзілася роля храналагічных індыкатараў альбо вызначальнікаў прыналежнасці да адной з тэрытарыяльных адзінак, названых «культурнымі групамі» [92, s. 140–146]. У складзе ЯнК даследчык вылучыў тры культурныя групы [92, s. 157–158, mapa 19]:

Група Вістка (ад стаянкі Вістка Шляхэцка III/60) характарызуецца наяўнасцю малых яніславіцкіх трохвугольнікаў і нізкіх трапецый. Вістэцкія помнікі канцэнтруюцца ў левабярэжжы сярэдняга цячэння Віслы і на поўначы Малапольшчы, адзінкава прадстаўлены ў сярэднім цячэнні Нарава і Буга, а таксама на сярэдняй Варце.

Усходняя група вылучаецца сталай прысутнасцю высокіх трапецый і значнай колькаснай перавагай яніславіцкіх вастрый над трохвугольнікамі пры адсутнасці малых яніславіцкіх трохвугольнікаў і нізкіх трапецый. Яе комплексы знаходзілі ў Малапольшчы, у басейнах сярэдняй Віслы, Буга, верхняй Прыпяці і Нёмана.

Група Максімоніс (ад стаянкі Максімоніс 4 у Літве) мае ўсе характэрныя рысы ўсходняй групы і адрозніваецца наяўнасцю ў складзе інвентару яніславіцкіх вастрый з падрэзанымі рэтушшу асновамі. Яе арэал абмяжоўваецца да сярэдняга цячэння Нёмана і, магчыма, часткова распаўсюджваецца на тэрыторыю паўночна-ўсходняй Польшчы.

Наяўнасць комплексаў (пры гэтым даволі шматлікіх – гл. [92, mapa 19]), у якіх прысутнічаюць элементы, характэрныя і для вістэцкай, і для ўсходняй груп, была патлумачана існаваннем кантактнай зоны на памежжы кампактных арэалаў гэтых груп.

Найбольш ранняй С. К. Казлоўскі лічыў групу Максімоніс, якую ўключаў у скандынаўскую супольнасць паўночнага культурнага кола [92, s. 223][3]. Яе храналогія вызначалася ў межах барэальнага перыяду. Паводле даследчыка, у канцы барэалу, у выніку міграцыі носьбітаў групы Максімоніс на паўднёвы захад, узніклі ўсходняя і, пад моцным другасным уплывам паўночных (маглемозкіх) традыцый, вістэцкая групы, якія існавалі пазней на працягу атлантычнага часу [92, s. 161, 162, 225].

Таксама С. К. Казлоўскі звярнуў увагу на знаходкі яніславіцкіх вастрый у сярэднім і ніжнім цячэнні Прыпяці, Сярэднім Падняпроўі і над Северскім Данцом. Даследчык выказаў меркаванне аб магчымым існаванні на гэтай тэрыторыі «культурнай адзінкі, роднаснай яніславіцкай культуры», прадстаўленай комплексамі «тыпу Каменная» (ад стаянкі Каменная I на Валынскім Палессі, гл. [119, s. 145–146, tabl. II: *53–84*, III: *85–152*]). Пад гэтай назвай былі аб'яднаны стаянкі, у інвентары якіх яніславіцкім вастрыям спадарожнічаюць «постсвідэрскія» наканечнікі стрэл («кундскія» паводле

[1] У дыскусіі аб паходжанні ЯнК распрацоўваюцца дзве асноўныя версіі: паўночна-заходняя, звязаная з культурай Маглемозэ, і паўднёва-ўсходняя – вытокі ЯнК шукаюць у культурных імпульсах з Прычарнамор'я (падрабязней гл. [7, с. 101–102; 8, с. 38–39; 10, с. 191; 11, с. 84–88; 12, с. 135–137; 21, с. 190; 64, s. 44–46; 67, s. 356–362; 68; 92, s. 161–162; 96, p. 163; 113; 145, s. 389]). Праблема знікнення ці трансфармацыі ЯнК звязана з працэсам неалітызацыі і з'яўлення першых керамічных культур у лясной зоне цэнтральна-ўсходняй Еўропы. Пра сувязь яніславіцкага крамянёвага інвентару і керамікі «ляснога» тыпу глядзі [10, с. 191–192; 12, с. 138; 13; 59; 60; 92, s. 226–229; 96, p. 164; 113]). Зрэшты, падобныя меркаванні крытыкаваліся [66; 77, s. 86; 133, 128–129], і сёння немагчыма лічыць праблему хоць у нейкай ступені вырашанай.

[2] Гэтую тэму даволі дэталёва разглядаў К. Шымчак у адным са сваіх артыкулаў [134]. Аднак, з улікам малой даступнасці цытаванай публікацыі для айчыннага чытача, аўтар лічыць мэтазгодным падрабязна разгледзець гістарыяграфію названага пытання і ў дадзенай працы.

[3] Гл.: [92, s. 223–224; 93; 79].

тыпалогіі С. К. Казлоўскага) пры адсутнасці яніславіцкіх трохвугольнікаў [91, s. 68; 92, s. 158].

Асноўныя палажэнні адносна ЯнК, сфармуляваныя ў пачатку 1970-х гадоў, С. К. Казлоўскі неаднаразова паўтараў у пазнейшых працах, хоць і з невялікімі карэкціроўкамі [79, s. 318–321; 80, s. 232–240; 93, p. 74–75]. У прыватнасці, ён выключыў ЯнК з культур паўночнага кола і разглядаў яе ў якасці «незалежнай адзінкі, якая не мае сувязі з ніводным культурным колам, сярод разгледжаных у кнізе» [80, s. 232].

Х. Венцкоўска прапанавала свой варыянт разумення яніславіцкіх старажытнасцей. У складзе вісляньскага цыклу яна вылучыла дзве індустрыі – бялкоўскую і вістэцкую [145, s. 380–383]. Характарыстыка гэтых індустрый адлюстроўвала адрозненні ў колькасных суадносінах паміж асобнымі катэгорыямі крамянёвых вырабаў у складзе інвентару дзвюх стаянак – Вялішаў XIII і Вістка Шляхэцка III/60, паводле матэрыялаў якіх яны вылучаліся. Сутнасць гэтых адрозненняў не тлумачылася, за выключэннем дапушчэння аб магчымай больш ранняй храналогіі бялкоўскай індустрыі. Прапановы Х. Венцкоўскай наконт унутранага падзелу вісляньскага цыклу не атрымалі далейшага развіцця.

Пад уплывам прац польскіх даследчыкаў на яніславіцкую праблематыку звярнулі ўвагу і іх усходнееўрапейскія калегі. Маскоўскі археолаг Л. У. Кальцоў вылучыў помнікі з яніславіцкімі элементамі на тэрыторыі Літвы, Беларусі і Украіны [20]. Ён прапанаваў свой пункт гледжання на падзел ЯнК, згодна з якім уласна яніславіцкай культурай з'яўляецца толькі вістэцкая група. На яго думку, групы ўсходняя і Максімоніс, у крамянёвым інвентары якіх ён бачыў выразныя сляды «эпісвідэрскіх» уплываў, значна «адрозніваюцца і ўтвараюць як быццам асобную культуру (яе можна было б назваць культурай Максімоніс)». Абедзве культуры (уласна яніславіцкая і Максімоніс) былі аб'яднаны ў межах «яніславіцкай культурнай вобласці» [20, с. 66–67]. Аднак ужо ў наступнай сваёй працы – аглядзе фінальнага палеаліту і мезаліту Паўднёвай і Усходняй Прыбалтыкі – Л. У. Кальцоў не згадваў свае ранейшыя прапановы, а пісаў пра немагчымасць вылучэння тэрытарыяльных і храналагічных груп (апроч стаянкі Максімоніс 4) у межах ЯнК [21, с. 190–192]. Гэтыя асцярожныя меркаванні ён паўтарыў і пазней [22].

У другой палове 1970-х гадоў кіеўскі даследчык Л. Л. Залізняк вылучыў шэраг комплексаў з тэрыторыі паўднёва-ўсходняга Палесся, у матэрыялах якіх прысутнічаюць характэрныя для ЯнК элементы. Спачатку ён разглядаў іх як помнікі тыпу ДВС, а пазней як рудаастроўскую культуру [4, с. 30–34; 5; 7, с. 44–58, 78–81, 97–104]. За кошт апошняй (назву атрымала ад стаянкі Руды Востраў на Кіеўшчыне) Л. Л. Залізняк пашырыў прапанаванае Л. У. Кальцовым [20] паняцце яніславіцкай культурнай вобласці. У яе складзе даследчык вылучаў тры асобныя культуры [7, с. 100–101, рис. 39]: яніславіцкую у басейнах Віслы, Буга і верхняй Прыпяці (большы ўдзел у інвентарах яніславіцкіх трохвугольнікаў, нізкіх і сярэдневысокіх трапецый, наяўнасць чатырохвугольнікаў); Максімоніс у паўночна-ўсходняй Польшчы і басейне Нёмана (распаўсюджанасць ромбападобных яніславіцкіх вастрый з падрэзанай асновай, выразныя серыі разцоў і цёслаў); і рудаастроўскую ў Кіева-Жытомірскім Палессі, ніжнім цячэнні Прыпяці і на прылеглым участку даліны Дняпра (слабы ўдзел яніславіцкіх трохвугольнікаў і вастрый з рэтушаванай асновай, вялікая роля трапецый, асабліва высокіх, прысутнасць наканечнікаў на пласцінах і выразных серый скрабкоў правільнай формы, знаходкі кукрэкскіх укладышаў, адносна нізкі паказчык пласцініcтасці комплексаў і няўстойлівыя формы нуклеусаў). На думку Л. Л. Залізняка фармаванне познамезалітычных яніславіцкай і рудаастроўскай культур звязана з міграцыяй у паўднёвым кірунку носьбітаў культуры Максімоніс, якая існавала яшчэ ў раннім мезаліце. А наканечнікі стрэл на пласцінах і кукрэкскія ўкладышы ў складзе інвентару рудаастроўскай культуры павінны сведчыць адпаведна пра яе «постсвідэрскі» і «постарэнсбурскі» субстрат і культурныя ўплывы з поўдня [7, с. 101–102].

У канцы 1980-х гадоў С. К. Казлоўскі прапанаваў абноўленую версію сваіх поглядаў на мезаліт Польшчы, у тым ліку і ў дачыненні да ЯнК [96, p. 154–167]. Услед за Л. У. Кальцовым [20] і Л. Л. Залізняком [7] ён вызначыў яніславіцкую супольнасць як тэхнакомплекс, які ўключаў тры культуры – яніславіцкую (з вістэцкай і ўсходняй групамі), Максімоніс і рудаастроўскую. Характарыстыка гэтых таксонаў у цэлым паўтарае прапанаваныя раней, хоць і з некаторымі карэкціроўкамі. Так, у якасці адметных рыс усходняй групы С. К. Казлоўскі дадаткова пералічыў сталую прысутнасць укладышаў тыпу Боркі і адзінкавыя знаходкі цёслаў і пласцінак з прытупленай спінкай. Рудаастроўскую культуру, у вылучэнні якой даследчык бачыў развіццё сваіх ранейшых прапаноў наконт «комплексаў тыпу Каменная», мусіць характарызаваць наяўнасць разам з яніславіцкімі вастрыямі чаранковых наканечнікаў стрэл і вастрый з прытупленай спінкай – ланцэтападобных і тыпу Ставінога [96, p. 160–161]. Да рудаастроўскай культуры С. К. Казлоўскі залічыў і помнікі з яніславіцкімі вастрыямі з-над Северскага Данца. Яго меркаванне разыходзіцца з поглядамі ўкраінскіх даследчыкаў, якія вылучалі на згаданай тэрыторыі своеасаблівую данецкую культуру [1; 10, с. 192–198; 11, с. 89–92; 35, с. 179–185; 36, с. 103–105]. Наяўнасць жа ў складзе яе інвентару яніславіцкіх вастрый (данецкіх, паводле тэрміналогіі

Д. Я. Цялегіна) тлумачыцца культурнымі ўплывамі з боку ЯнК.

Яшчэ адзін польскі аўтар, Л. Даманьска, у дачыненні да яніславіцкіх старажытнасцей уводзіць уласнае паняцце – яніславіцка-рудаастроўскае кола (у цэлым сінанімічнае «яніславіцкаму тэхнакомплексу» С. К. Казлоўскага), якое складаецца з яніславіцкай, рудаастроўскай, данецкай культур і культуры Максімоніс [64, s. 39]. Даследчыца прыняла для яніславіцкай культуры характарыстыку, прапанаваную С. К. Казлоўскім [92, 96], для рудаастроўскай – Л. Л. Залізняка [7], данецкай – Д. Я. Цялегіна [35]; а таксама адзначыла досыць слабы ўзровень даследаванасці данецкай культуры і культуры Максімоніс, што не дазваляе ўпэўнена казаць аб іх храналогіі, генэзісе і тэрытарыяльным распаўсюджанні [64, s. 39–44].

Схему рэгіянальнага падзелу яніславіцкай супольнасці перапрацаваў К. Шымчак. У сваёй манаграфіі, якая прысвячалася каменнаму веку паўночнаўсходняй Польшчы, ён прымаў канцэпцыю яніславіцкага культурнага кола, у межах якога ўслед за Л. Л. Залізняком [7] вылучаў тры меншыя адзінкі з рангам культуры: 1) уласна яніславіцкую культуру ў цэнтральнай і паўднёва-ўсходняй Польшчы, якая збольшага адпавядае групе Вістка; 2) рудаастроўскую культуру на поўдні Беларусі і поўначы Украіны, у асноўным адпаведнік «комплексаў тыпу Каменная» С. К. Казлоўскага; 3) паўночнаяніславіцкую культуру ў паўночна-ўсходняй Польшчы, Літве і паўночна-заходняй Беларусі, уведзеную замест «культуры Максімоніс», якая, аднак, на думку К. Шымчака, у большай ступені адпавядае ранейшай «усходняй групе» С. К. Казлоўскага, чым «групе Максімоніс» [133, s. 121–122, 127].

Своеасаблівасць паўночнаяніславіцкай культуры вызначаюць вастрыі тыпу Вялішаў з падрэзанай асновай, ромбы, мікралітычныя пласцінкі з дробнарэтушаванымі бакамі, цёслы, разцы, даволі значны ўдзел скрабкоў, а таксама шэраг элементаў, якія даследчык звязвае з уплывамі кундскай культуры – укладышы тыпу Боркі, аднапляцовачныя нуклеусы ад вельмі рэгулярных пласцін і адзінкавыя наканечнікі стрэл на пласцінах, – і кудлаеўскай культур – мікралітычныя пласцінкі з прытупленым рэтушшу краем, у тым ліку вастрыі тыпу Ставінога [133, s. 126]. У межах паўночнаяніславіцкай культуры К. Шымчак вылучыў дзве групы помнікаў, што мусяць адпавядаць дзвюм храналагічным фазам у развіцці культуры. Малодшая з іх вылучаецца значным змяншэннем удзелу ў складзе інвентару вастрый тыпу Вялішаў, яніславіцкіх трохвугольнікаў, пласцінак з прытупленым рэтушшу краем і адначасовым узрастаннем ролі пласцінак са скошаным канцом, трапецый, пласцінак з дробнарэтушаванымі бакамі, ромбаў. Пры гэтым адзначаецца выразная мікралітоіднасць апошніх катэгорый вырабаў, як і змяншэнне памераў скрабкоў і скрабачоў. Такая асаблівасць тлумачыцца зменай стратэгіі выбару сыравіны – замест выкапнёвага ці старанна адабранага марэннага крэменю ўжываліся дробныя канкрэцыі абломачнага матэрыялу [133, s. 127–128].

Тым часам Л. Л. Залізняк таксама працягваў распрацоўку праблематыкі ЯнК. У манаграфіі мезаліту Палесся, выдадзенай у 1991 г., аўтар раскрытыкаваў канцэпцыю культурных колаў і выказаўся аб адсутнасці дастатковых падстаў для выдзялення ў складзе, у тым ліку яніславіцкай супольнасці, асобных археалагічных культур [8, с. 10, 38]. Тым не менш даследчык вылучыў некалькі лакальных варыянтаў у межах «адзінай» ЯнК [8, с. 38]: цэнтральны (усходняя група паводле С. К. Казлоўскага), паўночны (група Максімоніс), заходні (група Вістка) і ўсходні (рудаастроўская культура, паводле Л. Л. Залізняка, альбо днепра-прыпяцкая паводле Д. Я. Цялегіна). У сваіх пазнейшых працах Л. Л. Залізняк пакідае гэты варыянт схемы рэгіянальнага падзелу ЯнК практычна без змен [9, с. 6; 10, с. 185–187; 11, с. 84; 12, с. 134–135].

На пачатку 2000-х гадоў выйшла грунтоўная манаграфія польскага даследчыка Т. Галіньскага, прысвечаная мезаліту Еўропы, у тым ліку ліку і ЯнК [67]. Яніславіцкі тэхнакомплекс, паводле Т. Галіньскага, аб'ядноўвае «класічныя комплексы ў басейне Віслы і верхняй Варты, комплексы групы Максімоніс, значную частку інвентароў, якія Л. Л. Залізняк залічваў да "рудаастроўскага варыянта", інвентары з вастрыямі тыпу Вялішаў з тэрыторыі Валыні, а таксама частку інвентароў, якія С. К. Казлоўскі звязвае з пянькоўскай групай хойніцка-пянькоўскай культуры» [67, s. 276]. У межах яніславіцкай супольнасці Т. Галіньскі вылучыў чатыры групы помнікаў [67, s. 280–289]: 1) комплексы групы Максімоніс (у Літве, заходняй Беларусі, заходняй Украіны, паўночна-ўсходняй Польшчы, Мазовіі і Падляшшы, на захадзе максімальна да Віслы і сярэдняга Буга); 2) класічныя яніславіцкія комплексы (на тэрыторыі цэнтральнай Польшчы, Куявіі, у прывісленскім Памор'і, у Мазовіі, на Падляшшы і ў Малапольшчы, з максімальным распаўсюджаннем на захад да тэрыторыі ўсходняй і цэнтральнай Вялікапольшчы і ва ўсходнім кірунку – на Валыні); 3) комплексы тыпу Старыя Баракі (на Мазовіі, у цэнтральнай і Малапольшчы); 4) комплексы, у якіх дамінуюць трапецыі. Першыя дзве, у сваю чаргу, падзяляюцца на раннія комплексы, у якіх адсутнічаюць трапецыі, і познамезалітычныя помнікі з трапецыямі. «Класічныя» комплексы адрозніваюцца ад помнікаў тыпу Максімоніс адсутнасцю яніславіцкіх вастрый з падрэзанай асновай і значна большым удзелам трохвугольнікаў у мікралітычным наборы (у групе Максімоніс яніславіцкія вастрыі пераважаюць

над трохвугольнікамі). Комплексы тыпу Старыя Баракі даследчык характарызуе моцным развіццём тэхналагічна-тыпалагічнага стылю C[1]. Чацвёртая з вылучаных Т. Галіньскім груп, у інвентарах якой мікраліты прадстаўлены пераважна ці выключна трапецыямі, мусіць адлюстроўваць фінальны этап развіцця яніславіцкага тэхнакомплексу. Арэал распаўсюджвання яе помнікаў аўтар не акрэслівае, але ў спісе вайжнейшых комплексаў фігуруюць стаянкі з Мазовіі, Малапольшчы і Украінскага Палесся.

Як відаць з вышэйпрыведзенага агляду, даследчыкі прапанавалі даволі стракатую палітру канцэпцый рэгіянальнага падзелу ЯнК. З аднаго боку, усе яны развіваюць ідэі, сфармуляваныя С. К. Казлоўскім у манаграфіі 1972 г., з другога – ў пэўных момантах супярэчаць ім і адна адной.

### *4.2. Крытычны аналіз канцэпцый тыпалагічнага і таксанамічнага падзелу крамянёвых комплексаў ЯнК*

Найбольш спрэчнай выглядае ***група Максімоніс***. Першапачаткова, пры яе вылучэнні С. К. Казлоўскі выказваў пэўныя перасцярогі. Зрэшты, назва замацавалася ў літаратуры. Існуюць разыходжанні ў вызначэнні яе арэалаў. С. К. Казлоўскі абмяжоўваў яго да сярэдняга цячэння Нёману (тэрыторыя Літвы) і, магчыма, суседняй часткі паўночна-ўсходняй Польшчы. Л. Л. Залізняк распаўсюджвае яе на тэрыторыю ўсяго Панямоння, у тым ліку беларускага – частку тэрыторыі ўсходняй групы. Т. Галіньскі таксама адзначаў помнікі тыпу Максімоніс у арэале ўсходняй групы С. К. Казлоўскага. У дачыненні да тыпалагічнай характарыстыкі даследчыкі большменш пагаджаюцца адзін з адным. Галоўная рыса, паводле якой вылучаецца група Максімоніс, – яніславіцкія вастрыі з падрэзанай асновай. Астатнія элементы яе крамянёвага інвентару аналагічныя складу комплексаў усходняй групы.

Сапраўды, яніславіцкія вастрыі з падрэзанай асновай сустракаюцца ў Літве, у паўночна-ўсходняй Польшчы і на Беларускім Панямонні. Яны ёсць на помніках Дубічай 2, Максімоніс 4 [29, рис. 92: *4*, 107: *2*], Варэна 1, Ёнёніс [117, pav. 40: *7*, 46: *7*, *8*], Дрэняй [112, pav. 8: *2*], Сосьня 1, Сосьня «Шведзкі мост» [145, tabl. CXXXII: *26*, CXXXIII: *4–6*], Возьна Весь 2 [76, tabl. XLVI: *3*], Беліца 1, Ліхачы ур. «Востраў Ліхацкі», Любча 3, Сверынава ур. «Куцец» [111, tabl. XXI: *21*, CIX: *14*, CXV: *6*, CLXXV: *7*] і на некаторых іншых помніках (гл. [92, mapa 14, 19; 95, p. 147]).

Аднак, па-першае, у пералічаных комплексах яны саступаюць па колькасці іншым тыпам яніславіцкіх вастрый. Па-другое, пункты з такімі вырабамі знаходзяцца ў абсалютнай меншасці сярод помнікаў ЯнК на названай тэрыторыі (гл. [133, s. 120–126; 113; 109–111]). Больш за тое, геаграфія гэтых вырабаў выходзіць далёка за прапанаваныя межы групы Максімоніс. Яны сустракаюцца па ўсім Палессі – як на помніках усходняй групы, так і на рудаастроўскіх: Абалонь [12, рис. 112: *5*; 13, рис. 2: *5*], Барадзянка 3в [7, рис. 24: *1*], Камень 3 [111, tabl. LVIII: *7*], Сенчыцы 5а [8, рис. 15: *13–15*, *17*; 12, рис. 81: *13–15*, *17*], Пераваложа 2 [12, рис. 91: *2*, *7*], Прыборск 3 [7, рис. 26: *1*]. Адзінкавыя падобныя мікраліты адзначаюцца ў верхнім і сярэднім цячэнні Віслы – Бжэзіны [92, s. 235, 288], Вількова [87, tabl. XXXVIII: *13*] і Варшава-Вавэр [94, s. 179, tabl. XV: *16*].

Дадатковыя кампаненты комплексаў групы Максімоніс, якія адрозніваюць іх ад іншых помнікаў ЯнК, гэта – рубячыя прылады (цёслы ці сякеры; [7, с. 101; 10, с. 185; 12, с. 134–135; 67, s. 283; 80, s. 239; 93, p. 75; 96, p. 161] і разцы [7, с. 101; 10, с. 185; 12, с. 134–135; 39; 67, s. 283]. Аднак, арэал прылад для сячэння ў ЯнК таксама вельмі шырокі. Яны распаўсюджаны на ўсім Панямонні, на Заходнім Палессі, у паўночна-ўсходняй Польшчы, сустракаюцца ў басейне Віслы [8, с. 37; 12, с. 134; 92, s. 149; 96, p. 161; 113; 109], – не толькі на тэрыторыі групы Максімоніс, але і практычна ва ўсёй ўсходняй групе. Іх можна знайсці і ў паўднёва-ўсходнім Палессі, на рудаастроўскіх помніках [7, с. 58, 99; 8, с. 34]. Разцы таксама не з'яўляюцца выключна паўночна-ўсходняй адметнасцю. Яны, хоць і не адносяцца да ліку характэрных прылад і звычайна нешматлікія, але даволі часта сустракаюцца па ўсім арэале ЯнК [7; 8; 64, s. 9; 67, s. 293; 92, s. 149; 102; 124, s. 85; 145, s. 380–387].

Такім чынам, з улікам прыведзеных акалічнасцей, наўрад ці можна лічыць вылучэнне групы Максімоніс апраўданым. Помнікі і тэрыторыі, што залічваліся да групы Максімоніс, варта разглядаць у кантэксце ўсходняй групы, калі зыходзіць з канцэпцыі С. К. Казлоўскага. Аналагічнае меркаванне выказваў Т. Астраўскас, які ўключыў комплексы ЯнК з тэрыторыі Літвы ў цэнтральную (паводле Л. Л. Залізняка; усходнюю паводле С. К. Казлоўскага) групу культуры [113]. У пэўнай ступені да такой высновы прыйшоў і К. Шымчак, які аб'яднаў у межах паўночна-яніславіцкай культуры групы Максімоніс і ўсходнюю [133, s. 121–128].

[1] Т. Галіньскі вылучыў у еўрапейскім мезаліце чатыры «тэхналагічна-тыпалагічныя стылі вытворчасці прылад» (A, B, C, D), якія праяўляюцца «ў тыпах і формах нуклеусаў, характары нарыхтовак, з якіх выраблялiся найважнейшыя формы прылад, г. зн. мікраліты, у элементах выкарыстання розных тэхнік іх вырабу, і, часткова, у формах саміх мікралітаў» і якія «маюць характар тэхналагічна-тыпалагічных трэндаў, што ў рознай ступені ахопліваюць усе мезалітычныя комплексы» [67, s. 65]. На думку даследчыка распаўсюджанне гэтых стыляў адлюстроўвае тры храналічныя этапы развіцця крэмнеапрацоўчай вытворчасці ў мезалітычнай Еўропе (падр. гл. [67, s. 65–72]).

Пэўныя сумненні выклікаюць і падставы выдзялення яшчэ адной рэгіянальнай адзінкі ЯнК – ***рудааструоўскай культуры***. Л. Л. Залізняк і С. К. Казлоўскі вызначылі яе арэал у сярэднім і ніжнім цячэннях Прыпяці. К. Шымчак пад гэтай назвай аб'ядноўвае яніславіцкія помнікі ва ўсім беларуска-ўкраінскім Палессе, ніяк не каментуючы сваё меркаванне. Відавочна, што падстаў для такога пашырэння тэрыторыі рудааструоўскай культуры ў любым выпадку няма.

С. К. Казлоўскі ў якасці адмысловых рыс помнікаў усходняга Палесся называў практычна поўную адсутнасць трохвугольнікаў і наяўнасць наканечнікаў стрэл на пласцінах і вастрый з прытупленай спінкай. Аднак наканечнікі стрэл, якія часам суправаджаюць яніславіцкія матэрыялы [7, рис. 21: *9–11*, рис. 25: *14*, *37*, рис. 31: *56–58*], відавочна з'яўляюцца механічнай дамешкай і адносяцца да фінальнага палеаліту. Варта адзначыць, што ў сваіх ранніх працах Л. Л. Залізняк адносіў іх да характэрных асаблівасцей рудааструоўскай культуры [4, с. 30–34; 5, с. 18; 7, с. 100], але ва ўсіх пазнейшых – абмінаў [8, 10–12]. Вастрыі з прытупленай спінкай на Палессі характэрны для кудлаеўскай культуры. Найбольш верагодна, што ў выпадку прысутнасці на рудааструоўскіх помніках яны таксама з'яўляюцца механічнай дамешкай [13, с. 46]. Л. Л. Залізняк ніколі не называў іх у складзе рудааструоўскіх помнікаў. Што тычыцца рэдкасці яніславіцкіх трохвугольнікаў, апошні цалкам падтрымліваў гэты аргумент, дадаючы да яго яшчэ і поўную адсутнасць трохвугольнікаў з трэцім рэтушаваным бокам, а таксама чатырохвугольнікаў. Зрэшты, гэтыя заўвагі патрабуюць адпаведнага каментара.

Нешматлікасць трохвугольнікаў у параўнанні з яніславіцкімі вастрыямі – ўвогуле характэрная з'ява для комплексаў усходняй групы ЯнК. Больш за тое, С. К. Казлоўскі адзначаў, што многія з іх могуць увогуле не ўтрымліваць трохвугольнікаў, замест якіх выступаюць высокія трапецыі [92, s. 156–157]. Акрамя таго, трохвугольнікі ўсё ж такі сустракаюцца на помніках усходняга Палесся [8, рис. 10: *12–19*, рис. 12: *5*, 6; 12, рис. 110: *26*, *27*, рис. 112: *9*, *10*]). З улікам гэтага можна меркаваць, што ў дадзеным выпадку рудааструоўская культура ў цэлым не адрозніваецца ад усходняй групы.

Трохвугольнікі з трэцім рэтушаваным бокам не з'яўляюцца характэрным элементам для ЯнК. Калі і сустракаюцца, то ў першую чаргу ў комплексах групы Вістка, іх знаходкі на іншых помніках культуры вельмі рэдкія. Акрамя таго, адзін такі выраб усё ж такі вядомы на рудааструоўскім помніку Пратарэб [8, рис. 10: *16*]. Што датычыцца чатырохвугольнікаў (ці прамавугольнікаў, паводле польскіх археолагаў), неабходна звярнуць увагу на дзве акалічнасці. Па-першае, гэтая катэгорыя прысутнічае не ва ўсіх тыпалагічных схемах. Х. Венцкоўска і М. Марчак вылучалі прамавугольнікі як асобны тып вырабаў, а С. К. Казлоўскі разглядаў іх у межах катэгорыі «яніславіцкіх трохвугольнікаў». Пры гэтым апошні звяртаў увагу на той факт, што форма вялікіх яніславіцкіх трохвугольнікаў у сваёй большасці нагадвае абрысы геаметрычнага чатырохвугольніка, бо іх доўгія бакі практычна паралельныя, а самі вырабы не маюць вострага заканчэння [88, s. 76; 124, s. 28]. Па-другое, нават калі прамавугольнікі разглядаць як асобную катэгорыю, іх знаходкі ў арэале ЯнК вельмі рэдкія [96, p. 78]. Такім чынам, трохвугольнікі з трэцім рэтушаваным бокам і чатырохвугольнікі/прамавугольнікі наўрад ці варта разглядаць у якасці важкіх аргументаў на карысць адметнасці рудааструоўскіх комплексаў.

Паводле Л. Л. Залізняка, яшчэ адна асаблівасць рудааструоўскіх помнікаў – перавага ў мікралітычным наборы яніславіцкіх вастрый са зламанай і натуральнай асновамі над вастрыямі з рэтушаванай асновай. Тут варта адзначыць, што ў рудааструоўскіх комплексах, якія публікуе Л. Л. Залізняк, яніславіцкія вастрыі прадстаўлены невялікімі серыямі – ад 3 да 6 экзэмпляраў [7, с. 58, 65]. Пры гэтым на трох з шасці помніках прысутнічаюць вастрыі з рэтушаванымі асновамі, папярочнымі і адно з падрэзанай [7, рис. 25: *7*, рис. 26: *1*, рис. 31: *2*, *3*]. Вастрыё з рэтушаванай асновай знойдзена і на стаянцы Красноўка 1Б на ніжняй Бярэзіне [23, рис. 63: *4*], якую таксама адносяць да рудааструоўскіх [8, с. 35; 23, с. 121–122]. Пры гэтым у цэлым нельга сказаць, што вастрыі з рэтушаванай асновай дамінуюць (хутчэй наадварот) ці нават прысутнічаюць ва ўсіх комплексах ЯнК на іншых тэрыторыях [92, s. 121; 99, s. 96; 108, tabl. II]. Такім чынам, сукупнасць комплексаў, якія залічваюцца да рудааструоўскіх па прыкмеце суадносін паміж разнавіднасцямі яніславіцкіх вастрый, не вылучаецца сярод іншых тэрытарыяльных адзінак ЯнК.

Выклікаюць сумненні і іншыя абазначаныя Л. Л. Залізняком асаблівасці рудааструоўскіх помнікаў, якія павінны на яго думку адрозніваць апошнія ў межах ЯнК. Даследчык указваў на меншую ролю пласцін у рудааструоўскіх комплексах, выкарыстоўваючы для яе вызначэння так званы індэкс пласцінiстасці. У працах Л. Л. Залізняка змест гэтага паняцця не раскрываецца, аднак калі улічыць метадалогію разліку, прынятую ва ўсходнееўрапейскай літаратуры (гл. [34, с. 41; 35, с. 14–15; 32, с. 30]), і параўнаць даныя з рудааструоўскіх стаянак [7, с. 58, 68] і помнікаў басейна Віслы (напр. [124, s. 66–67]; гл. таксама заўвагі [67, s. 293]), то вынікі будуць адрозніваца не вельмі значна[1].

[1] Неабходна мець на ўвазе, што польскія аўтары раздзяляюць катэгорыі адшчэпаў, лусак (дробных адшчэпаў, менш) і абломкаў, не звяртаючы ўвагу на апошнія дзве ў

Украінскі даследчык таксама ўказваў на нерэгулярнасць вялікай колькасці рудаастроўскіх нуклеусаў. Аднак на даследаваных раскопкамі помніках ЯнК сустракаюцца разнастайныя формы нуклеусаў, у тым ліку ад: пласцін са зменай арыентацыі; пласцін і адшчэпаў; адшчэпаў (параўн. [65; 67, s. 289–290; 102; 124]), пры гэтым цэлыя нуклеусы ад рэгулярных пласцін не абавязкова колькасна пераважаюць [137, s. 127–128, 164]. Разам з гэтым на рудаастроўскіх стаянках прысутнічаюць «класічныя формы» яніславіцкіх нуклеусаў [7, рис. 20: *23–25*; 8, рис. 10: *106–109*, рис. 12: *65*; 10, рис. 71: *58*, *59*; 12, рис. 109: *23*, *25*, *26*], што адзначаў і сам Л. Л. Залізняк [8, с. 31].

Яшчэ адна асаблівасць рудаастроўскіх комплексаў, на думку Л. Л. Залізняка, – меншая роля скрабачоў, пры наяўнасці выразных серый канцавых скрабкоў. Сапраўды, скрабачы звычайна пераважаюць у групе скрабучых прылад на помніках ЯнК, аднак канцавыя скрабкі складаюць ста́лы, і часам шматлікі, элемент комплексаў ва ўсім арэале культуры [65, s. 9, 26; 67, s. 292; 92, s. 146–148; 109; 124, s. 85; 133, s. 122–128]. На чатырох рудаастроўскіх помніках, звесткі пра якія прыводзіў у сваёй манаграфіі Л. Л. Залізняк, доля «скрабкоў няправільнай формы на адшчэпах» сярод усёй катэгорыі скрабкоў складае ад 42,3 да 53,3%, і толькі на адным меншая – 30,0% [7, с. 58]. Пры гэтым неабходна адзначыць, што ва ўсходнееўрапейскай традыцыі адсутнічае вызначэнне катэгорыі «скрабачы», характэрнай для польскай тэрміналогіі [70, s. 127; 124, s. 22]. У асноўным скрабачам адпавядаюць названыя вышэй «скрабкі няправільнай формы», аднак не выключана, што да скрабачоў можа залічвацца і частка вырабаў, якія трапілі пад вызначэнне канцавых і, асабліва, акруглых і падакруглых скрабкоў. Варта браць пад увагу таксама той факт, што матэрыялы помнікаў, залічаных да рудаастроўскіх, у большасці выпадкаў утрымліваюць іншакультурныя дамешкі (фінальнапалеалітычныя, неалітычныя, часам мезалітычныя). У выпадку полікультурнага характару помніка практычна немагчыма вызначыць дакладную таксанамічную атрыбуцыю «банальных» крамянёвых прылад, такіх, як скрабкі. Таму неабходна вельмі асцярожна падыходзіць да параўнання змешаных комплексаў паводле колькасных параметраў. Тым не менш відавочна, што для рудаастроўскіх, як і для іншых комплексаў ЯнК, характэрны вялікія серыі скрабачоў.

Адзіным неабвержным аргументам на карысць вылучэння рудаастроўскіх помнікаў застаецца факт прысутнасці ў іх складзе крамянёвага інвентару адзінкавых кукрэцкіх элементаў – спецыфічных укладышаў і разцоў з плоскімі разцовымі сколамі. Аднак і іх інтэрпрэтацыя таксама можа аказацца неадназначнай – кукрэкскія элементы сустракаюцца ў паўднёва-ўсходнім Палессі на помніках, дзе прысутнічае днепра-данецкая неалітычная кераміка [7, с. 108–109; 8, с. 42–44]. Сувязь гэтых знаходак менавіта з яніславіцкімі комплексамі патрабуе дадатковай праверкі, бо не выключана, што яны таксама могуць з'яўляцца механічнай дамешкай.

Улічваючы ўсе прыведзеныя вышэй акалічнасці можна канстатаваць, што вылучэнне рудаастроўскай групы помнікаў у межах ЯнК не выглядае пераканаўчым. Крамянёвыя комплексы стаянак з яніславіцкімі матэрыяламі цэнтральнага і ўсходняга Палесся вельмі блізкія комплексам ЯнК заходняга Палесся, Панямоння, паўночна- і паўднёва-ўсходняй Польшчы і ў цэлым упісваюцца ў межы канцэпцыі ўсходняй групы С. К. Казлоўскага.

Заходнія помнікі ЯнК С. К. Казлоўскі, як ужо адзначалася вышэй, адносіў да ***групы Вістка***. Мяжа паміж асноўнымі арэаламі канцэнтрацыі помнікаў вістэцкай і ўсходняй груп, паводле даследчыка, праходзіла «ад сярэдняй Нарвы, праз ваколіцы Варшавы, у накірунку Свентакшыскіх гор, і далей праз Нідзянскую катлавіну і Кракаўска-Чанстахоўскае ўзвышша на поўдзень» [92, s. 157]. Мяжа гэта даволі ўмоўная, бо ў многіх рэгіёнах канцэнтрацыі вістэцкіх помнікаў – у Нідзянскай катлавіне, басейне Бзуры, ваколіцах Варшавы – прысутнічаюць помнікі, якія залічваюцца да ўсходняй групы [92, mapa 19]. Акрамя таго, ва ўсіх названых рэгіёнах, а таксама ў басейне Буга, адзначаецца даволі вялікая колькасць комплексаў са змешаным «вістэцка-ўсходнім» складам мікралітаў. Аб наяўнасці такіх комплексаў, як адзначалася вышэй, пісаў і С. К. Казлоўскі. Аднак звяртае на сябе ўвагу той факт, што на складзенай ім карце помнікаў ЯнК колькасць «вістэцка-ўсходніх» інвентароў амаль роўная колькасці вістэцкіх [92, mapa 19]. Да гэтага неабходна дадаць, што вызначальныя элементы групы Вістка – малыя яніславіцкія трохвугольнікі і нізкія трапецыі – сустракаюцца значна шырэй, чым меркавалася на пачатку 1970-х гадоў. Яны нешматлікія, але прысутнічаюць на помніках ЯнК на значнай тэрыторыі па-за межамі гіпатэтычнага арэалу вістэцкай групы – у паўночна-ўсходняй Польшчы, на Панямонні і на Палессі [8, XLVII: *10*; 8, рис. 10: *12*, *14*, *15*, *94*, рис. 15: *45*, *46*, *63*; *12*, рис. 83: *6*, рис. 91: *42*, *43*, рис. 92: *49*, рис. 110: *26*, *27*; 27, рис. 1: *9*, *10*; 111, tabl. XXI: *6*; 29, рис. 123: *36*; 76, tabl. XXI: *9*, tabl. XXX: *133*, tabl. XLVI: *25*, *26*, *30*; 77, s. 67, tabl. III: *10*]. Гэтыя акалічнасці ставяць пад пэўны сумненне абгрунтаванасць вылучэння заходніх помнікаў ЯнК у тым выглядзе, у якім С. К. Казлоўскі сфармуляваў канцэпцыю групы Вістка.

аналізе структуры крамянёвых комплексаў. У адрозненні ад іх, усходнееўрапейскія даследчыкі разглядаюць усе вышэйпералічаныя вырабы ў межах адной катэгорыі (гл. напр. [34, с. 36; 7, с. 58]).

Неабгрунтаваным выглядае прапанаванае Т. Галіньскім вылучэнне ў складзе ЯнК ***помнікаў тыпу Старыя Баракі***. Так, на эпанімнай стаянцы Старыя Баракі 2 быў выяўлены змешаны мезалітычны інвентар [104]. Адзін з даследчыкаў гэтага помніка, Е. Лібэра, лічыць магчымым з дапамогай планіграфічнага аналізу раздзяліць яго на два асобныя комплексы, што адлюстроўваюць незалежныя этапы засялення стаянкі носьбітамі камарніцкай і яніславіцкай культур [101, s. 25]. Е. Лібэра даследаваў яшчэ адзін помнік, што мусіць належыць да названай групы – Старыя Баракі 14. Па яго сведчанні, у інвентары стаянкі прысутнічаюць тыповыя камарніцкія элементы пры поўнай адсутнасці яніславіцкіх вастрый [Libera, 2003, s. 25]. Астатнія тры з пяці пералічаных Т. Галіньскім у спісе помнікаў тыпу Старыя Баракі – Плазувка, Свідры Малыя «Пенькі» 3, Сукув – былі залічаны С. К. Казлоўскім да пянькоўскай групы хойніцка-пянькоўскай культуры [92, s. 174, mapa 20]. Матэрыялы гэтых стаянак [86; 87, XXXIII: *3–24*; 1972, s. 169, 174, tabl. XLIV, XLV: *1–13*] як і іншыя комплексы згаданага таксону, выразна адрозніваюцца ад тыпова яніславіцкіх[1].

Таксама Т. Галіньскі вылучыў у межах ЯнК ***«комплексы з дамінуючымі трапецыямі»***. У якасці найважнейшых помнікаў даследчык пералічыў пяць з басейна Віслы (Вістка Шляхэцка V/1960, Вістка Шляхэцка VI/1960, Вістка Шляхэцка I/1963 [124, s. 140–164, tabl. VII–XVI], Вялішаў 12-XIV/1960 [146, s. 90–92, tabl. XL: *7–17*, XLI, XLII: *1–10*], Старыя Баракі 13 [103]) і тры з украінскага Палесся (Барадзянка 3а [7, с. 50–53, рис. 23, 24], Нэпірэц, Пратэрэб [8, рис. 10, 11, 13; 12, рис. 94, 99, 100]). Варта адзначыць, што названыя помнікі не складаюць аднароднай групы з пункту гледжання тыпалагічнага складу іх інвентару. Ва ўсіх палескіх комплексах добра прадстаўлена група яніславіцкіх вастрый, якія цалкам адсутнічаюць у адзначаных комплексах з-над Віслы.

Праблема інтэрпрэтацыі помнікаў, характэрнай рысай крамянёвага інвентару якіх з'яўляецца прысутнасць толькі трапецый ці іх абсалютная перавага ў мікралітычным наборы, неаднаразова разглядалася польскімі даследчыкамі. У літаратуры такія помнікі (вядомыя, зрэшты, і па-за арэалам ЯнК) фігуруюць пад рознымі назвамі – «культурна нявызначаныя матэрыялы позняга атлантычнага перыяду» [145, s. 403–406), «бабжанськая група» [43, s. 89–112], «какроўская індустрыя» [99, s. 48; 146, s. 102, 110, 116], «постяніславіцкая культура» [44, s. 91–93, 111] «познаатлантычныя (постяніславіцкія ?) інвентары з дамінуючымі трапецыямі і скрабачамі» [101, s. 26]. Пры гэтым большасць даследчыкаў згаджаецца з датаваннем такіх комплексаў познім атлантыкам і звязвае іх з фінальным этапам мезаліту. С. К. Казлоўскі лічыў іх распаўсюджанне на тэрыторыі Польшчы праявай дэзінтэграцыі мезалітычных супольнасцей і стандартызацыі крамянёвай індустрыі пад уплывам ранненеалітычных культур Дунайскага кола [96, p. 205]. З другога боку, выказвалася меркаванне, што названыя рысы крамянёвага інвентару могуць адлюстроўваць не храналагічную пазіцыю комлексаў, а іх функцыянальную ролю [124, s. 125].

Падсумоўваючы, можна адзначыць, што дыскусію аб унутраным падзеле ЯнК, якую распачаў С. К. Казлоўскі і падтрымала цэлая група даследчыкаў, нельга лічыць завершанай. Працы, у якіх асноўная ўвага звярталася на вывучэнне помнікаў усходняй часткі арэалу культуры [7, 8, 108, 109, 113, 133], з аднаго боку, сведчаць аб значным падабенстве крамянёвых комплексаў ЯнК на большай частцы яе тэрыторыі, а з другога – даюць падставы для пэўнай карэкціроўкі яе першапачатковай тыпалагічнай характарыстыкі. Аднак вылучэнне прапанаваных на дадзены момант лакальных адзінак культуры не выглядае пераканаўча абгрунтаваным (за выключэннем хіба ўсходняй групы, пад характарыстыку якой трапляе асноўная маса яніславіцкіх комплексаў). Большасць элементаў і рыс, якімі адрозніваюцца рудаастроўскія помнікі і помнікі групы Максімоніс, не маюць лакальнага абмежавання. Першапачатковае меркаванне С. К. Казлоўскага аб тэрытарыяльнай зменлівасці тыпалагічных рыс, якія павінны былі служыць адзнакамі вістэцкай і ўсходняй групы, – распаўсюджанасць і ўдзельная вага двух тыпаў яніславіцкіх трохвугольнікаў, нізкіх і высокіх трапецый – у асноўным застаецца правільным, але і яно патрабуе верыфікацыі з улікам усіх даступных на дадзены момант крыніц.

### *4.3. Некаторыя альтэрнатыўныя падыходы да таксанамічнай атрыбуцыі крамянёвых комплексаў ЯнК*

Характэрныя для ЯнК матэрыялы сустракаюцца на шматлікіх археалагічных помніках на тэрыторыі Літвы, Беларусі і Украіны. Аднак не ўсе аўтары атаясамлівалі яніславіцкія элементы гэтых рэгіёнаў з аднайменнай культурай. Часткова гэта звязана з тым, што ў 1960-я гады ўзрасла ўвага да мезалітычнай праблематыкі сярод мясцовых археолагаў. Усходнееўрапейскія даследчыкі паралельна працам польскіх калег, у ходзе якіх была вылучана ЯнК, праводзілі аналагічныя даследаванні. Іх вынікам сталі ўласныя схемы культурна-храналагічнай інтэрпрэтацыі матэрыялаў раннегалацэнавага часу.

[1] У межах паняцця хойніцка-пянькоўскай культуры аб'ядноўваюцца шматлікія познамезалітычныя комплексы так званай маглемозкай, ці постмаглемозкай, традыцыі, распаўсюджаныя на большай частцы тэрыторыі Польшчы (у першую чаргу на захад ад Віслы) [43; 45; 92, s. 165–205; 96, p. 138–148; 99, s. 47; 145, s. 398–403]

Літоўская даследчыца Р. Рыманцене ў 1963 г. правяла раскопкі на стаянцы Максімоніс 4 [74]. Помнік быў аднесены да культуры Маглемозэ, а час існавання апошняй на тэрыторыі Літвы вызначаны на канец прэбарэалу – барэальны перыяд [29, с. 118–125; 117, p. 64–69]. Большасць даследчыкаў, аднак, адназначна звязвае комплекс стаянкі Максімоніс 4, што паслужыў С. К. Казлоўскаму для вылучэння эпанімнай культурнай групы, з ЯнК [12, с. 133; 21, с. 169; 92, s. 134].

У працах, прысвечаных мезаліту Літвы, Р. Рыманцене таксама прапанавала вылучэнне мікраліта-макралітычнай культуры [29, с. 125–172; 42], якую пазней назвала нёманскай мезалітычнай культурай [30; 117, p. 69–86, 313]. Арэал гэтай культуры, што павінна была існаваць з канца барэалу і на працягу атлантычнага перыяду, займаў паўднёвую і ўсходнюю Літву, захад Беларусі, Калінінградскую вобласць і паўночна-ўсходнюю Польшчу [30, с. 68, рис. 2; 117, p. 82–85, pav. 43]. Р. Рыманцене лічыла, што нёманская мезалітычная культура склалася на аснове трох кампанентаў: 1) мясцовых палеалітычных традыцый, выяўленых у першую чаргу ў наканечніках стрэл «эпісвідэрскіх» формаў на пласцінах; 2) элементаў уплыву паўночнага мезаліту – культуры Маглемозэ (макралітычныя прылады для сячэння, ланцэты[1], касцяныя вырабы); 3) міжкультурны мікралітычны кампанент – рэтушаваныя ўкладышы, у тым ліку пласцінкі з прытупленай спінкай, і трапецыі [30, с. 66–68; 117, p. 72, 313].

Аналагічным чынам разважалі і некаторыя іншыя навукоўцы, характарызуючы мезаліт заходняй часткі Усходнееўрапейскай раўніны. Так, У. Ф. Ісаенка вылучаў у мезаліце Беларусі тры гісторыка-культурныя вобласці: макралітычную – у Верхнім Падняпроўі, мікралітычную – ва ўсходнім Палессі, і мікра-макралітычную – у басейне Нёмана і на верхняй Прыпяці [14, с. 56–64]. На думку даследчыка, заходнепалескі і панямонскі мезаліт (з заходнім Палессем генетычна звязвалася і нёманская мезалітычная культура) склаўся на мясцовай свідэрскай аснове і развіваўся часткова пад уплывам паўднёвых і заходніх культур з мікралітамі. У. Ф. Ісаенка адзначаў наяўнасць на мясцовых помніках вырабаў, тыповых для ЯнК, аднак не пагаджаўся з меркаваннем аб распаўсюджанні самой культуры на тэрыторыі Палесся [15, с. 59].

Л. У. Кальцоў таксама вылучаў на тэрыторыі Беларусі, паўднёва-ўсходняй Літвы і паўночна-ўсходняй Польшчы «помнікі мезаліту свідэрскай традыцыі», існаванне якіх датаваў ад другой паловы прэбарэалу і да сярэдзіны атлантыку [21, с. 95–119]. Гэтыя помнікі даследчык дзяліў на дзве групы – пасожскую і нёманска-прыпяцка-бужскую. Апошнюю, у інвентары якой ён бачыў сляды ўплываў ЯнК, даследчык называў нёманскай культурай і цалкам атаясамліваў з мікраліта-макралітычнай культурай Р. Рыманцене [21, с. 117].

Распрацоўку канцэпцыі нёманскай культуры працягнуў С. К. Казлоўскі, які ў шматлікіх працах канца 1960 – пачатку 1970-х гадоў аб'яднаў помнікі з чаранковымі наканечнікамі стрэл на пласцінах з тэрыторыі паўднёва-ўсходняй Прыбалтыкі і Усходнееўрапейскай раўніны спачатку пад назвамі «комплексы тыпу Боркі» [85, s. 242–245], «комплексы тыпу Кунда-Боркі» [90, p. 19–22], а потым і «кундская культура» [91; 92, s. 92–119], разглядаючы апошнюю як адну з таксанамічных адзінак «паўночна-ўсходняга культурнага кола (паўночна-ўсходняга тэхнакомплексу)». Прысутнасць у інвентарах помнікаў заходняй часткі кундскай культуры – на тэрыторыі Літвы, Беларусі і паўночна-ўсходняй Польшчы – яніславіцкіх элементаў (вастрый, высокіх трапецый, скрабачоў) першапачаткова тлумачылася існаваннем кантактаў паміж дзвюма культурамі ў зоне стыку іх арэалаў[2] [85, s. 245–246; 91, s. 67, 72], а пазней паслужыла падставай для вылучэння літоўскай групы кундскай культуры [92, s. 111–112]. Аднак гэтыя погляды польскага даследчыка ў хуткім часе змяніліся: кундская ультура была пераўтворана ім ў кундскую супольнасць паўночна-ўсходняга культурнага кола мезаліту, размежаваную на верхневолжскую, уласна кундскую і нёманскую культуры. З апошняй атаясамліваліся помнікі ранейшай літоўскай групы і, адпаведна, мікраліта-макралітычная культура Р. Рыманцене [79; 80, s. 242–245; 93, p. 138–141; 96, p. 167–173]. Характарыстыка нёманскай культуры С. К. Казлоўскага ў цэлым паўтарае прапанаваную Р. Рыманцене з пэўнымі адрозненнямі, што датычыцца паходжання кампанентаў яе крамянёвага інвентару. У прыватнасці, даследчык акцэнтуе ўвагу на ўдзеле яе ў складванні ЯнК.

Даволі распаўсюджаным з'яўлялася меркаванне, што ў другой палове атлантычнага перыяду крамянёваму інвентару нёманскай мезалітычнай культуры пачынае спадарожнічаць кераміка, і, такім чынам, нёманская неалітычная культура з'яўляецца генетычнай спадкаемніцай яе мезалітычнай папярэдніцы [2, с. 156; 37, с. 50; 96, p. 173; 117, p. 123, 315].

Нягледзячы на тое, што нёманская мезалітычная культура была прызнана многімі ўсходнееўрапейскімі археолагамі, а таксама атрымлівае падтрымку і ў сучасных працах [71, p. 92–103], было вы-

[1] Пад гэтай назвай Р. Рыманцене аб'ядноўвае розныя вастрыі з прытупленымі спінкамі і/альбо скошанымі канцамі, у тым ліку разнастайныя трохвугольнікі, вастрыі тыпу Вялішаў, вастрыі тыпу Ставінога, сегменты і г. д. [31, с. 27–30].

[2] Пры гэтым С. К. Казлоўскі не лічыў, што гэта дае падставы для вылучэння на тэрыторыі Літвы асобнай «мікраліта-макралітычнай» культуры [91, s. 67].

казана нямала і адваротных меркаванняў. Польскія даследчыцы Э. Кэмпісты і Х. Венцкоўска звярнулі ўвагу на змешаны характар комплексаў нёманскай мезалітычнай культуры і адсутнасць дастатковых падстаў для яе вылучэння, а таксама на не да канца высветленую яе сувязь з ранненеалітычнымі комплексамі [77, s. 90]. Такія ж высновы прагучалі ў пазнейшай працы Э. Кэмпістай і З. Сульгастоўскай, якія заклікалі да таго, каб назву «нёманская культура» пакінуць за неалітычным таксонам і адмовіцца ад яе выкарыстання ў дачыненні да мезалітычных матэрыялаў [76, s. 91]. Неабгрунтаваным лічыць вылучэнне гэтай адзінкі і К. Шымчак, указваючы на тое, што частка залічаных да яе стаянак суадносіцца з кундскай культурай, а частка – з апісанай ім паўночна-яніславіцкай культурай. Не згаджаецца даследчык і з трактоўкай нёманскай мезалітычнай культуры як дакерамічнай фазы нёманскай культуры ўсходнееўрапейскага неаліту [133, s. 129]. Л. Л. Залізняк, хоць і з пэўнымі невялікімі агаворкамі, выказвае меркаванні, што большасць комплексаў гэтай адзінкі ўяўляюць з сябе механічную сумесь матэрыялаў свідэрскай, кундскай, яніславіцкай і кудлаеўскай культур [12, с. 12; 152, p. 36]. Да аналагічных высноў прыйшоў і даследчык мезаліту Літвы Т. Астраўскас, які ў сваёй дысертацыі пераканаўча даказаў змешаны полікультурны характар інвентароў стаянак, што залічваліся да нёманскай мезалітычнай культуры [113].

З тэрыторыі паўночна-заходняй Беларусі вядома яшчэ некалькі пунктаў, дзе выразныя яніславіцкія элементы знойдзены ў не зусім ясным культурным кантэксце – Кусеўшчына [38] і Сосенка 3 [40]. Мезалітычныя комплексы гэтых стаянак М. М. Чарняўскі і У. П. Ксяндзоў аднеслі да вылучанага ў пачатку 1990-х гадоў У. П. Ксяндзовым на падставе матэрыялаў стаянкі Стругалапы 1 [3; 25, с. 75–77, рис. 75–79] нарачанскага тыпу помнікаў [26]. Характарыстыка гэтай адзінкі[1] была значна перапрацавана і ўдакладанена В. С. Абухоўскім, які прапанаваў вылучэнне нарачанскай культуры [28]. Паводле даследчыка, крамянёвы інвентар нарачанскай культуры, помнікі якой канцэнтруюцца ў ваколіцах Нарачанскіх азёр і ў басейне верхняй Віліі і датуюцца атлантычным перыядам, склалі яніславіцкі (яніславіцкія вастрыі і трохвугольнікі, трапецыі, скрабачы) і кундскі (чаранковыя наканечнікі стрэл на пласцінах, пласціны-ўкладышы, разцы на зломе пласцін) кампаненты пры наяўнасці культурна неідэнтыфікаваных элементаў (ромбы, асіметрычныя трапецыі, вастрыі са скошанымі канцамі). Да нарачанскай культуры В. С. Абухоўскі залічыў і мезалітычныя рагавыя вырабы са Смаргонскага кар'ера, якія М. М. Чарняўскі раней звязваў з ЯнК [41].

Прапановы даследчыкаў, і, асабліва, удакладненні В. С. Абухоўскага, заслугоўваюць увагі, аднак узнікае шмат пытанняў у сувязі з вылучэннем нарачанскай культуры. Па-першае, сумненне выклікае «культурная чысціня» комплексаў, прынятых за ўзорныя для гэтай адзінкі. На немагчымасць выкарыстання ў якасці культуравызначальных матэрыялаў стаянкі Стругалапы 1 па прычыне практычнай адсутнасці ў складзе яе інвентару элементаў мікралітычнага набору і іншых характэрных форм указваў В. С. Абухоўскі [28, с. 12]. Мезалітычны комплекс Сосенкі 3 вылучаны даследчыкам са змешанай калекцыі, у якой прадстаўлены матэрыялы розных этапаў нарвенскай неалітычнай культуры [40].

Па-другое, пад пэўным сумненнем знаходзіцца таксанамічная атрыбуцыя элементаў, што мусяць адрозніваць крамянёвую індустрыю нарачанскай культуры ад ЯнК. Так, разцы на зломе пласцін і рэтушаваныя ўкладышы з фрагментаваных пласцін, якія ў дадзеным кантэксце інтэрпрэтуюцца як элементы кундскага паходжання і якія, безумоўна, з'яўляюцца характэрнымі элементамі інвентару ўласна кундскай культуры [24, 115], В. С. Абухоўскім называліся ў якасці характэрных форм і ЯнК басейна верхняга Нёмана [109, s. 85]. Нешматлікія знаходкі ромбаў і асіметрычных трапецый [109, s. 84–85, rys. 8: *8*, 13: *8*, *11*; 110, s. 37, rys. 33: *7*, *8*] з захаду Беларусі таксама звязваліся даследчыкам з ЯнК. Неабходна нагадаць, што і К. Шымчак пералічваў ромбы, разнастайныя трапецыі (у тым ліку нізкія і асіметрычныя формы), укладышы з рэтушаванымі краямі і вастрыі са скошанымі канцамі ў складзе крамянёвага інвентару паўночна-яніславіцкай культуры [133, s. 126–128]. Адзіным элементам, які нельга суадносіць з індустрыяй ЯнК, з'яўляюцца лістападобныя наканечнікі стрэл. Зрэшты, той жа К. Шымчак, дапускае магчымасць прысутнасці такіх вырабаў у комплексах паўночна-яніславіцкай культуры [133, s. 126, tabl. XLVIII: 5, 20, L: 13, 26, 27].

Такім чынам, ёсць пэўныя падставы для таго, каб звязваць непасрэдна з ЯнК басейна Нёмана і паўночна-ўсходняй Польшчы помнікі, якія прылічваюцца даследчыкамі да нарачанскіх. З іншага боку, аўтар не выключае магчымасці існавання ў познім мезаліце нейкай іншай таксанамічнай адзінкі, ідэнтычнай альбо падобнай да ахарактарызаванай даследчыкамі нарачанскай культуры, на прасторах не толькі верхняй Віліі, але і на больш шырокіх суседніх тэрыторыях. У любым выпадку, станоўчае альбо адмоўнае вырашэнне пытання аб вылучэнні гэтага таксону патрабуе больш грунтоўных даследаванняў мезаліту Павілля.

[1] Л. Л. Залізняк у сваёй нядаўняй манаграфіі мезаліту захаду Усходняй Еўропы таксама звярнуў увагу на гэтыя помнікі, аб'яднаўшы іх пад назвай «помнікі тыпу Кусеўшчына». Даследчык лічыць іх генетычна звязанымі з ЯнК і выказвае меркаванне аб іх фінальнамезалітычнай ці ранненеалітычнай (услед за М. М. Чарняўскім, які ўказваў на падабенства матэрыялаў Кусеўшчыны крамянёваму інвентару стаянак ранняй нарвенскай культуры) храналогіі [12, с. 138–139].

### 5. Заключэнне

Паняцце яніслаўіцкай культуры ўпершыню з'явілася ў сярэдзіне 1960-х гадоў у польскай археалагічнай літаратуры. Яе базавая канцэпцыя ў завершаным выглядзе была сфармулявана на працягу наступных дзесяці гадоў, галоўным чынам дзякуючы працам С. К. Казлоўскага і Х. Венцкоўскай. Ад гэтага часу да даследавання ЯнК далучыліся многія навукоўцы, пераважна з Польшчы, Украіны, Беларусі і Літвы, намаганнямі якіх істотна пашырылася крыніцазнаўчая база для вывучэння культуры, разгарнуліся дыскусіі па цэлым спектры агульных і спецыяльных праблем даследавання яніслаўіцкіх старажытнасцей. Вывучэнне апошніх праводзілі ў некалькіх накірунках. Большасць археолагаў засноўвала свае даследаванні на тыпалагічна-параўнальных метадах у рамках традыцыйнай метадалогіі. Адной з цэнтральных тэм тыпалагічных даследаванняў ЯнК з'яўляецца праблема яе таксанамічнага падзелу. Рознымі даследчыкамі была прапанавана даволі стракатая палітра канцэпцый рэгіянальнага падзелу ЯнК. Аднак нават беглы іх аналіз паказвае, што ніводная з іх на дадзены момант дастаткова не абгрунтавана, а пэўная тыпалагічная неаднароднасць крамянёвых комплексаў патрабуе альтэрнатыўных тлумачэнняў.

Развіццё нетыпалагічных даследаванняў, якое даволі актыўна пачалося з сярэдзіны 1970-х гадоў, значна пашырыла даследчыя перспектывы. На дадзены момант даволі дэталёва ахарактарызавана тэхналагічная канцэпцыя крэмнеапрацоўчай вытворчасці ЯнК, раскрыты некаторыя аспекты распаўсюджвання і выкарыстання разнастайных гатункаў крамянёвай сыравіны. На жаль, даследаванні такой скіраванасці ахопліваюць толькі частку арэала ЯнК у басейне Віслы.

### Літаратура і крыніцы

1. Горелик, А. Ф. Новые мезолитические памятники с яниславицкими вкладышевыми элементами на Северском Донце / А. Ф. Горелик // Сов. археология. – 1987. – № 3. – С. 146–160.

2. Гурина, Н. Н. Неманская культура / Н. Н. Гурина // Археология. Неолит Северной Евразии. – М.: Наука, 1996. – С. 155–162.

3. Зайковский, Э. М. Мезолитический памятник Струголапы 1 // Э. М. Зайковский, В. П. Ксензов // Гіст.-археалаг. зб. – Мінск, 1994. – № 5. – С. 3–8.

4. Зализняк, Л. Л. Мезолит Восточной Волыни и Киевского Поднепровья в свете новых исследований / Л. Л. Зализняк // Новые исследования археологических памятников на Украине. – Киев : Наук. думка, 1977. – С. 23–44.

5. Залізняк, Л. Л. Рудоострівска мезолітична культура / Л. Л. Залізняк // Археологія. – Київ, 1978. – № 25. – С. 12–21.

6. Зализняк, Л. Л. Об остриях с микрорезцовым сколом в мезолите северной Украины / Л. Л. Зализняк // Орудия каменного века / ред. кол.: Д. Я. Телегин (отв. ред.) [и др.]. – Киев : Наук. думка, 1978. – С. 89–97.

7. Зализняк, Л. Л. Мезолит Юго-Восточного Полесья / Л. Л. Зализняк. – Киев : Наук. думка, 1984. – 120 с.

8. Зализняк, Л. Л. Население Полесья в мезолите / Л. Л. Зализняк. – Киев : Наук. думка, 1991. – 160 с.

9. Залізняк, Л. Л. Пізній мезоліт України / Л. Л. Залізняк // Археологія. – Київ, 1995. – № 4. – С. 3–16.

10. Залізняк, Л. Предісторія України X–V тис. до н. е. / Л. Залізняк – Київ : Бібліотека українця, 1998. – 305 с.

11. Залізняк, Л. Л. Фінальний палеоліт і мезоліт континентальної України / Л. Л. Залізняк. – Київ : Шлях, 2005. – 185 с.

12. Залізняк, Л. Л. Мезоліт заходу Східної Європи / Л. Л. Залізняк. – Київ : Шлях, 2009. – 278 с.

13. Залізняк, Л. Л. Яніславицькі культурні традиції в неоліті Правобережного Полісся / Л. Л. Залізняк, С. А. Балакін // Археологія. – 1985. – Вип. 49. – С. 41–49.

14. Исаенко, В. Ф. Мезолит / В. Ф. Исаенко // Очерки по археологии Беларуси. – Минск: Наука и техника, 1970. – Ч. I. – С. 49–66.

15. Исаенко, В. Ф. Мезолит Припятского Полесья / В. Ф. Исаенко // Краткие сообщения Института археологии. – Москва, 1977. – Вып. 149 : Памятники эпохи мезолита. – С. 53–59.

16. Исаенко, В. Ф. Основные типы кремневых орудий Южной Белоруссии / В. Ф. Исаенко // Орудия каменного века / ред. кол.: Д. Я. Телегин (отв. ред.) [и др.]. – Киев : Наук. думка, 1978. – С. 70–89.

17. Ковалевская, В. Б. Количественные методы оценки степени близости памятников по процентному содержанию массового материала / В. Б. Ковалевская, И. Б. Погожев, А. П. Погожева (Кусургашева) // Совет. археология. – 1970. – № 3. – С. 26–39.

18. Колосов, А. В. Финальный палеолит и мезолит Белорусского Посожья / А. В. Колосов // Русский сборник. – Брянск, 2008. – Вып. 4. – С. 23–31.

19. Колосов, А. В. Финальный палеолит и мезолит Посожья / А. В. Колосов // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. – Мінск, 2010. – Вып. 18 : Даследаванні каменнага і бронзавага вякоў. – С. 77–85.

20. Кольцов, Л. В. Памятники с яниславицкими элементами на территории СССР / Л. В. Кольцов // Памятники древнейшей истории Евразии. – М. : Наука, 1975. – С. 63–67.

21. Кольцов, Л. В. Финальный палеолит и мезолит Южной и Восточной Прибалтики / Л. В. Кольцов. – М. : Наука, 1977. – 216 с.

22. Кольцов, Л. В. Яниславицкая культура / Л. В. Кольцов // Археология СССР. Мезолит СССР. – М. : Наука, 1989. – С. 60–62.

23. Ксензов, В. П. Палеолит и мезолит Белорусского Поднепровья / В. П. Ксензов. – Минск : Наука и техника, 1988. – 134 с.

24. Ксензов, В. П. Культура Кунда / В. П. Ксензов // Гіст.-археалаг. зб. – Мінск, 2001. – Вып. 16. – С. 20–35.

25. Ксензов, В. П. Мезолит Северной и Центральной Беларуси / В. П. Ксензов // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. – Мінск, 2006. – Вып. 13. – 170 с.

*УДК 903.53(476.7)*

***В. Г. Белявец,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, аддзел археалогіі першабытнага грамадства, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск, Беларусь)*

# Даследаванні на грунтовым могільніку вельбарскай культуры Пятровічы–Белая Гара ў 2011–2012 гадах

Першыя звесткі аб наяўнасці каля в. Пятровічы грунтовага могільніка рымскага часу з'явіліся ў даваенны час. У 1939 г., верагодна падчас устаноўкі новай трыянгуляцыйнай вежы, тут былі разбураны некалькі пахаванняў грунтовага могільніка. У жніўні таго ж года невялікая калекцыя рэчаў, сабраная на помніку, была перададзена ў фонды Дзяржаўнага Археалагічнага музея ў Варшаве (Państwowe Muzeum Archeologiczne w Warszawie, № каталога PMA IV-1090), дзе захоўваецца і сёння [8, s. 19–20, Tab. 1: *c–i*].

Помнік знаходзіцца каля 400 м на паўднёвы захад ад месца ўпадзення р. Асіпаўка ў р. Мухавец і каля 80–100 м на поўнач ад шашы Варшава–Масква. Вёска Пятровічы месціцца на супрацьлеглым, правым беразе р. Асіпаўкі. Помнік размешчаны ва ўрочышчы Белая Гара, якое ўяўляе з сябе рэшткі дастаткова высокага, да 4–5 м над узроўнем мясцовасці, пясчанага ўзвышша. Белая Гара некалі з'яўлялася найбольш высокай, паўночна-ўсходняй часткай вялікай пасляледавіковай пясчанай дзюны, якая была амаль цалкам знішчана напрыканцы 1970-х гадоў падчас будаўніцтва шашы Варшава–Масква. Першапачаткова яе даўжыня складала каля 1100 м, а максімальная шырыня – да 300 м. Дзюна была выцягнута па лініі паўднёвы захад – паўночны ўсход. Па словах мясцовых жыхароў, яна мела няроўную, «гарбамі», паверхню, доўгі час была пазбаўлена лесу і раздувалася. Згодна з картай пачатку 1930-х гадоў, уласна Белая Гара першапачаткова мела авальную форму, каля 300 м у даўжыню і да 120–150 м у шырыню. Ад разбурэння ацалела паўночна-ўсходняя яе частка, пляцоўка на вяршыні якой сёння мае плошчу каля 800 м$^2$. На месцы той часткі дзюны, якая была знішчана кар'ерам, з'явілася сажалка глыбінёй да 2 м.

Раскопкі на грунтовым могільніку Пятровічы–Белая Гара былі распачаты ў 2000 г. разведачным шурфам і працягваліся шэсць сезонаў да 2006 г. У гэты час была ўскрыта плошча ў 565 м$^2$, даследаваны 74 пахаванні (пахаванні № 1–68, 17/а, 21/а, аб'екты № 4–7) ды шэраг іншых аб'ектаў могільніка (мал. 1). Асноўная маса атрыманых матэрыялаў належыць да вельбарскай культуры. Акрамя перыяду рымскіх уплываў, помнік утрымлівае культурныя адкладанні іншых эпох. Тут наяўны гарызонт каменнага і бронзавага вякоў – пачынаючы з фінальнага палеаліту, – калі Белая Гара выкарыстоўвалася пад кароткачасовыя стаянкі. Таксама выразна прадстаўлены матэрыялы часоў Першай і Другой сусветных войнаў. Клеймы на ружэйных гільзах сведчаць, што баявыя дзеянні тут адбываліся падчас савецка-польскай кампаніі 1920 г. і ў 1944 г. Атрыманыя падчас раскопак даныя адпавядаюць паведамленням мясцовых жыхароў. У паўночнай, усходняй, але перадусім – у паўднёвай частках Белай Гары былі выяўлены рэшткі жылых і лёгкіх абарончых ваенных канструкцый: бліндажоў, акопаў, стралковых ячэек ды інш.

Помнік мае даволі спецыфічную стратыграфію. За две тысячы год рэльеф Белай Гары істотна змяніўся. Старажытная яе вяршыня знішчана ветравой эрозіяй. Тут непасрэдна пад слоем перамяшанага грунту таўшчынёй каля 0,20–0,25 м залягае мацерыковы пласт жоўтага пяску. Старажытная паверхня (культурны слой помніка) захавалася па перыферыі ўзвышша. Яна перакрыта адкладаннямі наноснага пяску, магутнасць якіх на розных участках вагаецца, дасягаючы на ўсходнім схіле ўзвышша, – раёне найбольш інтэнсіўнага ўтварэння эолавых адкладанняў, – звыш 2 м.

У 2011 г. пасля чатырохгадовага перапынку раскопкі на помніку былі адноўлены і працягнуты ў 2012 г. Напрацягу двух апошніх палявых сезонаў на ім даследавана плошча 440 м$^2$ (мал. 1). Мэтай гэтых прац з'яўлялася вывучэнне ускраінных участкаў грунтовага могільніка па заходнім, паўночным і ўсходнім схілах Белай Гары, а таксама даследаванне паўднёвай, моцна пашкоджанай падчас Другой сусветнай вайны, часткі ўзвышша, дзе ў старажытнасці знаходзілася вяршыня ўзвышша.

Найбольш цікавым вынікам раскопак, з ліку тых, якія не маюць непасрэднага дачынення да гарызонту рымскага часу, стала адкрыццё слядоў старажытнай воркі Белай Гары. Яны прасочаны па заходнім, паўночным і ўсходнім яе схілах, дзе пахаваны культурны пласт не быў знішчаны ветравой эрозіяй, а таксама ў мінімальнай ступені быў пашкоджаны сучаснымі ямамі невядомага паходжання Найноўшага часу. Паглыбленні ад барознаў воркі мелі выгляд паралельных палос, запоўненых грунтам буравагага колеру, якія заглыбляліся ў перадмацерыковы пясок на 5–8 см. Прасочаны сляды як мінімум двухкратнага разворвання схілаў ўзвышша. Большая частка барознаў была арыентавана ў напрамку поўнач–поўдзень з нязначным у 5–8° адхіленнем да паўночнага ўсходу. Адлегласць паміж імі складала каля 15 см. Эпізадычна прасочваліся сляды другой воркі, барозны якой цягнуліся па лініі паўночны захад–паўднёвы ўсход. Назіранні за




Мал. 1. План даследаванай часткі грунтовага могільніка Пятровічы. Жабінкаўскі раён

стратыграфічнымі суадносінамі барознаў і аб’ектаў грунтовага могільніка сведчаць, што пахаванні рымскага часу былі ўкапаныя ў сляды воркі. Такім чынам, схілы Белай Гары араліся перад здзяйсненнем тут першых пахаванняў насельніцтвам вельбарскай культуры – да другой паловы II ст. да н. э.

Вынікі вывучэння грунтовага могільніка вельбарскай культуры Пятровічы за перыяд 2000–2006 гг. у абагульненай форме былі прадстаўлены ў двух артыкулах [2; 3, с. 310–330]. Паводле наяўных на 2006 г. даных, перыяд яго выкарыстання замыкаецца ў межах фаз $B_2/C_1–C_{1a}$ – $C_2$/(пачатку?)$C_3$ перыяду правінцыйнарымскіх уплываў, што ў абсалютных датах прыблізна адпавядае часу з апошняй чвэрці II – рубяжа II/III стст. да рубяжа III/IV – першых дзесяцігоддзяў IV ст. [2, с. 85,92; 3, с. 313–314, 326]. Адметнай асаблівасцю пахавальнай абраднасці абшчыны, якая выкарыстоўвала могільнік на Белай Гары, з’яўляўся выразны бірытуалізм: па даных на 2006 г. суадносіны даследаваных на ім інгумацый і крэмацый складалі 41 да 33 адпаведна. Такім чынам, пятровіцкі могільнік у сэнсе пахавальнай абраднасці каардынальна адрозніваецца ад аднакультурнага помніка ў Брэст-Трышын, дзе былі выяўлены толькі пахаванні па абрадзе крэмацыі [6, 4]. Параўнаўчы аналіз матэрыялаў могільніка Пятровічы на фоне іншых помнікаў вельбарскай і гоцкага кола культур, дазволіў сфармуляваць тэзіс аб наяўнасці ў межах гэтай культурнай агульнасці некалькіх сацыяльна-палітычных аб’яднанняў гістарычных готаў, а таксама – аб іх верагодных адрозненнях у сацыяльнай арганізацыі [2, с. 97–99; 3, с. 64–65; 4, с. 327–330].

Раскопамі 2011–2012 гг. вывучана 17 пахаванняў грунтовага могільніка (№ 69–84, 70/а). Суадносіны пахаванняў, выкананых па розных абрадах (10 інгумацый і 7 крэмацый), пацвярджаюць зробленыя раней высновы аб выразным бірытуалізме пахавальнага абраду, які практыкавала пятровіцкая абшчына.

Атрыманы новыя даныя аб планіграфіі помніка. Перадусім, выяўлена яго мяжа на ўсходзе (пахаванне № 80). На ўсход ад гэтага аб’екта ў старажытнасці пачынаўся стромкі схіл Белай Гары, які ў да-




Мал. 2. Планы і профілі пахаванняў № 75 і № 77: *I* – першая зачыстка; *II* – другая зачыстка; *1* – месца знаходкі ў пахаванні № 75 срэбнай пацеркі. Грунтовы могільнік Пятровічы. Жабінкаўскі раён

дзены час перакрыты больш чым двухметровымі напластаваннямі наноснага пяску. Помнік працягваецца ў паўночна-заходнім накірунку, дзе таксама добра захавалася старажытная паверхня ўзвышша і культурны пласт рымскага перыяду. У выяўленых тут аб'ектах былі пахаваны пераважна дзеці рознага ўзросту, перадусім – немаўляты, што падкрэслівае перыферыйны характар дадзенага ўчастка могільніка. Паўднёвым раскопам 2012 г. часткова даследавана старажытная вяршыня Белай Гары, дзе грунтовы могільнік аказаўся практычна знішчаны пабудовамі лясніцтва рубяжа XIX/XX стст. і катлаванамі ад бліндажоў ды гаспадарчых пабудоў блокпаста венгерскай тылавой часткі, якая базіравалася тут у 1943–1944 гг.

Сярод асноўных вынікаў вывучэння аб'ектаў грунтовага могільніка вельбарскай культуры, атрыманых па выніках сезонаў 2011–2012 гг., спынімся на двух, ілюструючы іх прыкладамі трох пахаванняў. Рэчавы інвентар двух з іх (№ 75 і 77) нясе новыя даныя для ўдакладнення храналагічных рамак функцыянавання помніка. Матэрыялы ж, атрыманыя ў трэцім пахаванні (№ 76), дазваляюць падмацаваць і развіць раней ужо выказаныя назіранні аб асаблівасцях сацыяльнай арганізацыі абшчыны, якая выкарыстоўвала могільнік на Белай Гары.

**Пахаванні № 75 і № 77.** Выяўлены ў 2011 г. у паўночна-заходняй частцы ўзвышша. Контуры аб'ектаў прасочаныя 0,20–0,24 м ніжэй старажытнай паверхні помніка. У паўднёвую частку пахавання № 75, выкананага па абраду інгумацыі (косткі не захаваліся), было ўкапана пахаванне № 77 з рэшткамі крэмацыі; паўночна-заходняя частка ямы пахавання № 75 была ў старажытнасці пашкоджана ямай невядомага паходжання, альбо вываратнем (мал. 2). Аб'екты даследаваны двума сячэннямі накрыж (мал. 2: А–Б, В–Г). Планы зафіксаваны на двух узроўнях: першая зачыстка выканана на глыбіні 0,20–0,24 м ад старажытнай паверхні (мал. 2: *I*), другая – 0,25 м ніжэй, на ўзроўні залягання знаходак (мал. 2: *II*).

**Пахаванне № 77** (мал. 2*: 1*) здзейснена ў яме акруглай у плане формы дыяметрам каля 0,50 м. Сценкі амаль вертыкальныя роўныя, дно пляскатае.



Мал. 3. Знаходкі з пахаванняў № 75 (*1*), № 77 (*2–9*) і размяшчэнне інвентару (*А*) у пахаванні № 77: *1, 2* – срэбра; *3* – шкло; *4–7* – сплаў медзі; *8* – камень; *9* – косць (рог). Грунтовы могільнік Пятровічы. Жабінкаўскі раён

Глыбіня – каля 0,65 м ад узроўню старажытнай паверхні. Аб'ект запоўнены аднародным гумусіраваным пяском светла-карычневага колеру з лінзамі больш цёмна афарбаванага грунту. Запаўненне было святлейшым у прыдоннай частцы, дзе яно па колеры амаль не адрознівалася ад жоўтага мацерыковага пяску. На дне пахавальнай ямы, у паўднёва-заходняй яе частцы, выяўлена вялікая колькасць старанна ачышчаных ад попелу кальцыніраваных костак. Група костак мела форму блізкую да прамавугольнай, з закругленымі вугламі, памерамі прыблізна 25 × 18 см, каля 8 см у вышыню і была арыентавана па баках свету. Разам кальцыніраваныя косткі захавалі форму арганічнай ёмістасці, у якой былі змешчаны ў пахавальнай яме, – пляцёнага корабу альбо драўлянай скрынкі. Вага сабраных костак – 275 г.

*Антрапалагічнае вызначэнне*[1]: жанчына, хутчэй за ўсё маладога ўзросту (adultus).

Сярод рэшткаў крэмацыі знаходзіўся наступны пахавальны інвентар[2] (мал. 3, *А*).

1. Фібула IV групы О. Альмгрэна [7] блізкая да тыпу А. 93 (мал. 3: *7*), са сплаву медзі. Аплаўленая, страчаны кончык іголкі.

2. Фібула вытворная ад моцна прафіляваных, блізкая да тыпу А. IV-93 (мал. 3: *6*), са сплаву медзі. Аплаўленая, страчана частка іголкі і прыёмніка. Да правага плечука спружыннай гільзы прыпякліся рэшткі аплаўленых пацерак з чырвонага і зялёнага (?) шкла.

Грабеньчыкі абедзвюх фібул першапачаткова былі інкруставаны дротам з іншага металу, магчыма срэбным.

3. Фібула тыпу А. V-130 (мал. 3: *4*) са сплаву медзі. Аплаўленая, страчана частка іголкі.

4. Фібула тыпу А. V-130 (мал. 3: *5*) са сплаву медзі. Аплаўленая, страчаны спружынны апарат і кромка прыёмніка.

[1] Посткраніяльны антрапалагічны аналіз выкананы доктарам біялагічных навук, дацэнтам, галоўным навуковым супрацоўнікам аддзела антрапалогіі і экалогіі Інстытута гісторыі НАН Беларусі І. І. Салівон.

[2] Расчыстка і кансервацыя металічных вырабаў з пахаванняў № 75 і № 77 выканана мастаком-рэстаўратарам музея Гісторыі Вялікай Айчыннай вайны В. І. Пчэльнікавым, за што аўтар артыкула яму шчыра ўдзячны.

5. S-падобная срэбная скрэпа тыпу B паводле А. фон Мюлера [15] з дапаўненнямі А. Какоўскага [13] (мал. 3: *2*). Нясе сляды тэрмічнага ўздзеяння, страчаны адзін з плечукоў ніжэй пацеркі. На корпус з круглага ў сячэнні дроту надзета полая вітая пацерка з навітага дроту. Галоўка скрэпы мае пірамідальную форму, складаецца з пяці шарыкаў, з якіх чатыры размешчаны па перыметры, а адзін над імі па цэнтры; на кожны з іх, у сваю чаргу, напаяны па чатыры гранулы: тры ўнізе, адна на вяршыні. Пад галоўкай і па краі пацеркі змешчаны накладныя колцы з псеўдагрануляванага дроту. Такі ж дрот пушчаны ўздоўж корпуса са знешняга боку.

6. Двухчасткавы грабеньчык тыпу B паводле С. Томас [20] (мал. 3: *9*) з рогу, змацаваны двума касцянымі прадольнымі штыфтамі. Перапалены, фрагментаваны. З абодвух бакоў пракрэслены арнамент: уздоўж верхняга краю спінкі змешчаны сем кружкоў з кропкай у цэнтры; вышэй асновы зубчыкаў пушчаны дзве паралельныя палосы з кропкавых наколаў.

7. Пацерка аплаўленая дэфармаваная, з пурпурнага празрыстага шкла, спеклася з фрагментам кальцынiраванай косткі (мал. 3: *3*).

8. Галька каменная, белага колеру, са слядамі абпалу (мал. 3: *8*), магчыма – прылада для загладжвання паверхні глінянага посуду.

**Пахаванне № 75.** Пахавальная яма мела форму, блізкую да прамавугольнай, з закругленымі вугламі. Яе памеры ў верхняй частцы запаўнення складалі прыблізна 1,20 × 0,50 м. Была арыентавана па лініі паўночны захад–паўднёвы ўсход з адхіленнем каля 15° у бок поўначы. Сценкі прамыя нахіленыя ўнутр, дно пляскатае. Максімальная глыбіня – каля 0,70 м ад узроўню старажытнай паверхні. Запаўненне аднастайнае, утворана слаба гумусіраваным пяском светла-карычневага колеру. У паўночнай частцы ямы па яе цэнтральнай восі знойдзена срэбная пацерка (мал. 2: *1*).

*Інвентар*: пацерка біканічнай формы ў «барочным» стылі, скручаная з тонкага срэбнага дроту (мал. 3: *1*), часткова захавалася срэбная грануляцыя.

Значную ролю ў датаванні гэтых аб'ектаў мае рэчавы комплекс пахавання № 77, перадусім – засцежкі з яго. У ім пара фібул, вытворных ад моцна прафіляваных IV групы О. Альмгрэна, выступае з дзвюма засцежкамі тыпу A. V-130, на падставе чаго комплекс павінен суадносіцца з фазай B2/C1 рымскага часу [11, s. 37; 12, S. 161–162; 14, S. 190, 192; 21, s. 24]. Канструкцыя і характар арнаментацыі першай пары засцежак нясуць рысы, характэрныя для позных фібул IV групы О. Альгрэна, якія мы можам назіраць у тыпах A. 93 і A. 80: адносна вузкія спінкі і ножкі, багатая арнаментацыя грабеньчыкаў. Яны маюць таксама прыкметы фібул V групы: выразна зазначаныя шырокія грабеньчыкі ды вузкія высокія прыёмнікі. У працы Т. Хаўптмана, які развівае і ўдакладняе тыпалогію фібул V групы О. Альмгрэна, блізкія адпаведнікі да гэтых фібул мы можам знайсці як сярод прататыповых форм, так і засцежак, якія вылучаюцца даследчыкам у 1-ы варыянт 1-й серыі V группы [12, S. 161–162, Abb. 2, Abb. 3]. Больш сціслае вызначэнне тыпалагічнай прыналежнасці пары засцежак, што мы разглядаем, у межах існуючых класіфікацый можа прымацца даволі ўмоўна. Па сутнасці, яны могуць служыць добрай ілюстрацыяй да ўсёй складанасці працэсу развіцця позніх варыяцый моцна прафіляваных засцежак IV групы ў асяроддзі насельніцтва вельбарскай культуры ў перыяд фарміравання яе «барочнага» стылю.

У кантэксце гэтага артыкула для нас істотнай з'яўляецца, перадусім, храналогія комплексу з пахавання № 77. Яна дазваляе зрабіць наступныя высновы.

1. Комплекс безумоўна належыць да фазы B2/C1; на падставе стратыграфічных суадносін аналагічным чынам павінна датавацца пахаванне № 75. Гэтыя два аб'екты вызначаюць пачатак функцыянавання могільніка Пятровічы сярэднярымскім перыядам, што робіць абсалютную храналогію помніка старэйшай на 2–3 дзесяцігоддзі.

2. Комплекс пахавання № 77 з парай засцежак, вытворных ад моцна прафіляваных IV групы О. Альмгрэна, фібуламі тыпу A. V-130 і S-падобнай скрэпай з'яўляецца стылістычна найбольш раннім комплексам вельбарскай культуры з вядомых аўтару дадзенага артыкула на тэрыторыі не толькі Беларусі, але і Усходняй Еўропы ў цэлым. Засцежкі IV групы О. Альмгрэна не адзначаны таксама ў аднакультурных матэрыялах Усходняй Мазовіі і Падляшша [9, s. 229–234].

У цэлым комплекс пахаванняў № 77 і № 75 сведчыць, што абшчына, якая выкарыстоўвала могільнік на Белай Гары, належала да ліку найбольш ранніх вельбарскіх каланістатаў, якія ў апошняй чвэрці II ст. н. э. рассяляліся па землях сярэдняга цячэння р. Вісла і па цячэнню р. Заходні Буг.

**Пахаванне № 76.** Пахаванне па абраду інгумацыі. Косткі шкілета не захаваліся.

План расчышчаны 0,20–0,22 м ніжэй узроўню старажытнай паверхні. Яма мела форму блізкую да авальнай, памерамі 0,75 × 0,40 м, была арыентавана па лініі поўнач–поўдзень з адхіленнем каля 18° у бок усходу. Сценкі прамыя, дно пляскатае. Глыбіня аб'екта складала 0,32–0,33 м ад пахаванай паверхні. Даследавана папярочным сячэннем (мал. 4, *А*). Запаўненне ямы ўтварыў гумусіраваны пясок рудавата-светла-карычневага колеру. Цямнейшы грунт назіраўся ў паўночнай яе частцы, дзе быў выяўлены пахавальны інвентар: пара фібул і каралі, якія складаліся з 27 падвесак і пацерак.




Мал. 4. План і профіль пахавання № 76 (*А*), размяшчэнне ў пахаванні інвентару (*Б*), знаходкі (*В*): *1–3* – срэбра; *4–15* – бурштын; *16–27* – шкло; *28* – акамянеласць (?); рэканструкцыя караляў (*Г*). Грунтовы могільнік Пятровічы. Жабінкаўскі раён

*Інвентар*: 1, 2. Пара срэбных фібул тыпу A. VI–168 (мал. 4: *1*, *3*) – з «мёртвымі» надстаўнымі спружынкамі па плечуках і каленчатым выгінам трохвугольнай у сячэнні спінкі. Прыёмнік адной з засцежак быў абламаны ў старажытнасці, а новы зачэп сфарміраваны з раскляпанага і загнутага ў кручок канца ножкі (мал. 4: *3*).

3. Падвеска вядзерцападобная (мал. 4: *2*) з нізкім шырокім корпусам, скручаным з тонкай срэбнай бляхі. Часткова дэфармаваная, дужка знішчана карозіяй. Пры расчыстцы ў палявых умовах унутры падвескі назіраліся дробныя рэшткі нейкага прадмета з арганічнага рэчыва.

4–11. Восем буйных бурштынавых падвескак тыпу 471e па класіфікацыі М. Тэмпельман-Маньчыньскай [16] (мал. 4: *4–11*) – васьмёркападобныя, з вылучанымі галоўкамі і фрызамі.

12–15. Чатыры маленькія бурштынавыя падвескі тыпу TM-471d (мал. 4: *12–15*) – васьмёркападобныя, з вылучанай галоўкай.

16. Пацерка тыпу TM-338a (мал. 4: *16*) – пляската-акруглай формы, аснова з чорнага, накладная нітка з жоўтага непразрыстага шкла.

17. Пацерка тыпу TM-40 (мал. 4: *17*) – пляската-акруглай формы, з чорнага непразрыстага шкла.

18. Пацерка тыпу TM-1 (мал. 4: *18*) – акруглай формы, з белага глухога шкла, рассыпалася на дробныя фрагменты падчас расчысткі.

19. Пацерка тыпу TM-148 (мал. 4: *19*) – падцыліндрычнай формы з порыстага непразрыстага шкла аранжавага колеру.

20. Пацерка блізкая да тыпу TM-120 і тыпу 104 па класіфікацыі Е. М. Аляксеевай [1] (мал. 4: *20*) – мае ў папярочным сячэнні форму выцягнутага шасцівугольніка, з глухога белага шкла.

21. Пацерка, групы TM XIV (мал. 4: *21*) – масіўная 14-гранная, выцягнутай формы, з празрыстага бясколернага, зеленаватага шкла. Не мае дакладных адпаведнікаў сярод вылучаных М. Тэмпельман-Маньчыньскай тыпаў. Адна пацерка гэтага тыпу вядома ў пахаванні № 4 могільніка чарняхоўскай культуры Ружычанка, якое належыць да ранняй фазы гэтага помніка. У класіфікацыі А. В. Гапкала яна вылучана ў тып XVII/5 [5, с. 40]. Таксама яна блізкая да пацеркі тыпу 136 у класіфікацыі А. М. Аляксеевай з тэрыторыі Паўночнага Прычарнамор'я, дзе яны датаваны II ст. да н. э. – I ст. н. э. [1, с. 70].

22. Пацерка тыпу TM-126 (мал. 4: *22*) – масіўная 14-гранная з празрыстага блакітнага шкла.

23–25. Тры пацеркі блізкія да тыпу TM-128 (мал. 4: *23*) – сярэдніх памераў, 14-гранная сплошчаная, з празрыстага шкла вінна-фіялетавага колеру. У зломах унутры выразна бачна шкло жаўтаватага колеру. Верагодна, у іх фіялетавае шкло было накладзена на ядро іншага колеру [16, s. 12–13].

26–29. Чатыры пацеркі тыпу TM-57 (мал. 4: *24–27*) – маленькія, біканічнай формы з папярочнай адтулінай, празрыстае шкло сіняга колеру.

30. Пры прасейванні грунту выяўлена маленькая пацерка (?) дыскападобнай формы, магчыма зробленая з акамянеласці (мал. 4: *28*). Верагодна, яна выпадкова патрапіла ў запаўненне пахавальнай ямы з культурнага пласта[1].

Назіранні за характарам размяшчэння выяўленых у пахаванні падвесак і пацерак (мал. 4, *Б*) дазваляюць рэканструяваць каралі наступным чынам. У іх цэнтры знаходзілася срэбная вядзерцападобная падвеска. Аснова ўпрыгажэння была ўтворана чаргаваннем бурштынавых падвесак са шклянымі пацеркамі. Пры гэтым больш масіўныя пацеркі і падвескі размяшчаліся ў франтальнай частцы караляў (мал. 4, *Г*).

*Датаванне*: фаза C2 познарымскага перыяду (каля 260–300 гг. н. э.). Вызначэнне храналагічнай пазіцыі комплексу абапіраецца, перадусім, на датаванні фібул тыпу A. VI–168 у матэрыялах вельбарскай культуры [10, S. 63–64; 11, s. 38–39; 21, s. 25; гл. таксама: 17, s. 468–470]. Датаванне падмацоўваецца храналогіяй выкарыстання позніх тыпаў 8-падобных падвесак з пахавання № 77 [16, s. 84–85].

Як адзначалася вышэй, гэтае пахаванне дазваляе дапоўніць і развіць раней высунутыя тэзісы аб характары сацыяльнай арганізацыі абшчыны, якая выкарыстоўвала могільнік на Белай Гары.

У сваім аналізе аўтар дадзенага артыкула зыходзіць з параўнання параметраў аб'екта і інвентару, які быў выяўлены ў ім.

Калі меркаваць па памерах магільнай ямы, у ёй было змешчана цела дзіцяці. Улічваючы характар размяшчэння інвентару, яно было пакладзена на спіну: фібулы, выяўленыя на аднолькавай глыбіні, верагодна, знаходзіліся на плячах; цэнтральная частка караляў засталася на месцы (у раёне груднай клеткі), але апусціўшыся ніжэй рэшты пацерак на 8–9 см у выніку раскладу рабрын і ключыц. Такім чынам, рост пахаванай асобы не павінен быў перавышаць 0,45–0,50 м. Нягледзячы на прысутнасць срэбных вырабаў, вокіслы ад якіх добра кансервуюць косткі, у яме не выяўлены рэшткі шкілета, перадусім – зубныя каронкі, якія на гэтым помніку часам захоўваюцца нават у пахаваннях, пазбаўленых металічных упрыгажэнняў. Гэта сведчыць аб малых памерах, крохкасці костак і, хутчэй за ўсё, адсутнасці ў дзіцяці зубоў. У цэлым прыведзеныя назіранні ўказваюць на тое, што ў пахаванні было змешчана немаўля, альбо дзіця ва ўзросце да года–палутара. На карысць гэтай высновы сведчыць таксама выключная мініяцюрнасць знойдзеных тут фібул.

Разам з тым пахаванне № 76 суправаджаецца дастаткова багатым для развітога познарымскага

[1] Аналагічныя вырабы з акамянеласцей (?), якія нагадваюць пацеркі каменнага веку, выяўлены ў шэрагу іншых пахаванняў могільніка.

часу інвентаром. У фазе C2 жаночая двухфібульная мадэль строю з кара́лямі з'яўляецца дастаткова пашыранай, але срэбныя падвескі ў ім сустракаюцца выключна рэдка; больш шырока наяўнасць срэбных вырабаў у касцюме прызнаецца для развітога познарымскага перыяду адной з прыкмет высокай сацыяльнай пазіцыі пахаванага (19, s. 210; 18, s. 73–74, 94). Тут варта звярнуць увагу яшчэ на адзін момант: абламаны прыёмнік адной з фібул (мал. 4: *3*). Характар злому (у месцы пераходу ножкі ў ложышча – на адносна трывалым участку прыёмніка, у якім часцей ламаліся падвязкі), указвае на тое, што ўпрыгажэнне павінна было выкарыстоўвацца пры жыцці самога дзіцяці, альбо яго сваякамі параўнальнага ўзросту. Для патрэб пахавальнай цырымоніі засцежка была змацавана «наглуха»: яна была адрамантавана такім чынам, што знешне выглядала па-ранейшаму рэпрэзентатыўна, але ёй ўжо немагчыма было карыстацца (прышпільваць ці адшпіляць).

Планіграфія могільніка Пятровічы сведчыць, што гэты помнік, як і параўнальны па ступені даследаванасці ды аб'ёму атрыманых матэрыялаў вельбарскі могільнік Брэст-Трышын[1], выкарыстоўваўся некалькімі групамі людзей, верагодна сем'ямі. На могільніку Пятровічы занятыя імі ўчасткі былі вызначаны ўжо на раннім этапе існавання могільніка, і, хутчэй за ўсё, абазначаны на паверхні з дапамогай наземных каменных і драўляных канструкцый [3, с. 312–313]. Паміж пахаваннямі гэтых груп назіраюцца пэўныя адрозненні ў выкарыстанні элементаў абраднасці, якія суправаджалі пахаванні розных ўзроставых груп. Пры гэтым на брэст-трышынскім могільніку найбольш багаты і разнастайны інвентар выступае ў пахаваннях дарослых жанчын; пераважна з імі звязаны абрад пахавання ў урнах з чыстым запаўненнем ям – найбольш складаны і варыянтны ў дэталях абраднасці; асноўная ж маса дзіцячых пахаванняў пазбаўлена інвентару. У Пятровічах у пахаваннях з крэмацыямі назіраецца падобная да гэтай карціна: найбольш багаты інвентар утрымліваюць пахаванні дарослых. Аднак у тым, што тычыцца інгумацый, тэндэнцыя прама супрацьлеглая: багаццем інвентару вылучаюцца менавіта пахаванні дзяцей. У шэрагу выпадкаў іх высокі сацыяльны статус падкрэслены прэстыжнымі дэталямі касцюму і элементамі абраднасці: у пахаванні № 1 цела было змешчана ў драўлянай канструкцыі, памеры і глыбіня ям у пахаваннях № 1, 6, 36 істотна большыя, чым у сярэднім па могільніку.

Карэляцыя ўзросту дзіцяці з пахавання № 76 і характарыстык яго касцюма, з'яўляецца чарговым сведчаннем таго, што ў абшчыне, якая выкарыстоўвала могільнік на Белай Гары, дзеці з багатых і ўплывовых сем'яў атрымлівалі высокі сацыяльны статус ужо па адным сваім праве нараджэння – незалежна ад узросту. На падставе матэрыялаў, атрыманых на могільніку за ўвесь перыяд яго даследавання, гэтая асаблівасць сацыяльнай арганізацыі пятровіцкай абшчыны адзначаецца з ранніх этапаў яго функцыянавання і знаходзіць сваё праяўленне не толькі ў рэчавым інвентары, але таксама ў памерах, асаблівасцях упарадкавання магільных ям ды шэрагу іншых элементаў пахавальнай абраднасці.

[1] Да пытання аб планіграфіі брэст-трышынскага могільніка глядзі працу [4, с. 59, 66–69, 70].

**Літаратура**

1. Алексеева, Е. М. Античные бусы Северного Причерноморья / Е. М. Алексеева // Археология СССР. Свод археологических источников / АН СССР, Ин-т археологии. – М., 1978. – Вып. Г1–12. – С. 1–94.

2. Белявец, В. Г. Папярэднія вынікі вывучэння грунтовага могільніка вельбарскай культуры Пятровічы (Белая Гара) / В. Г. Белявец // Гіст.-археалаг. зб. – Мінск, 2006. – № 23. – С. 79–101.

3. Белевец, В. Г. К изучению памятников вельбарской культуры в Беларуси / В. Г. Белевец // Nowe materialy i interpretacje: stan dyskusji na temat kultury wielbarskiej / Muzeum Archeol. w Gdańsku; pod red. M. Fudzińskiego, H. Panera. – Gdańsk, 2007 – S. 293–344.

4. Белевец, В. Могильник Брест-Тришин: 30 лет по окончании раскопок / В. Белевец // Acta Archaeologica Albaruthenica. – Мінск, 2007. – Вып. 1. – С. 49–85.

5. Гопкало, О. В. Бусы и подвески черняховской культуры / О. В. Гопкало. – Киев, 2008 – 252 с.

6. Кухаренко, Ю. В. Могильник Брест-Тришин / Ю. В. Кухаренко; отв. ред. А. К. Амброз; Акад. наук СССР, Ин-т археологии. – М. : Наука, 1980. – 128 с.

7. Almgren, O. Studien über nordeuropäischen Fibelformen der ersten nachchristlichen Jahrhunderte mit Berücksichtigung der provinzialrömischen und südrussischen Formen / O. Almgren // Mannus-Bibliotek. – Leipzig, 1923. – № 32. – S. 1–254.

8. Andrzejowski, J. Wykaz stanowisk z okresu rzymskiego / J. Andrzejowski // Zabytki z okresu wpływów rzymskich, średniowiecza i czasów nowożytnych z Białorusi w zbiorach Państwowego Muzeum Archeologicznego w Warszawie / J. Andrzejowski [et al.] ; pod red. A. Piotrowskiego ; Państwowe Muzeum Archeol. w Warszawie, Ośrodek Ochrony Dziedzictwa Archeol. – Warszawa, 2005. – S. 17–31.

9. Andrzejowski, J. Pod wodzą Felimera, czyli osadnicy wielbarscy na Mazowszu i Podlasiu / J. Andrzejowski // Nowe materiały i interpretacje : stan dyskusji na temat kultury wielbarskiej / Muzeum Archeol. w Gdańsku ; pod red. M. Fudzińskiego, H. Panera. – Gdańsk, 2007. – S. 229–258.

10. Cieslinski, A. Kulturelle Veränderungen und Besidlungsläufe im Gebit der Wielbark-Kultur an Łyna, Pasłęka und Oberer Drwkca / A. Cieslinski – Berliner Beiträge zur vor- und frühgeschichte. Neue Folge. – Berlin, 2010. – Bd. 17. – 321 S.

11. Godłowski, K. Chronologia okresu późnorzymskiego i wczesnego okresu wędrówek ludów w Polsce Północno-

Wschodniej / K. Godłowski // Rocznik Białostocki. – Białystok, 1974. – T. XII. – S. 9–109.

12. Hauptmann, T. Studien zu den Dreisprossenfibeln / T. Hauptmann // 100 Jahre Fiebelformen nach Oskar Almgren : Intern. Arbeitstagung, 25–29 Mai, 1997 : Forschungen zur Archäologie im Land Brandenburg / hrsg. von J. Kunow. – Wünsdorf, 1998. – T. 5. – S. 159–173.

13. Kokowski, A. Grupa masłomęcka: z badań nad przemianami kultury Gotów w młodszym okresie rzymskim / A. Kokowski. – Lublin : Wydaw. UMCS, 1995. – 334 s.

14. Machajewski, H. Die Fibeln der Gruppe V, Serie 8, im östlichen Teil Mitteleuropas / H. Machajewski // 100 Jahre Fibelformen nach Oskar Almgren : Intern. Arbeitstagung, 25–29 Mai, 1997 : Forschungen zur Archäologie im Land Brandenburg / hrsg. von J. Kunow. – Wünsdorf, 1998. – T. 5. – S. 187–196.

15. A. von Müller. Formenkreise der ältesten römischen Kaiserzeit im Raum zwischen Havelsplatte und Ostsee / A. von Müller. – Berlin, 1957. – 65 S.

16. Tempelmann-Mączyńska, M. Die Perlen der römischen Kaiserzeit und der frühen Völkerwanderungszeit im mitteleuropäischen Barbaricum / M. Tempelmann-Mączyńska // Römisch-Germanische Forschungen. – Mainz am Rhein, 1986. – Bd. 43. – 339 s.

17. Szymański, P. Grób z Nowej Boćwinki. Kilka uwag i dygresji na temat niektórych cech późnorzymskich zapinek bałtyjskich / P. Szymański // Seminarium bałtyjskie, T. II. – Bałtowie i ich sąsiedzi. Marian Kaczyński in memoriał. / red. A. Bitner-Wróblewska, G. Iwanicka. – Warszawa, 2009. – S. 463–478.

18. Tempelmann-Mączyńska, M. Das Frauentrachtzubehör des mittel – und osteuropäischen Barbaricums in der römischen Keiserzeit / M. Tempelmann-Mączyńska. – Kraków : Jagiellonen-Universitet, 1989. – 178 s.

19. Tempelmann-Mączyńska, M. Strój kobiecy ludności kultury wielbarskiej i jego powiązania z sąsiednimi obszarami / M. Tempelmann-Mączyńska // Kultura wielbarska w młodszym okresie rzymskim : (materiały z konf.) / pod red. J. Gurby, A. Kokowskiego ; Uniw. M. Curie-Skłodowskiej w Lublinie, Katedra Archeologii. – Lublin, 1989. – T. 2. – S. 205–218.

20. Thomas, S. Studien zu den germanischen Kämmen der römischen Keiserzeit / S. Thomas // Arbeits- und Forschungsberichte zur sächsischen Bodendenkmalpflege. – Bonn, 1960. – № 8. – S. 104–110.

21. Wołągiewicz, R. Ceramika kultury wielbarskiej między Bałtykiem a Morzem Czarnym / R. Wołągiewicz. – Szczecin : Muzeum Narodowe, 1993. – 202 s.

## Резюме

*В. Г. Белевец*

### Исследования на грунтовом могильнике вельбарской культуры Петровичи–Белая Гора в 2011–2012 годах

На примере трех погребений рассмотрены наиболее интересные результаты раскопок последних двух сезонов.

По результатам раскопок 2000–2006 гг. начальный этап функционирования памятника соотносится с «широкой» фазой $B_2/C_1–C_{1a}$ периода римских влияний. Материалы из погребений № 75 и № 77 позволили сузить эту датировку до фазы $B_2/C_1$. Погребение № 77 (кремация молодой женщины) принадлежит к числу стилистически наиболее ранних комплексов, известных в настоящее время в зоне экспансии населения вельбарской культуры на цэцэльской фазе ее развития.

Погребение № 76, принадлежащее ребенку в возрасте, вероятнее всего, одного–полутора лет, выделяется на фоне подобных детских погребений могильника богатством элементов костюма. Миниатюрные фибулы, одна из которых была отремонтирована специально для погребальной церемонии, несомненно, использовали при жизни ребенка: он или его близкие родственники схожего возраста. В предыдущие сезоны на могильнике Петровичи уже была исследована серия погребений детей в возрасте 3,0–6,7 лет, костюм которых выделяется особым богатством. Порой такие погребения также имеют большие размеры погребальных ям и их особое устройство. Погребение № 76 является новым свидетельством того, что в общине, которая использовала могильник на Белой Горе, дети из привилегированных семей занимали высокую социальную позицию по праву рождения. Противоположная ситуация наблюдается на могильнике Брест-Тришин, где погребения детей, как правило, лишены инвентаря.

## Summary

*V. G. Beljavec*

### Investigations on the Piatrovichy–Belaya Hara Flat Cemetery of Wielbark Culture in 2011–2012

The article discusses preliminary results of excavations held on Piatrovichy–Bielaya Hara cemetery during the last two field seasons.

The investigations of 2000–2006 allow dating the beginning of functioning of the cemetery back to the «broad» phase $B_2/C_1–C_{1a}$ of the Roman Age. The materials of graves 75 and 77, explored in 2011, make it possible to define more precisely this dating – to phase $B_2/C_1$. The cremation burial of female adultus from grave 77 belongs to the earliest complexes known in the area of Wielbark Culture population expansion during Cecele phase.

The burial of infant of estimated age to 1,5 years (grave 76) stands out against similar children's burial from the cemetery by richness of dress equipment. Tiny fibulae (one of which was repaired specially for funeral ceremony) was in use during the child's life – by him or his nearest relatives of similar age. The series of children's burials with reach sets of metal, glass and amber ornaments have already been explored at the cemetery during previous seasons. Sometimes such burials are notable for large sizes of pits and their particular construction. The grave 76 is one more evidence of special social status of children from privileged families of community used Piatrovichy cemetery.

*Паступіў 23.05.2013 г.*

*УДК [903.1+903.22](476)«633»+069.5:903(476)*

***А. М. Вашанаў,** Інстытут гісторыі НАН Беларусі, аддзел археалогіі першабытнага грамадства, аспірант, магістр гістарычных навук (г. Мінск, Беларусь)*

# Мезалітычныя касцяныя вастрыі ў зборах Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь

Сёння ў межах Беларусі вядома шэсць пунктаў са знаходкамі касцяных і рагавых прылад мезалітычнага часу. Так, эпохай мезаліту датавана частка рагавых вырабаў, знойдзеных у Смаргонскім кар'еры (мал. 1: *1*) [24, 30–32, 41, s. 232, tabl. CLXVI]. Мезалітычныя касцяныя і рагавыя прылады працы выяўлены ў воз. Вячэра (Азярное 2 Б; мал. 1: *2*) у Любанскім раёне Мінскай вобласці [17, 18]. У Археалагічным музеі Кракава захоўваецца касцяное вастрыё з в. Ліцвінкі Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці (мал. 1: *3*) [34]. Сякеры з рогу высакароднага аленя знойдзены каля в. Гожа (?) Гродзенскага раёна (мал. 1: *4*) і в. Морына Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці (мал. 1: *5*) [31]. Верагодна, да мезалітычнага часу адносіцца і фрагмент рагавой сякеры з дзвюма прасвідраванымі адтулінамі, які знайшлі ў 1920-х гадах на тэрыторыі былога Рагачоўскага павета [23, с. 244–246].

У фондах Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь (Мінск) захоўваюцца тры касцяныя вастрыі. Дадзеныя вырабы вядомы ў археалагічнай літаратуры з канца 1960-х гадоў па працах У. Ф. Ісаенкі, дзе пададзена кароткая інфармацыя аб месцазнаходжаннях вастрый і зроблена прамалёўка знаходак з вёсак Сваяцічы і Гадзілавічы [10, с. 31, 52, рис. 12: 52, 53; 11].

Мэтамі цяперашняй публікацыі з'яўляюцца дакладнае вызначэнне памераў дадзеных артэфактаў, тыпу, а таксама іх культурна-храналагічная ідэнтыфікацыя[1].

**1. Іголкападобнае вастрыё (КП 40428/50) – вёска Залешаны, Клецкі раён, Мінская вобласць** (мал. 1: *6*).

Паводле запісу ў акце прыёму, музей набыў выраб у 1963 г. Абставіны, пры якіх быў знойдзены артэфакт, невядомыя.

Прыладу (мал. 2) зрабілі з расшчапанай трубчастай косткі. Паверхня цёмна-карычневага колеру, гладкая навобмацак, запаліраваная. Тронкавая частка вырабу адсутнічае. Артэфакт акруглы ў папярочным сячэнні. Даўжыня захаванай часткі вастрыя – 17 см, дыяметр папярочнага сячэння – 0,8 см, вага – 14,4 гр.

Падобныя формы вастрый адносяцца да тыпу 1 паводле тыпалогіі Дж. Кларка [33]; тыпу гладкіх з акруглым альбо сплошчаным папярочным сячэннем, паводле Т. Галіньскага [37, s. 43, rys. 17: *1*]; простых іголкападобных вастрый (тып 1), паводле М. Г. Жыліна [4, с. 9; 5, с. 55; 6]; гладкіх вузкіх вастрый з акруглым сячэннем (тып $I1B_2$), паводле І. А. Загорскай [8]; да тыпу 01.02, паводле Л. Верхарта [46, 142–143, fig. 1].

Іголкападобныя вастрыі былі распаўсюджаны на абшарах ад Заходняй Еўропы да Урала ў шырокім храналагічным дыяпазоне – ад фінальнага палеаліту да канца неаліту [2; 5, с. 225; 6; 9; 26; 27; 40, s. 205; 45, p. 201, fig. L]. Такія вастрыі атрымалі самае шырокае распаўсюджанне ў мезаліце Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, дзе яны сустракаюцца сярод матэрыялаў кундскай, бутаўскай, анежскай культур, а таксама культуры Вярэцце [3, с. 239, табл. 32: *2*; 5, с. 268–272; 7; 17, с. 152, мал. 3: *2*; 47].

**2. Гладкае сплошчанае вастрыё з адным пазам (КП 40428/49) – вёска Сваяцічы, Ляхавіцкі раён, Брэсцкая вобласць** (мал. 1: *7*).

Вастрыё знойдзена ў 1960 г. у тарфяніку, на левабярэжжы р. Ведзьма (басейн р. Нёман) [10, с. 31].

Прылада (мал. 3) зроблена з расшчапанай трубчастай косткі. Паверхня вастрыя светла-карычневага колеру. Адна з франтальных паверхняў запаліравана па ўсёй даўжыні, другая – толькі па вастрыі і насадзе. Верагодна, падчас захавання выраб быў пашкоджаны, пра што сведчыць расколіна ў медыяльнай частцы і рэшткі клею, якія засталіся на паверхні ў выніку рэстаўрацыі вастрыя. У верхняй частцы паза захаваліся рэшткі рэчыва чорнага колеру, з дапамогай якога прымацоўваліся крамянёвыя ўкладышы. У якасці вязкага клейкага замацавальніка маглі выкарыстоўваць дзёгаць, хваёвую смалу, альбо сумесь смалы, дзёгцю і іншых дадатковых кампанентаў (напрыклад, пчаліны воск)[2] [4, с. 21; 38; 43].

Агульная даўжыня вастрыя – 19,8 см, максімальная шырыня – 1,0, максімальная таўшчыня – 0,7 см, вага – 11,1 гр. Даўжыня паза – 18,6 см. Шырыня паза вагаецца ад 0,2 см у верхняй і цэнтральнай да 0,3 см у ніжняй частках. Пасярэдзіне глыбіня паза складае 0,2 см, па краях – каля 0,15 см.

Такія вастрыі адносяцца да тыпу $21_1$, у адпаведнасці з класіфікацыяй Дж. Кларка [33]; тыпу 21А паводле С. К. Казлоўскага [39]; тыпу Цінтэн, паводле Т. Галіньскага [37, s. 45, rys. 17: *13*]; вузкіх

[1] Аўтар выказвае шчырую падзяку супрацоўнікам НГМ Рэспублікі Беларусь А. Арабей і В. Каташынскай за дапамогу ў зборы інфармацыі пра згаданыя артэфакты.

[2] Дакладная ідэнтыфікацыя рэчыва магчыма толькі ў выпадку правядзення хімічнага аналізу.




Мал. 1 Месцазнаходжанні касцяных і рагавых вырабаў эпохі мезаліту: *1* – Смаргонскі кар’ер; *2* – Азярное 2Б; *3* – Ліцвінкі; *4* – Гожа; *5* – Морына; *6* – Залешаны; *7* – Сваяцічы; *8* – Гадзілавічы

сплошчаных бястронкавых наканечнікаў з пазам па адным краі (тып 10.2), паводле М. Г. Жыліна [5, с. 72]; прамых доўгіх вастрый з адным пазам (тып I3A), паводле І. А. Загорскай [8]; тыпу 07.05, паводле Л. Верхарта [46, с. 142–143, fig. 1].

Аднапазавыя вастрыі вядомы ў матэрыялах з тэрыторыі Усходняй Прыбалтыкі [7; 29, с. 56, 240, табл. 33: *28*; 42, fig. 4: *1*, *2*; 45, p. 82, fig. XVIII: 6, 11], паўночна-заходняй Расіі [5, 6], Урала і Зауралля [26, 27], паўночна-ўсходняй Польшчы [35, 37, 39, 43, 44, s. 96, 99, tabl. XXXVI: *11*], паўднёвай Беларусі [17, с. 152, мал. 3: *2*], дзе сустракаюцца на помніках кундскай, бутаўскай, камарніцкай культур і культуры Вярэцце.

Паводле меркавання М. Г. Жыліна, дадзеныя вастрыі ўжывалі ў прэбарэальным і барэальным перыядах [5, с. 229; 6]. На думку С. К. Казлоўскага, аднапазавыя вастрыі былі пашыраны ў барэальным і атлантычным перыядах і спарадычна сустракаліся на неалітычных помніках Усходняй Еўропы [39].

**3. Гладкае сплошчанае вастрыё з двума пазамі (КП 12218) – вёска Гадзілавічы, Рагачоўскі раён, Гомельская вобласць** (мал. 1: *8*).

У акце прыёму адзначана, што артэфакт выпадкова знайшлі ў 1964 г. каля в. Гадзілавічы, у торфе, на глыбіні 2–3 м.

Вастрыё (мал. 4) зроблена з расшчапанай трубчастай косткі. Паверхня цёмна-карычневага колеру, гладкая навобмацак, запаліраваная. У лёзавай частцы выраб мае акруглае і злёгку сплошчанае сячэнне, што становіцца амаль круглым бліжэй да насаду, ніжняя частка якога абламаная.

Захаваная даўжыня вырабу – 21,1 см, максімальная шырыня – 1,0, максімальная таўшчыня – 0,8 см, вага – 16,4 гр. Даўжыня пазоў – 11,7 см. Шырыня пазоў вагаецца ад 0,15 да 0,30 см, а іх глыбіня – ад 0,1–0,5 см па краях вырабу і да 0,2 см у цэнтральнай частцы. У адным з пазоў прылады захаваўся замацаваны крамянёвы ўкладыш і рэшткі рэчыва чорнага колеру, пры дапамозе якога ён мацаваўся. Укладыш



Мал. 2. Іголкападобнае вастрыё: *а* – фотаздымак; *б* – прарысоўка. в. Залешаны. Клецкі раён. Мінская вобласць



Мал. 4. Гладкае сплошчанае вастрыё з двума пазамі: *а* – фотаздымак; *б* – прарысоўка. в. Гадзілавічы. Рагачоўскі раён. Гомельская вобласць



Мал. 3. Гладкае сплошчанае вастрыё з адным пазам: *а* – фотаздымак; *б* – прарысоўка. в. Сваяцічы. Ляхавіцкі раён. Брэсцкая вобласць

выкананы з мікрапласцінкі, якую знялі з аднапляцовачнага нуклеуса. На вонкавым краі ўкладыш не мае слядоў другаснай апрацоўкі. У якасці сыравіны выкарыстоўвалі крэмень светла-шэрага колеру, празрысты на прасвет. Даўжыня ўкладыша – 1,5 см; шырыня часткі, якая выступае над пазам, – 0,3; таўшчыня – 0,5 см.

У адпаведнасці з класіфікацыяй Дж. Кларка, адносіцца да тыпу $21_2$ [33, p. 117. fig. 41]; тыпу 21B, паводле С. К. Казлоўскага [39]; тыпу Ментуррен, паводле Т. Галіньскага [37, s. 45, rys. 17: 14]; вузкіх сплошчаных бястронкавых наканечнікаў з пазамі па абодвух краях (тып 10.3), паводле М. Г. Жыліна [5, с. 73; 6]; прамых доўгіх вастрый з двума пазамі (тып I3B), паводле І. А. Загорскай [8]; тыпу 07.02, паводле Л. Верхарта [46, с. 142–143, fig. 1].

Знаходкі двухпазавых вастрый вядомы на тэрыторыі Паўднёвай Даніі і Швецыі [38], Усходняй Прыбалтыкі [3, с. 239, табл. 32: *8*, *15*; 7; 29, с. 56, 240, табл. 33: 35; 39; 42, fig. 4: *3–5*], паўночна-заходняй Расіі [25, с. 22; 5; 6], Урала і Зауралля [26–28], паўночна-ўсходняй Польшчы [37; 43; 44, s. 126, 127, 130, tabl. XLIV: *17*], а таксама паўднёвай Беларусі [17, с. 152, мал. 3: *1*, *4–6*]. На згаданых тэрыторыях двухпазавыя вастрыі ўваходзілі ў склад паляўнічага

ўзбраення маглемозскай, кундскай, бутаўскай культур і культуры Вярэцце.

Двухпазавыя вастрыі атрымалі шырокае распаўсюджванне ў прэбарэальным і барэальным перыядах [5, с. 229; 6]. С. К. Казлоўскі, аднак, дапускае верагоднасць іх існавання і ў атлантычны перыяд [40].

Вынікі параўнаўча-тыпалагічнага аналізу касцяных вастрый са збораў НГМ Рэспублікі Беларусь, паказваюць, што яны аналагічныя і блізкія па тыпу з адпаведнымі мезалітычнымі вастрыямі з суседніх тэрыторый. Пакуль даволі цяжка адказаць на пытанне, са старажытнасцямі якой культуры (альбо культур) неабходна звязваць дадзеныя вырабы на тэрыторыі Беларусі. Гэта задача яшчэ больш ускладняецца па той прычыне, што ўсе тры артэфакты знаходзілі выпадкова, яны пазбаўлены адпаведнага культурна-храналагічнага кантэксту. Колер і ступень захаванасці вырабаў сведчаць аб тым, што артэфакты доўгі час знаходзіліся ў торфе, альбо на нізкім, забалочаным участку поплава. Гэта робіць актуальным абследаванне гэтых месцазнаходжанняў з мэтай пошуку там тарфянікавых паселішчаў мезалітычнага часу.

На тэрыторыі суседніх з Беларуссю рэгіёнаў такія касцяныя вастрыі найбольш часта сустракаюцца сярод матэрыялаў кундскай і бутаўскай культур. На тэрыторыі Беларусі помнікі апошніх выяўлены ў басейнах Заходняй Дзвіны, Нёмана, Дняпра і Сажа [1, 12, 14–16, 19, 41]. Знаходка фрагмента гладкага аднапазавага вастрыя вядома на помніку камарніцкай культуры Дудка 1 з тэрыторыі паўночна-ўсходняй Польшчы [35]. Разам з тым не выключана верагоднасць сувязі гэтых артэфактаў са старажытнасцямі кудлаеўскай і яніславіцкай культур. Менавіта з гэтымі культурамі даследчыкі звязваюць частку касцяных і рагавых вырабаў, у тым ліку і вастрый згаданых тыпаў, якія знаходзілі на дне воз. Вячэра [17; 20, с. 81]. Помнікі гэтых таксанамічных адзінак вядомы ў басейнах Заходняга Буга, Нёмана, Прыпяці, Сажа і Дняпра [13, 14, 16, 41].

**Літаратура**

1. Абухоўскі, В. Засяленне тэрыторыі Беларускага Панямоння ў X–V тыс. да н. э / В. Абухоўскі // Культура Гродзенскага рэгіёна : праблемы развіцця ва ўмовах поліэтнічнага сумежжа : зб. навук. пр. / адк. рэд. А. М. Пяткевіч. – Гродна : ГрДу, 2003, – С. 182–188.

2. Гурина, Н. Н. Оленестровский могильник / Н. Н. Гурина // Материалы и исследования по археологии СССР. – М. ; Л., 1956. – № 47. – 432 с.

3. Гурина, Н. Н. Мезолит Литвы и Белоруссии / Н. Н. Гурина // Археология СССР. Мезолит СССР. – М. : Наука, 1989. – С. 55–60.

4. Жилин, М. Г. Костяное вооружение древнейшего населения Верхнего Поволжья / М. Г. Жилин. – М., 1993. – 54 с.

5. Жилин, М. Г. Костяная индустрия мезолита лесной зоны Восточной Европы / М. Г. Жилин. – М., 2001. – 326 с.

6. Жилин, М. Г. Костяные наконечники стрел в мезолите лесной зоны Восточной Европы / М. Г. Жилин // Предметы вооружения и искусства из кости в древних культурах Северной Евразии (технологический и функциональный аспекты) : Замятнинский сб. – СПб. : Наука, 2011. – Вып. 2. – С. 113–152.

7. Загорска, И. Мезолит Латвии / И. Загорска, Ф. Загорскис // Краткие сообщения Института археологии. Памятники эпохи мезолита. – 1977. – Вып. 149. – С. 69–75.

8. Загорская, И. А. Костяные и роговые острия и гарпуны каменного века из Восточной Прибалтики / И. А. Загорская // Орудия каменного века. – Киев : Навук. думка, 1978. – С. 122–134.

9. Загорская, И. А. Костяные и роговые орудия охоты и рыболовства каменного века на территории Латвии : автореф. дис. … канд. ист. наук: 07.00.06 / Ин-т истории АН Лит ССР. – Вильнюс, 1983. – 24 с.

10. Исаенко, В. Ф. Археологическая карта Белоруссии. Памятники каменного века / В. Ф. Исаенко. – Минск : Полымя, 1968. – 128 с.

11. Исаенко, В. Ф. Мезолит / В. Ф. Исаенко // Очерки по археологии Белоруссии. – Минск : Наука и техника, 1970. – Ч. I. – С. 49–66.

12. Колосов, А. В. Памятники бутовской культуры на территории Белорусского Посожья // Романовские чтения-3 : сб. тр. Междунар. науч. конф., Могилев, 23–24 нояб. 2006 г. / под ред. И. А. Марзалюка. – Могилев : МГУ им. А. А. Кулешова, 2007. – С. 154–156.

13. Колосов, А. В. Древности кудлаевской мезолитической культуры Верхнего Поднепровья / А. В. Колосов // Романовские чтения-4 : сб. тр. Междунар. науч. конф., Могилев, 22–23 нояб. 2007 г. / под ред. Я. Г. Риера. – Могилев : МГУ им. А. А. Кулешова, 2008. – С. 96–98.

14. Колосов, А. В. Финальный палеолит и мезолит Белорусского Посожья / А. В. Колосов // Русский сборник : труды кафедры Отечественной истории древности и средневековья Брянского гос. ун-та им. И. Г. Петровского. – Брянск, 2008. – Вып. 4. – С. 23–31.

15. Колосов, А. В. Мезолитическая стоянка Дедня / А. В. Колосов // Acta Archeologia Albaruthenica. – Минск, 2008. – Vol. III. – С. 42–66.

16. Колосов, А. В. Финальный палеолит и мезолит Посожья / А. В. Колосов // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. – Мінск, 2010, – Вып. 18. – С. 77–89.

17. Крывальцэвіч, М. М. Касцяныя і рагавыя вырабы каменнага веку з возера Вячэра / М. М. Крывальцэвіч // З глыбі вякоў. Наш край. – Мінск, 1996. – Вып. 1. – С. 147–168.

18. Крывальцэвіч, М. М. Гравіраваныя выявы і арнаментальнае аздабленне на касцяных вырабах з возера Вячэра / М. М. Крывальцэвіч // Na pograniczu światów. Studia z pradziejów międzymorza bałtycko-pontyjskiego ofiarowane Profesorowi Aleksandrowi Kośko w 60. Rocznicę urodzin. – Poznań : Wydawnictwo Poznańskie, 2008. – С. 265–276.

19. Ксензов, В. П. Мезолит Северной и Центральной Беларуси / В. П. Ксензов // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. – Мінск, 2006. – Вып. 13. – 170 с.

20. Кудрашоў, В. Я. Кудлаеўская культура / В. Я. Кудрашоў // Археалогія Беларусі : у 4 т. / рэдкал. М. В. Біч (старш.) [і інш.]. – Мінск : Беларус. навука, 1997–2001. – Т. 1 : Каменны і бронзавы вякі / Э. М. Зайкоўскі [і інш.]. – 1997. – С. 67–76.

21. Лозе, И. А. Некоторые мезолитические находки на территории Латвии / И. А. Лозе // Материалы и исследования по археологии СССР. У истоков древних культур мезолита. – М. : Наука, 1966. – № 126. – С. 108–113.

22. Лозовский, В. М. Костяное охотничье вооружение первобытного населения Волго-Окского междуречья / В. М. Лозовский // Российская археология. – 1993. – № 2. – С. 5–15.

23. Ляўданскі, А. Розныя знаходкі / А. Ляўданскі // Працы секцыі археалогіі. – Менск, 1932. – Т. 3. – С. 244–246.

24. Обуховский, В. Поздний мезолит бассейна верхней Вилии / В. Обуховский // Acta Archaeologica Albaruthenica. – Мінск, 2010. – Vol. VI. – С. 9–21.

25. Ошибкина, С. В. Мезолит Восточного Прионежья. Культура Веретья / С. В. Ошибкина. – М. : Гриф и К, 2006. – 322 с.

26. Савченко, С. Н. Костяные наконечники стрел с пазами в Среднем Зауралье / С. Н. Савченко // Российская археология. – М., 2011. – № 1. – С. 27–37.

27. Савченко, С. Н. Костяные наконечники стрел в мезолите Урала / С. Н. Савченко // Предметы вооружения и искусства из кости в древних культурах Северной Евразии (технологический и функциональный аспекты) : Замятнинский сб. – СПб. : Наука, 2011. – Вып. 2. – С. 153–181.

28. Сериков, Ю. Б. Микропластинчатый комплекс святилища на Камне Дыроватом / Ю. Б. Сериков // Российская археология. – М., 2008. – № 3. – С. 5–15.

29. Тимофеев, В. И. Мезолит Калининградской области / В. И. Тимофеев // Археология СССР. Мезолит СССР. – М. : Наука, 1989. – С. 56, 240.

30. Чарняўскі, М. М. Рагавыя прылады працы са Смаргонскага месцазнаходжання / М. М. Чарняўскі, П. Ф. Каліноўскі // Беларускія старажытнасці. – Мінск, 1972. – С. 26–32.

31. Чарняўскі, М. М. Рагавыя сякеры Панямоння / М. М. Чарняўскі // Археалагічны зб. – Мінск, 2006. – Вып. 1. – С. 5–10.

32. Чернявский, М. М. Древнейшие роговые орудия из-под Сморгони / М. М. Чернявский // Lietuvos archeologija. – 1992. – Т. 9. – С. 116–120.

33. Clark, J. D. The Mesolithic Settlement of Northern Europe / J. D. Clark. – Cambrige, 1936. – 284 p.

34. Chochowska, E. Nieznane łopatkowate ostrze kościane z Litwinek na Polesiu / E. Chochowska // Materiały archeologiczne. – 2010. – T. XXXVIII. – S. 35–45.

35. Fedorczuk, J. Mesolithic finds at Dudka 1, Great Masufian Lakeland and their chronological taxonomic relations / J. Fedorczuk // Przegląd Archeologiczny. – 1995. – Vol. 43. – P. 47–60.

36. Galiński, T. Mezolit Pomorza / T. Galiński. – Szczecin : Muzeum Narodowe w Szczecinie, 1992. – 356 s.

37. Galiński, T. Społeczeństwa mezolityczne. Osadnictwo, gospodarka, kultura ludów łowieckich w VIII–IV tys. p. n. e. na terenie Europy / T. Galiński. – Szczecin : Muzeum Narodowe w Szczecinie, 2002. – 406 s.

38. Kośko, A. Z badań nad wytwarzaniem i użytkowaniem dziegciu w neolice / A. Kośko, J. Langer // Kwartalnik Historii Kultury Materialnej. – 1986. – № 4. – S. 587–600.

39. Kozłowski, S. K. Z problematyki polskiego mezolitu (cz. 10). Kościane harpuny i ostrza mezolityczne / S. K. Kozłowski // Światowit. – 1969. – T. XXX. – S. 135–152.

40. Kozłowski, J. K. Epoka kamienia na ziemiach polski / J. K. Kozłowski, S. K. Kozłowski. – Warszawa : Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1977. – 388 s.

41. Obuchowski, W. Materiały paleolityczne i mezolityczne z zachodniej Białorusi / W. Obuchowski. – Warszawa : Uniwersytet Warszawski, 2009. – 296 s.

42. Ostrauskas, T. Lietuvos mezolito gyvenviečių periodizacija : Daktaro disertacijos santrauka. Humanitariniai mokslai, istorija (05 H) / T. Ostrauskas ; Lietuvos istorijos institutas. – Vilnius, 1998. – 40 p.

43. Sulgostowska, Z. 1993. Kościane ostrze mezolityczne z wkładkami krzemiennymi z Tłokowa, woj. olsztyńskie – aspekt technologiczny / Z. Sulgostowska, M. J. Hoffmann // Archeologia Polski. – 1993. – T. 38, z. 1. – S. 75–88.

44. Szymczak, K. Epoka kamienia Polski północnowschodniej na tle Środkowoeuropejskim / K. Szymczak. – Warszawa : Wydawnictwa Fundacji «Historia pro futuro», 1995. – 191 s.

45. Vankina, L. The collection of stone age bone and antler artefacts from lake Lubana. Catalogue / L. Vankina. – Riga : N. I. S. M., 1999. – 290 p.

46. Verhart, L. B. M. Stone Age Bone and Antler Points as Indicators for «Social Territories» in the European Mesolithic / L. B. M. Verhart // Contributions to the Mesolithic in Europe / eds. P. M. Vermeersch, Ph. Van Peer. – Leuven, 1990. – P. 139–151.

47. Zagorska, I. Das Frühmesolithikum in Lettland / I. Zagorska // Veröffentlichungen des Museums für Ur- und Frühgeschichte Potsdam. – 1981. – Band 14/15. Mesolithikum in Europa. 2. Internationales Symposium, Potsdam, 3. bis 8. April 1978, Bericht. – P. 73–81.

**Резюме**

*А. М. Вашанов*

**Мезолитические костяные острия в собраниях Национального исторического музея Республики Беларусь**

Представлены находки трех костяных острий эпохи мезолита из фондов Национального исторического музея Республики Беларусь (г. Минск): игловидное острие из окрестностей д. Залешаны Клецкого района, гладкое плоское острие с одним пазом из д. Сваятичи Ляховичского района и гладкое плоское острие с двумя пазами из д. Гадзилови-

чи Рогачевского района. На территории Беларуси подобные артефакты могут быть связаны с древностями кундской, бутовской, каморницкой культур. Не исключена возможность их связи с кудлаевской и янисавицкой культурами.

**Summary**

*A. M. Vashanau*

**Mesolithic bone point in the collection of the National Museum of History of the Republic of Belarus**

The article discusses three bone tip of the Mesolithic period. They are stored in the collections of the National Museum of History of the Republic of Belarus (Minsk). Needle-shaped bone arrow-head from the vicinity of the Zaljezhany village Kljeck district, slotted point with one slot from the Svajatichy village Ljakhavichy distric, slotted point with two slots from the Gadzilavichy village Rogachov district. In Belarus these artifacts can be connected with the antiquities Kunda, Butovo, Komornica, Kudlaevka and Janislawice Cultures.

*Паступіў 16.08.2013 г.*

УДК 903.4(476.2)

***В. С. Вяргей,*** *кандыдат гістарычных навук (г. Мінск, Беларусь);*
***А. Ф. Касюк,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, аддзел археалогіі сярэдніх вякоў і Новага часу, малодшы навуковы супрацоўнік (г. Мінск, Беларусь)*

# Даследаванні паселішчаў каля вёскі Снядзін Петрыкаўскага раёна ў 2012 годзе

Палявая праца летам 2012 г. праводзілася ў сувязі з распрацоўкай праблемы засялення Прыпяцкага Палесся ў жалезным веку і раннім сярэдневякоўі, а таксама ў адпаведнасці з інавацыйным праектам па даследаванні археалагічных помнікаў на тэрыторыі Нацыянальнага парка «Прыпяцкі». Археалагічныя даследаванні здзяйсняліся на падставе Дазволу № 2425 і былі сканцэнтраваныя на раскопках паселішча Снядзін-3 і правядзенні магнітаразведкі на паселішчы Снядзін-2.

Археалагічны комплекс каля в. Снядзін Петрыкаўскага раёна адкрыты В. С. Вяргей у 1992–1993 гг. Ён складаецца з чатырох паселішчаў і грунтовага могільніка (мал. 1). Размешчаны на правым беразе р. Прыпяць на краі надабалоннай тэрасы на вышыні 2,5–3,5 м над узроўнем вады. З захаду і паўночнага захаду яго тэрыторыя абмежавана старычнымі азёрамі Барацкое і Уходнае (Входнэе). Паселішчы Снядзін-1 і Снядзін-3 размешчаны на выцягнутай з захаду на ўсход пясчанай градзе даўжынёй да 1 км. На самай высокай кропцы грады паміж паселішчамі 1 і 3 размешчаны грунтовы могільнік. Паселішча Снядзін-2 займае паўночнае становішча адносна паселішчаў 1, 3 і аддзелена ад іх забалочанай нізінай. Паселішча Снядзін-5, размешчанае паміж паселішчамі Снядзін-2 і -3, выявіў у 2010 г. В. Г. Белявец. У мінулыя гады раскопкі праводзілі на паселішчах 1, 2, 3 і могільніку [1–4].

Паселішча Снядзін-3 займае заходні ўчастак доўгай пясчанай грады і абмежавана з заходняга боку старычным возерам Барацкое (мал. 1). Знаходкі на паверхні прадстаўлены абломкамі ляпнога посуду, кавалкамі балотнай руды і жужалю і сустракаюцца на плошчы прыкладна 250 × 250 м. У 1997 г. тут былі закладзены два разведачныя шурфы, таўшчыня культурнага пласта ў якіх дасягала 0,6–0,8 м. У 2005–2006 і 2011–2012 гг. на тэрыторыі гэтага паселішча былі праведзены стацыянарныя раскопкі. Паверхня яго задзірванелая, даволі роўная, з невялікім паніжэннем на захад, у бок возера, і на поўнач, у бок нізіны, за якой размешчана паселішча Снядзін-2. Раскоп 4 памерам 14 × 4 м закладзены ўстык да паўночных сценак раскопу 3 (2011 г.). Доўгімі сценкамі раскоп арыентаваны па лініі усход–захад, ён разбіты на квадраты плошчай 2 × 2 м. Нумарацыя квадратаў лічбавая, ад 71 да 84, і працягвае нумарацыю раскопаў 1–3. Нумарацыя аб’ектаў раскопу 4 таксама працягвае нумарацыю аб’ектаў папярэдніх раскопаў.

Дзённая паверхня практычна роўная, перапады не перавышаюць 20 см, а перапад вышыні на ўзроўні мацерыка вагаецца ў межах каля 10 см. Верхнюю частку культурнага слоя складае ворыўны пласт шэра-карычневага супеску, таўшчыня якога дасягае 0,25–0,28 м. Ніжэй гэтага пласта залягае пласт чорна-карычневай зямлі, які прасочаны на ўсёй плошчы раскопу. Яго таўшчыня не аднолькавая ў розных месцах і вагаецца ад 0,45 да 0,15 м. Ніжэй яго назіраўся пласт жоўта-шэрага, месцамі з карычневым адценнем супеску. На профілі ўсходняй сценкі раскопу 4 паміж пластамі чорна-карычневага і шэра-жоўтага супеску прасочаны прапластак шэра-карычневага колеру. Мацярык складаўся з жаўтаватага пяску з рэдкімі артзандамі і залягаў на глыбіні 0,60–0,65 м. У культурным пласце раскопу і мацерыку выяўлены шэсць гаспадарчых ям, глінабітная пляцоўка, паўднёвыя часткі двух жытлаў. Ямы ў плане блізкія да круга альбо авала, іх сценкі звужаліся да нізу, дно мелі лінзападобнае. Яны дасягалі ў дыяметры 0,55–0,95 м і глыбіні 0,24–0,43 м. У іх запаўненні знойдзены фрагменты ляпной керамікі, косткі рыб, свойскіх і дзікіх жывёл і птушак, металургічныя шлакі.

У кв. 74 і 81 на глыбіні 0,35 м выяўлена пляцоўка абпаленай гліны памерам 1,10 × 1,15 м і таўшчынёй 10–12 см (мал. 2, *а*). Яе маглі выкарыстоўваць як летнюю кухню альбо ў нейкіх вытворчых мэтах.

*Жытло 2.* У кв. 79 і 80 выяўлены рэшткі пабудовы, якая найбольш верагодна з’яўлялася жытлом. Даследавана яго паўднёвая частка, а паўночная частка, дзе звычайна змяшчалася ацяплялальнае збудаванне, выходзіла за межы раскопу (мал. 2, *а*). Запаўненне жытла больш цёмнай плямай нерэгулярных абрысаў пачало выяўляцца ў культурным пласце на глыбіні 0,35–0,40 м. Больш упэўнена контуры жытла прасочаны на глыбіні 0,6 м. Яно арыентавана з усходу на захад, выяўленая частка мае памеры 3,5 × 1,5 м. Яго катлаван падпрамавугольнай у плане формы паглыблены ў мацярык на 15–12 см, а ў заходняй частцы часткова перакрыты ямай 74, якая мае даўжыню да 2,6 м. Запаўненне жытла мае чорна-карычневы колер. Дно катлавана пясчанае, няроўнае, амаль у яго цэнтры прасочана неглыбокая, падпрамавугольнай у плане формы ямка, памерам 0,6 × 0,6 м і глыбінёй каля 0,1 м, перакрытая зверху пластом перапаленай гліны, які дасягаў таўшчыні 0,10–0,12 м. Глыбіня жытла ад дзённай паверхні складала 0,80–0,85 м. У яго запаўненні

выяўлена 140 фрагментаў ляпнога гладкасценнага посуду, 1 раннеганчарнага, 1 глянцаванага, 45 кавалкаў жужалю, 34 косткі жывёл, 8 пячын, 1 крамянёвы выраб, 1 каваны жалезны цвік (мал. 3).

*Жытло 3* выяўлена ў кв. 83 і 84, даследавана часткова, выходзіць за паўночную і заходнюю сценкі раскопу 4 (мал. 2, *а*). Больш цёмнае запаўненне пачало прасочвацца з глыбіні 0,35–0,40 м ад дзённай паверхні. Дастаткова выразна яго абрысы прасочаны на глыбіні 0,55–0,60 м. Арыентавана сценамі па лініі ўсход–захад, падпрамавугольны ў плане катлаван пабудовы апушчаны ў мацярык на 0,2–0,3 м. Падлога пясчаная, няроўная, мае ўхіл у заходнім накірунку. Запоўнена чорна-карычневым супескам з лінзамі чорнай зямлі, насычанай вуголлем і попелам. Гэты пласт у заходняй частцы месцамі падсцелены шэра-жоўтым супескам. У цэнтральнай частцы жытла, у яго падлозе, назіраецца авальных абрысаў ямка глыбінёй каля 0,15 м і памерамі 0,4 × 0,5 м, перакрытая ў верхняй частцы пластом перапаленай гліны. Запоўнена ямка шэра-карычневым супескам. У жытле 3 знойдзены 112 фрагментаў ляпной гладкасценнай керамікі (мал. 4: *1–8*), 1 глянцаванай, 2 з падштрыхоўкай, 30 кавалкаў жужалю, 107 костак жывёл, 12 абломкаў пячыны, 2 фрагменты раннеганчарнага посуду, абломак ляза жалезнай сякеры (мал. 5: *10*). Неабходна адзначыць, што пераважная большасць фрагментаў ляпнога посуду, якія былі выяўлены ў жытлах 2 і 3, належаць да керамічнага комплекса пражскай раннеславянскай культуры. У нязначнай колькасці знойдзены абломкі посуду перыяду рымскіх уплываў, а ў верхняй частцы над катлаванам сустракаецца кераміка Лука-Райкавецкай культуры (мал. 4: *9–14*).

У культурным пласце і аб'ектах раскопу знойдзена 67 фрагментаў ганчарнай керамікі, 12 абломкаў посуду эпох неаліту і бронзы, 1610 грубаляпнога гладкасценнага, 8 глянцаванага, 9 з падштрыхоўкай, 165 костак жывёл, 863 кавалкі жужалю, 12 крамянёвых артэфактаў, 55 кавалкаў пячыны альбо абмазкі.




**Умоўныя адзнакі:**

- палявая дарога
- забалочаная тэраса
- кустоўе
- поплаў
- лугавая расліннасць
- ліставыя дрэвы

Мал. 1. Сітуацыйны план размяшчэння археалагічных помнікаў каля в. Снядзін. 2012 г.

***Снядзін-3, 2012, раскоп 4***




***Снядзін-2, 2012, шурф 3***




***Снядзін-2, 2012, шурф 4***




**Умоўныя адзнакі:**

- дзённая паверхня
- ворыўны пласт
- цёмна-карычневы супесак (Шурф-4)
- чорна-карычневы супесак (Шурф-3)
- шэра-жоўты супесак (Шурф-4)
- шэры супесак з артштэйнамі (Шурф-3)
- буры супесак (Шурф-4)
- перапаленая гліна
- попел, вуголле
- жоўты пясок
- балотная руда (Шурф-3)
- камень
- яма
- металургічны шлак
- мацярык

Мал. 2. План мацерыка раскопу 4 на паселішчы Снядзін-3 (*а*); план і профіль паўночнай сценкі шурфа 3 на паселішчы Снядзін-2 (*б*); план і профіль паўночнай сценкі шурфа 4 на паселішчы Снядзін-2 (*в*). 2012 г.



Мал. 3. Ляпны посуд (*1–3, 5–14*) і жалезны цвік (*4*) (фрагменты). Запаўненне жытла 2. Пласты 3, 4. Паселішча Снядзін-3. 2012 г.

Ганчарная кераміка пераважае ў ворным пласце, у другім механічным пласце (глыбіня 0,2–0,4 м) яе значна менш, а ніжэй яна практычна адсутнічае. Апрацоўку і замалёўку артэфактаў, якія адносяцца да эпох неаліту і бронзы, выканаў старэйшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі М. М. Крывальцэвіч, за што мы выказваем яму шчырую падзяку. Ён адзначыў наяўнасць у калекцыі фрагментаў посуду ўсходнепалескага варыянта днепра-данецкай неалітычнай культуры. У ганчарнай масе назіраюцца дамешкі шамоту, арганікі і жарствы. Прымянялі такія спосабы арнаментацыі, як грабенчатыя адбіткі, ямкі, насечкі, наколы. Іншая група керамікі адносіцца да позняга неаліту – пачатковага бронзавага веку, менавіта, да культуры шнуравой керамікі палескага тыпу. Паверхню посуду аздаблялі адбіткамі лінейнага штампа, шнуравым арнаментам. Таўшчыня сценак – у межах 0,5–1,0 см, найчасцей – 0,5–0,7 см, у якасці адтлушчальных дамешак у ганчарнай масе выкарыстаны шамот і дробная жарства. Прымянялі прыціранне знешняй і ўнутранай паверхняў альбо іх загладжванне. Адметнай марфалагічнай прыкметай шнуравой керамікі з'яўляецца каўнерыкавае патаўшчэнне на шыйцы. Крамянёвыя артэфакты прадстаўлены адшчэпамі, адшчэпамі з участкамі рэтушы, скрабком, абламаным вырабам з участкамі зробленай строма рэтушы, краявым сколам.

На падставе марфалагічных прыкмет сярод раннеганчарнага посуду вылучаюцца фрагменты гаршкоў, характэрных для X–XII стст. Найбольшая колькасць абломкаў посуду, выяўленых у раскопе, належыць да грубаляпных гладкасценных гаршкоў. Па марфалагічных і тэхналагічных прыкметах і нешматлікіх арнаментаваных экзэмплярах, у масіве названай керамікі можна вылучыць посуд класічнай зарубінецкай культуры палескага варыянта, постзарубінецкага гарызонту з традыцыямі лясной зоны, раннеславянскіх пражскай і Лука-Райкавецкай культур. У культурным пласце абломкі



Мал. 4. Ляпная кераміка: *1–8* – жытло 2, пласт 3; *9–14* – Лука-Райкавецкая культура, раскоп 4; *15, 16* –пасудзіны (фрагменты), яма № 73. Паселішча Снядзін-3. 2012 г.

зарубінецкай керамікі прадстаўлены ў нязначнай колькасці.

Да постзарубінецкай культурна-храналагічнай групы належаць фрагменты сасудаў з паверхняй, упрыгожанай расчэсам трэскай і лёгкай падштрыхоўкай. Да перыяду рымскіх уплываў належаць таксама фрагменты гаршкоў розных памераў (дыяметр венца 12–22 см) з адхіленай вонкі рознай даўжыні шыйкай, упрыгожаныя па знешнім краі венца касымі наколамі, насечкамі, ямкамі (мал. 3: *6*), а таксама таўстасценны посуд без арнаментацыі. Паверхня іх бугрыстая альбо добра загладжаная, у складзе керамічнай масы ў якасці адтлушчальных дамешак выкарыстаны жарства і шамот альбо толькі жарства. Пераважае карычневы колер розных адценняў, часам даволі светлы – жаўтаваты. Таўшчыня сценак вагаецца ў межах 0,7–1,5 см. Частка сасудаў мае глянцаваную паверхню чорнага, шэрага, альбо карычневага колеру.

Кераміка, характэрная для раннеславянскай пражскай культуры, прадстаўлена ў асноўным абломкамі гаршкоў. Па характары апрацоўкі паверхні пражскі комплекс распадаецца на дзве групы: з бугрыстымі і шурпатымі сценкамі. Шурпатую паверхню атрымоўвалі ў выніку дабаўлення ў керамічную масу значнай дамешкі дробнай жарствы. Гэтая дамешка дамінавала ў пражскім посудзе. Асаблівасцю снядзінскай калекцыі пражскай керамікі, выяўленай у ранейшых раскопах і ў 2012 г., з’яўляецца прысутнасць у керамічнай масе шэрагу фрагментаў не

толькі жарствы, але і шамоту. Падобная з'ява не прасочвалася ў кераміцы на іншых помніках пражскай культуры Палесся. Колер сценак разнастайны, часта плямісты, пераважае розных адценняў карычневая афарбоўка – ад светлых да цёмных тонаў. Частка сасудаў мае карычнявата-чырвоны (цаглясты) або жаўтаваты колер.

Пражскі тып у раскопе прадстаўлены пераважна слабапрафіляванымі гаршкамі з прамымі альбо крыху адагнутымі вонкі шыйкамі і найбольшым пашырэннем у верхняй палове іх вышыні. Дыяметры венцаў вагаюцца ў межах 12–24 см, таўшчыня сценак дасягае 0,5–0,9 см. Абрэз венца гарызантальны, плазаваты, бывае закруглены альбо скошаны вонкі. Сустракаюцца сасуды з падрэзанай унутры ў верхняй частцы шыйкай, альбо знешнім выступам пад венцам. Адзін фрагмент пражскага гаршка цаглянага колеру ўпрыгожаны па плечуках прачэрчаным арнаментам у выглядзе касога крыжа, які ў асобных месцах зліваецца ў краты. Упершыню падобным чынам арнаментаваная кераміка была выяўлена ў мінулым годзе ў раскопе 3. У культурным пласце і верхняй частцы запаўнення пабудоў выяўлены фрагменты сасудаў Лука-Райкавецкай культуры, упрыгожаныя па венцах пальцавымі ўціскannямі, насечкамі і ўразной хваляй па тулаве (мал. 4: *12, 13*).

Акрамя глінянага посуду ў раскопе і яго аб'ектах знойдзены асобныя рэчы з гліны, каменя і металаў. Выяўлены тры цэлыя і тры фрагментаваныя гліняныя праселкі. Яны маюць акруглабокую, біканічную і жорнападобную формы (мал. 5: *12–14, 16–18*). Іх дыяметр – 3,0–3,2 см, вышыня – 1,7, дыяметр адтуліны – 0,7–0,8 см. Каля пабудовы 3 знойдзены вялікі кавалак пячыны цаглянага колеру. Франтальны бок гэтай пячыны ўпрыгожаны кропкавымі наколамі, пад якімі змешчана дуга, утвораная дзвюма прачэрчанымі лініямі з насечкамі ўнутры (мал. 5: *19*).

У пабудове 3 знойдзены тачыльны камень (мал. 5: *11*) – плазаваты выраб даўжынёй 9,0 см і шырынёй 3,8 см. У раскопе 4 выяўлены цэлы і фрагментаваны жалезныя нажы (мал. 5: *1, 2*). Агульная даўжыня цэлага экзэмпляра – 14,1 см, даўжыня ляза – 10,0, шырыня ляза – 1,8 см. У абодвух нажоў лязо ад тронак аддзелена ўступамі. У жытле 3 знойдзены фрагмент ляза жалезнай сякеры (мал. 5: *10*),




Мал. 5. Вырабы з жалеза (*1–10*), каменя (*11*), гліны (*12–14, 16–19*), шкла (*15*). Паселішча Снядзін-3. 2012 г.

а ў жытле 2 – будаўнічы цвік (мал. 3: *4*) і побач з ім цвік ад падковы (мал. 5: *7*). У культурным пласце выяўлены яшчэ адзін цвік (мал. 5: *4*), жалезныя стрыжні (мал. 5: *3, 5*) і іншыя нявызначаныя абломкі жалезных вырабаў (мал. 5: *8, 9*). На краі ямы 73 ляжаў масіўны рыбалоўны кручок, на ім захаваліся бародка і пятля для лескі даўжынёй 7 см, шырынёй цэўя 4,5 см (мал. 5: *6*). У яме 71 знойдзены фрагмент сіняй з глухога шкла пацеркі, аздобленай белым вочкам (мал. 5: *15*).

***Магнітаразведка на паселішчах Снядзін-2, -3.*** У кастрычніку 2012 г. па ініцыятыве навуковых супрацоўнікаў Гёцінгенскага універсітэта (Германія) Енса Шнеевайса, Людмілы Шумілоўскіх і прадстаўніцы Берлінскага ўніверсітэта Ганны Бартроу, з дапамогай прывезенага імі абсталявання была праведзена магнітаразведка на паселішчах Снядзін-2, -3 і на грунтовым могільніку Снядзін-4. Для правядзення вымярэнняў, тэрыторыі археалагічных помнікаў разбівалі на квадраты памерам 40 × 40 м. Лініі квадратаў былі арыентаваны па баках свету. Праверка атрыманых вынікаў здзейснена шляхам закладкі двух кантрольных шурфоў на паселішчы Снядзін-2 на месцах зафіксаваных аб'ектаў.

*Шурф 3* памерам 2 × 2 м закладзены на паўночным участку паселішча Снядзін-2 на беразе возера Уходнае (мал. 1). Паверхня помніка задзірванелая, крыху няроўная, на даследаваным участку мае перапады да 0,1 м. Культурны пласт у шурфе дасягаў таўшчыні да 0,67 м. Верхнюю яго частку складаў ворыўны пласт шэра-карычневага супеску магутнасцю да 0,30–0,35 м. Ніжэй залягаў пласт чорна-карычневага супеску таўшчынёй 0,28–0,34 м. Ва ўсходняй частцы шурфа перад мацерыком прасочваўся пласт шэрага супеску, насычаны артштэйнамі. Таўшчыня гэтага пласта месцамі дасягала 6–8 см. Мацярык складаўся з жаўтаватага пяску з артзандамі (мал. 2, *б*). Каля паўночнай сценкі шурфа выяўлены развал печы-каменкі, якая была складзена з камянёў дыяметрам ад 7 да 20 см і кавалкаў шлаку. У якасці бакавых сценак выкарыстаны вялікія плазаватыя кавалкі руды, пастаўленыя вертыкальна. Чарэнь печы ўяўляў з сябе перапалены пясок, насычаны вуголлем і попелам. У развале печы знойдзены фрагменты ляпнога посуду пражскай культуры, ніжнюю частку гаршка ўдалося рэканструяваць (мал. 6: *25*). Каля ўсходняй сценкі шурфа выяўлена заходняя частка авальнай у плане ямы памерам 0,97 × 0,30 м. Яна запоўнена шэрым супескам з артштэйнамі, знаходак няма. Усяго ў шурфе 3 знойдзена 160 фрагментаў ляпнога гладкасценнага посуду, 1 глянцаванага, 5 эпохі позняга неаліту; 7 крамянёвых артэфактаў; 14 кавалкаў жужалю; 53 косткі жывёл; 7 кальцыніраваных костак; глінянае біканічнае праселка, упрыгожанае прачэрчаным геаметрычным арнаментам (мал. 6: *3*); лязо жалезнага нажа, даўжыня якога складае каля 10 см, а шырыня 1,3 см (мал. 6: *4*). Сярод крамянёвых вырабаў прысутнічаюць: асіметрычны трохвугольны наканечнік стралы з двухбаковай апрацоўкай (мал. 6: *1*); трапецыя, рэтушаваная па бакавым краі; адшчэп; пласціна, апрацаваная стромай рэтушшу па бакавых краях і на дыстальнай частцы (мал. 6: *2*); пласціністы рабрысты адшчэп з участкамі рэтушы па краях, нанесенай з брушка і спінкі; абломак крэменю са скарынкай белага колеру. Ляпная гладкасценная кераміка дробнафрагментаваная, у якасці адтлушчальных дамешак у асноўным выкарыстоўвалі жарству, часам слюдзяністую. У масіве керамікі вылучаюцца абломкі посуду перыяду правінцыйна-рымскіх уплываў (мал. 6: *6*), у тым ліку і місак (мал. 6: *16–18*), пражскай раннесярэднявечнай культуры (мал. 6: *11, 20, 24, 25*).

*Шурф 4* закладзены на краі ўсходняй часткі паселішча Снядзін-2. Яго памеры 2 × 2 м (мал. 2, *в*). Дзённая паверхня задзірванелая, яе перапады ў межах шурфа дасягаюць 0,1 м. Верхняя частка культурнага пласта таўшчынёй 0,22–0,30 м уяўляла з сябе ворыва з шэра-карычневага супеску, ніжэй залягаў пласт цёмна-карычневага супеску магутнасцю 0,10–0,16 м, які быў падсцелены слоем шэражоўтага супеску. Мацярык складаўся з жаўтаватага пяску з артзандамі і знаходзіўся на глыбіні 0,47–0,56 м (мал. 2, *в*). У паўночна-заходнім кутку шурфа 4 выяўлены агмень, які быў змешчаны адразу пад ворыўным пластом на глыбіні 0,3 м і ў паўночным накірунку выходзіў за межы раскопу. Памеры выяўленай часткі агменю прыкладна 0,75 × 0,60 м. Паўднёвая частка аб'екта, блізкая ў плане да падкովападобнай формы, складалася з перапаленай гліны і шлакаў. У паўночнай частцы назіралася скапленне шлакаў з рэдкімі ўключэннямі кавалкаў пячыны. Цёмна-карычневы супесак у межах аб'екта быў насычаны попелам і вуголлем. У ворыўным пласце знойдзены 4 дробныя фрагменты ляпнога гладкасценнага посуду і 1 ганчарнага, таксама ў шурфе 4 выяўлены 51 кавалак шлака, 4 кавалкі пячыны, 1 моцна каразіраваны абломак жалезнага вырабу і артштэйн кулепадобнай формы. Невялікая колькасць матэрыялаў, знойдзеных у шурфе 4, можа сведчыць аб тым, што выяўлены ў ім агмень не звязаны з жылой пабудовай.

У 2012 г. на паселішчы Снядзін-3 даследавана 56 м$^2$ культурнага пласта. Выяўлена сем ям рознага прызначэння, пераважна гаспадарчага, паўднёвыя часткі двух жытлаў, глінабітная пляцоўка. На падставе аналізу рэчавага матэрыялу прасочваюцца перыяды засялення паселішча. Пачатковы перыяд функцыянавання помніка звязаны з эпохай позняга неаліту – з насельніцтвам днепра-данецкай культуры і культуры кола шнуравой керамікі. На фінальным этапе функцыянавання класічнай зару-



Мал. 6. Знаходкі: *1, 2* – крамянёвыя артэфакты; *3* – праселка; *4* – жалезны нож (фрагмент); *5–25* – ляпная кераміка (фрагменты). Шурф 3. Паселішча Снядзін-2. 2012 г.

бінецкай культуры, тут, хутчэй за ўсё, месціўся грунтовы могільнік. У керамічным комплексе выразна прадстаўлены посуд перыяду правінцыйнарымскіх уплываў. Па тэхналогіі і марфалагічных параметрах ён блізкі да керамікі постзарубінецкага гарызонту, у першую чаргу такіх груп, як Грыні–Ваўкі і Люцеж, а таксама раннекіеўскай культуры тыпу Абідні, заўважана пэўная пераклічка з зубрэцкай групай Валыні. Значная колькасць матэрыялаў, выяўленых на паселішчы, адносіцца да ранняга сярэдневякоўя і адклалася падчас пражывання тут насельніцтва пражскай культуры. Перыяд VIII–IXстст. прадстаўлены фрагментамі ляпной керамікі, у тым ліку арнаментаванай пальцавымі ўцісканнямі і насечкамі па венцы, а таксама ўразной хваляй па тулаве. Раннедзяржаўная фаза фунцыянавання паселішча (X–XII стст.) адлюстравана нешматлікімі знаходкамі абломкаў раннеганчарнага посуду. Сабраныя падчас даследаванняў паселішча Снядзін-3 матэрыялы, уяўляюць значную цікавасць з пункту погляду вырашэння часу і ўмоў фарміравання раннепражскіх старажытнасцей, а таксама іх паходжання. Тут назіраецца стык пражскай культуры і папярэдніх старажытнасцей з традыцыямі лясной зоны. Магнітаразведка, праведзеная на паселішчах Снядзін-2 і -3, была эфектыўнай і паказала наяўнасць у культурным пласце шэрагу аб’ектаў рознага кшталту, што засведчана і кантрольнымі шурфамі.

## Літаратура

1. Вяргей В. Раннеславянскае селішча Снядзін-2 / В. Вяргей, В. Трымер // Славяне и их соседи : Археология, нумизматика, этнология / под ред. А. А. Егорейченко. – Минск : Веды, 1998. – С. 27–35.

2. Вяргей В. С. Металургічны комплекс на раннеславянскім паселішчы Снядзін-2 // Славянский мир Полесья в древности и средневековье : Материалы Междунар. ист.-археолог. конф., Гомель, 19–20 окт. 2004 г. / редкол.: О. А. Макушников [и др.]. – Гомель : УО «ГГУ им. Ф. Скорины», 2004. – С. 34–39.

3. Вяргей В. С. Жытло і культавы аб'ект гарызонту пражскай культуры на паселішчы Снядзін-3 на р. Прыпяць у Петрыкаўскім раёне // Древняя история Восточной Европы. – Мінск : БГУ, 2009. – С. 21–32.

4. Вяргей В. С. Гарызонт эпохі жалеза на паселішчы Снядзін 3 на рацэ Прыпяць // Acta Archaeologica Albaruthenica / уклад. М. А. Плавінскі, В. М. Сідаровіч, М. І. Лашанкоў. – Мінск : І. П. Логвінаў, 2011. – Vol. VII (Вып. 7). – С. 34–50.

## Резюме

*В. С. Вергей, Е. Ф. Касюк*

**Исследования поселений около древни Снядин Петриковского района в 2012 году**

В 2012 г. на поселении Снядин-3 исследовано 56 м$^2$ культурного слоя и совместно с сотрудниками Гёттингенского университета проведена магниторазведка на поселениях Снядин-2 и -3.

На поселении Снядин-3 исследованы южные части двух жилищ населения пражской культуры, глинобитная площадка и шесть хозяйственных ям. В вещевом комплексе поселения выделяются материалы поздненеолитических днепро-донецкой культуры и культуры круга шнуровой керамики. На рубеже эр появляются носители классической зарубинецкой культуры и поселение без хронологических лакун развивается до XII в. Представлена лепная посуда постзарубинецкого периода типа Курадово и ранней Абидни, пражской (IV–VII вв.), Лука-Райковецкой (VIII–X вв.) культур и раннегончарные сосуды эпохи Туровского княжества.

В контрольных шурфах на поселении Снядин-2 выявлены печь, сложенная из камней и крупных кусков болотной руды, а также очаг, сконструированный из глины и кусков металлургических и кузнечных шлаков.

## Summary

*V. S. Vjargei, A. F. Kasjuk*

**Research of the settlements near the village Snyadin in Petricau district in 2012**

In 2012 on the settlement Snyadin-3 was 56 sq. m. of the cultural layer investigated. On the settlements Snyadin-2 and -3 together with the staff of the University of Gottingen was magnetic survey carried out.

In Snyadin-3 was the southern part of the two dwellings of the population of Prague culture, area of clay and 6 household pits explored. In the complex of things on the settlement stand materials late Neolithic Dnieper-Donets Culture and the Corded Pottery Culture. At the turn of the 1$^{st}$ B.C. – 1$^{st}$ A.D. there are carriers of classical Zarubinetskaya Culture and the settlement developed to the 12$^{th}$ century without any chronological breaks. Its ceramic complex consists of hand-made pottery of types Kuradava, early Abidnya, the Prague (the 4$^{th}$–7$^{th}$ centuries), the Luka-Raikovetskaya (the 8$^{th}$–10$^{th}$ centuries) Cultures and the wheel made pottery of the early period of Turov princedom.

In the test pits at the settlement Snyadin-2 was revealed oven, built of stones, large pieces of bog ore and hearth made of clay and pieces of metal and forging slags.

*Паступіў 22.05.2013 г.*

УДК 904:725.826(476.5)«10/14»

***Д. У. Дук,*** *прарэктар Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, доктар гістарычных навук, дацэнт (г. Наваполацк, Беларусь)*

# Размяшчэнне вечавай плошчы ў Полацку (па выніках археалагічных раскопак у 2011 г.)[1]

Адной з галоўных роляў у арганізацыі самакіравання сярэдневяковага Полацка адводзілася вечу. Веча функцыянавала ў Полацку з XII ст. (не выключана, што і з XI ст.) і з пэўнымі трансфармацымі працягвала існаванне фактычна да надання Полацку магдэбургскага права [11].

Мэта працы – разгледзіць пытанне аб месцазнаходжанні вечавай плошчы ў Полацку як важнага аб'екта сацыятапаграфічнай структуры горада.

Пісьмовыя крыніцы не даюць адказа на пытанне аб размяшчэнні ў Полацку месца вечавых сходаў. Вечавыя плошчы існавалі ва ўсіх гарадах Русі, аб'яднаных у так званую Сафійную прастору (Кіеў, Ноўгарад, Полацк). Згодна летапісам, вядома, што кіеўляне і наўгародцы ў XII ст. збіраліся на веча на княжацкіх Яраслававых дварах каля сабораў Святой Сафіі [9, с. 223–224, 231]. Пры гэтым у Ноўгарадзе існавала некалькі месцаў вечавых сходаў, асноўным месцам для правядзення якіх з'яўлялася тэрыторыя Дворышча каля княжацкага сабора св. Мікалая. Памеры ўласна вечавай плошчы ў Ноўгарадзе складалі 1200–1500 м$^2$ (стандартны памер баярскай сядзібы). Плошча была абсталявана лавамі і мела «сцепень» (трыбуну для пасаднікаў і кіраўнікоў вечавых сходак) [10, с. 80].

У Полацку двор князя да пачатку XIV ст. размяшчаўся на гарадзішчы. Тэрыторыя Верхняга замка ў XI–XIII стст. з'яўлялася сакральным цэнтрам. Гіпатэтычна вечавыя сходы палачан маглі адбывацца на Чорнай гары, якая ў першай палове XIV ст. набыла статус замкавай і пасля 1563 г. атрымала назву «Верхні замак». Тым не менш асаблівы сакральны статус Чорнай гары і тэрыторыі каля Сафійскага сабора ў XI–XIII стст. дазваляе выказаць меркаванне аб тым, што вечавая плошча была размешчана не на тэрыторыі будучага Замчышча.

У гістарыяграфіі гісторыі Полацка пытанне аб размяшчэнні вечавай плошчы практычна не разглядалася. Паколькі пісьмовыя крыніцы не дэталізуюць парадак арганізацыі вечавых сходаў у Полацку, а таксама не даюць адказ на пытанне аб месцы іх правядзення, існуе думка аб размяшчэнні вечавай плошчы недалёка ад Сафійскага сабора [7, с. 284]. З-за адсутнасці звестак у пісьмовых крыніцах вызначэнне месцапалажэння вечавай плошчы ў Полацку з'яўляецца кампетэнцыяй археалагічнай навукі.

Археалагічным маркёрам размяшчэння плошчы для грамадскіх сходаў будзе культурны пласт, які не ўтрымлівае слядоў будаўніцтва і сведчанняў рамеснай дзейнасці. На плошчы, якая з'яўлялася незабудаваным месцам для грамадскіх сходаў, інтэнсіўнасць будаўнічай дзейнасці і, адпаведна, хуткасць утварэння культурных адкладаў не маглі быць вялікімі.

Падчас археалагічных раскопак у 2011 г. была зафіксавана незвычайная для культурнага пласта цэнтральнай гістарычнай частцы Полацка стратыграфічная сітуацыя.

Раскопкі ў 2011 г. былі праведзены на тэрыторыі гісторыка-культурнай каштоўнасці – Вялікім пасадзе г. Полацка. Тэрыторыя, на якой быў зроблены раскоп, размешчана паблізу ад Чорнага ручая. Гэты ручай утварыў роў, які аддзяляе Верхні замак ад Вялікага пасада. Работы прадугледжвалі археалагічны нагляд за будаўнічымі работамі (нівеліроўкай паверхні зямельнага ўчастка) і правядзенне раскопак на месцы ўзвядзення жылога дома.

Пляцоўка пад будаўніцтва размешчана каля так званай царквы на рове (адкрыта П. А. Рапапортам у 1976–1977 гг. і лічыцца помнікам мураванага дойлідства XII ст.) [6, с. 155]. Гэтая царква па пісьмовых крыніцах XVII ст. згадваецца пад назвай Ражаства Хрыстовага. У другой палове XVI ст. яна ўжо была драўляная. Пры ёй у XVII ст. знаходзіўся цвінтар (яго рэшткі былі выяўлены падчас раскопак у 2011 г.). Царква існавала да трэцяй чвэрці XVII ст., час яе разбурэння прыпадае дзесьці на 1660–70-я гады. У грамаце Яна III аб зацвярджэнні прывілея гарбарнаму і кушнерскаму цэху Полацка ад 26 сакавіка 1683 г. цэхавая брація была абавязана даваць па 3 фунты воску ў царкву св. Сафіі замест «разоренной церкви Рождества» [5, с. 80].

Тэрыторыя раскопак размешчана ў некалькіх дзесятках метраў ад буйнога мураванага комплексу XVIII–XX стст. – полацкага калегіума езуітаў. Калегіум быў заснаваны ў 1581 г.

Згадкі пра размяшчэнне на месцы калегіума гарадскіх сядзіб (пляцаў) паводле Даравальнай Граматы Стэфана Баторыя ад 20 студзеня 1582 г. адсутнічаюць [3, с. 73]. Магчыма, калегіум быў заснаваны на незабудаванай частцы плошчы, якая мела назву «Великий Торгъ» [2, с. 39]. Пасля ўзвядзення калегіума гандлёвая плошча была перанесена на ўсход у раён сучаснай плошчы Свабоды.

Фундаментныя рвы царквы на рове былі адкрыты і даследаваны П. А. Рапапортам шляхам прарэзкі пляцоўкі каля былога рэальнага вучылішча

[1] Работа выканана ў межах тэмы «Сацыяльная тапаграфія, гаспадарка, культура і антрапалогія насельніцтва Полацка і Полацкай зямлі ў IX–XVIII стст.», дзяржаўная рэгістрацыя № 20111102 ад 30.05.2011 г.




Мал. 1. План размяшчэння раскопу 1: *1* – царква на рове (Ражаства Хрыстова); *2* – будынак былога рэальнага вучылішча; *3* – раскоп 1 на ўчастку будучага дома № 4. Вялікі пасад. г. Полацк. 2011 г.

(у 1976 г. – будынка сярэдняй школы № 8) [6, с. 155]. Было высветлена, што ў пачатку XX ст. падчас будаўніцтва будынка вучылішча падмуркі храма былі практычна цалкам знішчаны.

У 1967 г. М. К. Каргер выявіў паблізу ад падмуркаў храма два цагляныя саркафагі, суадносіны якіх з храмам дагэтуль не высветлены.

Археалагічныя даследаванні на поўнач ад храма праводзіў С. В. Тарасаў у 1990 г. Раскоп плошчай 80 м$^2$ быў закладзены каля ўсходняга схілу пагорка да так званага Чорнага ручая, непадалёк ад храма. Мэтай раскопак была верыфікацыя гіпотэзы *аб размяшчэнні ў дадзенай частцы колішняга Вялікага пасада старажытнай гандлёвай плошчы* [8, с. 5–6]. Быў адкрыты стратыграфічна аднародны культурны пласт магутнасцю 1,6 м, які ўтварыўся не раней за XVI–XVII стст. У гэтым пласце былі знойдзены асобныя фрагменты керамікі XII ст. Аўтар раскопак




Мал. 2. Планіграфія пластоў 1 і 2. Раскоп 1. Вялікі пасад. г. Полацк. 2011 г.

не прыводзіць пэўных высноў адносна размяшчэння плошчы. Аднак адсутнасць стратыграфічнага пласта, ранейшага за XVI ст., на беразе Чорнага ручая сведчыць пра магчымасць размяшчэння вечавай плошчы менавіта тут.

Паводле генеральнага плана пад забудову дома адводзілася пляцоўка памерамі 21,00 × 9,96 м (мал. 1). Перапад вышынь з поўначы на поўдзень да пачатку земляных работ складаў каля 1,3 м (129,30 супраць 128,05 м па балтыйскай шкале). На гэтай пляцоўцы верхні (баластны) пласт зямлі быў зняты экскаватарам з мэтай нівеліроўкі паверхні. У паўночнай частцы было знята да 1,5 м зямлі, у паўднёвай – да 0,4 м. Нівеліроўку паверхні ажыццяўлялі пад наглядам археолага. Зямля была перамешчана ніжэй будаўнічай пляцоўкі – на поўдзень ад будучага дома.

Пасля нівеліроўкі праводзілі археалагічныя раскопкі на ўчастку, дзе быў выяўлены культурны пласт. Быў закладзены раскоп 1 у форме літары «Г» плошчай 92 м². На гэтай плошчы раскопкі праводзілі ўручную. Раскоп 1 быў размешчаны на адлегласці каля 30 м ад паўднёвай сцяны царквы на рове.

**Стратыграфія культурных напластаванняў раскопу 1.** Дадзены раскоп быў разбіты наступным чынам: з усходу на захад[1] – падзелены на квадраты А, Б, В, Г, Д, Е, Ж, з поўначы на поўдзень – на квадраты 2, 3, 4, 5, 6. У межах кв. А–В зроблены на ўсю шырыню дома паводле генплана: кв. 2–6 (10 м). У межах кв. Г–Ж – на шырыню кв. 5–6 (4 м). Сумарная плошча раскопу склала 92 м². Да глыбіні 0,2 м на ўсёй плошчы раскопу быў прыняты ўмоўны пласт 1, у межах лініі А–Ж кв. 6 культурны пласт ніжэй глыбіні 0,2 м да мацерыка – пласт 2.

На астатняй частцы пляцоўкі пад будаўніцтва да самага мацерыка быў зафіксаваны выключна баластны пласт. Пры гэтым у межах першай і другой ліній кв. Е і Ж да глыбіні 1 м зафіксаваны тысячы костак буйной рагатай жывёлы, пахаваных у другой палове XX ст.

Верхні пласт, які быў зняты экскаватарам, ўяўляў з сябе развал будаўнічых матэрыялаў (цэгла, драўляныя канструкцыі, камяні) і побытавага смецця. Магутнасць пласта максімальная ў паўночнай

[1] Фактычна мела месца адхіленне ад лініі поўдзень–поўнач на 20° на захад. (Дзеля спрашчэння апісання ў тэксце тут і далей вызначаецца лінія па баках свету.)



Мал. 3. Стратыграфія і план мацерыка раскопу 1. Вялікі пасад. г. Полацк. 2011 г.

частцы – 1,5 м і змяншаецца да паўднёвай частцы пляцоўкі пад дом – 0,4 м. Утварыўся гэты баластны пласт падчас разбурэння драўляных дамоў на каменна-цагляных падмурках, якія былі ўзведзены на дадзенай тэрыторыі ў пасляваенны час, а разбураны былі ў 1980-я гады. На большай частцы раскопу культурны пласт, ранейшы за XX ст., быў знішчаны да мацерыка.

Мацярык прадстаўлены чырвонай вельмі шчыльнай і аднароднай глінай.

На ўсёй плошчы раскопу, за выключэннем шостай і часткова пятай ліній квадратаў, рэшткі культурнага пласта, ранейшага за XX ст., захаваліся ў межах мацерыковых ям ад пахаванняў цвінтара царквы.

Сумарная магутнасць захаванага культурнага пласта на большай частцы раскопу не перавы-

шала 0,2 м. Па шостай лініі квадратаў адбывалася рэзкае ўзрастанне магутнасці культурнага пласта ў сярэднім да 0,8–1,0 м, месцамі ў межах мацерыковых ям – да 2,0 м.

Паверхня раскопу пасля нівеліроўкі роўная, перапад вышынь па лініі поўнач–поўдзень ва ўсходняй частцы складае каля 0,2 м, у заходняй частцы – да 0,4 м (адзнакі 69–101, 82–126) (мал. 2).

Культурны пласт раскопу 1 аднародны. Прадстаўлены цёмна-шэрай камкаватай зямлёй карычневага адцення з вуголлем, камянямі і рэшткамі драўляных валокнаў. Месцамі мае праплласткі вугалю магутнасцю да 0,1 м, лінзы чырвонай аднароднай гліны магутнасцю да 0,3 м, развалы цаглянага друзу (кв. В6–Д6) (мал. 3). Абсалютная большасць знаходак прадстаўлена керамічным посудам і кафляй XVII–XIX стст., значна меньшая колькасць посуду датавана XVI ст. Індывідуальныя знаходкі прадстаўлены гаспадарчымі прадметамі (акоўка рыдлёўкі, сякера, нажы і ключы ад замкоў і інш.), а таксама дэталямі адзення (жалезныя абутковыя падкоўкі, бронзавая завушніца, гузікі і інш.). Гэтыя знаходкі датаваны XVII–XIX стст. Знойдзены толькі адзін артэфакт, які датаваны больш раннім часам – гэта фрагмент шклянога бранзалета XII – першай паловы XIII ст. (мал. 4: *8*).

У межах адзначанага культурнага пласта было выяўлена 11 пахаванняў, аднак на плане іх пазначана 12. Гэта адбылося з-за таго, што за скапленне чалавечых костак пахавання 4 былі памылкова прыняты косткі жывёл. Усе пахаванні былі перааддкладзеныя і прадстаўлены фрагментамі чарапоў ці скапленнем костак шкілета з фрагментамі чарапоў. Ад некаторых пахаванняў засталіся толькі мацерыковыя ямы ад трун. Таму рэальная колькасць знойдзеных астанкаў вызначана падчас антрапалагічнай экспертызы.

*Пахаванне 1* размешчана на мяжы кв. Б3 і В3, ад пахавання засталася мацерыковая яма ад труны. Разрэз ямы О'–О зроблены практычна па лініі поўдзень–поўнач (мал. 3). Шырыня ямы – 0,8–0,9 м, даўжыня – 1,6, глыбіня – 0,2 м. Сценкі паката нахіленыя, дно плоскае. У паўднёвай частцы каля сценкі ямы размешчаны камень дыяметрам каля 0,3 м. Яма запоўнена шэрай камкаватай зямлёй карычневага адцення з вуголлем, камянямі і рэшткамі драўляных валокнаў. Знаходкі адсутнічалі.

*Пахаванне 2* размешчана на мяжы кв. А3 і А4, ад пахавання засталася мацерыковая яма ад труны. Разрэз ямы Н'–Н зроблены практычна па лініі поўдзень–поўнач (мал. 3). Шырыня ямы – 0,6 м, даўжыня – 1,8, глыбіня – да 0,2 м. Сценкі вертыкальныя, дно плоскае. Яма запоўнена шэрай камкаватай зямлёй карычневага адцення з вуголлем, камянямі і рэшткамі драўляных валокнаў. Знаходкі адсутнічалі.




Мал. 4. Вырабы з каляровых металаў, шкла і косці: *1* – спражка; *2* – завушніца; *3, 5* – пласцінкі; *4* – пярсцёнак; *6* – пломба таварная; *7* – куля з літнікам; *8* – бранзалет; *9* – накладка на дзяржанне нажа; *1–5* – бронза; *6, 7* – свінец; *8* – шкло; *9* – косць. XII–XVIII стст. Раскоп 1. Вялікі пасад. г. Полацк. 2011 г.

*Пахаванне 3* размешчана на мяжы кв. В5, ад пахавання застаўся чэрап і мацерыковая яма ад труны. Разрэз ямы М'–М зроблены практычна па лініі поўдзень–поўнач (мал. 3). Шырыня ямы – 0,6 м, даўжыня – 1,2, глыбіня – да 0,2 м. Чэрап размешчаны ў паўночнай частцы ямы на адлегласці 0,2 м ад паўночнай сценкі. Сценкі ямы вертыкальныя, дно плоскае. Яма запоўнена шэрай камкаватай зямлёй карычневага адцення з вуголлем, камянямі і рэшткамі драўляных валокнаў. Знаходкі адсутнічалі.

*Пахаванне 4* пазначана на плане пасярэдзіне кв. Е5 каля яго паўднёвай сценкі (мал. 2). У працэсе антрапалагічнай экспертызы было высветлена, што косткі, прынятыя за чалавечыя, належалі жывёлам. Косткі размешчаны бессістэмна (адзнака глыбіні залягання 106). Таму ў сапраўднасці пахавання 4 не існуе.

*Пахаванне 5* выяўлена пасярэдзіне кв. Д6, каля яго заходняй сценкі (мал. 2). Прадстаўлена фрагментамі чарапоў і фрагментамі патрушчаных костак каля іх (адзнака глыбіні залягання 105). Косткі размешчаны бессістэмна.

*Пахаванне 6* выяўлена пасярэдзіне кв. Е5 каля яго заходняй сценкі (мал. 2). Прадстаўлена фрагментамі чарапоў і фрагментамі патрушчаных костак каля іх (адзнака глыбіні залягання 70). Косткі размешчаны бессістэмна.

*Пахаванне 7* выяўлена на адлегласці 0,3 м на ўсход ад чэрапа пахавання 6 (мал. 2). Прадстаўлена фрагментам чэрапа і фрагментамі патрушчаных костак каля чэрапа (адзнака глыбіні залягання 71). Косткі размешчаны бессістэмна.

*Пахаванне 8* выяўлена пасярэдзіне кв. Д6 на адлегласці 0,5 м ад яго заходняй сценкі (мал. 2). Прадстаўлена фрагментам чэрапа (адзнака глыбіні залягання 142). Косткі размешчаны бессістэмна.

*Пахаванне 9* выяўлена пасярэдзіне кв. Г5 на адлегласці 0,2 м ад яго паўднёвай сценкі (мал. 2). Прадстаўлена фрагментамі чэрапа (адзнака глыбіні залягання 143). Косткі размешчаны бессістэмна.

*Пахаванне 10* выяўлена ў паўднёва-заходняй частцы кв. Б6 на адлегласці 0,3 м ад яго ўсходняй сценкі (мал. 2). Прадстаўлена фрагментамі патрушчаных костак каля чэрапа (адзнака глыбіні залягання 229). Косткі размешчаны бессістэмна.

*Пахаванне 11* выяўлена ў паўднёва-ўсходняй частцы кв. Б6 на адлегласці 0,6 м ад яго ўсходняй сценкі (мал. 2). Прадстаўлена фрагментамі чарапоў і фрагментамі патрушчаных костак каля іх (адзнака глыбіні залягання 180). Косткі размешчаны бессістэмна.

*Пахаванне 12* выяўлена ў паўднёва-ўсходнім вуглу частцы кв. Г6 (мал. 2). Прадстаўлена фрагментамі чарапоў і фрагментамі патрушчаных костак каля іх (адзнака глыбіні залягання 258). Косткі размешчаны бессістэмна.

Канструкцыя кв. Б2 і В2 ўяўляла сабой вырытае на 0,2 м у мацерыковай гліне паглыбленне з роўнымі вертыкальнымі сценкамі і плоскім дном. Сценкі абкладзены дошкамі, пастаўленымі на тарэц. Таўшчыня дошак – каля 3 см. Канструкцыя ў плане квадратная, памерам 2,2(поўдзень–поўнач) × 2,0 м, размешчана ў межах кв. Б2 і В2, а таксама у сумежных кв. Б3 і В3 (на адлегласці 0,2 м ад сценкі) (мал. 2). З паўночнага боку выходзіць за межы раскопу. Унутры канструкцыі на мацерыку дысперсна размяшчаліся камяні дыяметрам 0,1–0,3 м. Запаўненне культурнага пласта аналагічна вышэйапісанаму. Знаходкі прадстаўлены дзвадцаццю фрагментамі вырабаў са шкла і керамікі (гаршкі, накрыўкі, размаляваная талерка) канца XVIII – XIX ст.

У раскопе разабрана 14 мацерыковых ям. Знаходкі з ям прадстаўлены сямью вырабамі XVI–XVII стст.: венцамі і сценкамі керамічных гаршкоў і місак, кавалкамі аконнага шкла і кафлі.

**Археалагічныя знаходкі.** Абсалютная большасць знаходак прадстаўлена керамічным посудам і кафляй XVII–XIX стст.

Посуд з'яўляецца тыповым для XVII–XVIII стст., пераважная большасць гаршкоў зроблена на ножным ганчарным крузе (мал. 5: *1–6*; 6: *1*) [4, с. 103–104]. Адзінкавыя гаршкі датаваны XVI ст. (мал. 6: *3, 6–8*). Знойдзены тыповыя для XVII ст. палiваныя збаны (мал. 5: *7, 8*), кружкі і куфлі (мал. 7) [4, с. 126–127].

Адна цэлая кафля прадстаўлена каронкай (мал. 6: *10*), аналагічныя каронкі выяўлены пры даследаванні езуіцкага калегіума.

Індывідуальныя знаходкі прадстаўлены гаспадарчымі прадметамі: акоўкай рыдлёўкі (мал. 8: *2*), сякерай (мал. 8: *3*), ключамі ад замкоў (мал. 9: *3, 4*), нажамі (мал. 10: *1, 2, 4*), крэсівам (мал. 10: *5*). Гэтыя вырабы тыповыя для XVI–XVIII стст.

Крэсіва (мал. 10: *5*) мае аналогіі з вырабамі, знойдзенымі ў іншых частках Полацка ў пластах XVI–XVII стст. [4, мал. 54: *13*]. Нажы чаранковыя (мал. 10: *2*) і з накладнымі тронкамі (мал. 10: *1, 4*). На адным нажы захаваліся фрагменты драўлянага дзяржання (мал. 10: *1*). Чаранковыя нажы бытавалі ў Полацку да пачатку XVI ст., у далейшым выкарыстоўвалі толькі нажы з накладнымі тронкамі [4, с. 148]. Знойдзены дэталі аддзення (бронзавая




Мал. 5. Венцы гаршкоў. XVI–XVIII стст. Раскоп 1. Вялікі пасад. г. Полацк. 2011 г.




Мал. 6. Венцы гаршкоў (*1, 5, 7–9*) і місак (*2, 4*), гаршчок (*3*), донца гаршка (*6*), кафля-каронка (*10*). XVI–XVII стст. Раскоп 1. Вялікі пасад. г. Полацк. 2011 г.




Мал. 7. Керамічныя кружка (*1*) і куфель (*2*). XVI–XVII стст. Раскоп 1. Вялікі пасад. г. Полацк. 2011 г.




Мал. 9. Вырабы з жалеза: *1* – кручок для пляцення; *2* – зубіла; *3, 4* – ключы; *5* – выраб невядомага прызначэння. XVI–XVIII стст. Раскоп 1. Вялікі пасад. г. Полацк. 2011 г.




Мал. 8. Вырабы з жалеза: *1* – патэльня; *2* – акоўкі рыдлёвак; *3* – сякера. XVI–XVIII стст. Раскоп 1. Вялікі пасад. г. Полацк. 2011 г.

завушніца (мал. 4: *2*), жалезныя абутковыя падкоўкі (мал. 11: *1–4*)). Бронзавая завушніца стратыграфічна датавана канцом XVII – XVIII ст., аднак яна магла паходзіць з жаночага пахавання першай паловы XVII ст. Аналагічныя завушніцы XVI–XVIII стст. вядомы і ў іншых рэгіёнах Беларусі [1, с. 416], таксама як і бронзавы пярсцёнак (мал. 4: *3*) [4, с. 416]. Свінцовая куля-паўфабрыкат (мал. 4: *7*) сведчыць аб вытворчасці зброі.

Знойдзены фрагмент жалезнай патэльні дыяметрам 34 см (мал. 8: *1*). Прылады працы прадстаўлены таксама жалезнымі кручком для пляцення і зубілам (мал. 9: *1, 2*).

Такім чынам, большасць знаходак з раскопу 1 бытавалі ў межах XVI–XVIII стст. Выключэннем з'яўляецца фрагмент шклянога бранзалета XII – першай паловы XIII ст. (мал. 4: *8*).

**Заключэнне.** Вынікі раскопак дазваляюць з упэўненасцю канстатаваць факт адсутнасці на месцы раскопу культурных напластаванняў, якія можна аднесці да часу раней за XVI ст. Фактычна культурны пласт стаў утварацца ў канцы XVII ст., калі на былым цвінтары царквы Ражаства Хрыстова пачалі будаваць драўляныя дамы на падклетах. Адсутнасць культурных напластаванняў,

**Резюме**

*Н. А. Кизюкевич, Г. Н. Семенчук*

**Предвательные итоги исследования территории Нового замка в Гродно**

В июне–июле 2010 г. на территории Нового замка в Гродно были проведены археологические исследования. Как считает автор исследований этого места в 1987–1988 гг. А. К. Кравцевич, город начинался с небольшого укрепленного поселения эпохи средневековья, на протяжении XI–XII вв. тут сформировалась типичная для восточнославянских городов планировочная структура: детинец (Замковая гора) – окольный город (Новый замок) – неукрепленные посады (доходили до современной Советской площади и улицы Подольной). С XIV в. территория Нового замка известна как Гродненский Нижний замок.

На исследованной территории были выявлены несколько объектов: фрагмент каменной мощеной дорожки конца XIX – начала XX в.; развал печи, которым засыпали яму в XX в.; на глубине 115–135 см от современной дневной поверхности находился слой, состоящий из битой плинфы, фрагментов голосников, цемянки (строительного материала XII в.), который датирован первой половиной XVII в. и был образован в результате нивелировки поверхности, после того как в 1613 г. сгорела Воскресенская церковь. На глубине 155–175 см была обнаружена постройка с остатками печи конца XVI – первой четверти XVII ст. На самом материке (глубина 3,04–3,06 м) была обнаружена яма глубиной 63 см с почти вертикальными стенками, в заполнении которой были обнаружены фрагменты керамики XI–XII вв.

**Summary**

*N. A. Kizjukevich, G. N. Semenchuk*

**The previous results of research on the territory of the New Castle in Grodno**

The archeological researches were carried out on the territory of the New Castle in Grodno in June–July, 2010. According to A. K. Kravtsevich who conducted investigations in 1987–1988 the place started as small settlement of the Middle Ages, during the $11^{th}$–$12^{th}$ centuries the typical structure of the eastern Slavonic settlements was developed. The territory of the New Castle is known as the Nizhni Castle of Grodno since the $14^{th}$ century.

Some fragments of pottery of the $11^{th}$–$12^{th}$ centuries, stove of late $16^{th}$ – early $17^{th}$ century, layer of broken bricks and lime of the first half of the $17^{th}$ century, the part of stone path which dated back to late$19^{th}$ – early $20^{th}$ century; fragments of stove in the pit of the $20^{th}$ century were fond out in the excavation area.

*Пастуліў 17.09.2013 г.*

*УДК 903.5(476.5)«09»*

***А. В. Костюкевич,*** *Институт истории НАН Беларуси, отдел сохранения и использования археологического наследия, аспирант, магистр исторических наук (г. Минск, Беларусь)*

# Фрагмент скандинавского псалия из Полоцка (новое поступление Витебского областного краеведческого музея)

В 2013 г. в Витебский областной краеведческий музей художником и краеведом А. И. Мемусом была передана случайная находка (ВОКМ, КП 26282/404) – фрагмент богато декорированного псалия, найденного на берегу р. Западной Двины в Заполотье в г. Полоцке. Данное изделие выполнено из бронзового сплава в стиле «Борре» и представляет собой причудливо изогнувшегося дракона (коня ?), прикрепленного к дуге обломанного кольца (рис. 1). Для территории Беларуси данная находка является уникальной. В публикациях отечественных исследователей аналогий ей не имеется.

На территории России находок псалиев или их фрагментов данного типа также сравнительно немного – всего восемь. Два подобных псалия происходят из известного Супрутского клада, найденного в Тульской области в 1969 г. в ходе раскопок под руководством С. А. Изюмовой [2, с. 50]. Они входят в состав удил и являются единственной на территории Руси находкой такого рода, полностью сохранившейся с грызлом и псалиями. Изделие, псалии которого изготовлены из медного сплава, датировано X в. А. Н. Кирпичников рассматривает эти удила как скандинавские [1, с. 17]. (Второй полностью сохранившийся экземпляр удил происходит из захоронения в Борре). Псалии из Супрутского клада богато позолочены, и мы можем предположить, что полоцкая находка, судя по ее внешнему виду, тоже когда-то была покрыта позолотой. Супрусткий клад был подробно рассмотрен В. В. Мурашевой в одноименной монографии [3]. Еще один поврежденный псалий сходного типа происходит из Вологодской области (район Белоозера) и так же, как и полоцкий, является случайной находкой. Известны также два фрагментированных псалия из Гнездова, найденные В. И. Сизовым в дореволюционный период. В 1970 г. в Гнездово в ходе раскопок Д. А. Авдусиным был найден еще один фрагмент псалия в стиле борре. Два подобных изделия (также фрагментированные) происходят из Тимерево Ярославской области и с Рюрикова городища Новгородской области. Они тоже являются случайными находками.




Рис. 1. Скандинавский псалий (фрагмент; КП 26282/404, ВОКМ): *а* – фото, *б* – прорисовка. X в. Художник Т. Зинченко

Таким образом, получается, что подобные изделия сосредоточены в северных регионах Древней Руси. Судя по всему, такие удила были достаточно дорогостоящими и принадлежали представителям элитарной дружинной культуры. Следует отметить, что эти находки, обнаруженные на территории Древней Руси, происходят не из погребальных комплексов, так как такие предметы, вероятнее всего, были слишком дорогостоящими и редкими для данной территории, чтобы быть положенными в могилу, хотя на территории Скандинавии они встречаются и в захоронениях. Три из восьми данных изделий принадлежат к категории случайных находок, а два были обнаружены в составе клада.

Аналогия полоцкому псалию происходит с острова Готланд (Швеция) (рис. 2) [4, с. 110–111]. Как на полоцкой, так и на готландской находках туловище дракона украшено простой плетенкой, тогда как узор на супрутском псалии более сложный. Благодаря аналогиям, мы можем восстановить полный облик псалия, найденного в Полоцке. Он состоял из кольца, судя по всему, разделенного трехлопастным элементом, и двух декорированных плетеным орнаментом фигур драконов, симметрично расположенных на дуге кольца. На территории Скандинавии подобные удила были распространены в IX–X вв. [4, с. 108]. К сожалению, находка из Полоцка не может



Рис. 2. Скандинавский псалий. о. Готланд. Швеция. X в. [4]

быть привязана к археологическому комплексу или слою, и мы уже никогда не сможем ответить, каким путем она попала на наши земли: как личная вещь, подарок или трофей, – но с большой долей вероятности можно предположить, что она оказалась на территории Беларуси не позднее X в., т. е. во время наиболее оживленных контактов со Скандинавией.

Учитывая тот факт, что в Полоцке встречаются находки скандинавского происхождения, датированные X в., можно предположить, что рассмотренный нами псалий принадлежал кому-то из скандинавских дружинников, находившихся в то время в Полоцке, что подтверждает наличие культурно-экономических связей Северной Европы и Полоцкой земли в X в.

**Литература**

1. Кирпичников, А. Н. Снаряжение всадника и верхового коня на Руси 9–13 вв. / А. Н. Кирпичников. – Л., 1973. – (САИ; Вып. Е1–36.)

2. Меч и златник. К 1150-летию зарождения Древнерусского государства : каталог выставки. – М. : Кучково поле. – 2012. – 320 с. : ил.

3. Мурашева, В. В. Супрутский клад из раскопок 1969 г. / В. В. Мурашева. – М., 2008. – 48 с.

4. Новиков, В. В. Об одном типе скандинавских оголовий X века с территории Древней Руси и Скандинавии / В. В. Новиков // Археологические Вести. – 2012. – № 12. – С. 108–123.

**Рэзюмэ**

*А. У. Касцюкевіч*

**Фрагмент скандынаўскага псалія з Полацка**
**(новае паступленне Віцебскага абласнога краязнаўчага музея)**

Разгледжана выпадковая знаходка скандынаўскага псалія, які паходзіць з тэрыторыі г. Полацка. Псалій разглядваецца у параўнанні з іншымі падобнымі вырабамі, знойдзенымі на тэрыторыі старажытнай Русі. Вызначана аналогія полацкаму псалію з о. Готланд (Швецыя). Магчыма, што полацкая знаходка таксама мае скандынаўскае паходжанне. Яна, як і яе аналаг, датавана X ст. Гэта з’яўляецца пацвярджэннем таго, што паміж Полацкай зямлёй і Паўночнай Еўропай ў X ст. існавалі культурна-эканамічныя сувязі.

**Summary**

*A. V. Kostukevich*

**The fragment of the Scandinavian cheeckpeece from Polotsk**
**(new receipt of the Vitebsk regional museum)**

In this paper a casual find of the fragment of Scandinavian cheekpiece on territory of Polotsk is considered. Eight finds of the similar cheeckpieses of Borre style from Old Russian territory are taken in consideration also. The Sweden analogy of the Polotsk find is found and regarded. The Polotsk cheeckpiese has Scandinavian, perhaps, Sweden origin and dated to 10th century. It proves that economical and cultural relations had excited between Scandinavian region and Polotsk Land during medieval period.

*Поступила 25.10.2013 г.*

*УДК 902/904(476)«2012»*

***В. Л. Лакіза,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, намеснік дырэктара па навуковай рабоце, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (г. Мінск, Беларусь)*

# Вынікі археалагічных даследаванняў першабытных помнікаў Беларускага Панямоння ў 2012 годзе

У 2012 г. на тэрыторыі Гродзенскага і Слонімскага раёнаў Гродзенскай вобласці (Беларускае Панямонне) былі праведзены археалагічныя даследаванні, накіраваныя на пошук і вывучэнне першабытных паселішчаў, а таксама на інвентарызацыю помнікаў археалогіі, уключаных у «Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь»[1].

***Гродзенскі раён***[2]***. Верагодная зона будаўніцтва Нямноўскай ГЭС.*** Адной з галоўных задач палявых даследаванняў на тэрыторыі Гродзенскага раёна ў ліпені 2012 г. (мал. 1) стала абследаванне зоны верагоднага будаўніцтва яшчэ адной ГЭС на р. Нёман (у адпаведнасці з першапачатковым праектам, прадстаўленым у РУП «Гроднаэнерга»). Першыя разведкі на асобных участках амаль дваццацікіламетровага адрэзка Нёмана ад в. Плебанскія, дзе па праекце будзе размешчана плаціна Нямноўскай гідраэлектрастанцыі, да самага Гродна (в. Пышкі), якія праводзіліся пад кіраўніцтвам аўтара ў мінулым годзе, далі падставу для выпрацоўкі методыкі сёлетніх даследаванняў [5, с. 296]. Акрамя суцэльнага візуальнага абследавання і пошукаў пад'ёмнага матэрыялу яны дапаўняліся мэтанакіраванай шурфоўкай залесенай і моцна задзірванелай тэрыторыі.

Асаблівая ўвага была звернута на левабярэжную ніжнюю моцна задзірванелую тэрасу (шырыня – 90–100 м, даўжыня – 900–1000 м) Нёмана каля в. Плебанскія, на якой у розных месцах былі закладзены сем пошукавых шурфоў: шурф № 1 – 4 $м^2$ (2 × 2), шурф № 2 – 3 $м^2$ (1 × 3), шурф № 3 – 4 $м^2$ (1 × 4), шурф № 4 – 3 $м^2$ (1 × 3), шурф № 5 – 3 $м^2$ (1 × 3), шурф № 6 – 3 $м^2$ (1 × 3), шурф № 7 – 2 $м^2$ (1 × 2) (мал. 2). Аднак і шурфоўка, пакуль што не дала дакладнага адказу на пытанне аб наяўнасці тут археалагічных помнікаў. Несумненна, што на гэтым узроўні тэрасы вялі актыўную гаспадарчую дзейнасць. Наяўнасць у шурфах галькі, гравію, пяску з ракушкамі, вялікай колькасці неапрацаванага і моцна абкатанага крэменю, канкрэ-




Мал. 1. Карта Беларускага Панямоння ад г. Гродна да в. Пальніца Гродзенскага раёна з лакалізацыяй помнікаў, даследаваных у 2012 г. (тэрыторыя верагоднага будаўніцтва Нямноўскай ГЭС)

[1] Археалагічныя даследаванні былі праведзены ў адпаведнасці з заданнем 1.1.01 «Археалагічныя помнікі першабытнай і сярэднявечнай эпох на тэрыторыі Беларусі: этнагенэз, дзяржаўнасць, матэрыяльная і духоўная культура» (кіраўнік – доктар гістарычных навук, прафесар В. М. Ляўко, намеснік – кандыдат гістарычных навук, дацэнт В. Л. Лакіза) падпраграмы № 1 «Гісторыя, духоўная і матэрыяльная культура беларускага народа» (кіраўнікі – доктар гістарычных навук, прафесар А. А. Каваленя, кандыдат гістарычных навук, дацэнт В. В. Даніловіч) ДПНД на 2011–2015 гг. «Гісторыя, культура, грамадства, дзяржава».

[2] У ліпені 2012 г. ў даследаваннях на тэрыторыі Гродзенскага раёна прымалі ўдзел студэнты БрДУ імя А. С. Пушкіна, ГрДУ імя Я. Купалы, аспіранты Інстытута гісторыі НАН Беларусі А. Вашанаў і С. Лiневіч.

цый сведчыць аб значных земляных работах на тэрасах і аб моцных павадках, якія маглі затаплівацъ нават яе сярэдні ўзровень (месца закладкі шурфа № 2 у лесапаласе) (мал. 2). Яскравым прыкладам своеасаблівай стратыграфіі з вялікай колькасцю розных па колеры і складзе прапласткаў, якія чаргуюцца, з'яўляецца шурф № 5 (мал. 3). З усіх шурфоў, толькі ў ім быў знойдзены фрагмент моцна абкатанага венчыка з мінеральнымі дамешкамі ў цесце (ганчарнай керамікі ?) [6]. Разам з тым ваколіцы в. Плебанскія нельга выключаць з планаў далейшых даследаванняў. Візуальны агляд мясцовасці паказвае перспектыўнасць пошукавай працы на сярэдняй і верхняй тэрасах на паўночнай ускраіне вёскі і на поўнач ад шурфа № 5 на ніжняй тэрасе.

Яшчэ чатыры шурфы былі закладзены на высокай правабярэжнай тэрасе Нёмана паміж в. Гожа і в. Пальніца, непадалёк ад дачнага пасёлка (насупраць в. Плебанскія): шурф № 8 – 3 м$^2$ (1 × 3), шурф № 9 – 3 м$^2$ (1 × 3), шурф № 10 – 3 м$^2$ (1 × 3), шурф № 11 – 3 м$^2$ (1 × 3) (мал. 2). Адзначым, што ў гэтым месцы будучага будаўніцтва ГЭС на пясчаных дарогах сустракаецца вялікая колькасць натуральнага расшчапанага крэменю, розных па памерах канкрэцый (паходжанне застаецца пакуль што загадкавым). Цікава, але ў даследаваных шурфах археалагічныя знаходкі не трапілі [6]. Між тым і на дадзеным ўчастку патрэбна працягваць пошукавыя работы, асабліва пасля пачатка непасрэднага будаўніцтва плаціны ГЭС.

Дадаткова шурфоўкай былі вывучаны вядомыя помнікі каля в. Баля Сольная, Гожа, Астравок.

*Стаянка Баля Сольная-1* размешчана на левабярэжнай тэрасе р. Нёман, на паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, праз 0,30–0,35 км на паўднёвы захад ад вусця рэчкі Зарэчанка (назва на карце Зарэчан ?, мясцовая жанчына называла проста Рэчка ?). Займае частку кліна чатырохмятровай тэрасы Нёмана, забудаванай жылымі і гаспадарчымі пабудовамі вёскі і занятай вясковымі агародамі. Культурны пласт – да 0,4 м. На момант абследавання часткова задзірванелы, часткова разворваецца. Дакладныя памеры не ўстаноўлены. Прыкладныя памеры – каля 1,0 га (да 200 м на 50 м – па лініі паўночны ўсход–паўднёвы ўсход, паўночны захад–паўднёвы ўсход).

Помнік выявіў і абследаваў у 1975 г. М. М. Чарняўскі. Былі знойдзены крамянёвыя адшчэпы і аднапляцовачны нуклеус, што дало падставу датаваць стаянку каменным і бронзавым вякамі [11]. У 2011 г. помнік абследаваў аўтар дадзенага артыкула, аднак з-за задзірванеласці дзённай паверхні новай калекцыі артэфактаў атрымаць не ўдалося [5].

У 2012 г. была праведзена шурфоўка на плошчы 3 м$^2$. Шурф № 1 памерамі 1 × 3 м быў закладзены на схіле тэрасы, побач з агароджай вясковай




Мал. 2. Спадарожнікавы здымак басейна р. Нёман каля в. Плебанскія Гродзенскага раёна (месца верагоднага будаўніцтва Нямноўскай ГЭС) з планам размяшчэння шурфоў 2012 г.

хаты, непадалёк ад студні [6]. Ён быў даследаваны на глыбіню да 0,7 м. Выразны культурны пласт не зафіксаваны, выяўлены толькі адзін крамянёвы артэфакт – масіўны адшчэп.

Важна улічваць, што пры пад'ёме вады пасля будаўніцтва Нямноўскай ГЭС з'явіцца пагроза паступовага разбурэння стаянкі цячэннем ракі.

*Стаянка Баля Сольная-2* размешчана на высокай левабярэжнай тэрасе р. Нёман на паўночнай ускраіне вёскі праз 0,3 км на захад ад вусця р. Зарэчанка, праз 0,3 км на поўнач ад стаянкі Баля Сольная-1. Займае частку кліна дзевяцімятровай тэрасы, утворанай левым берагам р. Нёман і правым берагам р. Зарэчанка. На плошчы стаянкі, якая зарастае кустамі і дрэвамі, устаноўлена металічная апора для высакавольтнай лініі электраперадач. На схіле тэрасы – гаспадарчыя пабудовы вёскі і агароды. Клін



Мал. 3. Выгляд шурфа № 5 каля в. Плебанскія Гродзенскага раёна, у якім быў выяўлены фрагмент венчыка

верхняй тэрасы мае шырыню да 50 м і даўжыню да 150 м. Уся плошча стаянкі з верхняй і ніжняй часткамі можа дасягаць 1,8 га (каля 120 м на 150 м – па лініі поўнач–поўдзень, захад–усход).

Помнік выявіў і абследаваў у 1975 г. М. М. Чарняўскі. Былі знойдзены разнастайныя крамянёвыя вырабы, у тым ліку адшчэпы, сколы, пласціны, нуклеусы, разцы, скрабло, скрабкі, праколкі, наканечнік дроціка, сякера і прылады для сячэння, што належаць да фінальнага палеаліту і мезаліту (9–6-е тысячагоддзі да н. э.) [3, с. 150; 11]. Культурны пласт – ад 0,3 м да 0,4 м. Археалагічныя раскопкі на стаянцы не праводзілі. У 2011 г. помнік абследаваў В. Л. Лакіза. З прычыны задзірванеласці яго дзённай паверхні на верхняй тэрасе пад'ёмны матэрыял не збіралі, на схіле і на ніжняй частцы стаянкі (на агародах) была выяўлена калекцыя крамянёвых вырабаў каменнага веку [5].

У 2012 г. на верхняй пляцоўцы помніка быў закладзены шурф № 1 – 3 м$^2$ (1 × 3) [6]. У ім зафіксаваны культурны пласт шэрага, жаўтавата-шэрага колеру магутнасцю да 0,55 м, інтэнсіўна насычаны шматлікімі крамянёвымі вырабамі фінальнапалеалітычнага часу: нуклеусамі, прадуктамі першаснага расшчаплення, адшчэпамі, пласцінамі, абломкамі, прыладамі працы (мал. 4). Папярэдні аналіз матэрыялаў дае падставу казаць аб выяўленні на помніку крэмнеапрацоўчай майстэрні.

*Стаянка і селішча Баля Сольная-3* была выяўлена ў 2012 г. у выніку абследавання ваколіц вёскі і шурфоўкі мясцовасці. Яна размешчана на той жа левабярэжнай тэрасе р. Нёман, што і стаянка Баля Сольная-1, праз 0,25 км на паўночны ўсход ад яе (уніз па цячэнні ракі за ЛЭП), праз 0,15–0,18 км амаль на ўсход ад скрыжавання цэнтральных вуліц вёскі, на своеасаблівым мысападобным




Мал. 4. Крамянёвы інвентар (*1–7*). Фінальнапалеалітычная стаянка Баля Сольная-2. Гродзенскі раён

двухузроўневым выступе тэрас (паміж імі ямы, у якіх вяскоўцы бралі пясок), утвораным р. Зарэчанка і р. Нёман [6].

На розных узроўнях былі закладзены два шурфы. У шурфе № 1 памерамі 1 × 3 м (3 м$^2$), на верхнім узроўні тэрасы, засаджанай дрэвамі, пад дзёрнам быў зафіксаваны выразны культурны пласт магутнасцю да 0,6 м, складзены з шэра-жоўтага пяску, затым пахаванага пласта цёмна-шэрага колеру таўшчынёй да 0,15 м, пасля якога пачынаўся жаўтаваты пясок з крамянёвымі знаходкамі. Сярод выяўленых у шурфе матэрыялаў маюцца шматлікія крамянёвыя артэфакты (прадукты першаснага расшчаплення, прылады працы), фрагменты ляпной і ганчарнай керамікі [6].

У шурфе № 2 памерамі 1 × 3 м (3 м$^2$), на ніжнім узроўні, адразу пад дзёрнам пачынаўся пласт буйназярністага жаўтавата-шэрага пяску з вялікай колькасцю камянёў розных памераў, якія з глыбіні 0,3 м ад дзённай паверхні ўтваралі практычна суцэльны пласт. Нягледзячы на гэта была выяўлена прадстаўнічая калекцыя крамянёвых вырабаў, сярод якіх нуклеус, нажы, пракрутка, канцавы скрабок на пласціне, вастрыё, трапецыя. Верагодна, верхняя частка культурных напластаванняў у дадзеным месцы помніка была знішчана падчас гаспадарчай дзейнасці жыхароў вёскі (?).

Шматкультурны помнік Баля Сольная-3 з’яўляецца перспектыўным для далейшых археалагічных даследаванняў. Неабходна улічваць, што яго месцаразмяшчэнне ў вусці р. Зарэчанка, якое па праекце будзе добраўпарадкавацца і затапляцца пры пад’ёме вады пасля будаўніцтва Нямноўскай ГЭС, патрабуе абавязковага ажыццяўлення мер па яго ахове (археалагічнага вывучэння).

*Стаянка і селішча Гожа-1* размешчана на высокай правабярэжнай тэрасе р. Нёман, за паўднёвай прырэчнай ускраінай в. Гожа, праз 0,2–0,4 км на паўночны захад ад вусця р. Гажанка. Займае пляцоўку высокай тэрасы р. Нёман і ніжэйшай правабярэжнай тэрасы р. Гажанка, краямі якіх помнік і абмежаваны. Забудавана вясковымі хатамі і гаспадарчымі пабудовамі, разворваецца пад вясковыя агароды. Па прырэчным краі праходзіць дарога. У паўднёва-ўсходняй частцы помніка на вялікай плошчы пабудавана новая хата з прысядзібнымі гаспадарчымі пабудовамі і агароджай. Прынёманская частка помніка задзірванела. Культурны пласт – звыш 0,6 м, месцамі пашкоджаны ці разворваецца, павольна падмываецца р. Нёман. У агаленнях культурнага пласта сустракаюцца археалагічныя артэфакты. Дакладныя памеры не ўстаноўлены. Прыкладныя памеры – да 6,0–7,0 га (каля 300 м уздоўж р. Гажанка і да 250 м – уздоўж цячэння р. Нёман, па лініі паўночны ўсход–паўднёвы захад, паўночны захад–паўднёвы ўсход).

Помнік вядомы з канца XIX ст. У 1958 г. яго абследавала Ф. Д. Гурэвіч, у 1973–1975 гг. – Я. Г. Зверуга, у 1976 г. – М. М. Чарняўскі, у 2011–2012 гг. – В. Л. Лакіза. На паверхні былі знойдзены крамянёвыя вырабы, у тым ліку фінальнапалеалітычны крамянёвы нуклеус, ганчарная кераміка [2, с. 184; 3, с. 153; 5; 12]. Археалагічныя раскопкі не праводзілі. Датавана стаянка (і селішча) Гожа-1 каменным векам (фінальным палеалітам ці 10–8-м тысячагоддзямі да н. э.) і сярэдневякоўем (XI–XIV стст.).

У 2012 г. на помніку паміж дарогай і краем тэрасы быў закладзены шурф № 1 – 6 м$^2$ (2 × 3). У ім зафіксаваны характэрны для помніка культурны пласт магутнасцю да 0,5–0,6 м цёмна-шэрага і жаўтавата-шэрага колеру, які неаднаразова парушаўся ў выніку інтэнсіўнай гаспадарчай дзейнасці. Выяўленыя ў шурфе артэфакты, крамянёвыя вырабы і дробныя фрагменты керамікі падцвярджаюць яго ранейшае датаванне [6].

*Стаянка і селішча Гожа-2* размешчана на высокай правабярэжнай тэрасе р. Нёман, праз 0,5 км на паўднёвы ўсход ад паўднёвай ўскраіны вёскі, праз 0,25 км на поўдзень ад вусця р. Гажанка, праз 0,3 км на паўднёвы захад ад аўтазаправачнай станцыі на дарозе Гожа–Гродна. Займае практычна роўную пляцоўку высокай тэрасы р. Нёман, якая засаджана лесам і ў пераважнай большасці задзірванела. Заходні край помніка падмываецца р. Нёман. У паўночнай частцы помніка арганізавана месца для адпачынку мясцовых жыхароў. Культурны пласт – да 0,4 м, месцамі пашкоджаны супрацьпажарнымі барознамі. Дакладныя памеры не ўстаноўлены. Прыкладныя памеры – да 1,0 га (каля 200 м уздоўж цячэння р. Нёман пры шырыні да 40–50 м, па лініі поўнач–поўдзень, захад–усход).

Помнік стаў вядомы з канца XIX ст. пасля абследаванняў З. Глогера. У пачатку XX ст. яго абследаваў Ю. Ядкоўскі, у 1976 г. М. М. Чарняўскі, у 1996 г. В. Л. Лакіза і В. С. Абухоўскі, у 2011 г. В. Л. Лакіза. На пясчаных агаленнях на паверхні помніка былі знойдзены крамянёвыя вырабы (лістападобныя наканечнікі стрэл, скрабкі на пласцінах, разцы, прылады для сячэння, двухпляцовачныя прызматычныя нуклеусы). Археалагічныя раскопкі не праводзілі. Папярэдне стаянка Гожа-2 была датавана каменным векам (фінальным палеалітам і раннім мезалітам ці 10–7-м тысячагоддзямі да н. э.) [3, с. 153; 5; 12].

У 2012 г. на помніку паміж дрэў былі закладзены тры шурфы: шурф № 1 – 3 м$^2$ (1 × 3), шурф № 2 – 2 м$^2$ (1 × 2), шурф № 3 – 3 м$^2$ (1 × 3), а таксама праведзена зачыстка двух участкаў абрыву стромкай тэрасы: № 1 (1 м$^2$), № 2 (1 м$^2$). У розных месцах помніка, у шурфах і зачыстках, зафіксаваны культурны пласт магутнасцю ад 0,6 м да 1,1 м цёмна-шэрага і жаўтавата-шэрага колеру, даволі слаба насычанага артэфактамі (крамянёвыя вырабы



Мал. 5. Асаблівасці стратыграфіі шматкультурнага помніка Гожа-2 Гродзенскага раёна з выразным перакрытым культурным пластом

і фрагменты ганчарнай керамікі). Менавіта кераміка дазваляе казаць, што тэрыторыю стаянкі каменнага веку на высокай тэрасе р. Нёман засялялі і ў сярэдневякоўі [6]. Самае галоўнае, што на помніку зафіксаваны выразны пахаваны культурны пласт, які асабліва добра прасочваўся у шурфе № 3 і зачыстках. Ён пачынаецца з глыбіні каля 0,7 м ад сучаснай дзённай паверхні і мае таўшчыню да 0,30–0,35 м (мал. 5). Падаецца таксама, што значная прырэчная частка помніка разбурылася пад ўздзеяннем цячэння ракі (?).

Акрамя таго, у 2012 г. на ніжэйшым узроўні правабярэжнай тэрасы р. Нёман (і левабярэжнай тэрасы р. Гажанка) на практычна роўнай прыбярэжнай пляцоўцы паміж вусцем Гажанкі і помнікам Гожа-2 і паміж запраўкай «Лукойл» і Нёманам былі закладзены тры разведачныя шурфы: шурф № 1 – 2 м$^2$ (1 × 2), шурф № 2 – 2 м$^2$ (1 × 2), шурф № 3 – 2 м$^2$ (1 × 2) [6]. У кожным з іх зафіксаваны культурны пласт (перыядычна разворваецца), выяўлена невялікая колькасць крамянёвых вырабаў і фрагментаў ганчарнай керамікі, што паказвае на неабходнасць уключэння і дадзенага ўчастка ў планы далейшых археалагічных даследаванняў.

*Стаянка Астравок-1,* якая была выяўлена ў 2011 г., размешчана прыкладна праз 0,7–0,9 км на паўночны ўсход ад ніжняй ускраіны в. Астравок Гродзенскага раёна на правабярэжнай тэрасе р. Нёман, засаджанай лесам і даволі моцна задзірванелай [5, с. 296]. У 2012 г. побач з мінулагоднім шурфом № 1 былі закладзены яшчэ тры: шурф № 2 – 3 м$^2$ (1 × 3), шурф № 3 – 3 м$^2$ (1 × 3), шурф № 4 – 2 м$^2$ (1 × 2). Толькі ў другім шурфе трапіліся крамянёвыя знаходкі: скарыністы абломак і нарыхтоўка цяслападобнай прылады. Устаноўлена, што на стаянцы культурны пласт невыразны і вельмі слаба насычаны крамянёвымі артэфактамі (прылады працы і культуравызначальныя вырабы не выяўлены). Аднак стаянку Астравок-1 нельга выключаць з планаў далейшых даследаванняў, тым больш калі пачнецца будаўніцтва вадасховішча Нямноўскай ГЭС. Археалагічны нагляд за ходам земляных работ па выкарчоўцы дрэў дазволіць акрэсліць дакладныя межы помніка, лакалізаваць яго цэнтральную і перыферыйную часткі.

*Гродна.* У выніку разведак 2012 г. выяўлена пяць новых стаянак каменнага веку ў гарадской мяжы г. Гродна на ўчастку левабярэжжа р. Нёман ад яўрэйскіх могілак да вусця р. Ласасянка (насупраць лесапарку Пышкі): Гродна-1–5 (мал. 1) [6]. Згаданая тэрыторыя залесена, задзірванена, што перашкаджала візуальнаму абследаванню і пошуку пад’ёмнага матэрыялу. Між тым на высокай тэрасе р. Нёман, каля хаты даглядчыка яўрэйскіх могілак, на пясчаным агаленні лясной дарогі (Гродна-1), у лесе перад паваротам ракі (Гродна-3), побач з будынкамі на дарозе да вусця р. Ласасянка (Гродна-4), на мысе пры ўпадзенні р. Ласасянка ў р. Нёман (Гродна-5), а таксама на ніжняй тэрасе побач з гарадскім пляжам і будынкамі выратавальнай службы (Гродна-3) былі знойдзены крамянёвыя вырабы першаснага расшчаплення, у тым ліку правільныя нажападобныя пласціны. Нягледзячы на адсутнасць у калекцыі культуравызначальных прылад працы можна канстатаваць, што дадзены ўчастак ракі быў заселены ў фінальным палеаліце і мезаліце, а выяўленыя археалагічныя аб’екты вартыя далейшых даследаванняў.

*Гродзенскі раён. Крэйдавыя кар’еры Пышкі і «Старавіна».* У 2012 г. былі абследаваны раней вядомы крэйдавы кар’ер каля в. Пышкі, а таксама новы – «Старавіна» каля в. Зарэчанка Гродзенскага раёна на левабярэжжы р. Нёман. Першы ўжо не дзейнічае і паступова зарастае. У другім зафіксаваны таўшчыня марэнных адкладаў над крэйдай, асаблівасці выхаду крэйдавай пароды, залягання крамянёвых жалвакоў і канкрэцый, абследаваны сам кар’ер, магчымасці здабычы крамянёвай сыравіны (мал. 6). Былі сабраныя ўзоры для банка даных крамянёвай сыравіны, які ствараецца ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі, і для далейшага выкарыстання крэменю пры вырабе прылад працы (сучасных рэканструкцый), параўнання якасных характарыстык крамянёвай сыравіны з «Старавіны» з канкрэцыямі і гатовымі прыладамі працы з іншых рэгіёнаў Панямоння. Непадалёку ад дадзенага месца выхаду крэйды і крамянёвай сыравіны разме-



Мал. 6. Абследаванне крэйдавага кар’ера «Старавіна» каля в. Зарэчанка Гродзенскага раёна з выразнымі прапласткамі крамянёвых канкрэцый (на здымку А. Вашанаў)

шчаны шэраг першабытных стаянак: каля в. Беражаны, Баля Сольная, Пышкі, пры вусці р. Ласасянка, у г. Гродна. Лакалізавана і новая крэмнеапрацоўчая майстэрня на тэрыторыі стаянкі Баля Сольная-2. Такім чынам, паступова назапашваецца дадатковы матэрыял для вывучэння крамянёвай індустрыі насельніцтва каменнага веку Гродзенскага ўзвышша.

Па выніках праведзеных даследаванняў у зоне верагоднага будаўніцтва Нямноўскай ГЭС на р. Нёман папярэдне вымалёўваецца наступная сітуацыя: чым ніжэй па цячэнні ад Гродна (в. Пышкі, в. Баля Сольная, ур. Пышкі і былая в. Грандзічы) да в. Плебанскія і в. Пальніца, тым менш вядома помнікаў археалогіі. Тлумачэнняў гэтаму некалькі: недастатковы стан даследаванняў (?), недасканалая методыка пошуку помнікаў (?) ці нязручныя для жыцця мясціны (?). Ніжнія тэрасы на гэтым участку ракі выражаны слаба і, верагодна, практычна не выкарыстоўваліся для засялення. На верхніх тэрасах, там дзе маюцца археалагічныя помнікі, выяўляюцца пераважна матэрыялы каменнага веку (фінальны палеаліт, мезаліт). Важна і тое, што назіраюцца ўжо характэрныя для шэрагу помнікаў з зоны будаўніцтва Гродзенскай ГЭС (вышэй Гродна) стратыграфічныя асаблівасці з наяўнасцю пахаванага (перакрытага) культурнага пласта, як, напрыклад, на стаянцы (і селішчы) Гожа-2 (мал. 5).

*Гродзенскі раён. Возера Рыбніца.* На тэрыторыі Гродзенскага раёна адметна вылучаюцца колькасцю вядомых помнікаў археалогіі ваколіцы в. Азёры і ўзбярэжжы азёр Белае і Рыбніца [5, 6, 13]. У 2012 г. чарговы раз быў абследаваны заходні бераг воз. Рыбніца. Пры гэтым разаранасць ўзбярэжжа і мэтанакіраваная шурфоўка дазволілі ўдакладніць межы помнікаў Азёры-1–4 (мал. 7), на якіх пакуль што не праводзілі стацыянарныя раскопкі.

*Стаянка і селішча Азёры-1* размешчана на заходнім беразе паўночнай часткі воз. Рыбніца, праз 0,4 км на поўдзень ад шашы Гродна–Шчучын, адразу за апошнімі будынкамі заходняй ускраіны




Мал. 7. Спадарожнікавы здымак воз. Рыбніца з лакалізацыяй помнікаў Азёры-1–4 і планам размяшчэння шурфоў 2012 г.



Мал. 8. Крамянёвы інвентар (*1–7*). Шматкультурная стаянка Азёры-1. Гродзенскі раён

вёскі. Усходні край помніка прымыкае да возера, паўночны – забудаваны вёскай, па паўночна-заходнім праходзіць вясковая вуліца, якая пераходзіць ў палявую дарогу. Культурны пласт інтэнсіўна разворваецца. Помнік выявіў у канцы 1950-х гадоў Л. С. Клейн. Абследавалі гэты помнік ў 1986 г. М. М. Чарняўскі, у 1996 г. В. Л. Лакіза і В. С. Абухоўскі, у 2011 г. В. Л. Лакіза [5, 6, 13].

У 2012 г. на разаранай паверхні помніка была сабрана прадстаўнічая калекцыя з разнастайных крамянёвых вырабаў (нуклеусы, адшчэпы і пласціны, нажы, скрабкі і праколкі) (мал. 8), ляпной і ганчарнай керамікі [6]. Датаваны стаянка і селішча Азёры-1 перыядамі фінальнага палеаліту і мезаліту, неалітам і бронзавым векам, эпохай сярэдневякоўя і Новага часу (ад 9–8-га тысячагоддзя да н. э. да XV–XVII стст. н. э.). Дакладныя памеры помніка, паранейшаму, вызначыць складана. Больш верагодна, што іх патрэбна значна павялічыць амаль да мяжы стаянкі Азёры-2.

*Стаянка і селішча Азёры-2* размешчаны на паўднёва-заходнім беразе паўночнай часткі воз. Рыбніца, праз 0,5–0,7 км на поўдзень ад апошніх будынкаў заходняй ускраіны вёскі і стаянкі Азёры-1, на ўсход ад белага цаглянага дома. Паўднёвы і паўднёва-заходні край помніка часткова забудава-

ны, задзірванелы, паўночна-ўсходні і ўсходні прымыкае да возера. Помнік выявіў і абследаваў у 1972, 1986, 1994 г. М. М. Чарняўскі, абследавалі ў 1996 г. В. Л. Лакіза і В. С. Абухоўскі, у 2011 г. В. Л. Лакіза. Культурны пласт ад 0,3 м да 0,5 м, на большай частцы (цэнтральнай) разворваецца. Дакладныя памеры помніка ўстанавіць складана. На паверхні археалагічныя артэфакты сустракаюцца на плошчы каля 1,3 га (каля 110 м на 120 м па лініі паўночны ўсход–паўднёвы захад, паўночны захад–паўднёвы усход) [5, 6, 13].

У 2012 г. праведзены зборы пад'ёмнага матэрыялу, сабрана калекцыя крамянёвых артэфактаў, сярод якіх скол ажыўлення пляцоўкі нуклеуса, скрабок, а таксама фрагменты ганчанай керамікі. Датаваны помнік Азёры-2 перыядам ад фінальнага палеаліту, неаліту і бронзавага веку (ад 9-га да 2-га тысячагоддзя да н. э.) да сярэдневякоўя і Новага часу (XV–XVII стст.) [6].

*Стаянка і селішча Азёры-3* размешчаны на заходнім беразе цэнтральнай часткі воз. Рыбніца (у месцы яго звужэння), праз 0,9 км на поўдзень–паўднёвы ўсход ад апошніх будынкаў заходняй ускраіны вёскі і стаянкі Азёры-1, праз 0,2–0,3 км на паўднёвы ўсход ад стаянкі Азёры-2. Культурны пласт да 0,5 м разворваецца ў заходняй палове помніка. Усходняя палова помніка задзірванела, яна часткова засаджана кустарнікамі і асобнымі дрэвамі і прымыкае да возера. Помнік выявіў і абследаваў у 1972, 1986, 1994 г. М. М. Чарняўскі, абследавалі ў 1996 г. В. Л. Лакіза і В. С. Абухоўскі, у 2011 г. В. Л. Лакіза [5, 6].

У 2012 г. на разаранай паверхні заходняй паловы помніка была сабрана новая калекцыя крамянёвых вырабаў мезаліту і неаліту, ляпной керамікі неаліту і ганчарнай керамікі эпохі сярэдневякоўя [6]. Для ўдакладнення характару культурных напластаванняў і межаў помніка на яго задзірнаванай паверхні былі закладзены тры шурфы: шурф № 1 – 3 м$^2$ (1 × 3), шурф № 2 – 2 м$^2$ (1 × 2), шурф № 3 – 4 м$^2$ (1 × 4) (мал. 7). Пры гэтым адмыслова былі выбраны ўчасткі, якія прыпадалі на тры розныя ўзроўні вышыні над возерам. Пакуль складана адназначна сцвярджаць, што стаянка ахоплівала і мысападобную частку берага (своеасаблівы выступ ці паўвостраў, месца адпачынку вяскоўцаў і пляжа), якая была даследавана шурфамі № 1 і № 2. Культурны пласт ў шурфах шэрага колеру таўшчынёй да 0,3–0,4 м падсцелены жаўтаватым ці светлым




Мал. 9. Крамянёвы інвентар (*1–10*). Шматкультурная стаянка Азёры-4. Гродзенскі раён

дробназярністым пяском з невялікай насычанасцю крамянёвымі артэфактамі (ці не трапілі яны з верхніх участкаў помніка ?). У шурфе № 1 (на пляжы, практычна пры самай вадзе) на глыбіні каля 0,25 м ад сучаснай дзённай паверхні быў выяўлены касцяк пахаванага чалавека без суправаджальнага інвентару (арыентацыя – галавой на захад). З той прычыны, што інфармацыя аб наяўнасці тут могільніка была не вядома, на месца пахавання мы выклікалі прадстаўнікоў Гродзенскага РУУС. Пасля дадатковых кансультацый, фотафіксацыі і раскопак касцяка намаганнямі студэнтаў, яго парэшкі былі перададзены супрацоўнікам міліцыі [6]. Шурф № 3 прыпадаў на цэнтральную і самую высокую кропку помніка. У ім зафіксаваны культурны пласт магутнасцю да 0,8–1,0 м, насычаны дробнымі вугольчыкамі цёмна-шэрага і нават чарнаватага (на перадмацерыковым узроўні) колеру з дастаткова вялікай колькасцю разнастайных артэфактаў: крамянёвых вырабаў каменнага веку, дробных сценак ад ляпнога посуду і ганчарнай керамікі эпохі сярэдневякоўя.

*Стаянка і селішча Азёры-4* размешчана на заходнім беразе цэнтральнай часткі воз. Рыбніца (адразу за месцам яго звужэння), праз 1,1–1,3 км на поўдзень ад апошніх будынкаў заходняй ускраіны вёскі і стаянкі Азёры-1, праз 0,2–0,3 км на поўдзень ад стаянкі Азёры-3. Помнік выявіў і абследаваў у 1972, 1986, 1994 г. М. М. Чарняўскі, абследавалі ў 1996 г. В. Л. Лакіза і В. С. Абухоўскі, у 2011 г. В. Л. Лакіза [5, 6, 13]. Паўднёва-ўсходняя, паўднёвая і паўднёва-заходняя ўскраіны задзірванелі, часткова засаджаны кустарнікамі і дрэвамі, прымыкаюць да возера і ручая, які ў яго ўпадае. Культурны пласт – да 0,5 м, на большай частцы помніка ён інтэнсіўна разворваецца (утварыўся насычаны пласт ворнай глебы да 0,20–0,25 м).

У 2012 г. на разаранай паверхні заходняй паловы помніка была сабрана новая калекцыя крамянёвых вырабаў мезаліту і неаліту (нуклеусы, нажы, скрабкі, скобелі, мікраліты, яніславіцкія вастрыі, сякеркі) (мал. 9), ляпной неалітычнай керамікі. Для ўдакладнення характару культурных напластаванняў і межаў помніка на ім былі закладзены два шурфы: шурф № 1 – 3 м$^2$ (1 × 3), шурф № 2 – 3 м$^2$ (1 × 3) (мал. 7) [6]. Знаходак у іх значна менш, чым на паверхні. Аднак, у шурфе № 1 сярод закончаных прылад працы маюцца два разцы, скрабок і праколка, а ў шурфе № 2 сярод выяўленых артэфактаў – нуклеус, разец, скрабло, пласціна са скошаным рэтушшу канцом, мезалітычная трапецыя, трохвугольны познанеалітычны наканечнік стралы і фрагменты ляпной неалітычнай керамікі.

***Слонімскі раён. Інвентарызацыя помнікаў археалогіі.*** Па-ранейшаму, па колькасці вядомых помнікаў каменнага і бронзавага вякоў на тэрыторыі Беларускага Панямоння вылучаецца басейн р. Шчары. Даследаванні 2012 г. на тэрыторыі Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці яшчэ раз падцвердзілі гэта. Нават нягледзячы на шматгадовыя пошукі і зборы пад'ёмнага матэрыялу, сельскагаспадарчую дзейнасць і змены ландшафта, удалося выявіць новыя аб'екты і матэрыялы, як, напрыклад, каля в. Ферадкі (пры гэтым колькасць атрыманых на іх крамянёвых артэфактаў і керамікі вылічаецца сотнямі) [1, 2, 4, 7–9].

Асноўная задача згаданых палявых прац – завяршыць інвентарызацыю вядомых помнікаў археалогіі Слонімскага раёна, якую пачалі ў мінулым годзе. Неабходна было адшукаць на мясцовасці, абследаваць сучасны стан захаванасці, дакладна прывязаць да карт землекарыстання і спадарожнікавых здымкаў некаторыя рознач асовыя помнікі, удакладніць іх лакалізацыю, межы. У выніку на кожны абследаваны помнік археалогіі, узяты на ўлік як гісторыка-культурная каштоўнасць, падрыхтавана ўліковая і навуковая дакументацыя, распрацаваны матэрыялы для праектаў зон аховы. Шэраг зніклых, разбураных помнікаў археалогіі прапанавана выключыць з «Дзяржаўнага спіса гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь», а некаторыя новыя ўключыць.

Усяго за два гады на тэрыторыі раёна было абследавана 49 гісторыка-культурных каштоўнасцей з уласнымі шыфрамі[1]. Археолагі ажыццяўлялі іх фотафіксацыю, збор пад'ёмнага матэрыялу, пры неабходнасці зачыстку і шурфоўку. Пасля палявых абследаванняў, вывучэння архіўных крыніц і літаратуры, аналізу новых атрыманых матэрыялаў былі зроблены ўдакладненні ў культурна-храналагічнай ідэнтыфікацыі практычна ўсіх гісторыка-культурных каштоўнасцей раёна, у іх назвах, апісаннях лакалізацыі. Аб гэтым у двух спецыяльных Актах было даведзена Слонімскаму райвыканкаму і Міністэрству культуры Рэспублікі Беларусь.

Напрыклад, па выніках праведзеных вясной 2012 г. палявых абследаванняў устаноўлены факты поўнага разбурэння ці моцнага пашкоджання:

– селішча перыяду жалезнага веку і сярэдневякоўя каля в. Парэчча, якое ўвайшло ў склад вёскі, забудавана жылымі і гаспадарчымі пабудовамі, актыўна выкарыстоўваецца ў сельскагаспадарчых мэтах;

– селішча каля в. Вялікія Шылавічы, якое таксама ўвайшло у склад вёскі і выкарыстоўваецца ў сельскагаспадарчых мэтах;

– гарадзішча каля в. Вялікія Шылавічы, якое цалкам разбурана кар'ерам падчас будаўніцтва аўтамабільнай дарогі;

[1] Рыхтуецца да друку асобны артыкул з абагульненай інфармацыяй аб выніках інвентарызацыі помнікаў археалогіі Слонімскага раёна.




Мал. 10. Спадарожнікавы здымак месцаразмяшчэння гарадзішча Ніз Слонімскага раёна (*А*), сучасны выгляд засаджанай лесам пляцоўкі гарадзішча (*Б*) і ахоўны знак, які быў пастаўлены побач з гарадзішчам яшчэ ў часы БССР (*В*)

– стаянкі ў паўночнай частцы в. Талькаўшчына, якая разбурана падчас будаўніцтва калгасных гаспадарчых будынкаў;

– селішча на паўднёвай ускраіне в. Талькаўшчына, якое забудавана вясковымі жылымі і гаспадарчымі пабудовамі і занята вясковымі могілкамі.

Разам з тым было дакладна лакалізавана на мясцовасці гарадзішча Ніз (Ніз-2), якое размешчана праз 1,7 км на паўночны захад ад паўночнай ускраіны вёскі, праз 0,1 км на паўднёвы захад ад краю тэрасы і 0,25 км на паўднёвы захад ад левага берагу р. Шчара, праз 0,25 км на паўднёвы ўсход ад апоры высакавольтнай лініі электраперадачы і просекі, на высокай гары, засаджанай лесам (мал. 10, *А, Б*). Яно ўзведзена на другой тэрасе, мае абарончы вал з напольнага боку і грушападобнай формы верхнюю пляцоўку памерамі прыблізна 50 × 25 м. Вышыня над узроўнем першай тэрасы з поўначы – 11,0 м, з поўдня – 8,5 м. Найбольшая стромкасць схілаў гарадзішча – з усходу і з поўдня. Схілы гарадзішча і вал засаджаны лесам. Цэнтральная пляцоўка таксама зарастае асобнымі дрэвамі і кустарнікамі, моцна задзірванена. На ёй выразна прасочваюцца сляды ад траншэй і ям. Прыкладныя памеры гарадзішча – да 0,84 га ад падножжа схілаў і да 0,125 га на верхняй пляцоўцы (120/50 × 70/25 м па лініі поўнач–поўдзень, захад–усход). Гарадзішча ўпершыню было абследавана Е. Міхайлоўскім у канцы XIX ст. У 1955 г. яго абследаваў Славяна-Літоўскі атрад Прыбалтыйскай археалагічнай экспедыцыі пад кіраўніцтвам Ф. Д. Гурэвіч. Датавана другой паловай 1-га тысячагоддзя н. э. [2, с. 178, рис. 37; 6–8]. Адзначым, што побач з гарадзішчам захаваўся ахоўны знак, які быў устаноўлены на краі левабярэжнай тэрасы р. Шчара яшчэ у часы БССР (мал. 10, *В*).

Быў абследаваны таксама каменны могільнік Рудаўка-2, які размешчаны праз 1,2 км на паўночны ўсход–усход (амаль на ўсход) ад паўночнай ускраіны в. Рудаўка, праз 1,8 км на поўнач ад калгасных гаспадарчых пабудоў пры грунтовай дарозе ў в. Клепачы, праз 1,8 км на ўсход ад правага берагу р. Зальвянка, на дзюнападобным марэнным узгорку, засаджаным лесапасадкамі (мал. 11). Яго цэнтральная, амаль квадратнай формы, частка засаджана дрэвамі і кустарнікамі, моцна задзірванена. На паверхні ўзвышаецца некалькі дзесяткаў (па бібліяграфічнай інфармацыі каля 70) каменных надмагілляў. На момант абследавання ў красавіку 2012 г. некаторыя магілы былі моцна пашкоджаны «чорнымі капальнікамі» (мал. 11, *Б*) [6, 8]. Па перыметры да самага краю помніка тэрыторыя інтэнсіўна разворваецца. На кожным з чатырох краёў помніка маюцца нагрувашчанні камянёў, сабраных на палях.

Каля в. Ферадкі былі дакладна лакалізаваны і нанесены на карты тры гісторыка-культурныя




Мал. 11. Спадарожнікавы здымак месцаразмяшчэння каменнага могільніка Рудаўка-2 Слонімскага раёна (*А*) і фотафіксацыя разбурэння могільніка «чорнымі капальнікамі» (*Б*)




Мал. 12. Крамянёвы інвентар: *1–5* – Ферадкі-3; *6, 7* – Ферадкі-2. Шматкультурныя стаянкі каля в. Ферадкі. Слонімскі раён

каштоўнасці (Ферадкі-1–3), на якіх сабрана новая прадстаўнічая калекцыя крамянёвых вырабаў, сярод якіх нуклеусы, разцы, праколкі, скрабкі, сякеры і інш. (мал. 12).

Такім чынам, вынікамі археалагічнай навукова-даследчай працы 2012 г. сталі: мэтанакіраваныя абследаванні значнай, раней не вядомай у археалагічным плане, тэрыторыі Беларускага Панямоння; вывучэнне помнікаў археалогіі, якія могуць трапіць у зону будаўніцтва новай Нямноўскай ГЭС на р. Нёман; інвентарызацыя помнікаў, уключаных у «Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей». Важна, што былі выяўлены і новыя археалагічныя помнікі ў гарадской мяжы г. Гродна, каля в. Баля Сольная, в. Плебанскія.

На вялікі жаль, як і ў мінулыя гады, падчас разведак і інвентарызацыі гісторыка-культурных каштоўнасцей Слонімскага раёна, мы зноў сутыкнуліся з фактамі іх пашкоджання «чорнымі капальнікамі» (мал. 11, *Б*), якія не спыняюцца перад разбурэннем нават выразных помнікаў – каменных могільнікаў позняга сярэдневякоўя і Новага часу.

**Літаратура**


1. Абухоўскі, В. С. Матэрыялы каменнага і бронзавага вякоў з ваколіц маёнтка Антонава былога Слонімскага павета / В. С. Абухоўскі // Слонімшчына вачыма навукоўцаў і краязнаўцаў (1252–2002) : матэрыялы рэгіянальнай гіст.-краязн. канф., прысв. 750-годдзю г. Слоніма і 70-годдзя заснавання Слонімскага раённага краязнаўчага музея імя І. І. Стаброўскага. – Слонім : Слонімская друкарня, 2002. – С. 44–48.

2. Гуревич, Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья / Ф. Д. Гуревич. – М. ; Ленинград, 1962.

3. Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гродзенская вобласць. – Мінск : БелСЭ, 1986.

4. Лакіза, В. Л. Археалагічныя даследаванні 1997 г. на Слонімшчыне / В. Л. Лакіза // Слонімшчына вачыма навукоўцаў і краязнаўцаў (1252–2002) : Матэрыялы рэгіянальнай гіст.-краязн. канф., прысв. 750-годдзю г. Слоніма і 70-годдзя заснавання Слонімскага раённага краязнаўчага музея імя І. І. Стаброўскага. – Слонім : Слонімская друкарня, 2002. – С. 73–84.

5. Лакіза, В. Л. Папярэднія вынікі археалагічных даследаванняў на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 2011 годзе / В. Л. Лакіза // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. – Мінск : Беларус. навука, 2013. – Вып. 24 : Даследаванне сярэдневяковых старажытнасцей Цэнтральнай Беларусі (памяці Ю. А. Заяца).– С. 293–302.

6. Лакіза, В. Л. Справаздача аб археалагічных даследаваннях на тэрыторыі Беларускага Панямоння ў 2012 годзе / В. Л. Лакіза // ААНД ДНУ «Ін-т гісторыі НАН Беларусі». – Мінск, 2013.

7. Михайловский, Е. Археологические очерки Слонимского Уезда Гродненской губернии / Е. Михайловский // Труды Виленского Отделения предварительного Комитета по устройству IX Археологического съезда. – Вильна, 1893. – С. 165–186.

8. Памяць : гісторыка-дакументальная хроніка Слонімскага раёна. – Мінск : БЕЛТА, 2004.

9. Супрун, В. Г. Памятники каменного века и эпохи бронзы в бассейне среднего течения р. Щары / В. Г. Супрун // Древности Белоруссии. – Минск, 1966. – С. 101–110.

10. Чарняўскі, М. М. Справаздача аб археалагічных даследаваннях у 1975 годзе / Архіў Інстытута гісторыі НАН Беларусі. – Спр. № 513. – 1975. – 45 с. : іл.

11. Чарняўскі, М. М. Справаздача аб археалагічных даследаваннях у 1976 годзе / Архіў Інстытута гісторыі НАН Беларусі. – Спр. № 550. – 1976. – 22 с. : іл.

12. Чарняўскі, М. М. Неаліт Беларускага Панямоння / М. М. Чарняўскі – Мінск, 1979. – 144 с.

13. Чарняўскі, Міх. М. Азёры / Міх. М. Чарняўскі // Археалогія Беларусі : у 2 т. – Мінск : БелЭН, 2009. – Т. 1. – С. 23.


**Резюме**

*В. Л. Лакиза*

**Итоги археологических исследований первобытных памятников Белорусского Понеманья в 2012 году**


В 2012 г. автор провел археологические исследования на территории Белорусского Понеманья в Гродненском и Слонимском районах.

Автором статьи целенаправленно изучена зона будущего строительства Немновской ГЭС на р. Неман – побережье реки от Гродно до д. Плебанские (место строительства плотины ГЭС), от д. Польница до д. Островок, от Грандич до лесопарка Пышки. Проведена масштабная шурфовка местности, в том числе уже известных памятников около д. Гожа, Баля Сольная, Пышки, Островок. Обнаружены новые археологические объекты, среди которых пять стоянок каменного века на левобережной террасе р. Неман в городской черте Гродно (от еврейского кладбища до устья р. Лососянка).

На оз. Рыбница в Гродненском районе проведены сборы подъемного материала и шурфовка памятников Озеры-1–4. Выявлены новые артефакты финального палеолита, мезолита и неолита.

В Слонимском районе завершена инвентаризация памятников археологии, включенных в «Государственный список историко-культурного наследия Республики Беларусь», найдены новые первобытные памятники около д. Феродки на р. Щара.

**Summary**

*V. L. Lakiza*

**Results of archaeological research on primeval monuments of Belarussian Ponemanye in 2012**

In 2012 the author carried out archaeological research in the territory of Belarussian Ponemanye in Grodno and Slonim districts.

A special attention was given to the prospective construction area of Nemnovskaya HPP on the Neman – that is from the riverside near Grodno to Plebanskiye village (the construction site of a hydroelectric dam), from Polnitsa village to Ostrovok village, from Grandichy to Pyshki woodland park. A large-scale pitting was conducted in the course of investigation including on already known monuments nearby villages Gozha, Balya Solnaya, Pyshki, Ostrovok. We revealed new archaeological objects, among which there are five Stone Age sites on the left-bank terrace of the Neman river within the city limits of Grodno (from Jewish cemetery to the mouth of the Lososyanka river).

Near lake Rybnitsa in Grodno district we gathered some surface material and conducted pitting on monuments Ozery-1–4. We uncovered new artefacts of final Paleolithic, Mesolithic and Neolithic ages.

In Slonim district we finished the inventory of archaeological monuments included in «The State List of historical and cultural heritage of the Republic of Belarus», in addition new primitive monuments were found near Ferodki village, the Shchara river.

*Паступіў 30.10.2013 г.*

ад жывёлагадоўчага комплексу вёскі і праз 0,18 км на ўсход ад пункта Дразды-8, на паўночнай ускраіне поплаўнай дзюны, амаль цалкам выбранай кар'ерам, на раздуве плошчай каля 30 × 30 м сабрана 30 артэфактаў (гл. табліцу), два з якіх – скрабач (мал. 2: *2*) і ўкладыш з сячэння рэгулярнай пласціны (мал. 2: *3*) – датаваны эпохай мезаліту.

***Дразды-16.*** *Стаянка каменнага – бронзавага вякоў.* Праз 0,6 км на поўнач ад жывёлагадоўчага комплексу вёскі і праз 0,3 км на ўсход ад пункта Дразды-8, на левабярэжным поплаве Нёмана зна-ходзіцца авальная дзюна памерамі 100 × 50 м, на незадзірванелых участках якой былі знойдзены скрабач на адшчэпе, рабрыстая пласціна і адшчэп. У паўднёва-заходняй частцы дзюны быў закладзены шурф плошчай 1 × 1 м, у якім атрыманы адзін фрагмент керамікі неаліту – ранняга бронзавага веку і адна выліваная круглая куля (XVIII–XIX стст.).

***Дразды-17.*** *Стаянка каменнага веку, месцазнаходжанне кругавой керамікі.* Помнік размешчаны праз 0,55 км на поўнач ад жывёлагадоўчага комплексу вёскі і праз 0,05 км на поўдзень ад пункта Дразды-8, на невялікім павяшэнні на краі левабярэжнай нізкай нёманскай тэрасы. На плошчы каля 90 × 40 м быў сабраны нешматлікі пад'ёмны матэрыял (гл. табліцу).

***Дразды-18.*** *Месцазнаходжанне крамянёвых артэфактаў.* Праз 1 км на поўнач ад жывёлагадоўчага комплексу вёскі і праз 0,2 км на поўнач ад пункта Дразды-8, на палявой дарозе, якая ідзе ўздоўж лесу і краю тэрасы, знойдзены 2 крамянёвыя адшчэпы.

***Дразды-19.*** *Месцазнаходжанне крамянёвага артэфакта.* Праз 1,75 км на паўночны захад ад жывёлагадоўчага комплексу вёскі, на грунтовай дарозе, якая ідзе ўздоўж края тэрасы і ў гэтым месцы праходзіць праз ускраек лесу, знойдзены двухгранны разец на нуклеападобным абломку. Выраб датаваны фінальнапалеалітычным – мезалітычным часам.

***Дразды-20.*** *Стаянка каменнага веку.* Праз 1,8 км на паўночны захад ад жывёлагадоўчага комплексу вёскі і праз 0,55 км на паўночны захад ад пункта Дразды-1, у месцы рэзкага выгіну тэрасы, на ўчастку даўжынёй каля 60 м сустракаецца расшчапаны крэмень. Сярод артэфактаў, сабраных у 2012 г. (гл. табліцу), вылучаны вырабы ранняга мезаліту (мал. 2: *10*), позняга мезаліту–неаліту (мал. 2: *8*), неаліту–бронзавага веку (мал. 2: *7*).

***Дразды-21.*** *Стаянка каменнага веку.* Праз 1,8 км на паўночны захад ад жывёлагадоўчага комплексу вёскі і праз 0,12 км на паўднёвы захад ад пункта Дразды-20, на лясной дарозе ўздоўж краю тэрасы на ўчастку даўжынёй каля 150 м сустракаюцца крамянёвыя знаходкі. Частка артэфактаў, сабраных у 2012 г. (гл. табліцу), высокая трапецыя (мал. 2: *4*), укладыш (мал. 2: *5*), камбінаваная прылада (разец + скрэбла), скрабач, – датаваны мезалітычным часам.

***Дразды-22.*** *Месцазнаходжанне крамянёвых артэфактаў.* Праз 1,75 км на паўночны захад ад жывёлагадоўчага комплексу вёскі і праз 0,6 км на паўночны захад ад аздараўленчага лагера імя Я. М. Чайкі, на лясной палянцы на краі тэрасы былі знойдзены канцавы скрабок на пласціне (мал. 2: *9*) і адшчэп.

Такім чынам, у выніку разведак, праведзеных у 2012 г. у ваколіцах в. Дразды, было выяўлена 9 новых археалагічных помнікаў каменнага і бронзавага вякоў (Дразды-14 – Дразды-22). Акрамя таго, былі паўторна агледжаны пяць раней вядомых помнікаў, а два з іх – Дразды-9 і Дразды-12 – даследаваны шляхам свідравання і шурфоўкі.

**Літаратура**


1. Ашэйчык, В. У. Справаздача аб археалагічных разведках на Панямонні ў 2012 г. / В. У. Ашэйчык// ААНД ДНУ «Ін-т гісторыі НАН Беларусі».

2. Чарняўскі, М. Справаздача аб археалагічных даследаваннях Нёманскага неалітычнага атрада ў 1981 годзе / М. Чарняўскі // ААНД ДНУ «Ін-т гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 724. – 39 с.

3. Чарняўскі, М. Справаздача аб палявых археалагічных даследаваннях у 2001 годзе / М. Чарняўскі // ААНД ДНУ «Ін-т гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 1930. – 67 с.

4. Чарняўскі, М. М. Справаздача аб археалагічных даследаваннях у Паўночна-Заходняй Беларусі ў 2003 годзе / М. М. Чарняўскі // ААНД ДНУ «Ін-т гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2091. – 66 с.

5. Чарняўскі, М. М. Археалагічныя даследаванні ў паўночна-заходняй Беларусі ў 2003 г. / М. М. Чарняўскі // Гіст.-археалаг. зб. – Мінск, 2004. – № 19. – С. 280.

6. Чарняўскі, М. М. Археалагічныя помнікі Стаўбцоўскага раёна / М. М. Чарняўскі // Памяць : гіст.-дакумент. хроніка Стаўбцоўскага раёна / рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : БелЭн, 2004. – С. 38–43.

7. Чарняўскі, М. М. Справаздача аб палявых археалагічных даследаваннях у басейнах Нёмана, Віліі і Дзвіны ў 2005 г. / М. М. Чарняўскі // ААНД ДНУ «Ін-т гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2270. – 67 с.

8. Чарняўскі, М. М. Справаздача аб палявых археалагічных даследаванняў на тэрыторыі Стаўбцоўскага, Вілейскага, Мядзельскага і Бешанковіцкага р-наў у 2006 г. / М. М. Чарняўскі // ААНД ДНУ «Ін-т гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2387. –74 с.

9. Чарняўскі, М. М. Археалагічныя работы ў басейнах Нёмана, Дзвіны і Віліі / М. М. Чарняўскі // Гіст.-археалаг. зб. – Мінск, 2006. – № 21. – С. 181–182.

10. Чарняўскі, М. М. Дразды / М. М. Чарняўскі // Археалогія Беларусі : энцыкл. : у 2 т. – Мінск : БелЭН імя П. Броўкі, 2009. – Т. 1 : А–К / рэдкал.: Т. У. Бялова (гал. рэд.) [і інш.]. – С. 312–313.

11. Чарняўскі, М. М. Даследаванні на Панямонні і Падзвінні ў 2011 г. / М. М. Чарняўскі // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. – Мінск : Беларус. навука, 2013. – Вып. 24. – С. 319–322.

**Резюме**

*В. В. Ашейчик, А. В. Зуева*

**Археологические исследования около деревни Дрозды Столбцовского района в 2012 году**

Представлены предварительные результаты полевых работ 2012 г. в левобережье верхнего Немана около деревни Дрозды. В ходе разведок было обследовано пять ранее известных и выявлено девять новых памятников первобытной эпохи. На двух памятниках проведены более масштабные земляные работы. В результате разведочного бурения и шурфовки (6 $м^2$) на поселении Дрозды-9 получены материалы финального палеолита, мезолита, позднего неолита–раннего бронзового века. Материалы из пробных раскопок (20 $м^2$) на поселении Дрозды-12 позволяют выделить в существовании последнего девяти культурно-хронологических горизонтов в мезолите (кундская и яниславицкая культуры), неолите (припятско-неманская и неманская культуры, круг культур шнуровой керамики), железном веке (начальные периоды раннего железного века, культура поздней штрихованной керамики, банцеровская культура) и позднем средневековье–Новом времени.

**Summary**

*V. V. Asheichyk, A. V. Zuyeva*

**Archaeological Investigations near Drazdy village in Staubcy District in 2012**

The article deals with the preliminary results of archaeological investigations conducted by the authors in the upper course of Nioman river in 2012. During surface surveys we explored 5 previously known prehistoric sites and revealed 9 new ones. Exploratory drilling and test excavation (6 m2) was conducted on Drazdy-9 settlement. Here we obtain materials of the Terminal Palaeolithic, the Mesolithic and the Neolithic/Early Bronze Age periods. The materials from test excavations (20 sq. m) indicate 9 cultural and chronological horizons (from the Early Mesolithic to the Late Middle Ages/the Early Modern Period) on Drazdy-12 settlement.

*Паступіў 18.09.2013 г.*

УДК 902.21(476.6)

**В. У. Ашэйчык,** *Беларускі дзяржаўны універсітэт, аспірант, магістр гістарычных навук (г. Мінск, Беларусь);*
**А. У. Зуева,** *Беларускі дзяржаўны універсітэт, старшы выкладчык, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск, Беларусь)*

# Археалагічныя разведкі на тэрыторыі Лідскага раёна ў 2012 годзе

Восенню 2012 г. аўтары праводзілі разведкі ў правабярэжнай частцы басейна р. Дзітва[1]. Асноўная ўвага была звернута на археалагічнае вывучэнне ваколіц вёсак Ганчары і Даржы Ганчарскага с/с, Вялікія Канюшаны і Агароднікі Тарноўскага с/с Лідскага раёна Гродзенскай вобласці (мал. 1). Задачы даследаванняў заключаліся: 1) ва ўдакладненні лакалізацыі і вызначэнні сучаснага стану ўжо вядомых пунктаў; 2) у пошуку новых помнікаў каменнага і бронзавага вякоў.

### Вёска Агароднікі, Тарноўскі сельсавет

***Агароднікі-1.*** *Стаянка каменнага–бронзавага вякоў.* Знаходзіцца праз 1,4 км на паўночны ўсход ад вёскі, на тэрасе р. Дзітва, праз 0,15 км на захад ад каналізаванага рэчышча яе невялікага прытоку. Стаянка была выяўлена М. М. Чарняўскім у 2002 г. [5, с. 23, мал. 27: *1*, мал. 36; 6, с. 256]. У 2012 г. на ўчастку памерамі каля 100 × 50 м былі знойдзены шэсць крамянёвых адшчэпаў і адна пласціна з захлыстам.

***Агароднікі-2.*** *Месцазнаходжанне крамянёвых артэфактаў.* Праз 1,5 км на ўсход ад вёскі і праз 0,14 км на поўдзень ад пункта Агароднікі-1, на краі надтэраснага вала, пад лініяй электраперадачы захаваліся рэшткі хутара памерамі каля 70 × 50 м. Тут, на невялікіх раздувах, былі знойдзены два крамянёвыя адшчэпы.

### Вёска Вялікія Канюшаны, Тарноўскі сельсавет

***Вялікія Канюшаны-1.*** *Стаянка каменнага веку.* Знаходзіцца праз 1,45 км на паўночны ўсход ад вёскі, на выступе нізкай правабярэжнай тэрасы р. Дзітва. Помнік быў выяўлены М. М. Чарняўскім у 2002 г. [5, с. 23, мал. 27: *5*]. У 2012 г. у выкідах з кратавін на ўскрайку лесу былі знойдзеныя 6 крамянёвых адшчэпаў.

***Вялікія Канюшаны-2***. *Стаянка каменнага веку.* Размешчана праз 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі і праз 0,3 км на паўночны захад ад папярэдняга пункта, на наступным выступе той жа тэрасы, на павышэнні, перарэзаным лясной дарогай. Помнік быў выяўлены М. М. Чарняўскім у 2002 г. [5, с. 23, мал. 27: *4*, мал. 34]. У 2012 г. на агаленнях сцежкі на ўскрайку лесу былі знойдзеныя 3 фрагменты крамянёвых пласцін і 6 адшчэпаў.

***Вялікія Канюшаны-3.*** *Месцазнаходжанне крамянёвых артэфактаў.* Знаходзіцца праз 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, праз 0,65 км на паўночны захад ад пункта 2, на выступе тэрасы, на ўсход ад лініі газаправода і газавай падстанцыі. Помнік выявіў М. М. Чарняўскі ў 2002 г. На разорынах свежай лесапасадкі па самым краі хвойніку ён сабраў некалькі апрацаваных крэменяў [5, с. 23, мал. 27: *2*, мал. 35]. У 2012 г. падчас паўторнага агляду помніка артэфакты не былі выяўлены.

***Вялікія Канюшаны-4.*** *Крэмнездабыўныя вырацоўкі і крэмнеапрацоўчыя майстэрні.* Помнік, размешчаны на ўсходнім крэйдавым адорвені, які знаходзіцца праз 0,8 км на паўночны ўсход ад в. Вялікія Канюшаны і на паўднёвы захад ад поля каля в. Даржы, выявіў у 2002 г. М. М. Чарняўскі [5, с. 23–24, мал. 27: *3*; мал. 38–41; 6, с. 256]. У 2004 г. даследчык зачысціў «крэйдавую сценку на паўночным краі паўночна-ўсходняга кута кар’ера» і сабраў нешматлікія крамянёвыя артэфакты [7, с. 15–16, мал. 31–39; 8, с. 217; 9, с. 187–189, мал. 2: *3*, мал. 3–7]. Аўтарамі была зроблена спроба лакалізаваць пункт, зафіксаваны М. М. Чарняўскім. Аднак у сувязі з тым, што адорвень быў распрацаваны вялікай колькасцю кар’ераў, праведзеныя працы станоўчых вынікаў не далі.

У 2012 г. на гэтым адорвені быў выяўлены помнік ***Вялікія Канюшаны-4А.*** На стромкім схіле кар’ера ў паўночнай частцы адорвеня знойдзены фрагмент крамянёвай пласціны і сем адшчэпаў.

***Вялікія Канюшаны-5.*** *Стаянка і крэмнеапрацоўчая майстэрня каменнага веку.* Размешчаны на так званым паўночным адорвені, які знаходзіцца праз 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, праз 0,45 км на паўночны захад ад усходняга кар’ера, на полі. Помнік быў зафіксаваны ў 2004 г. М. М. Чарняўскім [7, с. 16, мал. 31; 8, с. 217; 9, с. 188, мал. 2: *2*]. У 2012 г. знаходкі не былі выяўлены.

***Вялікія Канюшаны-6.*** *Стаянка каменнага веку і месцазнаходжанне кругавой керамікі.* На ворным полі, якое размешчана праз 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на ўсход ад паўночнага крэйдавага кар’ера (пункт 5), на ўчастку памерамі каля 400 × 200 м сустракаецца шматлікі пад’ёмны матэрыял. У 2012 г. тут сабрана 69 крамянёвых артэфактаў (3 нуклеусы

[1] Выказваем сваю ўдзячнасць трэцяму ўдзельніку экспедыцыі – студэнту гістфака Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Яўгену Солтысу.




Мал. 1. Археалагічныя помнікі, абследаваныя ў 2012 г.: А – Агароднікі; Г – Ганчары; Д – Даржы; К – Вялікія Канюшаны. (Нумары на карце адпавядаюць нумарацыі помнікаў.)

ад адшчэпаў, 1 нуклеус ад пласцін, 2 лушчні, 2 рабрыстыя пласціны, 3 сколы з захлыстам, 9 пласцін і іх фрагментаў, 44 адшчэпы і іх фрагменты, 3 неазначальныя фрагменты сколаў, 2 рэтушаваныя адшчэпы), а таксама 6 неарнаментаваных фрагментаў кругавога посуду.

***Вялікія Канюшаны-7.*** *Месцазнаходжанне крамянёвага артэфакта.* Праз 1,4 км ад вёскі і праз 0,1 км на паўночны ўсход ад пункта 6, на лясной дарозе быў знойдзены двухпляцовачны нуклеус ад пласцін, які датаваны эпохай фінальнага палеаліту.

***Вялікія Канюшаны-8.*** *Месцазнаходжанне крамянёвага артэфакта.* Праз 1,55 км ад вёскі і праз 0,25 км на паўночны ўсход ад пункта 6, на лясной дарозе знойдзены шматпляцовачны нуклеус ад адшчэпаў.

***Вялікія Канюшаны-9.*** *Месцазнаходжанне крамянёвых артэфактаў.* У 2010 г. М. М. Чарняўскі адзначаў, што ў кар'еры, якім быў выбраны так званы заходні адорвень, размешчаны праз 0,4 км на паўночны ўсход ад вёскі, крамянёвыя артэфакты не сустракаліся [9, с. 188]. Падчас разведак 2012 г. у гэтым моцна зарослым кар'еры знаходкі таксама не былі выяўлены. Аднак на полі, размешчаным з паўночна-ўсходняга боку кар'ера, былі знойдзены рабрысты скол і адшчэп.

У ваколіцах вёскі Вялікія Канюшаны – на крэйдавых адорвенях і на разараных участках паміж імі – сустракаецца вялікая колькасць неапрацаванага крэменю. Канкрэцыі пакрыты зямліста-мучністымі і парцэлянападобнымі скарынкамі. Частка крэменяў мае аднародную тэкстуру (колер крамянёвай масы чорны, цёмна- ці светла-шэры). Сустракаюцца крэмені занальнай тэкстуры (светла-шэрае ядро канкрэцыі акружана чорнай масай таўшчынёй да 5 см). Некаторыя жаўлакі маюць пустоты, укрупіны крэйды ці крэменязёму.

### Вёска Ганчары, цэнтр сельсавета

***Ганчары-1, ур. Ціхановічаў Брод.*** *Стаянка каменнага веку.* Знаходзіцца праз 1,5 км на паўночны ўсход ад в. Ганчары, на краі правабярэжнай тэрасы р. Дзітва. Помнік выяўлены і часткова даследаваны М. М. Чарняўскім у 1962 г. У раскопе плошчай 38 м$^2$ быў атрыманы крамянёвы і керамічны матэрыял мезалітычнага і неалітычнага часу [10, с. 15, табл. 9: *6–11, 13, 14*, табл. 10; 4, с. 23–24, рыс. 21: *12–20*]. На момант абследавання 2012 г. тэрыторыя стаянкі была задзірванелая, часткова зарослая лесам і хмызняком. На ўчастку даўжынёй каля 150 м – у выкідах з рабаўніцкіх ям і кратавін – знойдзены два крамянёвыя адшчэпы і чатыры фрагменты кругавога посуду.

***Ганчары-7.*** *Месцазнаходжанне крамянёвых артэфактаў і кругавой керамікі.* Размешчана праз 1,25 км на паўночны ўсход ад вёскі, на невысокім павышэнні правабярэжнай тэрасы р. Дзітва. На плошчы памерамі 130 × 50 м у выкідах з кратавін былі выяўлены фрагмент пласціны, лускавінка і тры фрагменты кругавога посуду.

***Ганчары-8.*** *Месцазнаходжанне крамянёвых артэфактаў і кругавой керамікі.* Знаходзіцца праз 0,7 км на поўнач ад вёскі, на заходні бок ад асфальтавай шашы, насупраць невялікага лесу. Тут, на ворным полі, на плошчы памерамі 350 × 150 м сабраны нешматлікі пад'ёмны матэрыял: два нуклеусы ад адшчэпаў, нарыхтоўка біфацыяльнага вырабу, фрагмент пласціны, шэсць адшчэпаў і іх фрагментаў, два фрагменты позняга кругавога посуду.

### Вёска Даржы, Ганчарскі сельсавет

***Даржы-1.*** *Стаянка каменнага і бронзавага вякоў.* Знаходзіцца на краі правага берагу р. Дзітва,

на захад ад моста, праз 40 м на захад ад шашы М11/Е85, адразу на поўнач ад ільнозавода ААТ «Лідлён». Помнік быў выяўлены М. М. Чарняўскім у 1962 г. [10, с. 14]. У 1998 г. яго абследаваў В. Л. Лакіза [2, с. 13, мал. 3, 4: *14–16*, фота 4], у 2003 г. – В. Л. Лакіза сумесна з В. С. Абухоўскім [1, с. 8, мал. 15, 16: *3*]. У выніку разведак 2012 г. выяўлена, што тэрыторыя стаянкі інтэнсіўна падмываецца ракой. На адхоне абрыву і на палявой дарозе ўздоўж ракі на ўчастку даўжынёй 150 м быў сабраны пад'ёмны матэрыял. Калекцыя крамянёвых артэфактаў уключае бакавы рэтушны разец (мал. 2: *3*), дзве цёслы (мал. 2: *4*), 14 адшчэпаў і іх фрагментаў, лускавінку, дробны неазначальны крамянёвы абломак. Ляпная кераміка прадстаўлена фрагментам нелітычнай пасудзіны, трыма фрагментамі керамікі тшцінецкага культурнага кола (мал. 2: *1*), фрагментам посуду эпохі позняй бронзы. Знойдзены таксама тры фрагменты позняй кругавой керамікі.

***Даржы-4, ур. Боркава гара.*** *Стаянка каменнага і бронзавага вякоў.* Знаходзіцца праз 1,2 км на паўночны захад ад вёскі, на высокай пясчанай дзюне ў правабярэжным поплаве р. Дзітва, ва ўрочышчы Боркава гара. Помнік быў выяўлены ў 1962 г. і абследаваны ў 2002 г. М. М. Чарняўскім. На падставе знаходак фрагментаў посуду і крамянёвых вырабаў даследчык датаваў стаянку перыядам ранняга неаліту–бронзавага веку [10, с. 14; 4, с. 73–74; 5, с. 22, мал. 27: *7*, мал. 29, 32, 33; 6, с. 255–256; 9, с. 189, мал. 7, А]. У 2012 г. помнік быў агледжаны аўтарамі. На раздувах памерамі 100 × 50 м былі сабраны восем адшчэпаў і іх фрагментаў, а таксама фрагмент пласціны, фрагмент ляпной керамікі і фрагмент кругавога посуду.

***Даржы-5, ур. Боркава гара.*** *Крэмнеапрацоўчая майстэрня каменнага веку.* Праз 1,3 км на паўночны захад ад вёскі, на невялікім павышэнні адразу за паўночна-заходняй ускраінай дзюны з пунктам Даржы-4 у 1962 г. М. М. Чарняўскі зафіксаваў рэшткі крэмнеапрацоўчай майстэрні. У траншэі плошчай 12 м$^2$ ён выявіў каля 3000 крамянёвых артэфактаў, пераважная большасць якіх з'яўлялася прадуктамі дэбітажу. Быў знойдзены таксама фрагмент ляпной керамікі, на паставе якога даследчык датаваў майстэрню неалітычным часам [10, с. 14; 4, с. 74; 9, с. 189]. У 1977 г. помнік вывучала В. Л. Ліпніцкая. Была праведзена шурфоўка, якая дала нешматлікі матэрыял (нарыхтоўка нуклеуса, адшчэпы) [3, с. 10]. На момант абследавання 2012 г. тэрыторыя майстэрні была задзірванелая. У выкідах з кратавіны быў знойдзены крамянёвы адшчэп.

***Даржы-6.*** *Стаянка каменнага і бронзавага вякоў.* Размешчана на краі высокай надпоймавай тэрасы р. Дзітва, на ўсход на моста, праз 40 м на ўсход ад шашы М11/Е85. Помнік быў выяўлены ў 1962 г. М. М. Чарняўскім [10, с. 14–15]. У 2012 г. на плошчы памерамі 150 × 50 м былі знойдзены 17 крамянёвых артэфактаў (двухпляцовачны нуклеус ад пласцін, які датаваны фінальным палеалітам (мал. 2: *5*), чатыры фрагменты пласцін, дзесяць адшчэпаў і іх фрагментаў, фрагмент неазначальнага сколу, дробны неазначальны крамянёвы абломак) і два фрагменты кругавога посуду.

***Даржы-7.*** *Месцазнаходжанне крамянёвага артэфакта.* На поўнач ад рабочага пасёлка каля в. Даржы, праз 0,45 км на паўднёвы ўсход ад моста на дарозе М11/Е85 і праз 70 м на ўсход ад пункта Даржы-6 на грунтовай дарозе знойдзены двухбаковы скрабач на адшчэпе.

***Даржы-8.*** *Стаянка каменнага веку.* На ўсходняй ускраіне старой часткі в. Даржы, на высокім беразе р. Дзітва на плошчы памерамі 80 × 40 м былі сабраны нешматлікія крамянёвыя вырабы (двухбаковы скрабач на адшчэпе, фрагмент пласціны, чатыры адшчэпы і іх фрагменты, лускавінка, фрагмент неазначальнага сколу).

***Даржы-9.*** *Стаянка каменнага і бронзавага вякоў.* На заходняй ускраіне старой часткі в. Даржы, на ўсход ад чыгуначнага насыпу, на мысе правабя-




Мал. 2. Знаходкі з разведак 2012 г.: *1*, *3*, *4* – Даржы-1; *2* – Даржы-9; *5* – Даржы-6. Малюнак А. У. Зуевай

рэжнай тэрасы р. Дзітва сустракаюцца крамянёвыя вырабы і кераміка. Крамянёвыя артэфакты, атрыманыя ў 2012 г., прадстаўленыя рабрыстым сколам, 17 адшчэпамі і іх фрагментамі, трыма лускавінкамі, чатырма неазначальнымі крамянёвымі абломкамі і фрагментам наканечніка стралы з біфацыяльнай апрацоўкай (мал. 2: *2*), якія датаваны познім неалітам–раннім бронзавым векам. Да гэтага часу адносяцца і два фрагменты керамікі. Яшчэ адзін фрагмент ляпнога посуду датаваны эпохай позняй бронзы.

***Даржы-10.*** *Стаянка каменнага веку.* Размешчана праз 0,55 км на захад ад старой часткі в. Даржы, на выступе залесенай правабярэжнай нізкай тэрасы р. Дзітва. Ва ўсходняй частцы помніка быў закладзены шурф памерамі 1 × 1 м. У слоі, магутнасць якога дасягала 0,3 м, былі выяўленыя чатыры адшчэпы і іх фрагменты, рабрыстая пласціна, пласціна з рэтушшу. Адзін фрагмент пласціны быў знойдзены ў выкідах з кратавіны.

***Даржы-11.*** *Стаянка каменнага веку.* Размешчана праз 1 км на паўночны захад ад вёскі і праз 70–80 м на ўсход ад высокай дзюны «Боркава гара», на плоскім павышэнні ў правабярэжным пойплаве р. Дзітва. На плошчы памерамі каля 140 × 50 м быў сабраны нешматлікі пад'ёмны матэрыял (фрагмент кругавой керамікі і тры крамянёвыя адшчэпы). У заходняй частцы помніка даследаваны шурф памерамі 1 × 1 м. Знаходкі (шэсць адшчэпаў і лускавінка) трапляліся на глыбіні да 0,45 м.

Такім чынам, у выніку разведак, праведзеных аўтарамі на тэрыторыі Лідскага раёна ў 2012 г. (мал. 1), былі выяўленыя 12 новых помнікаў каменнага–бронзавага вякоў (Агароднікі-2, Вялікія Канюшаны-4А, -6–8, Ганчары-7, -8, Даржы-7–11) і абследаваныя 11 раней вядомых пунктаў.

**Літаратура**

1. Абухоўскі, В. С. Справаздача аб археалагічных даследаваннях на Панямонні ў 2003 г. / В. С. Абухоўскі // ААНД ДНУ «Ін-т гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2099. – 28 с.

2. Лакіза, В. Л. Справаздача аб археалагічных даследаваннях на Панямонні ў 1998 г. / В. Л. Лакіза // ААНД ДНУ «Ін-т гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 1733. – 70 с.

3. Липницкая, О. Л. Отчет об археологических исследованиях Могилевской, Брестской и Гомельской областей за 1977 г. / О. Л. Липницкая // ААНД ДНУ «Ін-т гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 819. – 29 с.

4. Чарняўскі, М. М. Неаліт Беларускага Панямоння / М. М. Чарняўскі. – Мінск : Навука і тэхніка, 1979. – 144 с.

5. Чарняўскі, М. М. Справаздача аб палявых археалагічных работах на тэрыторыі Панямоння і Падзвіння ў 2002 годзе / М. М. Чарняўскі // ААНД ДНУ «Ін-т гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2011. – 89 с.

6. Чарняўскі, М. Археалагічныя работы ў басейнах Нёмана і Дзвіны ў 2002 г. / М. Чарняўскі // Гіст.-археалаг. зб. – Мінск, 2003. – № 18. – С. 255–256.

7. Чарняўскі, М. М. Справаздача аб палявых археалагічных даследаваннях у 2004 годзе / М. М. Чарняўскі // ААНД ДНУ «Ін-т гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2199. – 96 с.

8. Чарняўскі, М. Археалагічныя работы на Панямонні і Падзвінні / М. Чарняўскі // Гіст.-археалаг. зб. – Мінск, 2005. – № 20. – С. 217–218.

9. Чарняўскі, М. М. Новы тып крэмнездабыўных выпрацовак на Беларускім Панямонні / М. М. Чарняўскі // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. – Мінск : Беларус. навука, 2010. – Вып. 18. – С. 187–196.

10. Чернявский, М. М. Отчет об археологических исследованиях памятников эпохи неолита и бронзы в бассейне р. Неман в 1962–63 гг. / М. М. Чернявский // ААНД ДНУ «Ін-т гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 227. – 48 с.

**Резюме**

*В. В. Ашейчик, А. В. Зуева*

**Археологические разведки на территории Лидского района в 2012 году**

Отражены результаты археологических исследований, проведенных авторами в 2012 г. в бассейне р. Дитва. В окрестностях деревень Огородники, Великие Конюшаны, Гончары и Доржи было обследовано 23 археологических памятника каменного–бронзового веков, в том числе 12 ранее неизвестных пунктов.

**Summary**

*V. U. Asheichyk, A. U. Zuyeva*

**Archaeological Explorations on the Territory of Lida District in 2012**

The article deals with the results of archaeological explorations in the Dzitva river basin in 2012. The investigations were concentrated in the vicinity of the villages Aharodniki, Vialikija Kaniushany, Hanchary, Darzhy. As a result, 23 sites of the Stone and Bronze Ages were surveyed, 12 of which were previously unknown.

*Паступіў 19.09.2013 г.*

УДК 903.43(476.2)

***Н. Н. Дубицкая**, Институт истории НАН Беларуси, отдел археологии первобытного общества, кандидат исторических наук (г. Минск, Беларусь)*

# Раскопки городища Красная Горка в 2011 году

В 2011 г. были продолжены исследования на городище у д. Красная Горка Жлобинского района Гомельской области. Городище расположено в лесу, на правом коренном берегу р. Днепр, в урочище Городок, или Круча. Размеры площадки городища составляют 66 × 29 м, с напольной стороны оно укреплено валом и рвом (рис. 1). На площадке был разбит небольшой раскоп 12 м$^2$. Мощность культурного слоя – до 0,6 м. Материк – желтый песок с линзами красноватой глины. Всего на городище изучено 60 м$^2$.

В 2011 г. на городище Красная Горка найдено несколько индивидуальных находок: поясная накладка, обломок тигля, человеческая кальцинированная косточка. Накладка и косточка происходят из культурного слоя (гл. 0,4 м), обломок тигля найден в яме (гл. 0,6 м). Обломок поясной накладки с заклепкой изготовлен из цветного металла, возможно, с высоким содержанием свинца (рис. 2: *5*). Накладка побывала в огне. В этом же квадрате и на той же глубине выявлена человеческая кальцинированная косточка (пястная) (определение И. И. Саливон). Также в этом же квадрате выявлены еще три кремированные косточки, из них две косточки обнаружены на глубине 0,3–0,4 м, третья косточка найдена несколько выше – на глубине 0,2 м. Следует отметить, что кремированные человеческие косточки в культурном слое городища встречались и в предыдущие годы. Предположительно можно сказать, что накладка и пястная косточка могут происходить из одного погребения. Не исключено, что остальные три косточки также могут относиться к погребениям. Грунтовые погребения на площадке городищ зафиксированы на ряде милоградских памятников (Горошков, Любны, Мохов-1) [1, с. 37]. Однако там речь идет о погребениях в ямах, отмеченных в материке. На городище Красная Горка такие погребения не зафиксированы. Можно, конечно, предположить, что мы имеем дело с погребальными ямами, не заглубленными в материк. Как было отмечено, накладка и косточка найдены на глубине 0,4 м при средней мощности культурного слоя на данном участке 0,5–0,6 м.

Основной археологический материал – обломки керамической посуды. Вся посуда изготовлена вручную, без использования гончарного круга. Отдельные обломки посуды ошлакованы. Всего в 2011 г. найдено 212 обломков посуды, из них 27 венчиков, 182 стенки, 3 днища.

Вся посуда изготовлена из озерно-аллювиальных глинистых пород, преимущественно гидрослюдистого минерального состава. В керамической массе, судя по визуальным наблюдениям, присутствуют дресва кристаллических пород, измельченный керамический бой (шамот). По-видимому,




Рис. 1. План-схема размещения раскопов. Городище Красная Горка. Жлобинский район. Гомельская область. 2011 г.




Рис. 2. Керамика (*1–5*). Городище Красная Горка. Жлобинский район. Гомельская область. 2011 г.

с ритуальными целями в состав керамических масс местные гончары добавляли зерна культурных злаков. На городище Красная Горка, как и на городище Отрубы, для этих целей использовали в основном мелкие зерна проса. Обжиг сосудов – костровой – происходил в условиях окислительной и редукционной газовой среды. Преобладал редукционный обжиг. Температуры обжига варьировали в диапазоне 550–750 ºС.

Большинство посуды относится к милоградской археологической культуре. По способам обработки поверхности вся керамика делится на гладкостенную нелощеную посуду и посуду, покрытую штриховкой. В 2004 г. выявлена керамика с лощением.

Керамика со штриховкой из раскопок 2011 г. составляет 13,2% от общего количества обломков посуды (28 фр.). Для сравнения в 2004 г. керамика со штриховкой составляла 18,3%, в 2006 г. – 9, в 2007 г. – 11,6%. Это значительно больше, чем на более южных памятниках. Например, на городище Отрубы доля штрихованной посуды не превышает 4–6%.

Милоградская посуда на городище представлена горшками разных размеров. Как правило, это кухонные горшки. На городище Красная Горка также известны миниатюрные сосуды, которые отличаются своей исключительной миниатюрностью, в частности диаметр верхней части сосудиков равен 2–3 см. Всего на городище выявлены обломки четырех таких сосудиков (2004 г. – 3 экз., 2007 г. – 1 экз.). Толщина стенок сосудов – 0,3–1,0 см. Встречены как округлые, так и плоские днища сосудов.

По профилировке верхней части для милоградской посуды городища Красная Горка характерны развитые профилированные формы с отогнутым наружу венчиком и хорошо выраженной шейкой (рис. 2: *1–4*; 3: *1–2*).

Часть милоградских сосудов на городище Красная Горка орнаментирована. Чаще всего элементы декора наносили на шейку сосуда, иногда выше шейки. Для милоградского керамического комплекса на городище характерны следующие виды орнамента: жемчужный, ямочный, тычковый, насечки. Наиболее ранним (VI–IV вв. до н. э.) является жемчужный орнамент. Его наносили путем выдавливания круглой палочкой изнутри еще необожженного сосуда (рис. 2: *3*). Орнамент, как правило, наносили ниже края венчика, но выше шейки. Керамика с «жемчужным» орнаментом выявлена в 2002, 2004, 2007, 2011 г. Самым распространенным видом орнамента на милоградских горшках на городище Красная Горка является ямочный орнамент по шейке сосуда (рис. 2: *2*; 3: *1–2*), а также его разновидность – ямочно-тычковый орнамент (рис. 2: *4*). Ямки имеют, преимущественно, круглую форму, иногда удлиненную форму. Для нанесения ямок использовали палочки или трубчатые кости. Диаметр ямок – 0,4–0,7 см. Менее распространенный элемент декора – насечки. Зоной его нанесения также являет-




Рис. 3. Керамика (*1–3*). Городище Красная Горка. Жлобинский район. Гомельская область. 2011 г.

ся шейка сосуда. Обломки таких сосудов найдены и в 2011 г. (рис. 2: *1*).

В культурном слое городища Красная Горка встречаются немногочисленные обломки постзарубинецких горшков. Часть посуды орнаментирована. Зоной нанесения орнамента является край венчика (насечки, пальцевые вдавления) (рис. 3: *3*). Постзарубинецкая посуда встречена в 2004, 2006, 2011 г., в 2007 г. такой посуды не встречено. В 2004 г. найдены обломки подлощеных сосудов.

Полученный археологический материал 2011 г. подтверждает результаты исследований 2002, 2004, 2006, 2011 г. Городище уд. Красная Горка было сооружено населением милоградской культуры в VI–IV вв. до н. э. на месте поселения эпохи бронзы и неолита (материалы неолита и бронзы выявлены в 2004 и 2006 г.). На раннюю дату (VI–IV вв. до н. э.) указывают, прежде всего, находки керамики с «жемчужным» орнаментом. Городище Красная Горка является самым северным памятником в Восточном Полесье, содержащим ранние материалы и относящимся к кругу классических милоградских памятников типа Милоград–Горошков.

Интересным является находки в культурном слое городища кремированных человеческих косточек (2007, 2011 г.). Находка пястной кремированной косточки вместе с обломком поясной накладки свидетельствует о возможном происхождении их из одного погребения. К сожалению, погребальные ямы, если они действительно являлись таковыми, не были углублены в материк, а проследить их в толще культурного слоя не представляется возможным. Как упоминалось выше, на милоградских памятниках Белорусского Поднепровья известны грунтовые погребения на площадках городищ (Горошков, Любны, Мохов-1). Однако все они зафиксированы в материковых погребальных ямах, преимущественно, круглой формы [1, с. 37]. Известно, что в настоящее время на территории Беларуси в эпоху раннего железного века только для милоградской культуры выявлены погребальные памятники. Для соседней культуры штрихованной керамики погребальные объекты не известны. С определенной долей вероятности можно предположить, что «штриховики» могли кремированный прах своих одноплеменников развеивать по площадке городища. Кремированные косточки вместе с остатками погребального инвентаря оседали на почву и постепенно перемешивались с культурным слоем. Не исключено, что подобный обряд погребения, заимствованный у соседей-«штриховиков», мог иметь место и на городище Красная Горка.

На городище Красная Горка присутствует небольшой горизонт, относящийся к первой половине 1-го тысячелетия н. э. Он представлен обломками лепных горшков, некоторые из которых декорированы насечками и вдавлениями по краю венчика. Отмечена подлощеная керамика (2004 г.).

**Литература**

1. Лашанкоў, М. І. Археалагічныя помнікі мілаградскай культуры / М. І. Лашанкоў // Мілаградская і паморская культуры // Жалезны век і ранняе сярэднявечча // Археалогія Беларусі : у 4 т. – Мінск : Беларус. навука, 1999. – Т. II. – С. 29–39.

**Рэзюмэ**

*Н. М. Дубіцкая*

**Раскопкі гарадзішча Чырвоная Горка ў 2011 годзе**

Падведзены вынікі палявых даследаванняў на гарадзішчы Чырвоная Горка ў 2011 г. Атрыманы ў 2011 г. археалагічны матэрыял пацвярждае вынікі папярэдніх гадоў. Аднак высвятляюцца некаторыя новыя моманты, якія звязаны з пахавальнай абраднасцю мясцовага насельніцтва. У прыватнасці, ёсць меркаванне, што знойдзеныя ў культурным пласце гарадзішча крэміраваныя чалавечыя косткі сумесна з асобнымі рэчамі, на якіх таксама захаваліся сляды абпалу, паходзяць з пахаванняў, рэшкі якіх складана выявіць у культурным пласце, альбо, магчыма, гэта пахавальны абрад, калі крэміраваныя рэшкі развейвалі над пляцоўкай гарадзішча.

**Summary**

*N. N. Dubitskaya*

**Excavation of the hill-fort of Krasnaya Gorka in 2011**

The article sums up the results of excavations on the hill-fort of Krasnaya Gorka in 2011. The archeological material of this year confirms the previous results. However some new moments connected with funeral tradition of local population were given. In particular, there are bases to assume, that the cremated human bones with burnt artifacts in some parts of the layer could be pointed to remains of burials or to the funeral ceremony when the cremations were blown above the place of hill-fort.

*Поступила 20.09.2013 г.*

*УДК [902/904+908](476)*

***Л. У. Калядзінскі,*** *Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, старшы навуковы супрацоўнік, кандыдат гістарычных навук (г. Минск, Беларусь);*
***М. С. Мароз****, Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Я. Купалы, суіскальнік (г. Минск, Беларусь);*
***В. Я. Родзін****, краязнавец (г. Минск, Беларусь)*

# Курганная група Садкі

Курганная група Садкі размешчана ў 400–500 м на паўднёвы ўсход ад в. Садкі Слабада-Кучынскага сельсавета Капыльскага раёна Мінскай вобласці, у лясным масіве пад назвай «Дзедаў лес», ва ўрочышчы «Пагулянка». Адносна Капыля гэтая група знаходзіцца ў 18 км на паўночны ўсход. Лясны масіў «Дзедаў лес» і курганная група нанесены на карце РККА 1936 г., складзенай ў маштабе 1 : 500. Праўда, курганная група пазначана як прыродныя пагоркі. На гэтай карце в. Садкі, каля якой сёння знаходзяцца курганы, мае назву «Старыя Садкі». Акрамя як на гэтай карце яна больш нідзе не зафіксавана.

Курганная група Садкі ўпершыню была выяўлена ў чэрвені 2011 г. Вячаславам Яўгенавічам Родзіным, жыхаром г. Мінска, які цікавіцца помнікамі культуры Капыльскага раёна і раз-пораз наведвае гэты раён. У ліпені таго ж года па прапанове В. Родзіна гэтую курганную групу аглядалі Л. У. Калядзінскі, М. І. Лашанкоў, М. С. Мароз, калі накіроўваліся ў Капыльскі раён для работы з калекцыяй артэфактаў з раскопак Капыльскага замчышча. Інфармацыя пра выяўлены помнік была перададзена ў Капыльскі краязнаўчы музей і аддзел культуры Капыльскага райвыканкама. Тады і ўзнікла думка зафіксаваць помнік з мэтай ўнесці яго ў «Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь». Для гэтага неабходна было правесці на гэтым помніку папярэднія даследаванні: зняць план могільніка, зрабіць яго апісанне і фотафіксацыю, і раскапаць 2–3 курганы з мэтай высвятлення датавання помніка і яго культурнай прыналежнасці[1]. У красавіку 2012 г. кіраўніцтва Капыльскага раёна звярнулася з хадатайніцтвам у Інстытут гісторыі НАН Беларусі аб выдачы Дазволу на імя Л. Калядзінскага на археалагічныя даследаванні гэтага помніка.

Быў зняты план курганнай групы, зроблена яе апісанне і фотафіксацыя, а таксама раскапаны адзін з курганоў [5].

Курганная група Садкі выцягнута ў накірунку захад–усход. Колькасць курганоў у групе – 90. Дыяметр іх у аснове складае 6–14 м, вышыня – 1,0–1,8 м, але сустракаюцца і зусім невысокія курганы – 0,3 м. Прыемна адзначыць, што курганы абсалютна цэлыя, не пашкоджаныя аматарскімі раскопкамі ці гаспадарчымі работамі. На большасці з іх растуць дрэвы: граб, бяроза, ёлка. Адзін з курганоў, паводле палявой дакументацыі за № 50, невялікі па памерах і свабодны ад дрэў, быў абраны намі для раскопак.

Гэты курган меў паўсферычную форму і ў плане быў блізкі да круга. Вышыня кургана – 60 см, дыяметр у аснове – 4,9–5,0 м. Раскопкі кургана ажыццяўлялі па сектарах, размешчаных адзін адносна другога па дыяганалі. Распрацоўку насыпу вялі пластамі таўшчынёй 20 см і ажыццяўлялі зверху ўніз (ад вяршыні насыпу да яго асновы). Грунт з насыпу кургана праглядалі і празванівалі металадэтэктарам «Deus».

Што паказалі раскопкі? Зверху на таўшчыню ад 20 да 10 см курганны насып пакрывае гумусаваны рыхлы пласт светла-шэрага колеру, які ўтварыўся ў выніку паступовага сезоннага адкладання раслінных рэштак: травы і лісця дрэў. Затым да самай асновы кургана, да мацерыка, ідзе слой светла-жоўтага дробназярністага пяску, у якім дзе-нідзе сустракаліся драбнюткія ўключэнні вугалю.

У паўднёва-заходнім сектары кургана, на глыбіні 50 см ад дзённай паверхні яго насыпу, сустрэты вугаль памерамі 1,5 × 2,0 см. У гэтым жа сектары на глыбіні 20 см сустрэты і камень памерамі 13 × 14 см. У паўночна-ўсходнім сектары кургана на глыбіні ад 10 да 20 см на ўзроўні дзённай паверхні насыпу сустрэты шэсць камянёў памерамі ад 10 × 15 да 13 × 20 см. Якой-небудзь канструкцыі гэтыя камяні не ўтвараюць. Аснова кургана – мацярык, супесак жаўтаватага колеру, шчыльны і троху цямнейшы па колеры за насып кургана. Наўкола насыпу кургана, амаль па ўсёй яго акружнасці, прасочаны равок. Яго глыбіня складае ад 80 да 90 см, а шырыня – ад 60 да 80 см. Запоўнены равок падгумусаваным жоўтым пяском. Перамычка ровіка прыпадае на паўночны схіл насыпу кургана.

Ровікі, якія ахопліваюць аснову насыпу кургана, – з'ява даволі распаўсюджаная [1, с. 11–16]. Адносна паходжання і прызначэння ровікаў наўкола курганоў адназначнай думкі няма. Па сцвярджэнні адных даследчыкаў, ровікі ўтвараліся ў выніку выемкі грунту для ўзвядзення насыпу кургана, таму шукаць тут якое-небудзь рэлігійнае дзеянне не варта [3, с. 221–235]. На думку іншых, ровікі стара-

[1] У жніўні 2011 г. М. С. Мароз налічыў у гэтай групе 39 курганоў.




Венчык (*1*) і днішча (*2*) посуду (рэканструкцыя). Гліна. XI ст. Курган № 50. Урочышча «Дзедаў лес». Капыльскі раён. Мінская вобласць. 2012 г.

жытнейшых славянскіх курганоў маглі мець і рытуальнае значэнне [8, с. 101]. Не высветлена да канца і прызначэнне перамычак у ровіках. Мелі яны толькі ўтылітарнае прызначэнне ці ім надаваліся яшчэ і пэўныя сакральныя функцыі [1, с. 15].

Пахаванне ў кургане не выяўлена. Са знаходак сустрэты два фрагменты керамікі, якія знойдзены ў запаўненні ровіка ля заходняга схілу насыпу кургана на глыбіні 80 см ад узроўню асновы кургана. Гэтыя два фрагменты керамікі маглі апынуцца ў запаўненні ровіка выпадкова, а маглі быць і слядамі жальбін, якія на думку Генрыха Татура маглі спраўляцца каля кургана ці на яго схілах [9, с. 132]. Знойдзеныя два фрагменты керамікі прадстаўлены венчыкам і фрагментам днішча.

Венчык (гл. малюнак: *1*) мае памеры 5 × 18 см, таўшчыню сценкі 5–7 мм, па колеру карычневата-шэры. На зломе шматслойны, ракавісты. У цесце відаць дамешак жарствы. Венчык моцна прафіляваны, па знешнім краі мае косы зрэз, а пасярэдзіне шыйкі – слаба выразны карнізік. Па плечыках посуду зроблены частыя і неглыбокія канелюры. Рэдкія бараздачкі назіраюцца і на зрэзе венчыка. Унутраная частка венчыка мае сляды накіпу, нагару, што сведчыць пра адносна доўгі тэрмін ужытку гэтага посуду.

Кераміка такога кшталту, дзе венчык мае са знешняга боку трохвугольны выступ (карнізік), сустракаецца на помніках Беларускага Панямоння, Тураўскага княства і ў Паўднёвых рэгіёнах Полацкай зямлі. Датавана гэта кераміка канцом X – пачаткам XI ст. [6, с. 91–145]. Сустракалася яна і ў нашых раскопках на тэрыторыі колішняга вакольнага горада Капыля [4, с. 246–256, мал. 3]. Увогуле, гэты тып посуду эсападобнага профілю з косым зрэзам венчыка і адцяжкай (трохвугольным выступам, карнізікам, псеўдавалікам) вядомы практычна на ўсіх старажытнарускіх паселішчах [2, с. 132–140]. Праўда, для кожнага рэгіёна ўсходнеславянскага абшару можа існаваць «сваё» больш вузкае ці наадварот больш шырокае датаванне. Але несумненна, што такая кераміка ўласціва для XI ст.

Фрагмент знойдзенага пры раскопках днішча (гл. малюнак: *2*) мае памеры 4 × 4 см і таўшчыню 5 мм. Колер чарапка карычневата-шэры. У зломе трохслойны, ракавісты з дамешкам жарствы. На знешнім баку днішча захаваўся фрагмент кляйма – частка круга і два промні. Відаць, у цэлым выглядзе гэта была шматпрамянёвая (6- або 8-прамянёвая) зорка, упісаная ў круг. Разглядаць гэтае кляймо можна як кляймо майстра і як салярны сімвал, вядомы па шматлікіх узорах керамічнага посуду [7, с. 58–63].

Першаснае вывучэнне могільніка сведчыць, што дадзены помнік выяўлены ўпершыню і нідзе раней у літаратурных крыніцах не фіксаваўся. Помнік даволі прадстаўнічы – налічвае 90 насыпаў. Ён цудоўна захаваўся, на ім няма слядоў якіх-небудзь разбурэнняў.

Але на падставе раскопак толькі аднаго невялікага кургана цяжка што-небудзь упеўнена гаварыць пра абрад пахавання і яго датаванне, паколькі пахаванне ў кургане не выяўлена. Знаходка венчыка глінянага посуду спецыфічнага профілю і аздаб-

лення, уласцівых для посуду X–XI ст., дазваляе ў некаторай ступені меркаваць, што курган адносіцца да гэтага часу. Тым не менш заўважым, што венчык быў знойдзены не ў насыпе кургана, а ў ровіку, дзе ён мог аказацца і выпадкова. Таму ёсць патрэба ў працягу даследаванняў на гэтым помніку.

Для атрымання дадатковай інфармацыі неабходна раскапаць яшчэ два-тры курганы ў розных частках гэтай групы. Пажаданым выглядае і пошук селішча, дзе пражывала насельніцтва, якое ўзводзіла гэтыя курганы.

## Літаратура


1. Авдусин, Д. А. Ровики славянских курганов / Д. А. Авдусин // Древности Восточной Европы. МИА. – М., 1969. – № 169. – С. 11–16.
2. Горюнова, В. М. Датирующие возможности раннегончарной керамики X – начала XI в. / В. М. Горюнова // Российская археология. – М., 2009. – № 4. – С. 132–140.
3. Завитневич, В. З. Формы погребального обряда в могильных курганах Минской губернии / В. З. Завитневич // Труды IX Археологического съезда в Вильне 1893 года / под ред. Л. С. Уваровой, С. С. Слуцкого. – 1895. – Т. 1. – С. 221–235.
4. Калядзінскі, Л. Капыль–2007 : Вынікі палявых даследаванняў / Л. Калядзінскі // Гіст.-археалаг. зб. – Мінск, 2008. – Вып. 24. – С. 246–256.
5. Калядзінскі, Л. Справаздача аб археалагічных даследаваннях у Капыльскім раёне ў 2012 г. курганнай групы каля в. Дунаева–Садкі / Л. Калядзінскі // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Мінск, 2013.
6. Малевская, М. В. Керамика западнорусских городов X–XIII вв. / М. В. Малевская // Труды ИИМК РАН. – СПб., 2005. – Т. XVII. – С. 91–145.
7. Плавинский, А. Н. К вопросу о гончарных клеймах / А. Н. Плавинский // Славяне и их соседи (археология, нумизматика, этнография). – Минск, 1998. – С. 58–63.
8. Седов, В. В. Древнерусское языческое святилище в Перыне / В. В. Седов // КСИИМК. – 1953. – Вып. 50.– С. 101.
9. Татур, Г. Х. Курганы Минской губернии / Г. Х. Татур // Труды IX Археологического съезда в Вильне 1893 года / под ред. Л. С. Уваровой, С. С. Слуцкого. – 1897. – Т. 2.– С. 132.



## Резюме

*Л. В. Колединский, Н. С. Мороз, В. Е. Родин*

**Курганная группа Садки**

В публикации приводятся данные о новом памятнике археологии, выявленном в 2011 г., – курганной группе у д. Садки Копыльского района Минской области. Памятник насчитывает 90 курганов, имеющих хорошую сохранность. Высота курганов – 1,0–1,8 м, диаметр основания – 6–14 м. Раскопан один из курганов. В заполняющем слое курганного ровика выявлена керамика XI в. Самого погребения в кургане не обнаружено. Предварительно памятник можно отнести к XI в. Однако для получения более достоверных сведений о его датировке и культурной принадлежности необходимо провести дальнейшие исследования.



## Summary

*L. V. Koledinsky, N. S. Moroz, V. E. Rodin*

**Kurganny group Sadky**

The new monument of archeology is revealed in 2011. It is kurganny group which is placed near the village Sadky in the Kopylsky district. The monument consists of 90 barrows which have good safety. Height of barrows of 1,0–1,8 m, diameter of barrows in the basis of 6–14 m. The author explored only one barrow. The ceramics of the 11$^{th}$ century is revealed. The burial in a barrow it isn't revealed. Previously the monument can be carried to the 11$^{th}$ century. However, further researches are necessary for bigger clarity about its dating and cultural accessory.


*Паступіў 23.09.2013 г.*

*УДК 902.21(476)*

***А. Ф. Касюк,** Інстытут гісторыі НАН Беларусі, аддзел археалогіі сярэдніх вякоў і Новага часу, малодшы навуковы супрацоўнік (г. Мінск, Беларусь);*

***А. М. Вашанаў,** Інстытут гісторыі НАН Беларусі, аспірант (г. Мінск, Беларусь)*

# Вынікі археалагічных даследаванняў на Палессі ў 2012 годзе

У 2012 г. аўтары артыкула праводзілі археалагічныя разведкі на поўдні Беларусі – ў Драгічынскім раёне Брэсцкай вобласці, Мазырскім і Калінкавіцкім раёнах Гомельскай вобласці.

У ***Драгічынскім раёне*** ў рамках працы па інвентарызацыі помнікаў археалогіі, уключаных у «Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь», былі агледжаны адзіночныя курганы XI–XIII стст. каля в. Брашэвічы і в. Ялач, гарадзішча XI–XIII стст. каля в. Старамлыны, селішча VI ст. да н. э. – VIII ст. н. э. і рэшткі былога замка Вішнявецкіх (XVII–XVIII стст.) каля в. Жабер. Падчас правядзення работ, было зафіксавана некалькі новых месцазнаходжанняў археалагічных матэрыялаў.

**Закозель-1** – месцазнаходжанне з матэрыяламі каменнага–бронзавага вякоў, ранняга жалезнага веку (?) (мал. 1: *1*). Размешчана за 1,5 км на поўнач ад вёскі, на левым беразе канала Валавельскі, на ўзвышэнні даўжынёй каля 800 м. Усходняя і цэнтральная часткі ўзвышэння разворваюцца, заходняя частка выбрана кар'ерам. Культурны пласт таўшчынёй 0,35–0,40 м прадстаўлены супескам шэрага колеру. На помніку былі знойдзены медыяльная частка рэгулярнай пласціны (мал. 2: *1*), дзве лускі, сем фрагментаў сценак ляпных пасудзін, у тым ліку адзін фрагмент з адтулінамі (ранні жалезны век ?) (мал. 2: *2*) і фрагмент пасудзіны эпохі бронзы (тшцінецкае культурнае кола (?), далей – ТШК)[1], фрагмент кальцыніраванай косткі.

**Ялач-1** – месцазнаходжанне з матэрыяламі фінальнага палеаліту, мезаліту–неаліту і бронзавага веку (мал. 1: *2*). Знаходзіцца за 150 м на ўсход ад в. Ялач, з левага боку ад дарогі ў в. Язвіны. На разаранай паверхні поля былі знойдзены: тры адшчэпы звычайныя, адшчэп скарыністы, пласціна падскарыністая са слядамі двухпляцовачнасці (мал. 2: *5*), медыяльная частка рэгулярнай пласціны (мал. 2: *4*), тры фрагменты сценак пасудзін ТШК (?).

**Ялач-2** – месцазнаходжанне з матэрыяламі каменнага–бронзавага вякоў (мал. 1: *3*). Выяўлена за 0,8–1,0 км на поўнач ад вёскі, з правага боку ад дарогі ў Драгічын, на ўзвышэнні. Разворваецца, паўднёвая частка выбрана кар'ерам. На помніку былі знойдзены дыстальная частка пласціны, фрагмент адшчэпа, два фрагменты сценак ляпных пасудзін, на адным – арнамент з пракрэсленых ліній; ТШК (мал. 2: *3*).

**Язвіны-2** – месцазнаходжанне з матэрыяламі каменнага–бронзавага вякоў (мал. 1: *4*). Размешчана за 0,5–0,7 км на поўнач ад заходняй ускраіны вёскі, з левага боку ад дарогі ў в. Ляжыткавічы, насупраць вясковых могілак. На паверхні разаранага поля былі знойдзены адшчэп падскарыністы, адшчэп звычайны з рэтушшу, фрагмент праколкі з вылучаным джалам (мал. 2: *6*).

**Ліпнікі-1** – месцазнаходжанне з матэрыяламі каменнага–бронзавага вякоў (мал. 1: *5*). Знаходзіцца за 0,6 км на захад ад вёскі, з правага боку ад дарогі ў Драгічын. На паверхні разаранага поля былі знойдзены пласціна скарыністая з рэтушшу (мал. 2: *7*), скрабок на пласціне з прамой скошанай працоўнай часткай (мал. 2: *8*).

**Ліпнікі-2–4** (мал. 1: *6–8*) – месцазнаходжанні з матэрыяламі каменнага веку, эпохі бронзы, жалезнага веку (?). Размешчаны за 0,8–1,5 км на захад ад вёскі, з левага боку ад дарогі ў Драгічын, на трох узвышэннях, паверхня якіх разворваецца. На помніку *Ліпнікі-2* былі знойдзены фрагмент адшчэпа і абломак дробны неазначальны з рэтушшу. *Ліпнікі-3* – скол аднаўлення пляцоўкі нуклеуса. *Ліпнікі-4* – два адшчэпы звычайныя, фрагмент адшчэпа, абломак дробны неазначальны, луска, а таксама фрагмент сценкі ляпной пасудзіны з дамешкай жарствы і шамоту.

Разведкі ў ***Мазырскім раёне*** пачаліся з агляду наваколляў г. п. Пхоў. Першыя звесткі аб помніках археалогіі каменнага веку–эпохі жалеза на тэрыторыі пасёлка і каля яго, былі атрыманы ў 1926–1927 гг. у выніку паверхневых збораў І. Р. Калодкіна і Б. І. Федаракі [11]. У 1961–1962 гг. палявыя даследаванні тут праводзіў У. Ф. Ісаенка [1, с. 77–80; 2, с. 29–30].

**Пхоў-2** – паселішча з матэрыяламі каменнага–бронзавага вякоў, першай паловы І тысячагоддзя н. э. (мал. 3: *2*). Размешчана на заходняй ускраіне пасёлка Пхоў, на левым беразе р. Ненач. Даўжыня помніка – каля 300 м. Выявіў у 1926 г. Б. І. Федарака, даследаваў у 1961–1962 гг. У. Ф. Ісаенка. У 1961 г. былі зафіксаваны сляды аб'ектаў (жытлаў), на пясчаных агаленнях сабраныя знаходкі каменнага–брон-

[1] Вызначэнне керамікі эпохі неаліту–бронзавага веку і малюнкі зроблены кандыдатам гістарычных навук, старэйшым навуковым супрацоўнікам аддзела археалогіі першабытнага грамадства Інстытута гісторыі НАН Беларусі Мікалаем Мікалаевічам Крывальцэвічам.




Мал. 1. Лакалізацыя помнікаў: *1* – Закозель-1; *2* – Ялач-1; *3* – Ялач-2; *4* – Язвіны-1; *5* – Ліпнікі-1; *6* – Ліпнікі-2; *7* – Ліпнікі-3; *8* – Ліпнікі-4. Драгічынскі раён. Брэсцкая вобласць. 2012 г.




Мал. 2. Крамянёвыя вырабы (*1, 4–8*) і ляпная кераміка (*2, 3*) з помнікаў Закозель-1 (*1, 2*), Ялач-1 (*4, 5*), Ялач-2 (*3*), Язвіны-1 (*6*), Ліпнікі-1 (*7, 8*)




Мал. 3. Лакалізацыя помнікаў: *1, 13–19* – Калінкавіцкі раён; *2–12* – Мазырскі раён; *1* – Рудня Горбавіцкая-3; *2* – Пхоў-2; *3* – Баравікі-2; *4* – Баравікі-6, -6А; *5* – Новікі (дачы)-1; *6* – Новікі (дачы)-2; *7* – Новікі (дачы)-2А; *8* – Лубня-7; *9* – Лубня-8; *10* – Лубня-9; *11* – Лубня-10, -10А; *12* – Лубня-6; *13* – Града-4; *14* – Шарэйкі-1; *15* – Шарэйкі-3; *16* – Юравічы-6; *17* – Юравічы-2; *18* – Слабодка-1; *19* – Абухаўшчына-2. 2012 г.

завага вякоў, першай паловы I тысячагоддзя н. э. У заходняй частцы паселішча, каля павароту р. Ненач, сустракалася славянская кераміка, у тым ліку з хвалістым арнаментам [1, с. 79–80]. Яшчэ ў 1960-х гадах адзначалася, што тэрыторыя пасёлка актыўна пашыраецца [1, с. 79]. Падчас агляду помніка ў 2012 г. было ўстаноўлена, што ён цалкам забудаваны.

Каля в. Баравікі былі агледжаны два вядомыя паселішчы.

**Баравікі-2** – стаянка каменнага–бронзавага вякоў (мал. 3: *3*). Размешчана за 2 км на поўнач ад вёскі, за 0,2 км на захад ад шашы Мазыр–Калінкавічы, на паўднёвым беразе воз. Уюнец. Помнік выяўлены ў 1979 г. У. Ф. Ісаенкам, займае паўночную ўскраіну пясчанага ўзвышэння [6, с. 19].




Мал. 4. Крамянёвыя вырабы (*1–4, 10*) і ляпная кераміка (*5–9, 11, 12*) з помнікаў Баравікі-6 (*1–9*) і Баравікі-6А (*10–12*)

Паверхня помніка пашкоджана ўздзеяннем ветравой эрозіі. Падчас агляду паселішча ў 2012 г. на агаленнях культурнага пласта былі сабраны фрагмент сценкі пасудзіны шнуравой керамікі палескага тыпу (далей – ШКПТ), абломак дробны неазначальны, адшчэп звычайны.

**Баравікі-6 (Мазыр)** – паселішча з матэрыяламі эпохі каменнага веку–бронзы, паселішча і бескурганны могільнік (?) эпохі бронзы–жалезнага веку, селішча XVII–XVIII стст. (мал. 3: *4*). Размешчана за 0,7 км на паўднёвы ўсход ад в. Баравікі, каля геадэзічнага знака, на ўзвышэнні, якое цягнецца ўздоўж дзюннай грады. Даўжыня паселішча – каля 250 м, па ім праходзіць палявая дарога. З поўначы тэрыторыю помніка ад дзюн аддзяляе зарослая лагчына, а з поўдня падступае поплаў. Помнік выявіў у 1960-я гады У. Ф. Ісаенка, прывязаў яго да Мазыра [1, с. 76].

На момант абследавання заходняя частка помніка была пашкоджана лесапасадкай. Культурны пласт прадстаўлены супескам карычневага колеру. Месцамі трапляюцца рэшткі разбураных аб'ектаў у выглядзе плям цёмна-шэрага колеру, часам з попелам і абпаленымі камянямі. Зафіксавана вялікая колькасць ляпной керамікі і апрацаванага крэменю. Сабрана 10 фрагментаў кальцыніраваных костак.

Калекцыя крамянёвых артэфактаў налічвае 54 адзінкі: вастрыё тыпу Ставінога (мал. 4: *1*), асіметрычная трапецыя (мал. 4: *2*), яніславіцкае вастрыё са зламанай асновай (мал. 4: *3*), фрагмент наканечніка стралы з біфацыяльнай апрацоўкай (мал. 4: *4*), франтальны скол падпраўкі пляцоўкі нуклеуса, фрагмент нуклеуса, скрабок на адшчэпе, скрабач на адшчэпе, медыяльная частка пласціны з рэтушшу, тры фрагменты рэгулярных пласцін, фрагмент рабрыстай пласціны, пласціна скарыністая, два фрагменты адшчэпаў з рэтушшу, дзесяць адшчэпаў звычайных (у тым ліку два фрагменты), два адшчэпы скарыністыя (у тым ліку адзін фрагмент), адшчэп падскарыністы, сем абломкаў дробных неазначальных, тры фрагменты сколаў неазначальных, два фрагменты канкрэцый з негатывамі асобных сколаў, трынаццаць лусак.

Ляпная кераміка эпохі неаліту прадстаўлена абломкамі пасудзін усходнепалескага варыянта днепра-данецкай культуры (далей – ДДК) – 123 фрагменты, сярод якіх без арнаменту – 76 фрагментаў, з грабенчатым арнаментам – 14, з адступаючымі ямкамі і наколамі – 22, з насечкамі – 2, з пракрэсленымі лініямі – 10, а таксама 2 фрагменты сценак пасудзін ШКПТ з лінейным штампам (мал. 4: *8, 9*). Сярод знаходак таксама ёсць абломкі гаршкоў ТШК: патоў-

шчанае венца з ангабаванай паверхняй (мал. 4: *5*), фрагмент шыйкі і два фрагменты сценак з «ружанцовым» арнаментам (мал. 4: *6*, *7*), фрагмент сценкі ляпной пасудзіны са слядамі дзёгцю на ўнутранай паверхні. Паверхня пасудзін эпохі бронзы гладкая, жаўтаватага колеру, таўшчыня сценак – 0,5 см, у цесце дамешка жарствы сярэдніх і вялікіх памераў, белага і ружовага колеру. Акрамя таго, былі знойдзены два фрагменты пасудзін эпохі бронзы–ранняга жалезнага веку (?), чатыры фрагменты венцаў і шыек пасудзін мілаградскай культуры (два – з «жемчужным» арнаментам), дваццаць фрагментаў пасудзін жалезнага веку–ранняга сярэдневякоўя (?), сабрана пяць абломкаў ганчарных пасудзін XVII–XVIII стст. Таксама на помніку знойдзена медная манета, якая была вызначана як падробка пад медны шэляг Яна II Казіміра Вазы[1].

Такім чынам, на помніку можна вылучыць некалькі культурна-храналагічных кампанентаў. Ранні мезаліт – кудлаеўска-каморніцкі тэхнакомплекс; позні мезаліт – янiславіцкая культура; неаліт – ДДК, ШКПТ; бронзавы век – ТШК, ранні жалезны век – мілаградская культура. У невялікай колькасці прысутнічае ляпная кераміка жалезнага веку, культурную прыналежнасць якой вызначыць складана, а таксама ганчарная кераміка XVII–XVIII стст.

У паўднёвай частцы паселішча Баравікі-6 ад асноўнай тэрыторыі помніка вузкім ярам аддзелена невялікая паляна, на паверхні якой таксама сустракаюцца археалагічныя матэрыялы. Пункт з'яўляецца працягам помніка Баравікі-6, пазначаны намі як **«Баравікі-6А»** (мал. 3: *4*). Тут былі знойдзены медыяльная частка рэгулярнай пласціны (мал. 4: *10*), восем фрагментаў сценак пасудзін ДДК, дзевяць фрагментаў пасудзін мілаградскай культуры (мал. 4: *11, 12*).

Некалькі месцазнаходжанняў апрацаванага крэменю, ляпной і ганчарнай керамікі былі зафіксаваны з левага боку ад шашы Мазыр–Калінкавічы і моста праз Прыпяць. **Новікі (дачы)-1** – за 1,5 км на паўночны захад ад пасёлка дачнага тыпу Новікі (з правага боку ад шашы), на вузкім (да 30 м), выцягнутым дугой узвышэнні сярод поплава Прыпяці (мал. 3: *5*). На агаленнях культурнага пласта знойдзены фрагмент сценкі раннеганчарнай (?) пасудзіны.

**Новікі (дачы)-2** – месцазнаходжанне з матэрыяламі каменнага–бронзавага вякоў, эпохі мезаліту (мал. 3: *6*). Размешчана за 0,7 км на паўночны захад ад пасёлка Новікі, на ўзвышэнні. На палявой дарозе былі сабраны скрабач на сколе падпраўкі пляцоўкі нуклеуса (мал. 5: *1*), скрабач на адшчэпе (мал. 5: *2*), разец двухгранны бакавы (мал. 5: *3*), адшчэп падскарыністы з участкам дробнай рэтушы па краі, 4 адшчэпы звычайныя, лушчнёвы скол, а таксама фрагмент венца і 9 фрагментаў сценак пасудзін жалезнага веку (мал. 5: *4*), фрагмент сценкі ганчарнай пасудзіны, 2 кавалкі металургічнага жужалю.

**Новікі (дачы)-2А** – працяг помніка Новікі (дачы)-2. За 0,2 км на ўсход, таксама на палявой дарозе, былі знойдзены дзве праксімальныя часткі пласцін, якія датаваны эпохай мезаліту–неаліту.

За 1,0–1,5 км на паўночны ўсход ад месцазнаходжанняў Новікі (дачы)-1, -2, -2А, на паўднёвы ўсход ад воз. Вялікае былі агледжаны ўзвышэнні сярод тарфянікаў, выцягнутыя ланцужком на даўжыню каля 1 км ад возера да шашы Мазыр–Калінкавічы. Паверхня ўзвышэнняў разворваецца. Упершыню наяўнасць археалагічных матэрыялаў тут адзначыў У. Ф. Ісаенка ў 1960–1961 гг. Даследчык прывязаў помнікі да в. Пеніца (Пеніца-1, -2) [1, с. 73–74]. У сувязі з тым, што ўзгаданы населены пункт знаходзіцца на тэрыторыі іншага (Калінкавіцкага) раёна, абследаваныя помнікі былі прывязаны намі да в. Лубня. У наваколлях Лубні У. Ф. Ісаенка адзначыў пяць помнікаў [1, с. 71–74], яшчэ адзін пункт, Лубня-6, быў зафіксаваны намі ў 2012 г., а разгледжаныя ўзвышэнні каля воз. Вялікае былі пазначаны (з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход) як Лубня-7, Лубня-8 (Пеніца-2), Лубня-9 (Пеніца-1), Лубня-10 і -10А.

**Лубня-6** – месцазнаходжанне з матэрыяламі эпохі каменнага–бронзавага вякоў (мал. 3: *12*). Лакалізавана за 0,8 км на паўднёвы захад ад вёскі, на правым беразе р. Закаванка, на поўнач ад моста. На разаранай паверхні поля быў знойдзены разец двухгранны бакавы (мал. 5: *5*).

**Лубня-7** – паселішча з матэрыяламі каменнага–бронзавага вякоў (мал. 3: *8*). Размешчана за 2,8 км на паўночны захад ад вёскі, за 0,2 км на паўднёвы ўсход ад воз. Вялікае, на невялікім пясчаным узвышэнні, паверхня якога разворваецца. На помніку былі знойдзены пласціна адыстальная скарыністая, дробны абломак невызначальны, два фрагменты пасудзін мілаградскай культуры (фрагмент венца з закругленым краем і шыйка з «жемчужным» арнаментам), 17 фрагментаў ляпных пасудзін жалезнага веку светла-чырвонага, жаўтаватага, карычневага і бежавага колеру, таўстасценных (каля 1 см) і больш тонкіх, у цесце прысутнічае дамешка жарствы, паверхня гладкая і шурпатая.

**Лубня-8 (Пеніца-2**) – паселішча каменнага–бронзавага вякоў, ранняга жалезнага веку (мал. 3: *9*). Знаходзіцца на паўднёвы ўсход ад воз. Вялікае, за 100 м на паўднёвы ўсход ад помніка Лубня-7. Выявіў у 1961 г. У. Ф. Ісаенка. Даследчык адзначыў перспектыўнасць пошуку тут тарфянікавай стаянкі [1, с. 73–74]. У 2012 г. на разаранай паверхні ўзвышэння былі знойдзены лушчнёвы скол з рэтушшу (можа з'яўляцца ўкладышам састаўной прылады;

[1] Вызначэнне зроблена загадчыкам лабараторыі музейнай справы гістарычнага факультэта БДУ Віталем Міхайлавічам Сідаровічам.

мал. 5: *6*), два лушчнёвыя сколы, луска, адшчэп скарыністы, адшчэп падскарыністы, два адшчэпы звычайныя. Таксама сярод знаходак апынуліся сценка пасудзіны ДДК, тры фрагменты пасудзін ШКПТ з лінейным штампам (дамешка пяску, шамоту; гладкасценныя, таўшчыня сценак 1,0–1,1 см; мал. 5: *7, 8*), 14 фрагментаў пасудзін жалезнага веку чырвонага, бежавага, чорнага колеру, з дамешкай дробнай жарствы; адзін фрагмент са штрыхоўкай (мал. 5: *9*) і 27 абломкаў ляпных пасудзін, часам, з падглянцаванай паверхняй, якія датаваны больш шырока – эпохай бронзы–жалезным векам.

**Лубня-9 (Пеніца-1)** – паселішча з матэрыяламі каменнага–бронзавага вякоў, ранняга жалезнага веку, селішча XI–XII стст. (мал. 3: *10)*. Размешчана за 0,4 км на паўднёвы ўсход ад воз. Вялікае, за 80 м на паўднёвы ўсход ад пункта Лубня-8 на невялікіх пясчаных узвышэннях. Вышыня над тарфянікам – 1,5–2,0 м, працягласць – да 150 м. Помнік выявіў у 1961 г. У. Ф. Ісаенка [1, с. 73]. Падчас агляду помніка ў 2012 г. на ворыве былі знойдзены адшчэп падскарыністы, фрагмент лушчня, а таксама сценка пасудзіны ДДК (мал. 5: *10*), сем фрагментаў сценак пасудзін жалезнага веку, у тым ліку са штрыхоўкай




Мал. 5. Крамянёвыя вырабы (*1–3, 5, 6, 13–15*), ляпная (*4, 7–11*) і ганчарная (*12*) кераміка з помнікаў Новікі (дачы)-2 (*1–4*), Лубня-6 (*5*), Лубня-8 (*6–9*), Лубня-9 (*10–12*), Лубня-10А (*13*), Юравічы-2 (*14, 15*)

(мал. 5: *11*), абломкі ганчарных пасудзін XI–XII стст. (мал. 5: *12*).

**Лубня-10** – паселішча з матэрыяламі каменнага–бронзавага вякоў (мал. 3: *11*). Лакалізавана за 2 км на паўночны захад ад вёскі, за 100 м ад помніка Лубня-9, на пясчаным узвышэнні. У 2012 г. на разворанай паверхні помніка былі знойдзены: дзве сценкі ляпных пасудзін, адна з якіх светла-карычневага колеру, з гладкай паверхняй (бронзавы век) і шрапнэль. Помнік Лубня-10 перарэзаны меліярацыйнай канавай. Працяг помніка на ўсход ад канавы пазначаны намі як **Лубня-10А.** Тут былі знойдзены адыстальная пласціна з рэтушшу (мал. 5: *13*), фрагмент лушчня, чатыры фрагменты ляпных таўстасценных (да 1 см) пасудзін жалезнага веку, фрагмент сценкі ганчарнай пасудзіны.

У ***Калінкавіцкім раёне*** былі агледжаны помнікі, размешчаныя на ўчастку ад в. Рудня Горбавіцкая да в. Абухаўшчына. Асноўнай мэтай даследаванняў тут быў пошук новых помнікаў другой паловы 1-га тысячагоддзя н. э., а таксама абследаванне вядомых раннесярэдневяковых паселішчаў Пхоў-2, Юравічы-6, Слабодка-1 і грунтовага могільніка Шарэйкі-1. На ўсіх агледжаных помніках праводзіліся паверхневыя зборы.

Вёска Рудня Горбавіцкая знаходзіцца за 3 км на поўнач ад пасёлка Пхоў, уверх па цячэнні р. Ненач. У 1979 г. У. Ф. Ісаенка зафіксаваў два пункты з археалагічнымі матэрыяламі на захад ад вёскі [5, с. 21–22].

**Рудня Горбавіцкая-3** – паселішча з матэрыяламі ранняга жалезнага веку (мал. 3: *1*). Размешчана на паўночнай ускраіне вёскі, на правым беразе р. Ненач. Каля чыгуначнага моста, у абрыве берага ракі, прасочваецца культурны пласт магутнасцю звыш 0,4 м са слядамі аб'екта ў выглядзе попельных праплācткаў з абпаленымі камянямі. Тут жа былі знойдзены два фрагменты сценак ляпных пасудзін жалезнага веку. Яны маюць светла-чырвоны колер, у цесце прысутнічае дамешка жарствы сярэдніх памераў і вялікай, паверхня шурпатая.

У басейне р. Ненач, а таксама ў міжрэччы Неначы і Іпы шмат залежаў балотнай руды, з якой раней здабывалі жалеза [8]. Гэта знайшло адбітак у назвах населеных пунктаў: Рудня Горбавіцкая, Рудня Антонаўская, Есіпава Рудня. На занятки мясцовага насельніцтва выплаўкай жалеза ўказваюць і рэшткі печаў (рудняў), якія захаваліся ў лесе [1, с. 93]. Улічваючы арыентаванасць плямёнаў жалезнага веку–эпохі ранняга сярэдневякоўя на жалезавытворчы промысел, можна спадзявацца на выяўленне тут старажытных паселішчаў ці нават металургічных комплексаў.

Наступны агледжаны пункт знаходзіцца каля в. Града. У наваколлях вёскі У. Ф. Ісаенка адзначаў тры помнікі з матэрыяламі ад каменнага веку да эпохі сярэдневякоўя [7, с. 18].

**Града-4** – месцазнаходжанне ляпной керамікі жалезнага веку–эпохі ранняга сярэдневякоўя было зафіксавана за 5 км на захад ад вёскі, на захад ад воз. Трасцяное, на левым беразе Прыпяці, насупраць в. Акулінка (правы бераг Прыпяці), на ўзвышэнні сярод поплава ракі. Помнік разбураны трасай нафтаправода. На агаленнях культурнага пласта былі знойдзены тры дробныя фрагменты сценак ляпных пасудзін.

**Шарэйкі-1** – стаянка з матэрыяламі фінальнага палеаліту, неаліту, бронзавага і жалезнага вякоў, грунтовы могільнік эпохі ранняга сярэдневякоўя (мал. 3: *14*). Размешчаны за 0,5 км на поўнач ад вёскі, на двух пясчаных узвышэннях (заходняя і ўсходняя дзюны), на паўночным беразе старычнага воз. Горкі. Помнік выявіў і даследаваў у 1961, 1964, 1970 і 1973 г. У. Ф. Ісаенка [1, с. 48–49; 3, с. 31; 4, с. 10–11]. Могільнік даследаваў у 1978 г. В. Б. Пярхаўка [10].

Сёння, як і ў 1960–70-х гадах, культурны пласт на помніку актыўна разбураецца ветравой эрозіяй. Паверхня паселішча слаба задзірванелая, на агаленнях культурнага пласта сустракаюцца шматлікія дробныя фрагменты ляпных пасудзін і крамянёвыя артэфакты. У паўднёвай частцы дзюны размешчана седлавіна, у якой У. Ф. Ісаенка знаходзіў рэшткі трупаспаленняў эпохі ранняга сярэдневякоўя [1, с. 48–49].

Калекцыю археалагічных матэрыялаў, атрыманых у выніку паверхневых збораў на заходняй дзюне ў 2012 г. склалі тры фрагменты сценак пасудзін ДДК і фрагмент сценкі ШКПТ з шнуравым арнаментам. Сярод крамянёвых артэфактаў: фрагмент неазначальнай прылады, скол падпраўкі пляцоўкі нуклеуса і дзве праксімальныя часткі пласцін з рэтушшу, медыяльная частка пласціны, адшчэп скарыністы, восем лусак, два абломкі дробныя неазначальныя.

Таксама былі знойдзены 70 фрагментаў ляпных пасудзін: сем венцаў – кароткія, трохі адагнутыя вонкі, край зрэзаны прама ці закруглены (мал. 6: *1–6*), чатыры шыйкі, 59 фрагментаў сценак, у тым ліку са скразнымі адтулінамі і арнаментаваныя наколамі (мал. 6: *7*, 9). Фрагменты дробныя, крохкія, паходзяць ад пасудзін грубаляпных з шурпатай паверхняй ці больш старанна зробленых з добра загладжанай (у адным выпадку – падглянцаванай) паверхняй. Колер бежавы, жоўты, бледна-чырвоны, чырванаваты, бледна-карычневы, шэры. У цесце прысутнічае дамешка жарствы дробнай і сярэдніх памераў. Два фрагменты ашлакаваныя. У асноўным кераміка жалезнага веку (першая палова 1-га тысячагодддзя н. э.), адзін фрагмент можа адносіцца да эпохі ранняга сярэдневякоўя.

Таксама сярод знаходак трапілі 16 фрагментаў ганчарных пасудзін XI–XII стст. светла-бежавага, ружовага, чырванаватага і шэрага колеру. Адзін



Мал. 6. Ляпная (*1–7, 9, 12–20*) і ганчарная (*8*) кераміка, крамянёвы выраб (*10*), шкляная пацерка (*11*), фрагмент жалезнага вырабу (*21*) з помніка Шарэйкі-1; *1–10* – знаходкі з паверхневых збораў (*1–9* – Шарэйкі-1, заходняя дзюна; *10* – Шарэйкі-1, усходняя дзюна); *11–21* – знаходкі з шурфа-1 на помніку Шарэйкі-1, заходняя дзюна

фрагмент – з лінейным арнаментам, яшчэ адзін – з арнаментам з ліній і наколаў (мал. 6: *8*).

У паўднёвай частцы заходняй дзюны, каля дарогі, быў закладзены шурф плошчай 9 м$^2$. Паверхня ў месцы шурфоўкі слаба задзірванелая, паніжаецца з поўначы на поўдзень. Пад пластом супеску света-шэрага колеру (0,05–0,15 м) залягаў больш насычаны цёмна-шэры супясчаны пласт, які меў таўшчыню 0,15 м каля ўсходняй сценкі і да 0,25 м у паўднёва-заходняй частцы. У гэтым пласце траплялася дробнае вуголле і фрагменты кальцынiраваных костак. На глыбіні 0,10–0,15 м у паўночна-ўсходнім куце прасочана попельна-вугальная пляма памерамі 0,5 × 1,0 м, таўшчынёй да 10 см. У цэнтры шурфа (кв. 5) сустракаліся камяні невялікіх, да 15 см даўжынёй, памераў. Ніжэй ішоў пласт супеску цёмна-жоўтага колеру, які ў паўднёва-заходнім куце паказаўся ўжо на глыбіні першага пласта. На глыбіні 0,3–0,4 м залягаў мацерыковы пясок светла-жоўтага колеру. У кв. 1 расчышчана яма акруглай у плане формы, дыяметрам 0,26 м і глыбінёй 0,25 м, з чашападобным профілем. Запаўненне ямы – цёмна-жоўты супесак. Знаходак не зафіксавана.

Культурны пласт у месцы шурфоўкі часткова апоўз па схіле з больш высокай часткі помніка. У шурфе былі знойдзены шкляная пацерка сіняга (кобальтавага) колеру, шарападобнай формы. Яе дыяметр – 0,6 см, вышыня –0,5 см, адтуліна – прамая, дыяметр адтуліны – 0,15 см (мал. 6: *11*). Згодна з класіфікацыяй М. Маньчыньскай, пацерка адносіцца да групы 1, тыпу 23, храналагічныя рамкі – 160–375 гг. н. э. [6]. Таксама ў шурфе знойдзена

шэсць крамянёвых артэфактаў, сярод якіх прысутнічае фрагмент скрабка з дугападобнай працоўнай часткай, скрабач на адшчэпе, два фрагменты адшчэпаў, фрагмент адшчэпа з рэтушшу, луска. Ляпная кераміка – 85 фрагментаў, прадстаўлена вельмі дробнымі абломкамі пасудзін, пераважна першай паловы 1-га тысячагоддзя н. э. (мал. 6: *12–20*). Кераміка такая ж, як і з паверхневых збораў. Сустрэты некалькі фрагментаў неалітычных пасудзін. Сярод знаходак таксама моцна каразіраваны, выгнуты фрагмент жалезнага вырабу, магчыма, лязо нажа (мал. 6: *21*).

На ўсходняй дзюне помніка Шарэйкі-1 таксама былі праведзены паверхневыя зборы. Калекцыю склалі пласціна звычайная са слядамі двухпляцовачнасці (фінальны палеаліт; мал. 6: *10*), два дробныя абломкі неазначальныя, дробны фрагмент скола неазначальнага, а таксама фрагмент сценкі ляпной пасудзіны ДДК з накольчатым арнаментам, венца ляпной пасудзіны жалезнага веку з арнаментам з пальцавых уціскаванняў па краі, чатыры фрагменты сценак ляпных пасудзін жалезнага веку. Знаходкі датаваны фінальным палеалітам, неалітам, каменным–бронзавым векам, раннім жалезным векам.

**Шарэйкі-3** – помнік з матэрыяламі каменнага–бронзавага вякоў, ранняга жалезнага веку (мал. 3: *15*). Размешчаны на ўзгорках уздоўж паўднёвага берага старычнага воз. Пясчанка. Даўжыня – 140 м. Выявіў у 1961 г. У. Ф. Ісаенка, які аднёс яго да ДДК. На паўночным беразе былі знойдзены рэшткі рудні па выпрацоўцы крычнага жалеза [1, с. 48–49].

Абследаванні 2012 г. паказалі, што паверхня помніка слаба задзірванелая, на агаленнях культурнага пласта былі знойдзены: адшчэп, два фрагменты сценак ляпных таўстасценных пасудзін жалезнага веку светла-чырвонага і шэрага колеру, абломак ганчарнай пасудзіны.

**Юравічы-2** – стаянка з матэрыяламі каменнага–бронзавага вякоў (мал. 3: *17*). Лакалізавана за 1,0–1,5 км на паўднёвы захад ад цэнтра вёскі, на пясчаных узгорках. Помнік адкрылі і абследавалі ў 1929–1931 гг. К. М. Палікарповіч і А. Дз. Каваленя, у 1960–1965 гг. даследаваў У. Ф. Ісаенка [9; 1, с. 42–43; 2, с. 4–5].

Абследаванне 2012 г. паказала, што помнік парос лесам, культурны слой парушаны дарогамі, якія вядуць з вёскі да пашы. На паверхні адной з дарог былі сабраны 23 крамянёвыя артэфакты: нуклеус аднапляцовачны ад пласцін без афармлення бакоў і контрфронта (мал. 5: *15*), дзве медыяльныя часткі пласцін (мал. 5: *14*), пласціна звычайная, праксімальная частка пласціны з рэтушшу, сем адшчэпаў, чатыры дробныя абломкі неазначальныя, сем лусак. Таксама былі знойдзены чатыры фрагменты сценак ляпных пасудзін бронзавага веку (?).

Агледжана таксама стаянка каменнага веку, паселішча эпохі жалеза–ранняга сярэдневякоўя Юравічы-6 (мал. 3: *16*). Помнік размешчаны за 1,2 км на захад ад вёскі, на заходнім беразе старычнага воз. Ліцвін, у паўночнай частцы паселішча **Юравічы-4**. Выявіў у 1962 г. У. Ф. Ісаенка [2, с. 4–5], у 1976 г. В. Б. Пярхаўка даследаваў рэшткі двух жытлаў «VI–VIII стст.» [10].

Уніз па цячэнні Прыпяці, на поўдзень ад в. Юравічы былі агледжаны помнікі паміж в. Слабодка і в. Абухаўшчына. Тут, па берагах старычных воз. Грыбное, Бернатова, Буян і Млін, у пачатку 1960-х гадоў У. Ф. Ісаенка зафіксаваў паселішчы з раннеславянскімі матэрыяламі [3, с. 12–16; 1, с. 50]. Сёння паверхня большасці помнікаў задзірванелая, знаходкі былі выяўлены толькі на адным з іх.

**Абухаўшчына-2** – помнік з матэрыяламі каменнага–бронзавага вякоў (мал. 3: *19*). Знаходзіцца за 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля вясковых могілак, на полі, якое з усходу абмежавана лагчынай. Выявіў у 1961 г. У. Ф. Ісаенка [1, с. 50]. У 2012 г. на агаленнях культурнага пласта былі знойдзены дробны фрагмент скола неазначальнага, фрагмент сценкі ляпной пасудзіны ШКПТ з лінейным штампам (таўшчыня 0,9 см, гладкая, дамешка шамоту).

У выніку разведак, праведзеных вясной–летам 2012 г. у Драгічынскім раёне, было выяўлена восем месцазнаходжанняў матэрыялаў, у асноўным каменнага веку–эпохі бронзы. У Мазырскім і Калінкавіцкім раёнах абследаваны ўчастак левабярэжжа Прыпяці, агледжаны вядомыя помнікі (Пхоў-2, Баравікі-6, Юравічы-2, 6 і інш.), а таксама выяўлена сем новых (Новікі (дачы)-1, -2; Лубня-6, -7, -10; Рудня Горбавіцкая-3; Града-4). Сярод адкрытых помнікаў 1-га тысячагоддзя н. э. для правядзення далейшых даследаванняў найбольш перспектыўным выглядае паселішча жалезнага веку Рудня Горбавіцкая-3. У выніку паверхневых збораў і шурфоўкі (9 м$^2$), праведзеных на помніку Шарэйкі-1, была сабрана прадстаўнічая калекцыя археалагічных матэрыялаў каменнага–бронзавага вякоў і эпохі жалеза.

**Літаратура**

1. Исаенко, В. Ф. Отчет о полевых исследованиях, проведенных в 1961 г. в бассейне р. Припять / В. Ф. Исаенко // ААНД «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Спр. № 159, 137 (альбом). – 101 с. : 232 ил., 1 карта.

2. Исаенко, В. Ф. Отчет о полевых исследованиях в 1962 г. / В. Ф. Исаенко // ААНД «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Спр. № 158, 158а (альбом). – 60 с. : 49 ил.

3. Исаенко, В. Ф. Отчет о полевых исследованиях за 1964 г. / В. Ф. Исаенко // ААНД «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Спр. № 233, 233а (альбом). – 52 с. : 40 рис.

4. Исаенко, В. Ф. Отчет о полевых исследованиях в Полесье в 1970 году / В. Ф. Исаенко // ААНД «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Спр. № 375. – 30 с.

5. Исаенко, В. Ф. Отчет о полевых исследованиях 1979 года на территории Полесья / В. Ф. Исаенко // ААНД «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Спр. № 638. – 44 с.

6. Исаенко, В. Ф. Отчет о полевых исследованиях памятников каменного и бронзового веков на территории Полесья в 1980 году / В. Ф. Исаенко // ААНД «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Спр. № 680. – 22 с. : 84 рис.

7. Исаенко, В. Ф. Отчет Припятского отряда о полевых работах в 1987 году / В. Ф. Исаенко // ААНД «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Спр. № 1035. – 22 с.

8. Крукоўскі, А. Я. Жалезная руда на Мазыршчыне / А. Я. Крукоўскі // Наш край. – Менск, студзень 1928. – № 1 (28).– С. 24–27.

9. Палікарповіч, К. М. Досьледы культур каменнага і бронзавага пэрыодаў у БССР у 1930–1931 гг. / К. М. Палікарповіч // Працы сэкцыі археолёгіі. – Менск, 1932. – Т. 3. – С. 227–228.

10. Перхавко, В. Б. О раннесредневековых памятниках V–VIII вв. в Центральной части Левобережья Припяти / В. Б. Перхавко // Археологічні студії / Інститут археології НАН України, Буковинський центр археологічних досліджень при Чернівецькому державному університеті ім. Ю. Федьковича. – Київ ; Чернівці : Прут, 2000. – Вип. 1. – С. 163–173.

11. Федарака, Б. Помнікі старасьветчыны у Мазыршчыне / Б. Федарака // Наш край. – Менск, 1926. – № 4–5. – С. 51–52.

**Резюме**

*Е. Ф. Касюк, А. Н. Вашанов*

**Результаты археологических исследований на Полесье в 2012 году**

В 2012 г. разведки проводили на территории Дрогичинского района Брестской области, Мозырского и Калинковичского районов Гомельской области. В Дрогичинском районе было выявлено восемь местонахождений каменного–бронзового веков (Закозель-1; Ялоч-1, -2; Язвины-1; Липники-1, -4). В Мозырском и Калинковичском районах по левому берегу Припяти обследовано 11 известных памятников (Пхов-2; Боровики-2, -6; Юровичи-2, -6; Слободка-1 и др.) и восемь новых (Новики (дачи)-1, -2; Лубня-6, -7, -10; Рудня Горбовичская-3; Гряда-4). На памятнике Шарейки-1 проведена шурфовка (9 м$^2$), найдено 236 артефактов. Археологический материал, полученный в ходе разведок, относится в основном к каменному–бронзовому векам, эпохе железа.

**Summary**

*A. F. Kasjuk, A. N. Vashanau*

**The results of archaeological research in Paljessje in 2012**

In 2012 the authors conducted archeological investigations on the territory of Drahičyn district of Brest region, Mazyr, and Kalinkavičy districts of Homel region. 8 sites of Stone – and Bronze Ages (Zakoziel-1; Jalač-1, -2; Jazviny-1; Lipniki-1, -4) was found in Drahičyn district. 11 known sites (Pkhoŭ-2; Baraviki-2, -6; Juravičy-2, -6; Slabodka-1 and others) and 8 new sites (Noviki-1, -2; Lubnja-6, -7, -10; Rudnja Horbavickaja-3; Hrada-4) were examined on the left bank of Prypjać in Mazyr and Kalinkavičy districts. A test pits (9 sq. m) was excavated on Šarejki-1 site and 236 artifacts was found. Archaeological material obtained in the course of investigations refers mainly to the Stone–Bronze and Iron Ages.

*Паступіў 17.05.2013 г.*

*УДК [902/904+903.4](476.5)*

***М. В. Клімаў**, Інстытут гісторыі НАН Беларусі, аддзел захавання і выкарыстання археалагічнай спадчыны, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск, Беларусь)*

## Археалагічныя доследы на помніках Полацкага Падзвіння ў 2012 годзе

У 2012 г. археалагічныя доследы на помніках Полацкага Падзвіння праводзілі ў некалькіх накірунках. Першы з накірункаў быў спалучаны з дадатковым абследаваннем помнікаў каля воз. Лепельскае, берагавой лініі паўднёвага берага возера ў г. Лепель і замчышча, селішча XIV–XVI стст. каля в. Стары Лепель Лепельскага раёна (мал. 1: *6*) з мэтай вызначэння межаў зоны аховы культурнага пласта ў межах выканання дзяржаўнай праграмы «Замкі Беларусі». Другі накірунак доследаў быў звязаны з выкананнем планавай пяцігадовай дзяржаўнай тэмы (раздзел № 1.5.11) і прадугледжваў археалагічныя раскопкі на селішчы № 2 каля воз. Ворань Лепельскага раёна (мал. 1: *1*). Трэці накірунак адпавядаў задачы абследавання помнікаў, якія знаходзіліся у зоне будаўніцтва Полацкай ГЭС каля в. Лучна Полацкага раёна (мал. 1: *5*). Чацверты накірунак датычыўся асобных разведак на тэрыторыі Полацкага Падзвіння (мал. 1: *2–4*). На шэрагу помнікаў у археалагічных працах актыўны ўдзел прыняў малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі П. М. Кенька.

Папярэдняе абследаванне паўднёвага берага воз. Лепельскае ў г. Лепель праводзілі з мэтай вызначэння перспектыўных участкаў для будучых археалагічных раскопак у сувязі з праблемай храналогіі ўзнікнення г. Лепель на месцы паселішча Белае. У выніку было праведзена абследаванне часткі паўднёвага берага воз. Лепельскае на тэрыторыі г. Лепель, якая знаходзілася за 100 м на захад ад гарадскога парку (мал. 2, *А: II*) на прысядзібных прыватных участках была засведчана наяўнасць керамічнага посуду XVI–XVIII стст. і больш пазнейшага часу, частка з якога мела паліву (мал. 2, *Б*). У зрэзах абрынутага берага возера быў зафіксаваны вялікі культурны пласт, які перавышаў 0,6–0,8 м.

Пасля абследавання берагавой лініі ў г. Лепель была праведзена праца і на замчышчы, селішчы каля в. Стары Лепель, якія змяшчаліся на паўвыспе Лепельскага возера (мал. 2, *А: I*). Да пачатку археалагічных прац у 2012 г. на паўвыспе каля в. Стары Лепель, дзе змяшчалася замчышча, два селішчы і гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку, у другой палове XX – пачатку XXI ст. даследаванні былі праведзены Г. В. Штыхавым, М. А. Ткачовым, А. Г. Мітрафанавым, Ю. А. Заяцам і З. А. Харытановіч [2, с. 322; 6, с. 300]. Праца на замчышчы ўскладнялася тым, што існавала праблема ідэнтыфікацыі месцазнаходжання раскопак М. А. Ткачова на плошчы 444 м$^2$, аб чым аўтарам артыкула ўжо паведамлялася ў адной з ранейшых публікацый [4, с. 25–28].

Для вызначэння межаў зоны аховы культурнага пласта на той частцы замчышча, якую не ахапілі археалагічныя працы, было закладзена пяць шурфоў агульнай плошчай 8 м$^2$ (мал. 3, *А*). Асноўны вынік археалагічнай дзейнасці ў 2012 г. на замчышчы датычыўся ўдакладнення наяўнасці культурнага пласта ў паўднёвай, цэнтральнай і ўсходняй частках паўвыспы, аб чым сведчылі матэрыялы шурфоў № 1–5. Закладанне шурфоў № 1, 2 паказала адсутнасць культурнага пласта ва ўсходняй частцы паўвыспы, побач з могілкамі. Культурны пласт адсутнічаў і ў іншых месцах паўвыспы, што пацвердзіла выснову Ю. А. Заяца аб тым, што культурны пласт на паўвыспе размеркаванны нераўнамерна, плямамі [2, с. 323]. Цікавыя матэрыялы былі прадстаўлены ў шурфе № 4. Запаўненне шурфа складалася з шэрага супеснага пласта магутнасцю да 0,42–0,45 м, у якім былі выяўлены цвікі (мал. 3, *Б: 1, 2*), частка іголкі (мал. 3, *Б: 3*), фурнітурная пяцелька (мал. 3, *Б: 4*), фрагменты керамічнага посуду XIV–XVII стст., некаторыя з якіх мелі паліву (мал. 3, *Б: 5–11*), фрагмент ваконнага шкла з моцным следам іррызацыі, што дазволіла зрабіць выснову аб тым, што шурф № 4 патрапіў на частку аднаго з паселішчаў, дзе знаходзілася жытло заможнага мешчаніна




Мал. 1. Карта асноўных помнікаў, на якіх праводзілі доследы ў 2012 г.: *1* – Ворань; *2* – Лісна; *3* – Бешанковічы; *4* – Лужасна, Бібярэўка; *5* – Лучна-2, Лучна-3; *6* – Лепель, Стары Лепель




Мал. 2. Карта археалагічнага абследавання возера Лепельскае (*А*): *I* – замчышча, селішча в. Стары Лепель; *II* – частка берагавой лініі, дзе былі ажыццёўлены паверхневыя зборы. Керамічныя матэрыялы з паўднёвага берага возера (*Б*): *2* – цёмна-зялёная паліва, *3* – салатавая паліва







Мал. 3. План археалагічных прац на паўвыспе каля в. Стары Лепель (*А*): *I, II, III, 1, 2* – месцы прац Ю. А. Заяца; *В* – гарадзішча і селішча, месца працы З. Харытановіч, 2008 г.; × – адсутнасць культурнага пласта. Матэрыялы з шурфоў (*Б*): *1–4* – чорны метал; *5–12* – кераміка

ці шляхціча [5, с. 12]. У шурфе № 5 адзін з венцаў керамікі па форме быў блізкі па храналогіі да перыяду XII–XIII ст. (мал. 3*, Б: 12*) У выніку археалагічных доследаў на замчышчы, селішчы XIV–XVI стст. каля в. Стары Лепель Лепельскага раёна было праведзена вызначэнне межаў зоны аховы культурнага пласта і зроблена выснова аб павелічэнні храналогіі гэтага помніка да XVII ст., бо пасля перанясення цэнтра паселішча на месца Белае, жыццядзейнасць на паўвыспе не перапынілася.

Другі накірунак археалагічнай дзейнасці ў 2012 г. звязваўся з мікрарэгіёнам воз. Ворань, які часткова вывучаўся ў другой палове XX ст. Тут было вядома гарадзішча, курганны могільнік, стаянка I, стаянка II (даследаваў Э. М. Зайкоўскі) і селішча I, якое было датавана VI–VIII стст., IX–XI стст. (абследавалі Л. В. Аляксееў, Ю. А. Заяц) [1, с. 10, 14; 3, с. 277–278]. У маі 2012 г. пры ажыццяўленні археалагічнай разведкі аўтарам было выяўлена селішча-2, на якім і былі спланаваны археалагічныя

раскопкі, што праходзілі ў жніўні 2012 г. Для археалагічных раскопак была абрана частка селішча, якая знаходзілася за 40–55 м ад берага воз. Ворань. Плошча раскопу склала 80 м$^2$. Агульная магутнасць культурнага пласта, які складаўся з цёмна-шэрай супесі, вагалася ў межах 0,33–0,42 м. Верхні раскопачны пласт (0–0,2 м ніжэй дзённай паверхні) быў пашкоджаны разворваннем. На ўзроўні другога раскопачнага пласта былі зафіксаваны рэшткі былой печы, аб чым сведчыла вялікая прапластка абпаленай гліны, магутнасцю да 0,3 м (яна ж запаўняла і падпечкавую мацерыковую яму), камяні, кавалкі абпаленага дрэва. Пры далейшай расчыстцы аб'екта былі выяўлены вялікія кавалкі глінянай абмазкі са слядамі вапны. У межах аб'екта «печ» быў знойдзены нож (мал. 4: *13*), накладка (мал. 4: *10*), рыбалоўны кручок і добра захаваны паплавок для рыбалоўных сетак, зроблены з бяросты. Пераважаючая большасць фрагментаў венцаў, выяўленых побач з аб'ектам і ў аб'екце, належала па храналогіі да XIV ст. (мал. 4: *2–4*). У мацерыку было выяўлена і вывучана 15 мацерыковых ям, адна з якіх адносілася да аб'екта «печ» і з'яўлялася падпечкавай, астатнія ямы – слупавыя, падфундаментныя ровікі і гаспадарчага прызначэння. І ў гэтых ямах пераважаючую колькасць фрагментаў складалі венцы гаршкоў, якія былі датаваны ў межах XIV – пачатку XV ст.

Для ўдакладнення памераў паселішча акрамя раскопу І былі закладзены тры шурфы, памерамі 1 × 1 м, два з іх ліку патрапілі на невялікія мацерыковыя ямы.

Асноўнымі артэфактамі з помніка з'яўляліся фрагменты керамікі, сярод якіх адзначаецца пры-




Мал. 4. Матэрыялы з селішча-2 на беразе воз. Ворань: *1–4* – кераміка; *5–10* – сплавы на аснове бронзы; *11, 12* – камень; *13* – метал (нож)




Мал. 5. План месцазнаходжання археалагічных помнікаў Лучна-2, Лучна-3 (*А*), выгляд «геадэзічных маякоў» (*Б;* стрэлкамі ўказаны рэшткі культурнага пласта) і матэрыялаў (*В*) з помніка Лучна-2: *1–5* – сплавы на аснове бронзы; *6* – свінец, *7* – падкова з ухналём; *8–12* – кераміка

сутнасць аднаго ляпнога венца X ст. (?), венцаў, звернутых унутр і датаваных канцом XI – першай паловай XIII ст. (мал. 4: *1*). Пераважная колькасць керамічных матэрыялаў датавана ў шырокім храналагічным дыяпазоне: ад XIII да XVI ст. Акрамя керамікі на селішчы-2 былі выяўлены бронзавыя пярсцёнкі дротавыя і са шчытком (мал. 4: *8*), часткі бранзалетаў (мал. 4: *5*), крыжыкі-цельнікі (мал. 4: *7*), прывескі, у тым ліку ў выглядзе коніка (мал. 4: *6*), накладкі (мал. 4: *10*), спражкі (мал. 4: *9*), двушыпны наканечнік стралы, частка матыкі і сякеры, шыферныя праселкі (мал. 4: *11*), асялок (мал. 4: *12*).

Вельмі важнай знаходкай з'яўлялася частка дзірхема, выяўленая па-за межамі закрытага комплекса. Вызначэнне знаходкі было праведзена Вячаславам Куляшовым (Эрмітаж), які датаваў манету ў шырокіх храналагічных межах: другая–трэцяя чвэрць X ст. Зрабіўшы супастаўленне гэтай знаходкі з некаторымі фрагментамі керамікі і рэчамі, характэрнымі для культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў (мал. 4: *5*), магчыма казаць з дапушчэннем аб існаванні селішча-2 у X ст., але комплексы гэтага перыяду ў межы даследаванай плошчы не патрапілі.

Археалагічныя матэрыялы сведчаць аб тым, што была вывучана частка паселішча, заснаваная ў канцы XIII ст. (пачатку XIV ст.), якая актыўна існавала ў XIV ст. (пачатку XV ст.). На гэта ўказваюць як керамічныя матэрыялы, так і індывідуальныя знаходкі. Пераважная колькасць керамічных вырабаў і вырабаў з металаў адносілася да XIV ст.

У межах трэцяга накірунку археалагічнай дзейнасці ў 2012 г. быў спланаваны археалагічны нагляд (III) на помніках Лучна-2, Лучна-3, якія былі размешчаны па правым беразе р. Заходняя Дзвіна ў месцы будаўніцтва Полацкай ГЭС (мал. 5: *А*). Нягледзячы на існаванне ў будаўнікоў схемы месцазнаходжання археалагічных помнікаў, без паведамлення археолагаў, селішча Лучна-3 было амаль поўнасцю засыпана часова складзеным грунтам, а селішча Лучна-2 амаль поўнасцю знішчана будаўнікамі. Ад селішча засталіся толькі, часткова, усходняя і паўночна-усходняя часткі, культурны пласт бліжэй да ручаіны. На знішчанай частцы селішча праводзілі зачыстку рэштказ плямаў культурнага пласта. Асаблівасцю селішча з'яўлялася яго заснаванне на суглінкавым мацерыку, што выключала знаходжанне гаспадарчых і падпечкавых ям. Па гэтай прычыне ямы на селішчы амаль не былі зафіксаваны. Акрамя таго, былі зачышчаны «геадэзічныя маякі» (мал. 5, *Б*), якія дазволілі скласці ўражанне аб стратыграфіі і магутнасці напластаванняў на селішчы Лучна-2. Магутнасць культурнага пласта «па маяках» складала ад 0,40 да 0,55 м. У стратыграфіі пласта селішча было зафіксавана мелкае вуголле, фрагменты абпаленай гліны, камяні, некаторыя з якіх мелі абпалены стан. Фіксацыя вуголляў пры зачыстцы профіляў «маякоў» не з'яўлялася выпадковасцю, як гэта засведчылі працы ў іншых частках плошчы былога паселішча. У паўднёва-заходняй частцы селішча была зачышчана пляма культурнага пласта, якая захавалася на перадмацерыку. Гэта пляма складалася з цёмна-шэрага пласта з вялікімі, да 1–3 см, украпінамі абпаленай гліны, вуголлямі і вялікімі кавалкамі сценак керамічнага посуду. Пры зачыстцы другой плямы культурнага пласта на перадмацерыку ў паўднёвай частцы селішча Лучна-2 таксама былі зафіксаваны мелкія вугольчыкі і раструшчаны ад уздзеяння пажару камень.

Такім чынам, была абследавана ўся пляцоўка селішча Лучна-2 на глыбіні не болей за 0,1 м, сабраны пад'ёмны матэрыял. Відавочна, што ў ніжняй частцы пласта селішча былі зафіксаваны сляды пажару. Акрамя фрагментаў бытавой керамікі XVI–XVII стст. (мал. 5: *8–12*) на пляцоўцы селішча былі выяўлены два грузілы для сетак, манета XVII ст. (?), спражкі (мал. 5: *1–3*), пярсцёнак (мал. 5: *4*), накладка на торбу (мал. 5: *5*), круглая свінцовая куля (мал. 5: *6*). У выніку магчыма было зрабіць выснову аб тым, што рэшткі культурнага пласта і матэрыялы (фрагменты керамікі, манета, спражкі) сведчылі на карысць таго, што асноўны перыяд жыццядзейнасці на паселішчы Лучна-2 неабходна звязваць з перыядам другой паловы XVI ст. – першай паловы XVII ст. Сляды пажару ў ніжняй частцы пласта селішча дакладна датаваць не ўдалося.

Акрамя археалагічных раскопак былі праведзены лакальныя разведкі на вясковых селішчах побач з Бешанковічамі (мал. 1: *3*), у Верхнядзвінскім раёне – на помніку Лісна (мал. 1: *2*), і ў Віцебскім раёне – на селішчах Лужасна і Бібярэўка (мал. 1: *4*). На помніках былі выяўлены керамічныя матэрыялы і індывідуальныя знаходкі ў невялікай колькасці. У в. Лісна была зафіксавана наяўнасць сякеры-кліна.

Прыведзеныя даныя адлюстроўваюць шырокія храналагічныя межы і разнастайнасць матэрыялаў, што вынікае з агляду розных храналагічных перыядаў вясковых паселішчаў Полацкага Падзвіння, на якіх былі праведзены археалагічныя працы ў 2012 г.

**Літаратура**

1. Зайкоўскі, Э. М. Першабытныя помнікі Паўночнай Беларусі / Э. М. Зайкоўскі. – Мінск : Беларус. навука, 1991. – 41 с.

2. Заяц, Ю. А. Полевые исследования 2008 г. (работы в Старом Лепеле и Минске) / Ю. А. Заяц // МАБ. – 2011. – Вып. 20. – С. 322–328.

3. Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Віцебская вобласць / АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору ; рэдкал.: С. В. Марцэлеў (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : БелЭН, 1985. – 496 с. : іл.

4. Клімаў, М. В. Невядомыя матэрыялы з замчышча Лепеля ў фондзе сярэднявечча і новага часу / М. В. Клімаў // Лепельскія чытанні : матэрыялы III навук.-практ. канф., Лепель, 10 кастр. 2008 г. – Віцебск : ВЦ ГСУВО, 2008. – С. 25–29.

5. Клімаў, М. В. Дадатковыя археалагічныя даследаванні на паўвыспе каля в. Ст. Лепель у сувязі з праблемай вызначэння ахоўнай зоны помніка археалогіі «замчышча, селішча XIV–XVI стст.» / М. В. Клімаў // Лепельскія чытанні : матэрыялы V навук.-практ. канф., Лепель, 21–22 верас. 2012 г. – Віцебск : Віцебская абласная друкарня, 2012. – С. 9–15.

6. Харытановіч, З. А. Археалагічныя даследаванні на гарадзішчы і селішчы Стары Лепель у 2008 г. / З. А. Харытановіч // МАБ. – 2011. – Вып. 20. – С. 300–307.

**Резюме**

*М. В. Климов*

**Археологические исследования на поселениях Полоцкого Подвинья в 2012 году**

Представлены основные материалы и предварительные выводы относительно старых и новых археологических памятников. На памятнике Старый Лепель определена зона охраны археологического слоя. Впервые проведены археологические раскопки на средневековом сельском поселении (№ 2) на озере Ворань. Приведены сведения о разрушении сельского поселения Лучно-2 в результате строительства Полоцкой электростанции.

**Summary**

*M. V. Klimau*

**Archaeological research in the settlements of Polatsk Podzvinne in 2012**

The article presents the basic materials and preliminary conclusions regarding the old and new archaeological sites. On the monument Old Lepel was defined area of archaeological layer. Were first carried out archaeological excavations at the medieval village settlement (N 2) Lake Voran. The article presents data on the destruction of the rural settlement Luchna-2 as a result of the construction of Polatsk plant.

*Паступіў 16.05.2013 г.*

УДК 903.4(476.6)

***А. В. Колосов,*** *Могилевский государственный университет имени А. А. Кулешова, исторический факультет, заместитель декана по учебной и научной работе, кандидат исторических наук, доцент (г. Могилев, Беларусь)*

# Археологические работы 2012 года в Посожье[1]

В 2012 г. было продолжено изучение неолитической стоянки Старый Дедин-4 в Климовичском районе. Памятник был открыт автором и местным краеведом М. П. Дуктовым в 2006 г. [2, с. 37–41, 120–121]. Раскопки стоянки проводили на мысовидном участке берега, на котором в 2010 г. было обнаружено новое скопление материалов эпохи неолита. Там же впоследствии были проведены небольшие стационарные работы на площади 30 м$^2$ [4].

За полевой сезон 2012 г. была вскрыта площадь 172 м$^2$, которая являлась продолжением исследованного в 2010 г. раскопа в западном и южном направлениях. Раскоп был ориентирован по сторонам света. Длинная сторона сетки квадратов со стороной равной 1 м была вытянута с севера на юг и получила цифровое обозначение от 16 до 11, 1 до 10 и 17 до 20 включительно, с востока на запад – буквенное (А, Б, В, Д, Е, Ж, З, И, К, Л).

Стратиграфия основной части памятника аналогична стратиграфии раскопа 2010 г.:

1) дерн – 0–0,07 (0,10) м. Переход в нижележащий слой заметный;

2) подзолистый горизонт темно-серого цвета с затеками в нижней части – 0,10–0,20 (0,25) м. Горизонт нарушен процессами эоловой дистурбации, о чем свидетельствует видимые локализации желтого песка в его структуре. Переход в нижележащий слой нечеткий;

3) мелкозернистый песок желтого цвета – 0,20 (0,25) м. Прокопан на глубину до 0,6 м. Единственно отличие от стратиграфии раскопа 2010 г. наблюдалось на северном участке раскопа в пределах кв. Г–Л-3–14. Здесь квадратами раскопа был затронут пониженный котлообразный участок террасы, на котором подзолистый горизонт на гл. 0,30–0,45 м перекрывался тонкой (0,10–0,15 м) прослойкой темно-серой супеси плотной комковатой структуры.

В ходе раскопок на гл. 0,41–0,57 м были выявлены нарушения почвенного горизонта, четко выделявшиеся на фоне желтого песка пятнами темно-серого цвета (их порядковая нумерация дана с учетом остатков очага изученных нами в 2010 г., которому мы условно дали название *«объект № 1»*). Пятно *объекта № 2* было зачищено в пределах кв. Г–З-1–5 на гл. 0,42–0,43 м. В плане структура имела неправильную форму, похожую на цифру «восемь», и была вытянута с юго-востока на северо-запад на 4,83 м, при ширине от 2,02 м в юго-восточной части (кв. Г–Е-4) до 3,42 м в северо-западной (кв. Г-З-1). Заполнение объекта представлено темно-серым песком, профиль линзовидный. Мощность – от 0,63 м (кв. Г–Е-4) до 0,77 м (кв. Г–Е-4).

Основная часть находок, особенно фрагментов лепной керамики эпохи неолита, была сконцентрирована в юго-восточной части объекта. Значительное число артефактов собрано в пределах кв. Г-4 и Д-3. Среди изделий из кремня обнаружены осколки кремня без видимых следов обработки (3 ед.), одно- и двухплощадочные нуклеусы и их обломки (4 ед.), отщепы (111 ед.), пластины (15 ед.), мелкие осколки (6 ед.). Орудия труда (23 ед.) представлены концевыми и двойным скребками (4 ед.), скреблами (2 ед.), долотовидными изделиями (2 ед.), пластинами-вкладышами (2 ед.), резцом на сломе заготовки, ретушным резцом, изделием с выемкой, отщепами (7 ед.) и пластинами (2 ед.) с ретушью.

Керамический материал представлен 131 фрагментом лепной неолитической керамики, большая часть которой украшена вдавлениями ямок и гребенки, «лапчатым» орнаментом, и тремя обломками лепной посуды эпохи бронзы, на поверхности которой сохраняются горизонтальные пояса оттисков веревочки. Полностью изучить объект в северо-западном направлении нам не удалось. В кв. Г–Л-11–14, где исследования вели на пониженном участке берега, на гл. 0,30–0,45 м почвенный слой был перекрыт плотной и комковатой темно-серой супесью и, контуры объекта, его форму, проследить оказалось невозможным.

*Объект № 3* обнаружен в кв. Ж–З-4–5 на гл. 0,51 м. Представлял собой овальное пятно размером 1,64 × 1,05 м. Заполнение – темно-серый песок. Мощность – 0,46 м. Профиль линзовидный. В заполнении найдены 15 изделий из кремня (12 отщепов, тесло, фрагмент трапеции, обломок бифасиального наконечника стрелы).

*Объект № 4* зачищен в кв. И–Л-3–6 на гл. 0,54–0,57 м. Представлял собой размытое скопление пятен неправильных очертаний темно-серого цвета, размером с юга на север 3,86 м, с востока на запад –

[1] Исследования проводили в рамках выполнения задания «Динамика развития и взаимодействия культур финального палеолита–мезолита Белорусского Поднепровья и Посожья в контексте восточноевропейских культурно-исторических процессов», включенного в Государственную комплексную программу научных исследований «История, культура, общество, государство» на 2011–2015 гг. (№ госрегистрации 20112350 от 08.08.2011 г.).




Мал. 3. Кераміка нёманскай культуры. Вілы-2. Малюнак А. Ю. Ткачова

ной жарствы ў фармовачным цесце. Знешняя паверхня такіх начынняў храпаватая, а ўнутраная – добра загладжана.

Знойдзена 19 фрагментаў ганчарнай керамікі (пяць венчыкаў, два вухі, 12 сценак). Таксама ў калекцыі, атрыманай з раскопу, ёсць 39 фрагментаў костак, зуб, дзевяць жужаль, металічная запчастка ад гадзінніка.

У храналогіі помніка можна вылучыць некалькі этапаў: фінальны палеаліт (свідэрская культура), неаліт (нёманская культуры), бронзавы век (тшцінецкае культурнае кола), жалезны век.

***Вілы-2*** – паселішча эпохі неаліту–бронзавага веку, селішча Новага часу. Размешчана праз 300–350 м на паўднёвы ўсход ад усходняй ускраіны в. Вілы, практычна непасрэдна ў месцы зліцця р. Лясная Правая і р. Белая, на мысападобным пясчаным ўзвышшы. Паверхня помніка задзірванелая, месцамі маюцца пясчаныя раздзіманні. Пашкоджаны скарбашукальніцкімі ямамі. Выяўлена А. Квяткоўскай ў 1990-я гады, у 2007 г. на плошчы 24 м$^2$ даследавана В. Л. Лакізам.

Раскоп памерамі 4 × 8 м быў закладзены ў паўднёва-заходняй частцы помніка. Адразу пад дзёрнам, які дасягаў магутнасці 0,12 м, ішоў пласт шэрага гумусіраванага пяску. Магутнасць яго складала ад 0,20 да 0,28 м. Пад ім ішоў пласт шэра-жоўтага супяску таўшчынёй ад 0,12 да 0,25 м. Ён падсцілаўся жоўтым дробназярністым пяском. Мяжа паміж пластамі – невыразная, расплывістая.

Усяго ў раскопе 2012 г. было выяўлена 5917 знаходак.

Крамянёвыя артэфакты ў пераважнай большасці прадстаўлены прадуктамі першаснага расшчаплення: 452 адшчэпы і іх фрагменты, 368 пласцін і іх фрагменты, чатыры сколы пласціністыя, два сколы пераафармлення пляцоўкі нуклеуса, 41 скол неазначальны, скол карніза нуклеуса, шэсць сколаў з захлыстам, мікраскол, 52 абломкі крамянёвыя са слядамі апрацоўкі, 476 лусак.

Сярод нуклеусаў 40 аднапляцовачных, 13 двухпляцовачных, шэсць шматпляцовачных, адзін чарапахападобны і тры фрагменты неазначальныя. Асноўнай нарыхтоўкай з адна- і двухпляцовачных нуклеусаў былі пласціны, у той час як сярод шматпляцовачных пераважалі адшчэпы.

Знойдзены наступныя прылады працы і зброі: трохкутны наканечнік стралы (мал. 1: *8*), чатыры цёслы, сякера, трохкутнік (мал. 1: *3*), дзве трапецыі (мал. 1: *6, 7*), тры мікраліты (мал. 1: *1, 2, 5*), пяць скрэблаў, 16 скрабкоў, скрабок-скобля, шэсць скобляў, два разцы, чатыры вырабы неазначальныя.

Ляпной керамікі выяўлена 225 фрагментаў: 7 венчыкаў, 217 сценак, донца. Самая ранняя кераміка з помніка адносіцца да прыпяцка-нёманскай культуры. Да яе можна аднесці фрагмент венчыка, зрэз якога гафрыраваны, а пад зрэзам маецца шэраг скразных адтулін, і чатыры фрагменты сценак. Вельмі крохкая, з арганічнымі дамешкамі ў фармовачным цесце кераміка дрэнна захавалася ў пласце, які падвяргаўся гаспадарчаму ўздзеянню.

Да нёманскай культуры можна дакладна аднесці два фрагменты венчыка (зрэз упрыгожаны адступаючай лапаткай, пад краем маецца пояс ямак, нанесеных вонку; арнаментаваны наколамі пад краем венчыка) і два фрагменты сценак. Акрамя таго, удалося аднавіць верхнюю частку гаршка нёманскай культуры (мал. 3). Па тэхналагічных характарыстыках да нёманскай культуры можа быць аднесена і значная частка неарнаментаванай ляпной керамікі.

Адзін фрагмент сценкі, упрыгожаны атбіткамі шнура, можна звязваць з старажытнасцямі кола культур шнуравой керамікі. Да тшцінецкага культурнага кола адносяцца фрагменты двух венчыкаў, арнаментаваныя гарызантальнымі пракрэсленымі лініямі (мал. 1: *14*, *15*). Адзін з ляпных венчыкаў можа адносіцца да ранняга перыяду пражскай культуры, а два фрагменты сценак – да Лука-Райкавецкай культуры.

Знойдзена 5156 фрагментаў ганчарнай керамікі, у тым ліку 367 венчыкаў, 32 вухі, 4547 сценак, край

накрыўкі, 209 донцаў. Акрамя таго, знойдзены 33 фрагменты неазначальнай керамікі.

Сярод іншага ў раскопе трапіліся тры гузікі, 10 цвікоў і іх фрагменты, пяць неазначаных вырабаў з жалеза, 35 фрагментаў шкла і вырабаў з яго, фрагмент накладкі касцяной, два фрагменты люлек, 300 фрагментаў костак і 34 зубы і інш.

Такім чынам, у храналогіі помніка можна вылучыць некалькі этапаў: позні мезаліт (яніславіцкая культура), неаліт (прыпяцка-нёманская культура, нёманская культура, кола культур шнуравой керамікі), бронзавы век (тшцінецкае культурнае кола), жалезны век (пражская культура, Лука-Райкавецкая культура), ранняе сярэдневякоўе, Новы час.

## Літаратура

1. Калечиц, Е. Г. Отчет о полевых исследованиях 2007 года на территории Западного Полесья / Е. Г. Калечиц // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі». – Спр. № 2462.

2. Лакіза, В. Л. Справаздача аб археалагічных даследаваннях на тэрыторыі Нацыянальнага Парка Белавежская пушча ў 2007 годзе / В. Л. Лакіза // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі». – Спр. № 2453.

3. Лакіза, В. Л. Вывучэнне помнікаў каменнага і бронзавага вякоў на тэрыторыі Белавежскай пушчы ў 2007 годзе / В. Л. Лакіза // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. – Мінск, 2009. – Вып. 17 : Археалагічныя даследаванні на Беларусі ў 2007 годзе. – С. 143–150.

4. Сідаровіч, В. М. Справаздача аб археалагічных даследаваннях у Гродзенскай і Брэсцкай абласцях у 1998 г. // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі». – Спр. № 1766.

## Резюме

*О. Ю. Ткачёв*

**Археологические исследования на территории Каменецкого района Брестской области в 2012 году**

В 2012 г. автор проводил археологические исследования на территории Каменецкого района Брестской области. Выявлены новые разновременные памятники, проведены раскопки на поселениях Вилы-2 и Плянта-1. В результате получены новые материалы каменного (яниславицкой, припятско-неманской, неманской культур, круга культур шнуровой керамики) и бронзового (тшцинецкого культурного круга) веков.

## Summary

*O. Yu. Tkachou*

**Archaeological research in Kamianets district, Brest region in 2012**

The article discusses the results of archaeological research in the Kamianets district, Brest region in 2012. In the course of surface surveys some new multitemporal sites were found. The author carried out excavations on Vily-2 and Plyanta-1 sites as well. New materials of the Stone Age (Janislawice Culture, Pripyat-Neman Culture, Neman Culture, Corded Ware Cultures Circle) and Bronze Age (Trzciniec Cultural Circle) were obtained during fieldwork.

*Пастуміў 27.09.2013 г.*

*УДК 903.4(476.6)*

***Я. Л. Хомченко,*** *Могилевский государственный университет имени А. А. Кулешова, студент V курса (г. Могилев, Беларусь)*

# Результаты археологических работ в Кричевском и Мстиславском районах в 2012 году[1]

В 2012 г. автором публикации на основании Открытого листа по форме № 3 (№ 2387) было проведено археологическое изучение памятников на территории двух посожских районов Могилевской области: Кричевском и Мстиславском.

Первые сведения об археологических древностях этого региона относятся к середине XIX – первой половине XX в. и связаны с работами нескольких поколений археологов [2, с. 4–6; 5, с. 16–21]. Однако полевой сезон 2012 г. в очередной раз убедил нас в необходимости проведения исследований, позволивших значительно дополнить археологическую карту изученных районов новыми данными[2].

На территории ***Кричевского района*** исследования проводили в бассейне р. Сож и его притоков – р. Остер, Черная Натопа, Худобычка. Более детально было проведено обследование участков р. Сож севернее и южнее г. Кричев, на которых сведения, например, о памятниках первобытной эпохи до этого были немногочисленны. В результате было изучено 34 памятника археологии: 17 стоянок каменного и бронзового веков (10 из них являются новыми), 13 селищ раннего железного века и эпохи средневековья (8 пунктов открыты экспедицией), 3 курганных могильника и одиночный курган.

Так, севернее г. Кричев в окрестностях д. Глушнево и дачно-садоводческого поселка цементного завода города было открыто шесть памятников археологии, в том числе три стоянки эпохи камня и бронзы.

Стоянка-1 каменного века и селище-1 позднесредневекового времени расположены западнее южной окраины дачно-садоводческого поселка цементного завода г. Кричев. Культурный слой памятников разрушен пахотой. На участке протяженностью 100 × 40 м были собраны изделия из кремня, в том числе: отщепы, пластина-вкладыш (рис. 1: *5*) и резец на сломе отщепа (рис. 1: *8*), а также фрагменты гончарной керамики, изразцов и стекла.

Основная часть стоянки каменного века с восточной стороны занята приусадебными участками жителей дачного поселка (южная окраина), о чем свидетельствует найденные здесь отщеп и нуклевидный обломок. Заслуживает внимания меловой карьер, расположенный в 100 м западнее от стоянки, что дает основание говорить о наличии выходов мелового кремня, использовавшегося, вероятно, человеком в древности.

На стоянке-2 каменного века и селище-2 эпохи Древней Руси и более позднего времени, расположенных севернее дачно-садоводческого поселка на площади 50 × 40 м, были выявлены продукты расщепления кремня: отщепы, пластины и осколок кремня. Кроме этого, найдены изделия с вторичной обработкой, в том числе: скребок или вкладыш, отщеп с ретушью, острие (рис. 1: *3*), подокруглый и концевой скребок (рис. 1: *6, 7*), изделия с выемкой и фрагмент черешкового наконечника стрелы мезолитического облика (рис. 1: *2*). Материалы селища представлены фрагментами груболепной и гончарной керамики, изделиями из стекла.

На стоянке-3 каменного и бронзового веков (находится севернее стоянки-2 и селища-2) собраны отщепы, пластины, нуклеусы (рис. 1: *9, 10*), ретушер на отщепе, острие (рис. 1: *4*), отщепы с ретушью, а также треугольный наконечник стрелы бронзового века (рис. 1: *1*). Последний артефакт изготовлен на отщепе, имеет сломанный черешок, который со стороны спинки и брюшка подчеркивается двумя короткими выемками, образующими с двух сторон шиповидные выступы. Перо наконечника со стороны спинки подправлено ретушью. Находки селища-3 включают фрагменты лепной, подправленной на гончарном круге и гончарной керамики.

Не менее интересные памятники обнаружены в районе старичного оз. Черное и р. Худобычка. Само озеро расположено в пойме левого берега р. Сож, южнее шоссе Кричев–Рославль, северо-западнее д. Прудок. Именно здесь на восточном берегу озера в процессе поисковых работ были открыты четыре стоянки каменного века и три селища эпохи средневековья.

*Стоянка-1* эпохи неолита находится на первой надпойменной террасе восточного берега оз. Черное, в 1 км северо-восточнее кладбища д. Прудок, в 0,45 км южнее шоссе Кричев–Рославль, в лесу. В стенках окопа, идущего вдоль бровки террасы,

[1] Работа выполнена в рамках задания «Динамика развития и взаимодействия культур финального палеолита–мезолита Белорусского Поднепровья и Посожья в контексте восточноевропейских культурно-исторических процессов», включенного в Государственную комплексную программу научных исследований «История, культура, общество, государство» на 2011–2015 гг. (№ госрегистрации 20112350 от 08.08.2011 г., научный руководитель – кандидат исторических наук, доцент А. В. Колосов).

[2] Автор выражает благодарность за помощь в работе с материалами и за консультации в ходе проведения работ своему научному руководителю, кандидату исторических наук, доценту А. В. Колосову.




Рис. 1. Коллекция находок стоянок Глушнево-1 (*5, 8*), Глушнево-2 (*2, 3, 6, 7*), Глушнево-3 (*1, 4, 9, 10*), Прудок-3 (*11–13*): *1, 2* – наконечники стрел; *3, 4* – острия; *5* – пластина-вкладыш; *6, 7* – скребки; *8* – резец; *9, 10* – нуклеусы; *11–1*3 – лепная керамика (фрагменты; неолит)

и многочисленных ям по всей площади памятника, обнаружены изделия первичной обработки: нуклеусы, отщепы, пластины, мелкие осколки. Орудия труда представлены отщепами и пластинами с ретушью по краю и на конце, концевым скребком на отщепе и пластиной-вкладышем. Фрагменты лепной керамики на поверхности сохраняют орнамент в виде оттисков гребенки, с внутренней стороны присутствуют следы ее расчесов. Такая керамика имеет сходство с материалами верхнеднепровской неолитической культуры [1, с. 40–96; 2, с. 68–72].

На правом берегу безымянного ручья, впадающего в оз. Черное, в 0,17 км южнее шоссе Кричев–Рославль, на лесной дороге были подняты отщеп и фрагмент гончарной керамики. Несмотря на то что были обнаружены единичные находки и провести более детальное изучение берега здесь не представляется возможным (его площадь занята лесом), это все же дает основание для дальнейших поисков древних поселений.

*Стоянка-2* эпохи мезолита и неолита и селище-1 эпохи средневековья расположены в 0,7 км юго-за-




Рис. 2. Кремневый инвентарь стоянки Прудок-2: *1* – микропластина с ретушью на конце; *2–6* – пластины; *7, 9, 10* – скребки; *8* – пластина со скошенным ретушью концом; *11* – нуклеус; *12* – скребловидное изделие; *13* – нож

паднее стоянки-1, в лесу. Поверхность террасы высотой 3–4 м над меженным уровнем воды в озере, как и на стоянке-1, нарушена военными окопами. Кроме этого, территория памятника в настоящее время используется в качестве зоны отдыха, что также отрицательно влияет на сохранность культурного слоя: в отдельных местах состаются следы от кострищ современных кемпингов, появляются ямы для свалки мусора.

В стенках окопа, идущего вдоль бровки террасы, собраны кремневые изделия и фрагмент лепной неолитической керамики, орнаментированный оттисками гребенки. Среди кремневых изделий выделяются продукты расщепления, включающие отщепы, мелкие осколки, пластины (рис. 2: *2–6*) и нуклеусы (рис. 2: *11*). Орудийный комплекс представлен ретушированными пластинами (рис. 2: *1*) и отщепами, пластиной со скошенным ретушью концом (рис. 2: *8*), изделием с выемкой на отщепе, концевыми скребками (рис. 2: *7, 9, 10*), скребловидными изделиями на отщепах (рис. 2: *12*), резцом на сломе отщепа и ножом на отщепе (рис. 2: *13*).

*Стоянка-3* эпохи неолита и селище-2 эпохи средневековья расположены в 0,1 км южнее стоянки-1. На стоянке собраны отщепы, пластины, обломок нуклеуса, а также отщепы с ретушью, изделие с выемкой на отщепе и обломки лепной неолитической керамики (рис. 1: *11–13*). Отдельные фрагменты орнаментированы оттисками гребенки, отступающими наколами и лапчатым орнаментом. Они аналогичны керамике, найденной на стоянке-1, и относятся к верхнеднепровской неолитической культуре [1, с. 40–96; 2, с. 68–72]. Стоит отметить заметное скопление мелких осколков кремня (204 ед.) в юго-западной экспозиции памятника, свидетельствующее об обработке кремня на месте самой стоянки.

*Стоянка-4* каменного века и селище-3 эпохи средневековья находятся на левом берегу р. Худобычка (0,1 км), в 0,25 км южнее стоянки-2, на месте кладбища д. Прудок. На песчаных всхолмлениях берега и вдоль лесной дороги был собран подъемный материал: отщеп, мелкие осколки, отщеп с ретушью и фрагменты гончарной керамики.

Кроме этого, были обследованы памятники археологии в окрестностях д. Дяговичи, Лобковичи, Стаборщина, Первокричевский, Поклады. Около д. Дяговичи изучены стоянки-2, -3, -5, селища-2, -3 и одиночный курган. Отдельно стоит уделить внимание стоянке-5, открытой в 2010 г. А. В. Колосовым [4, л. 19]. Через памятник проходит линия окопов времен Великой Отечественной войны, обнажения стенок которых позволили собрать довольно представительную коллекцию материала (182 ед.). Здесь были найдены продукты расщепления кремня, отщепы и пластины с ретушью по краю и на конце, пластина-вкладыш, резец срединный, изделие с выемкой и проколка на отщепах, бифасиальный топор овальной формы, фрагменты лепной и гончарной керамики.

В 2012 г. обследование террасы, на которой расположена стоянка-5, было продолжено и, несмотря на то что поверхность террасы на памятнике интенсивно поросла лесом, что определенно затрудняет проведение обследования, в нескольких пунктах северо-восточнее стоянки были найдены единичные находки каменного и раннего железного веков. Это говорит о том, что рассматриваемый участок берега является перспективным в плане поиска здесь новых памятников археологии.

В д. Лобковичи на правом берегу р. Сож, на приусадебных участках домов № 162 и 164 по ул. Центральная были обнаружены стоянка каменного века и селище эпохи Древней Руси и более позднего времени. Здесь удалось найти нож на пластине, концевой скребок, изделие с выемкой на отщепе, фрагмент наконечника стрелы (?) и обломки гончарной посуды, в которых наблюдаются примеси песка и толченого камня. Культурный слой памятников распахивается. Местонахождение каменного века около д. Лобковичи уже является третьим, а селище первым по счету памятником, с учетом исследований прежних лет [2, с. 124; 5, с. 81–82].

На западной окраине д. Стаборщина были обследованы курганный могильник и селище-2 эпохи раннего железного века. Кроме них удалось обнаружить стоянку каменного века, селище эпохи раннего железного века и средневековья, которое с учетом первых двух памятников, известных ранее, является третьим в окрестностях этой деревни. Среди находок – изделия из кремня, в том числе: пластина, мелкий осколок, концевой скребок и проколка на отщепах, а также фрагменты лепной, сохраняющей расчесы на внешней стороне, и гончарной керамики.

Восточнее д. Первокричевский были обследованы стоянки-1–3 каменного века, курганные могильники-1, -2 и селище эпохи Древней Руси и более позднего времени. Кроме этого, около кладбища поселка были обнаружены находки каменного века: отщепы, осколки кремня, отщеп с ретушью, изделия с выемкой. С учетом прежних исследований [5, с. 68–69], найденный комплекс находок позволяет говорить о наличии в окрестностях д. Первокричевский еще одной, четвертой по счету, стоянки каменного века.

Среди памятников археологии в окрестностях поселка особый интерес вызывает стоянка-3 каменного и бронзового веков, расположенная на 8-10-метровой первой надпойменной террасе правого берега р. Сож, в 0,25 км восточнее пос. Первокричевский, в урочище Испуды [2, с. 125]. В 2004 г. А. В. Колосовым было выделено два пункта скопления материалов в северной и центральной его экспозиции [3, с. 152–153]. Они получили буквенные обозначения «А» и «Б». Во время обследования в 2012 г. площадь памятника оказалась распахана, что позволило собрать представительную коллекцию артефактов (549 ед.). Однако при сборе находок кроме двух известных ранее скоплений артефактов отчетливо наблюдались еще две локализации находок финального палеолита-мезолита в западной (пункт «В», финальный палеолит, свидерская культура) и южной (пункт «Г», финальный палеолит–мезолит) частях памятника.

На территории ***Мстиславского района*** в 2012 г. работы проходили по р. Сож, а также его правым притокам – р. Вихра, Белая Натопа, Горянка, Черная, Суточка. Наиболее масштабно были обследованы центральная и северная часть района. Отдельное внимание было уделено поиску памятников каменного века в бассейне р. Белая Натопа. Это связано с недавно открытым здесь местонахождением эпохи финального палеолита около д. Космыничи [6, с. 207], что изменило представление относительно вопроса о первоначальном заселении района

и содействовало активизации работ, направленных на поиск более ранних по времени памятников.

В итоге в Мстиславском районе было обследовано 49 памятников археологии: 15 стоянок и местонахождений отдельных находок каменного века (11 открыты в ходе работ), 28 селищ эпохи Древней Руси и позднего средневековья (22 из них являются новыми), 5 городищ раннего железного века и средневековья, одиночный курган.

В окрестностях г. Мстиславль была найдена стоянка, полученный материал которой имеет финальнопалеолитический облик. Коллекция включает отщепы, пластины, обломок нуклеуса, отщеп с ретушью, скребок на отщепе и фрагмент черешка наконечника стрелы (тип Лингби) (рис. 3: *1*). Последнее изделие покрыто патиной голубого цвета.

Палеолитический облик имеют и находки, собранные около д. Шуменичи. Здесь на правом берегу р. Серебрянка, были найдены отщеп и угловая развертка на отщепе (рис. 3: *2*). Представляет интерес и единичная находка в виде скребловидного изделия, найденная недалеко от д. Старое Село. Ору-




Рис. 3. Кремневый инвентарь стоянок и отдельных местонахождений Мстиславль (*1*), Шуменичи (*2*), Коробчино (*3*), Коськово (*4*), Каменка (*5, 7*), Старое Село (*6*): *1* – черешок наконечника стрелы (фрагмент); *2* – угловая развертка; *3* – наконечник стрелы на пластине; *4* – скребло-резец ретушный; *5* – резец ретушный на отщепе; *6* – скребловидное изделие; *7* – нуклеус

дие изготовлено на нуклеусе, сохраняет на спинке меловую корку и обработано на конце полукрутой ретушью, брюшко на поверхности патинировано (рис. 3: *6*). По своему внешнему виду находку можно датировать палеолитическим временем. К сожалению, повторное обследование местонахождения после перепашки поля не дало новых результатов.

Местонахождения каменного века также были найдены и в окрестностях д. Чернилово и д. Селец. Недалеко от д. Чернилово, на левом берегу р. Черная, в поле, были обнаружены немногочисленные отщепы и пластина. Некоторые из них патинированы. Юго-восточнее д. Селец, на дюнном всхолмлении левого берега р. Черная Натопа, были обнаружены отщеп, пластина с ретушью по краю и скребок на отщепе.

Кроме этого, единичные артефакты из кремня были найдены в окрестностях д. Коськово, Космыничи, Заречье (бассейн р. Белая Натопа), Путяты, Сутоки. У д. Коськово на террасе, по которой проходит улица Лесная, было найдено скребло-резец ретушный на отщепе (рис. 3: *4*), фрагменты керамики и стекла. Данные находки указывают на возможное существование здесь памятников каменного века и позднесредневекового времени, которые, вероятно, были уничтожены во время разработки карьера. В обнажении западной стенки карьера наблюдался культурный слой светло-серого цвета мощностью 0,6 м (местами до 1,3 м).

В окрестностях д. Космыничи был найден кварцитовый, а около д. Заречье кремневый отщеп. Эти местонахождения являются вторыми по счету с учетом прежних открытий [6, с. 207]. Юго-восточнее д. Путяты и северо-западнее д. Сутоки были обнаружены концевой скребок на отщепе и кремневая пластина соответственно.

Вдоль песчаной дороги-улицы, проходящей по д. Каменка (бассейн р. Ремествлянка), были собраны изделия из кремня: отщепы, резец ретушный на отщепе (рис. 3: *5*), нуклеусы (рис. 3: *7*), изделие с выемкой и отщепы с ретушью. Все находки имеют архаичный облик. Особый интерес представляет сырье, из которого изготовлены предметы – полосатый кремень серого цвета. По словам местных жителей д. Каменка, песок для подсыпки дороги был привезен с находящегося недалеко от деревни карьера. С целью поиска местонахождения источников сырья, из которого изготовлены артефакты, и стоянки, связанной с ними, автором было проведено обследование обнажений карьера, что не дало положительных результатов.

Отдельное внимание было уделено изучению уже известных памятников каменного века. В частности, была обследована мезолитическая стоянка Коробчино (бассейн р. Вихра) [2, с. 135]. Во время обследования стоянки были найдены отщеп с ретушью и черешковый наконечник стрелы на регулярной пластине (рис. 3: *3*).

Также были изучены окрестности д. Колотовино. Еще в 2004 г. А. В. Колосовым здесь были обнаружены единичные находки из кремня [2, с. 132–133]. Сегодня, как и раньше, берег задернован, что не позволяет проводить сбор подъемного материала. В кротовинах берега удалось поднять только отщеп с ретушью и фрагмент гончарной керамики, что может свидетельствовать о наличии здесь культурного слоя и определяет перспективу дальнейших исследований.

В 2012 г. нами были осмотрены стоянки, расположенные у д. Космыничи и д. Заречье (бассейн р. Белая Натопа). Памятники были случайно открыты нами еще в 2010 г. [6, с. 207]. Повторное обследование стоянки-1 у д. Космыничи в 2012 г. не дало результатов. Лишь южнее памятника был найден массивный отщеп. Однако на стоянке-1 у д. Заречье удалось собрать подъемный материал: семь отщепов, пластину и скребок-проколку.

Кроме местонахождений каменного века, район характеризуется наличием немалого количества городищ эпохи раннего железного века и Древней Руси. Такие памятники были осмотрены в северо-восточной части г. Мстиславль (Девичья Гора), у д. Курковщина (Татарщина), Мазолово (Тарелка), Подлужье, Осмоловичи (Митехоровка).

Следует обратить внимание и на те неукрепленные поселения эпохи Древней Руси и средневековья, которые заметно преобладают в рассматриваемом районе. Напомним, что в результате работ было обследовано 28 пунктов, 22 из которых были обнаружены в ходе исследования. Они выявлены в окрестностях д. Гуторовщина, Заречье (бассейн р. Белая Натопа) (четыре пункта), Космыничи, Мазолово (три пункта), Митьковщина, Осмоловичи (два пункта), Путяты, Рожево, Сутоки, Старое Село, Сычевка, Чернилово (два пункта), Шумяничи, а также в окрестностях Мстиславля. На многих селищах получены представительные коллекции материалов, которые в сопоставлении с письменными источниками дают новые и дополняют уже известные сведения относительно расселения на территории региона в эпоху средневековья.

Известные ранее селища были изучены около д. Заречье (бассейн р. Белая Натопа), Коробчино, Космыничи, Мазолово, Шамовщина, а возле д. Осмоловичи осмотрен одиночный курган.

Нельзя оставить в стороне и сохранность памятников. При работах удалось установить факт разрушения археологических объектов в ходе разработки карьера у д. Коськово. О том же свидетельствуют и кремневые находки, обнаруженные на песчаной дороге д. Каменка, насыпанной из карьера. Культурный слой многих селищ разрушен в ходе хозяй-

ственной деятельности, а также из-за рытья многочисленных ям кладоискателями.

Таким образом, в 2012 г. на территории Кричевского и Мстиславского районов нами было изучено 83 археологических памятника и местонахождения отдельных находок, в том числе 51 памятник открыт в результате экспедиционных работ. Увы, несмотря на столь значительное число материалов, проблема заселения Мстиславского района в каменном веке остается открытой. Известные ранее памятники и новые сведения, полученные на территории района в 2012 г., хотя и дополняют наши представления относительно решения данной проблемы, однако не решают ее.

## Литература

1. Калечиц, Е. Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии / Е. Г. Калечиц. – Минск : Наука и техника, 1987. – 158 с.

2. Колосов, А. В. Археологические древности Могилевского Посожья (по материалам экспедиций 2002–2008 гг.) / А. В. Колосов. – Могилев : «МГУ им. А. А. Кулешова», 2009. – 264 с.

3. Колосов, А. В. Мезолитические стоянки Кричевского Посожья / А. В. Колосов // Романовские чтения : сб. трудов Междунар. конф. / под ред. О. В. Дьяченко. – Могилев : «МГУ им. А. А. Кулешова», 2005. – С. 150–154.

4. Колосов, А. В. Отчет об археологических работах 2010 г. в междуречье Сожа и Остра (Могилевская область) // Архив археологической научной документации ГНУ «Институт истории НАН Беларуси». – № 2740. – Могилев, 2011 г. – 26 с., 57 с. колл. оп., 77 с. ил.

5. Копытин, В. Ф. Археологические памятники Кричевского района Могилевской области / В. Ф. Копытин. – Могилев : «МГУ им. А. А. Кулешова», 1999. – 109 с.

6. Хомченко, Я. Л. Новые средневековые памятники Мстиславльского района / Я. Л. Хомченко // Середньовічні старожитності Центрально-Східної Європи : матеріали доповідей X Міжнар. студент. археолог. конф., Чернігів, 15–17 квітня 2011 р. – Чернігів : ЧНПУ імя Т. Г. Шевченка, 2011. – С. 207.

## Рэзюмэ

*Я. Л. Хомчанка*

**Вынікі археалагічных работ на тэрыторыі Крычаўскага і Мсціслаўскага раёнаў у 2012 годзе**

Артыкул прысвечаны археалагічным работам у 2012 г. на тэррыторыі Крычаўскага і Мсціслаўскага раёнаў Магілёўскай вобласці (басейн р. Сож). Былі вывучаны 83 помнікі археалогіі, 51 з якіх адкрыты ў выніку экспедыцыйных работ. Прапанавана кароткая характарыстыка розначасовых матэрыялаў, у першую чаргу каменнага веку, з іх культурнай і храналагічнай інтэрпрэтацыяй, праблемай захаванасці асобных месцазнаходжанняў.

## Summary

*Ya. L. Khomchenko*

**The Results of Archaeological Works in Krichev and Mstislavl Districts in 2012**

The article deals with the results of excavations on the territory of Krichev and Mstislavl Districts of Mogilev Region (the Sozh basin) in 2012. 83 archaeological sites were studied, among them 51 were discovered during archaeological field survey. The author gives concise characteristics of the discovered material which belongs to the Stone Age, interprets it culturally and chronologically and raises the problem of preservation of some places.

*Поступила 30.09.2013 г.*

*УДК 726.82+351.853/04/4/(476)*

***В. У. Чараўко,*** *УА «Полацкі дзяржаўны універсітэт», старшы выкладчык (г. Наваполацк, Беларусь)*

# Археалагічныя раскопкі на могільніку каля вёскі Івесь Глыбоцкага раёна ў 2012 годзе

Артыкул прысвечаны апісанню археалагічных раскопак на грунтовым могільніку каля в. Івесь Глыбоцкага раёна ў 2012 г. Мэтай раскопак стаў працяг вывучэння пахавальных помнікаў, пачатага ў 2010 г. Былі закладзены два раскопы, якія прымыкалі да шурфоў 2010 і 2011 г. Былі даследаваны пяць пахаванняў, у тым ліку тры жаночыя, мужчынскае і дзіцячае. Чатыры пахавальных комплекса былі абазначаны каменнымі надмагіллямі, адно пахаванне не мела ніякіх надмагільных канструкцый на ўзроўні дзённай паверхні. Касцякі арыентаваны галавой на захад з невялікімі адхіленнямі да поўначы і поўдня. Выяўлены пахавальны і памінальны інвентар (пярсцёнак, фрагменты керамікі) дае магчымасць датаваць пахаванні XIV–XVI стст.

У ліпені–жніўні 2012 г. археалагічная эспедыцыя Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта працягвала раскопкі на грунтовым (жальнічным) могільніку каля в. Івесь Глыбоцкага раёна, пачатыя ў 2010 г. [1, 2]. Інфармацыя аб могільніку была атрымана ў 2009 г. ад дацэнта УА «Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт», кандыдата гістарычных навук Уладзіміра Аляксандравіча Лобача. У 2009 г. на помніку намі была праведзена візуальная разведка. Была зафіксавана наяўнасць чатырох каменных крыжоў, каменных надмагільных канструкцый. У 2010–2011 гг. на могільніку былі закладзены шурфы, якія прымыкалі адзін да аднаго. У 2012 г. на могільніку каля в. Івесь былі закладзены два раскопы, якія прымыкалі да шурфоў 2010 і 2011 г. Раскоп 1 першапачатковай плошчай 16 м$^2$ прымыкаў з заходняга боку да шурфа 2010 г. (мал. 1). Паколькі ў ходзе раскопак было выяўлена пахаванне, якое выходзіла за межы раскопу 1, да паўднёва-заходняга кута была зроблена прырэзка плошчай 1,25 м$^2$. Такім чынам, плошча раскопу 1 склала 17,25 м$^2$. Раскоп 2 плошчай 20,5 м$^2$ прымыкаў з паўночнага боку да шурфа 2011 г. Неправільная канфігурацыя раскопу 2 абумоўлена наяўнасцю вялікіх дрэў, якія растуць у кв. Б6 паміж шурфом 2011 г. і раскопам 2 2012 г. Выступ раскопу 2 з паўднёвага боку, які парушае геаметрычна правільную канфігурацыю раскопу, будзем называць прырэзкай да раскопу 2. Ускрытая ў 2012 г. плошча склала 37,75 м$^2$, агульная ўскрытая плошча – 72,25 м$^2$.

У 2012 г. была працягнута нумарацыя квадратаў, пачатая ў 2010 г. У межах раскопу 1 размяшчаліся кв. А′1, А′2, Б′1, Б′2 цалкам, а таксама Б′1′, В′1, В′1′ часткова. У межах раскопу 2 размяшчаліся кв. А6, А7, Б7 цалкам, а таксама кв. А5, Б6, А8, Б8 часткова. Пахаванні атрымалі двайную нумарацыю – скразную, пачатую ў 2010 г., ад № 12 па № 16, і з дадаткам года – ад 2012-1 да 2012-5. Усяго было выяўлена пяць пахаванняў.

Візуальны агляд і нівеліроўка дзённай паверхні раскопаў выявілі нязначны перапад вышынь (розніца ў 0,1–0,2 м).

Размяшчэнне камянёў надмагільных канструкцый у межах раскопу 1 дазваляла меркаваць аб наяўнасці там 1–2 пахаванняў, пры гэтым валунныя камяні маглі разглядацца як маркёры галавы/ног пахавання (мал. 2). На самой справе было выяўлена адно пахаванне ў раскопе 1 і адно пахаванне ў прырэзцы да яго з паўднёва-заходняга боку. Апошняе не было пазначана каменным надмагіллем. Размяшчэнне камянёў надмагільных канструкцый у межах раскопу 2 дазваляла меркаваць аб наяўнасці там 2–3 пахаванняў. У ходзе раскопак былі выяўлены тры пахаванні.

У межах раскопу 1 стратыграфія мела наступны выгляд (мал. 3, 4). Пад слоем дзёрну на глыбіню ад 0,15 да 0,30 м ішоў пласт шэра-жоўтага, попелападобнага па структуры пяску, падзолу. Глыбей ішоў пласт жоўтага пяску магутнасцю 0,3–0,5 м. Пад ім ішоў пласт чырвонай гліны. У паўднёвай частцы раскопу 1 у гліне трапляліся каменьчыкі памерам да 1 см. Магутнасць пласта гліны вагалася ад 0,05 м у паўночнай частцы раскопу і да 0,4 м у паўднёвай яго частцы. На глыбіні 0,5–0,8 м ад дзённай паверхні знаходзіўся слой мацерыковага бледна-жоўтага шчыльнага пяску. Магільныя ямы былі запоўнены шэрым пяском.

У межах раскопу 2 стратыграфія мела наступны выгляд (мал. 5, 6). Зверху пад слоем дзёрну на глыбіню ад 0,15 да 0,50 м ішоў пласт шэра-жоўтага, попелападобнага па структуры пяску, падзолу. Глыбей ішоў пласт жоўтага пяску магутнасцю 0,1–0,4 м. Пад ім на глыбіні каля 0,6 м ад дзённай паверхні пачынаўся мацярык – бледна-жоўты шчыльны пясок. Пласты і праплastак чырвонай гліны ў раскопе 2 не прасочвалася. Магільныя ямы былі запоўнены шэрым (пахаванне 15) або жоўтым пяском (пахаванні 14 і 16) – гэта значыць, не вылучаліся па колеры.

Стратыграфія раскопаў 1 і 2 суадносіцца са стратыграфіяй шурфоў 2010 і 2011 г. адпаведна.

**Пахаванне 12 (2012-1)** (мал. 7) было размешчана ў раскопе 1 у кв. А′1 (асноўная частка касцяка) і Б′1 (чэрап). На ўзроўні дзённай паверхні яно было пазначана надмагільнай канструкцыяй, што




Мал. 1. Нівеліровачны план. Размяшчэнне раскопаў 1 і 2 (Р. 1 і Р. 2) адносна шурфоў 2010 і 2011 г. адпаведна. Могільнік каля вёскі Івесь Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. 2012 г.




Мал. 2. Каменныя надмагільныя канструкцыі на ўзроўні дзённай паверхні. Могільнік каля вёскі Івесь Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. 2012 г.




*а*




*б*




*в*




Мал. 3. Паўднёвы (*а*), паўночны (*б*) і заходні (*в*) профілі. Раскоп 1. Могільнік каля вёскі Івесь Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. 2012 г. Умоўныя адзнакі: *1* – дзёран; *2* – камень; *3* – шэры, попелападобны пясок, падзол; *4*– жоўты пясок; *5* – мацерыковы светла-жоўты пясок; *6* – чырвоная гліна




Мал. 4. Усходні (*а*), паўднёвы (*б*), заходні (*в*) і паўночны (*г*) профілі прырэзкі ў паўднёва-заходнім куце раскопу 1. Умоўныя адзнакі тыя ж, што і на мал. 3




*а*




*б*




*в*




*г*

Мал. 5. Паўночны (*а*), заходні (*б*), усходні (*в*) і паўднёвы (*г*) профілі. Раскоп 2. Могільнік каля вёскі Івесь Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. 2012 г. Умоўныя адзнакі тыя ж, што і на мал. 3




Мал. 6. Усходні профіль. Прырэзка з паўднёвага боку раскопу 2. Могільнік каля вёскі Івесь Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. 2012 г.

складалася з валуннага каменя памерам ~ 0,7 м і вышынёй 0,56 м ў нагах пахавання і валуннага каменя памерам ~ 0,7 м і вышынёй 0,6 м на адлегласці 0,3 м на паўночны захад ад галавы пахавання. Акрамя таго, да надмагілля пахавання 12 маглі адносіцца камяні памерамі ~ 0,4 м справа і злева (з поўдня і поўначы) ад пахавання. На глыбіні да 0,2 м ад узроўню дзённай паверхні было выяўлена яшчэ 13 камянёў памерамі ад 0,15 да 0,6 м (мал. 8). На глыбіні ад 0,2 да 0,4 м ад узроўню дзённай паверхні было выяўлена яшчэ пяць камянёў. Глыбей было выяўлена яшчэ пяць камянёў, якія адносіліся да каменнай канструкцыі пахавання 12, у тым ліку два з іх – на мацерыку. Камяні складалі канструкцыю, пераходную ад выбрукоўкі да абкладкі (у форме няправільнага авала) з вялікім валуном у нагах пахавання.

Касцяк быў размешчаны на адлегласці 1,2 м ад паўднёвай сцяны раскопу. Арыенціроўка – галавой на захад. Рукі былі складзены на жываце, правая на левай. Пахаванне безынвентарнае. Рэшткі труны адсутнічалі. У адапаведнасці з высновамі антрапалагічнай экспертызы, праведзенай В. А. Емяльянчык,[1] пахаванне належала жанчыне ва ўзросце 18–20 гадоў.

У паўночнай палове раскопу 1, у кв. А′2 Б′2, зыходзячы з камянёў на дзённай паверхні, магло быць размешчана пахаванне або нават два. Гэта пацвярджалася наяўнасцю нязначнай колькасці камянёў на глыбіні да 0,6 м ад узроўню дзённай паверхні і дзвюма плямамі ад перакопу ў гэтых квадратах, аднак ні рэштак пахаванняў, ні контураў касцяка або труны не было выяўлена.

**Пахаванне 13 (2012-2)** (мал. 7) было размешчана ў раскопе 1 у прырэзцы, зробленай у паўднёва-заходнім куце раскопу. Пахаванне не было пазначана камянямі і было выяўлена зыходзячы са стратыграфіі раскопу (паўднёвага профілю). Пахаванне было размешчана ў кв. Б′1′ (асноўная частка касцяка) і В′1′ (чэрап) на мяжы з кв. Б′1 і В′1. Пахаванне арыентавана галавой на захад з невялікім адхіленнем да поўначы. Левая рука выцягнута ўздоўж цела, правая пакладзена на таз. Пахаванне безынвентарнае. Рэшткі труны адсутнічалі. У адапаведнасці з высновамі антрапалагічнай экспертызы, пахаванне належала жанчыне ва ўзросце 50–60 гадоў.

**Пахаванне 14 (2012-3)** (мал. 7) было размешчана ў раскопе 2 у кв. Б6 на мяжы з кв. А6. На ўзроўні дзённай паверхні яно, магчыма, было пазначана валунным каменем памерамі 0,4–0,7 м і вышынёй ~ 0,2 м. Гэты камень быў размешчаны на адлегласці 0,5 м на поўнач ад чэрапа ў пахаванні і мог адносіцца да яго надмагілля. Яшчэ адзін камень памерамі ~ 0,6 м і вышынёй ~ 0,2 знаходзіўся на адлегласці каля 0,4 м на паўднёвы захад ад чэрапа ў пахаванні і таксама мог адносіцца да яго надмагілля. На адлегласці каля 0,8 м на усход ад чэрапа быў размешчаны камень памерамі ~ 0,4 м і вышынёй ~ 0,3 м, які мог як маркіраваць ногі ў пахаванні (ад якога захаваўся толькі чэрап), так і адносіцца да пахаванняў у недаследаванай пакуль частцы могільніка.

Пад слоем дзёрну на глыбіню да 0,2 м ад узроўню дзённай паверхні над пахаваннем 14 былі выяўлены яшчэ шэсць камянёў памерамі ад 0,15 да 0,20 м. Адзін з іх быў размешчаны непасрэдна над чэрапам, астатнія утваралі абкладку злева над касцяком. На глыбіні ад 0,2 да 0,4 м ад узроўню дзённай паверхні быў размешчаны яшчэ адзін камень у галавах і тры – у нагах пахавання (два справа ад касцяка, адзін – злева) памерамі 0,2–0,4 м. На глыбіні ад 0,4 да 0,6 м ад узроўню дзённай паверхні былі выяўлены яшчэ чатыры камяні ў нагах пахавання і адзін – каля галавы. Каменная канструкцыя з'яўляецца абкладкай з вялікімі камянямі ў галавах і нагах пахавання.

Касцяк пахавання быў прадстаўлены выключна чэрапам, запаўненне магільнай ямы па колеры не адрознівалася ад грунта вакол, таму рэканструкцыя каменнай канструкцыі гіпатэтычная. Пахаванне безынвентарнае. Рэшткі труны адсутнічалі. У адпаведнасці з высновамі антрапалагічнай экспертызы, пахаванне належала дзіцяці. Пол і ўзрост вызначыць немагчыма з прычыны адсутнасці костак посткраніяльнага шкілета і дрэннай захаванасці чэрапа.

**Пахаванне 15 (2012-4)** (мал. 7) было размешчана ў раскопе 2 на мяжы кв. А6-А7 і Б6. На ўзроўні дзённай паверхні яно было пазначана валунамі ў галавах і нагах пахавання. У галавах знаходзіліся два валуны памерамі ~ 0,4–0,8 м і вышынёй да 0,25 м над узроўнем дзённай паверхні. У нагах (злева) знаходзіўся камень памерам ~ 0,5 м і вышынёй ~ 0,4 м. Акрамя таго, яшчэ два камяні памерамі да 0,2 м знаходзіліся злева ад пахавання. Раскопкі выявілі магутную ўнутрымагільную канструкцыю-выбрукоўку, якая складалася з камянёў, складзеных у некалькі слаёў. Пад дзёрнам на глыбіні да 0,2 м ад узроўню дзённай паверхні знаходзілася 39 камянёў памерамі 0,1–0,6 м, якія складалі суцэльную выбрукоўку над пахаваннем (мал. 8). На глыбіні ад 0,2 да 0,4 м ад узроўню дзённай паверхні былі размешчаны тры камяні памерамі да 0,5 м. На глыбіні ад 0,4 да 0,6 м ад узроўню дзённай паверхні былі выяўлены яшчэ тры камяні памерам да 0,4 м, якія адносіліся да пахавання 15. Каменная канструкцыя з'яўлялася выбрукоўкай з вялікім валуном у галавах пахавання.

Касцяк быў арыентаваны галавой на захад з невялікім адхіленнем ў паўночны бок. Рукі складзены

[1] Аўтар удзячны кандыдату біялагічных навук, старшаму выкладчыку УА «Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт» Вользе Антонаўне Емяльянчык за праведзеную антрапалагічную экспертызу.




Мал. 7. План размяшчэння пахаванняў. Могільнік каля вёскі Івесь Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. 2012 г.




Мал. 8. Сумяшчэнне планаў надмагільных і ўнутрымагільных каменных канструкцый. Могільнік каля вёскі Івесь Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. 2012 г.

на жываце, правая на левай. Пахаванне безынвентарнае. Рэшткі труны адсутнічалі. У адпаведнасці з высновамі антрапалагічнай экспертызы, пахаванне належала мужчыне ва ўзросце 30–40 гадоў.

**Пахаванне 16 (2012-5)** (мал. 7) было размешчана ў раскопе 2 ў паўночна-усходнім куце ў кв. Б8. На ўзроўні дзённай паверхні пахаванне было маркіравана каменем памерамі ~ 0,7 м і вышынёй 0,25 м, які быў размешчаны ў галавах. На глыбіні ад 0,2 да 0,4 м ад узроўню дзённай паверхні былі выяўлены 22 камяні, якія стваралі выбрукоўку над пахаваннем (а дакладней, справа, на поўдзень каля яго) (мал. 8). Памеры камянёў вагаліся ад 0,15 да 0,50 м. Глыбей, на ўзроўні 0,6 м ад узроўню дзённай паверхні, знаходзіліся яшчэ тры камяні памерамі 0,2–0,3 м. Каменная канструкцыя з'яўлялася суцэльнай выбрукоўкай з вялікім каменем у галавах пахавання.

Касцяк быў арыентаваны галавой на захад з невялікім адхіленнем на поўдзень. Правая рука была пакладзена на грудзях, левая знаходзілася на жываце. У адпаведнасці з высновамі антрапалагічнай экспертызы, пахаванне належала жанчыне ва ўзросце 20–25 гадоў. Пахаванне мела інвентар: бронзавы вузкапласцінчаты пярсцёнак з двайным рыфленнем, характэрны для XIV–XV (XVII) стст. (мал. 9) [3]. Акрамя таго, у магільнай яме выяўлены жалезныя цвікі ад труны ў колькасці 12 шт., па шэсць у галавах і нагах пахавання.

У раскопе 1 у кв. А′1, А′2, Б′1 і Б′2 на глыбіні да 0,4 м ад узроўню дзённай паверхні былі выяўлены фрагменты сценак і венца керамічнага гаршка. Фрагмент венца ў сячэнні тоўсты, паверхня няроўная, дрэнна загладжаная (мал. 10: *3*). Выраблена неахайна. У цесце ў вялікай колькасці прысутнічае жарства. Шыйка кароткая. Гаршчок можа быць датаваны XV–XVI стст.




Мал. 9. Пярсцёнак. Бронза. XIV–XV (XVII) стст. Пахаванне 16. Могільнік каля вёскі Івесь Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. 2012 г. Прарысоўка А. Л. Коца

У раскопе 2 у кв. А5, А6, А7, А8, Б6 на глыбіні да 0,4 м ад узроўню дзённай паверхні былі выяўлены фрагменты сценак і венцаў керамічнага гаршка. Большасць фрагментаў была выяўлена ў пласце 2 (на глыбіні ад 0,2 да 0,4 м ад узроўню дзённай паверхні). Асноўная частка фрагментаў керамікі, у тым ліку два фрагменты венцаў, сканцэнтравана ў кв. Б6. Фрагмент венца, які мае манжэту (мал. 10: *1*), датаваны XII–XIII стст. У цесце ў вялікай колькасці прысутнічае жарства, паверхня фрагмента няроўная, дрэнна загладжаная, шурпатая. Гэта можа тлумачыцца мясцовай недасканалай вытворчасцю. Фрагмент, які занесены ў Вопіс масавых знаходак пад № 18, мае на плечыку лінейны арнамент (мал. 10: *2*). Шыйка кароткая. Паверхня няроўная, шурпатая, дрэнна загладжана. У цесце ў вялікай колькасці прысутнічае жарства. Венца можа быць аднесена да XV ст.




Мал. 10. Венцы ад керамічнага начыння (фрагменты) (*1–3*). Могільнік каля вёскі Івесь Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. 2012 г.

Фрагменты керамікі, выяўленыя на невялікай глыбіні, могуць быць інтэрпрэтаваны як памінальны інвентар. У такім разе адно венца XV–XVI стст. адносіцца да пахавання 12, а яшчэ адно XV ст. – да пахавання 14 або да пахавання 15. Пахаванне 16 датавана XIV–XV стст. на падставе знаходкі пярсцёнка.

### Літаратура

1. Чараўко, В. У. Археалагічныя разведкі на грунтовым могільніку каля в. Івесь Глыбоцкага раёна ў 2010 годзе / В. У. Чараўко // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. – 2012. – Вып. 23. – С. 379–383.

2. Чараўко, В. У. Археалагічнае вывучэнне могільніка каля в. Івесь Глыбоцкага раёна ў 2010–2011 гг. / В. У. Чараўко // Полацк у гісторыі і культуры Еўропы : матэрыялы Міжнар. навук. канф., Полацк, 20–23 мая 2012 г. ; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.] ; навук. рэд., уклад. В. М. Ляўко. – Мінск : Беларус. навука, 2012. – С. 417–426.

3. Svetikas, E. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės christianizacija XIV a. pab. – XV a. : archeologiniai radiniai su krikščioniškais simboliais. – Vilnius : Diemedžio leidykla, 2009. – T. 1. – 659 p. : il.

### Резюме

*В. В. Черевко*

**Археологические раскопки на могильнике возле деревни Ивесь Глубокского района в 2012 году**

Приведено описание археологических раскопок на грунтовом могильнике возле деревни Ивесь Глубокского района Витебской области в 2012 г. Цель раскопок – продолжить изучение погребальных памятников, начатое в 2010 г.

В 2012 г. были заложены два раскопа, которые примыкали к шурфам 2010 и 2011 г. Вскрытая в 2012 г. площадь составила 37,75 м$^2$, общая вскрытая площадь – 72,25 м$^2$. Стратиграфия раскопов соотносится со стратиграфией шурфов 2010 и 2011 г. В 2012 г. были исследованы пять погребений, в том числе три женских, мужское и детское. Четыре погребальных комплекса были обозначены каменными надмогильными конструкциями (в двух случаях – сплошная каменная вымостка с крупными камнями в головах, в одном – переходная от вымостки к обкладке конструкция к крупным камнем в ногах, в одном – обкладка с крупными камнями в головах и ногах), одно погребение не имело никаких конструкций на уровне дневной поверхности. Костяки ориентированы головой на запад с небольшими отклонениями к северу и югу.

В четырех погребениях погребального инвентаря и следов гроба не выявлено. В одном женском погребении найдены бронзовый перстень, характерный для XIV–XV вв., а также гвозди от гроба. Находки вне могил представлены фрагментами керамики. Особенности формы и орнаментации двух венчиков, формовочной массы позволяют датировать их XV и XV–XVI вв. Выявление фрагментов керамики на небольшой глубине дает возможность интерпретировать их как поминальный инвентарь.

### Summary

*V. V. Charauko*

**The archaeological excavations at the cemetery near Ives village of Gluboksky district in 2012**

The article describes archaeological excavations at the ground cemetery near Ives village of Gluboksky district in Vitebsk region in 2012. The aim of the excavations is to continue the investigation of the funerary burials, which were started in 2010.

In 2012, 2 excavations were made, which were connected with the pits of 2010 and 2011. The area opened in 2012 was 37.7 sq. m, the total opened area – 72.2 sq. m. The stratigraphy of excavation pits correlats with the stratigraphy of pits of 2010 and 2011. In 2012 five burials were investigated, including 3 female, 1 male and 1 children's grave. Four funerary complexes were marked with gravestone constructions (in two cases – a solid stone pavement with large stones near the heads, in one case – a construction with transition from the pavement to the turfing with a large stone near the feet, and in another case – the turfing with large stones near the heads and feet), one burial had no constructions on the level of daily surface. The heads of skeletons are oriented to the West, with small deviations to the north and south.

Four burials have no burial objects and no traces of any coffins. A bronze ring typical for the 14$^{th}$–15$^{th}$ centuries, as well as coffin nails have been found in the female grave. Among the objects found outside the graves are fragments of ceramics. The characteristic features of shape and ornamentation of the two funeral headbands and some peculiarities of the molding mass allow us to think that they date back to the 15$^{th}$ and 15$^{th}$–16$^{th}$ centuries. As ceramic fragments have been found at a shallow depth, it makes it possible to interpret them as memorial inventory.

*Паступіў 30.09.2013 г.*

*УДК 902/904(476)*

***Макс. М. Чарняўскі,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, аддзел археалогіі першабытнага грамадства, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск, Беларусь)*

# Даследаванні на Беларускім Паазер'і ў 2012 годзе

У 2012 г. аўтар дадзенага артыкула праводзіў разведкі ў Мядзельскім раёне Мінскай вобласці (сумесна з Міхалам Чарняўскім), Лепельскім і Ушацкім раёнах Віцебскай вобласці (сумесна з Зояй Харытановіч), раскопкі на паселішчах Асавец-2 Бешанковіцкага і Бярэшча-2 Лепельскага раёнаў Віцебскай вобласці.

## Разведкі

***Вёска Зані. Мядзельскі раён. Мінская вобласць.*** Катлавіна Дзягільскага возера ўяўляе з сябе выцягнуты з усходу на захад прыплюснуты авал з крыху зрэзанымі краямі (мал. 1, *а*). У заходняй частцы маецца выток р. Кубля (упадае ў воз. Баторына), а крыху на поўнач у тую ж заходнюю ўскраіну возера з паўночнага боку ўпадае крыніца Сцюдзяніца (Сцюдзёнка), якая і дала назву аднайменнай вёсцы. Праз вузкі перашыек паміж карэннымі берагамі, па якім бяжыць крыніца, на поўначы пачынаецца яшчэ адзін тарфянік, які цягнецца ў паўночным кірунку да вёскі Суднікі, і дзе, неўзабаве пасля перашыйку, Э. М. Зайкоўскім было выяўлена месцазнаходжанне каменнага веку [2, с. 7].

З поўначы ў сучаснае возера ўдаецца невялікі мыс, сучасная «купеля» в. Дзягілі. На гэтым мысе аўтарам у 1999 г. быў закладзены шурф, у якім былі выяўлены фрагменты керамікі культуры штрыхаванай керамікі [4, с. 4, 5]. У самой вёсцы маецца гарадзішча, абследаванае шурфоўкай ў 1980 г. Э. М. Зайкоўскім, з матэрыяламі штрыхаванай керамікі [1, с. 4].

У 2012 г. па ініцыятыве Міхала Чарняўскага былі праведзены невялікія разведачныя работы на поўдзень ад сучаснага возера, на разлеглым востраве пасярод «Дзягельскага моху», які добра чытаецца на спадарожнікавай карце. Згодна з гэтымі здымкамі масіў, які вылучаецца залесеннем сярод імшыстага наваколля, выцягнуты з паўднёвага захаду на паўночны ўсход. Непасрэдны абход выспы па самой мяжы з тарфянікам з выкарыстаннем GPS даў абрысы, пазначаныя шэрым (мал. 1, *а*). Пры гэтым паўночна-заходнія і паўночныя межы (ад вады) больш высокія, выразныя, відавочна падмыты хвалямі ў старажытнасці. Паўднёвыя і паўднёва-усходнія межы блага чытаюцца на месцы і пры паўнавартаснай тапаграфічнай здымцы могуць адрозніваецца ад пададзеных у справаздачы. Адпаведна, трэба разумець абрысы выспы на фотаздымку з космасу, якія не супадаюць з рэальнымі, як блізкі выхад мініральнага дна возера (падтопленага вострава), дастатковы для змены расліннасці (росту сасновага лесу).

Шурф памерамі 1 × 1 м быў закладзены бліжэй да заходняга краю выспы, у паўночнай яго частцы. Грунт выбіраўся рыдлёўкай пластамі па 20 см і прасейваўся на металічным сіце з вочкам памерам 5 мм.

Стратыграфія шурфа:

0–5, 0–7 см – лясны дзёран з імхом, падасланы тонкім, да 1 см, чорным/цёмна-карычневым паўраскладзеным прапласткам яго ж (дзёрну);

далей 2–3 см попельна-сіваватага, светла-шэрага пяску. У ім сустракаюцца самыя першыя знаходкі;

наступны пласт, каля 8 см – шэра-карычневы, плямісты пясок. Асноўная колькасць артэфактаў была размешчана ў ім;

ніжэй размешчаны мацярык, руды пясок з артзандамі. Апошнія сустракаліся ў меншай колькасці і ў вышэйшых прапластках пяску.

Матэрыял: фрагмент керамікі, сценка. Вонкавая паверхня падгарызантальна заштрыхаваная, са знайніцы падштрыхоўка набывае вертыкальны характар. Дамешак мінеральны, пясок, дробная жарства. Таўшчыня – 7 мм. Без арнаменту. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, мяжа новай эры; адзін скол крамянёвы падскарыністы, неапрацаваны; адна медыяльная частка пласцінкі трапецападобнага сячэння, 19,0 × 12,0 × 3,2 мм; адна праксімальная частка мікрапласцінкі падскарыністай, 14,5 × 7,2 × 1,7 мм; адзін мікраадшчэп менш 0,5 $см^2$; адзін адшчэп падскарыністы, больш 2 $см^2$; адзін адшчэп каля 1 $см^2$; адзін адшчэп менш 1 $см^2$, перапалены.

Такім чынам, на падставе матэрыялу месцазнаходжанне можна прадатаваць каменным–жалезным векам. Для ўдакладнення як храналогіі, так і ўласна ідэнтыфікацыі месцазнаходжання неабходныя дадатковыя даследаванні.

На захад ад вострава, па другі бок ад ракі Ворнач (назва паступова знікае, для мясцовага насельніцтва ўжо больш характэрна казаць «рака» або «канал»), было праведзена бурэнне тарфяніка. Глыбіня торфу да мацерыка (светла-шэры да шэрага дробны азёрны пясок) склала 163 см.

***Вёска Верабкі. Лепельскі раён. Віцебская вобласць.*** Разведкі праводзілі з паўднёвага боку ад р. Бярэшча (мал. 2).

«Малы Чухан 1-ы» (Бярэшча-4) – месцазнаходжанне размешчана на кроплепадобнай верацеі даўжынёй каля 250 м у лясным масіве за 1550 м на паўднёвы захад ад моста праз р. Бярэшча ў в. Ве-




*а*




*б*

Мал. 1. Месцы правядзення разведак: *а* – Мядзельскі раён; *б* – Ушацкі раён




Мал. 2. Помнікі мікрарэгіёна: *1* – Бярэшча-1; *2* – Бярэшча-2; *3* – Бярэшча-3; *4* – Бярэшча-4

рабкі (мал. 2: *4*). Тут, у зачыстцы сасновага вываратня, выяўлены крамянёвы адшчэп.

Стратыграфія зачысткі: падзол лясны, сівавата-карычневы – 20 см, ніжэй пясок чырванавата-цагляны, да 40 см. У ім і быў выяўлены адшчэп. Таксама ў ім прысутнічае шмат дробнага камення.

Праз 350 м на паўднёвы захад ад «Чухана 2-га» і праз 2150 м ад моста ў в. Верабкі, размешчана вялікае ўзвышша (мал. 2: *3*). У старажытнасці яно было разлеглым востравам складанай канфігурацыі. На лясной дарозе на заходнім схіле гэтай выспы, на агаленні і ў кратавінах сабраны дробныя фрагменты керамікі неаліту–бронзавага веку, тры крамянёвыя адшчэпы.

***Вёскі Кугоні і Заазер'е. Ушацкі раён. Віцебская вобласць.*** У 2012 г. сумесна з Зояй Харытановіч былі праведзены невялікія разведкі ва Ушацкім раёне (мал. 1, *б*). Адной з мэт была праверка інфармацыі пра масавае выяўленне каменных свідраваных сякер і сякер-кліноў на заходнім узбярэжжы воз. Чарсцвяты паміж і ў ваколіцах в. Славені і в. Ляхі [3, с. 202, карта, табл. 1: *1, 2, 4–10*]. Падрабязнае абследаванне трох участкаў не прынесла ніякага матэрыялу, акрамя спарадычных фрагментаў позняй ганчарнай керамікі. Адзіны пункт, зафіксаваны намі, знаходзіўся на ўсход ад в. Ляхі, амаль на самім беразе, на усходнім схіле пагорка (урочышча «Мяцёлка») – невялікая канцэнтрацыя фрагментаў позняга ганчарнага посуду. Другой, і асноўнай мэтай разведак ва Ушацкім раёне, была праверка стану захавання верагодных тарфяніковых стаянак каля в. Заазер'е і в. Кугоні на воз. Аталова. Цікавая для нас тэрыторыя ўяўляе з сябе ўтарфаванае возера, асушанае ў ХХ ст. і пакрытае сеткай міліярацыйных канаў (мал. 1, *б*). Тут у 1978 г. Э. М. Зайкоўскім у выкідах з канаў былі выяўлены фрагменты керамікі паўночнабеларускай культуры. Адначасова ў аўтара была вусная інфармацыя Міхала Чарняўскага пра знаходкі керамікі ў выкідах з канала ля суседняй в. Заазер'е. На жаль, падчас разведкі высветлена, што азначаная тэрыторыя забалочана праз запруджванне магістральнага канала бабрамі: узровень вады




Мал. 3. Матэрыялы паселішча Асавец-2: *1–5* – костка; *6–8* – крэмень; *9, 11* – камень; *10* – гліна

амаль вярнуўся да першаснага, дамеліярацыйнага стану. Правядзенне даследаванняў на верагоднай тэрыторыі размяшчэння стаянак сёння з'яўляецца немагчымым.

**Раскопкі**

***Вёска Асавец (Асавец-2, «паўднёвы раскоп»). Бешанковіцкі раён. Віцебская вобласць.*** Паселішча Асавец-2 размешчана за 1,2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі ва ўр. Дражня. Даследуецца аўтарам з 2008 г. У 2012 г працягнуты працы на паўднёвым раскопе, кв. 415–426. Былі ўскрыты чатыры умоўныя пласты: 90–100, 100–110, 110–125, 125–130 см. Напрыканцы даследаванняў ва ўсіх квадратах дасягнуты мацярык.

Культурны пласт моцна насычаны арганікай – дрэвам, карой, аднак стан яе захаванасці вельмі благі. Амаль ніводны фрагмент дрэва, за выключэннем паляў і шэрагу гарызантальных палак, не быў зачышчаны дакладна па абрысах: працэс раскладання дасягнуў такога развіцця, што ў мокрым грунце пры зачыстцы іх паверхня згладжваецца і здымаецца, як свежазамешаная гліна.

Усяго падчас даследаванняў 2012 г. выяўлены 6132 артэфакты: 44 індывідуальныя знаходкі і 6088 адзінак масавага матэрыялу. З крамянёвых вырабаў гэта два фрагменты наканечнікаў стрэл (мал. 3: *6*), скол са слядамі выкарыстання, пяць скрабкоў (мал. 3: *7*), адшчэп ад шліфаванай сякеры, шэсць фрагментаў неазначальных вырабаў (мал. 3: *8*). Касцяныя вырабы налічваюць чатыры наканечнікі стрэл (разам з абломкамі), тры праколкі, рыбны нож, сякеру рагавую, адціскальнік, выраб з пашчэнкі бабра, кінжал з лакцявой косткі, наканечнік гарпуна пашкоджаны (мал. 3: *5*), тры зробленыя з зубоў падвескі (мал. 3: *4*), пацерку (мал. 3: *2*), пранізку (мал. 3: *3*), касцяную накладку (мал. 3: *1*), лішкавы фрагмент ад вырабу пацерак, пяць фрагментаў неазначальных вырабаў. Выяўлены таксама і два каменныя вырабы – цёрачнік і пашкоджанае падавальнае грузіла са змешчанай адтулінай (мал. 3: *9, 11*). Гліняныя артэфакты прадстаўлены грузілам (мал. 3: *10*) і скрабком з фрагмента керамікі.

Выяўлена таксама шалупінне лясных арэхаў (460 экз.), жалуды (7), ядры (432) і шалупінне чылімаў (235 экз.), адзін неазначальны плод.

Асноўную колькасць знаходак складаюць фрагменты керамікі. Усяго выяўлена 1399 фрагментаў, з іх 119 венцаў, дзевяць донцаў і 665 сценак, 32 ад разваламаў начынняў, 574 фрагменты друзу керамічнага. Да паўночнабеларускай культуры адносіцца 308 фрагментаў, да усвяцкай – 454, да кола культур шнуравой керамікі – 56, да неазначальных і гібрыдных – 7 фрагментаў.

У раскопе 2012 г. было выяўлена таксама 857 костак млекакормячых, птушак і паўзуноў, з іх 262




Мал. 4. Крамянёвыя вырабы з паселішча Бярэшча-2 (*1–7*)

перапаленыя (або са слядамі ўздзеяння агню). Косткі рыб налічваюць 2489 экзэмпляраў, з іх 20 перапаленых.

***Вёска Верабкі (Бярэшча-2, «Прыгожая Верацея). Лепельскі раён. Віцебская вобласць.*** Размешчана за 3 км на паўднёвы захад ад моста праз р. Бярэшча ў в. Верабкі і за 800 м на поўдзень–паўднёвы ўсход (адхіленне ў пару градусаў) ад стаянкі Бярэшча-1 (мал. 2: *2*). Навакольная тэрыторыя моцна забалочана. Назва ўрочышча, са слоў мясцовых жыхароў, паходзіць ад таго, што пляцоўка пагорка ніколі не парастае лесам.

Форма пагорка разам са схіламі нагадвае класічны прамакутнік, катэты якога з'арыентаваны на поўдзень і ўсход. Схілы парослыя лесам. Уласна пляцоўка, занятая стаянкай, уяўляе з сябе авал нерэгулярных абрысаў, выцягнуты з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад, з «выпукласцямі» ў цэнтральнай і паўднёвай частках у заходнім кірунку. Па восі паўночны усход–паўднёвы захад даўжыня пагорка складае 180 м (уласна пляцоўка – 150 м); шырыня па восі паўночны захад–паўднёвы ўсход – 160 м (пляцоўка – 70 м).

У 2012 г. ў працягу мінулагодняга шурфа быў закладзены шурф 1 плошчай 6 м$^2$, а ў паўночнай аканечнасці пляцоўкі – шурф 2 памерамі 1 × 1 м.

На месцы выпрацоўкі шурфа 1 было ўсталявана стацыянарнае металічнае сіта з вочкам памерам 3 мм, праз якое прасейвалі ўвесь грунт. Першы пласт (пласты па 10 см) здымалі цалкам квадратамі (з улікам глыбіні разворкі плугамі), пры распрацоўцы астатніх пластоў (2 і 3) кожны квадрат дадаткова падзялялі на сектары А, Б, В, Г для больш дакладнай фіксацыі матэрыялу. Па завяршэнні даследавання кожны пласт зачышчалі. Даследаванне шурфа 1 × 1 м праводзілі, выкарыстоўваючы пераноснае сіта з вочкам памерам 5 мм.

Стратыграфія шурфа 1 (6 м$^2$):

0–10 см – дзярновы пласт;

10–30 см – шэры гумусаваны супесак;

30–45 см – кантактная зона;

45–60 см – мацярык, светла шэры/рудаваты супесак.

Стратыграфія шурфа 2 аналагічная.

Матэрыял прадстаўлены крамянёвымі, касцянымі і керамічнымі артэфактамі. Сярод вырабаў найбольш прадстаўлены крамянёвыя наканечнікі стрэл: ранненарвенскі (кундскі) чаранковы наканечнік на пласціне (мал. 4: *1*), два трохкутныя наканечнікі позняга неаліту–бронзавага веку (мал. 4: *4*), два абломкі, верагодна, лістападобных наканечнікаў стрэл (мал. 4: *2, 3*).

Сярод іншых крамянёвых вырабаў выяўлены пракрутка (мал. 4: *7*), скрабок (мал. 4: *5*), разец, пяць фрагментаў неазначальных вырабаў. Прадукты першаснага расшчаплення прадстаўлены 493 адшчэпамі, васьмю пласцінамі, пяццю мікрапласцінамі, пяццю сколамі. Выяўлена таксама 289 лускавін.

Выяўлены 144 фрагменты костак млекакормячых, сярод якіх абсалютна дамінуюць перапаленыя. Тры косткі аднесены да рыб, у тым ліку фрагмент перапаленай пашчэнкі шчупака.

Крыху большую па колькасці за крамянёвыя артэфакты групу складаюць фрагменты керамікі – ўсяго 830 экзэмпляраў. 688 артэфактаў праз свае памеры неазначальныя. Астатнія прадстаўлены фрагментамі начынняў нарвенскай, усвяцкай, паўночнабеларускай культур і культуры шнуравой керамікі. Невялікая колькасць фрагментаў можа быць аднесена да керамікі позняга бронзавага–жалезнага веку.

**Літаратура**

1. Зайкоўскі, Э. М. Справаздача аб археалагічных даследаваннях ў Паўночнай Беларусі ў 1980 г. / Э. М. Зайкоўскі ; ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 693. – 1981.

2. Зайкоўскі, Э. М. Справаздача аб палявых даследаваннях у 1981 г. / Э. М. Зайкоўскі ; ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 771. – 1982.

3. Сербаў, І. А. (Менск). Археолёгічныя помнікі Ушацкага раёну, Полацкае акругі (З матар'ялаў, сабраных экспэдыцыяй краязнаўчага т-ва Беларускага Дзяржаўнага Ўнiверсітэта ў 1928 г.) / І. А. Сербаў // Зап. аддз. гуманіт. навук. – Менск, 1930. – Кн. 11 : Працы археолёгічнай камісіі. пад агульнай рэд. археолёг. камісіі. – С. 199–212.

4. Чарняўскі, Макс. М. Справаздача аб палявых археалагічных даследаваннях у 1999 г. / Макс. М. Чарняўскі ; ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 1815. – 2000.

**Резюме**

*Макс. М. Чернявский*

**Иследования на Белорусском Поозерье в 2012 году**

В 2012 г. автор проводил раскопки на поселениях Асавец-2 Бешенковичского района Витебской области и Береща-2 Лепельского района Витебской области. Также им были проведены разведки в Мядельском районе Минской области, Лепельском и Ушачском районах Витебской области, в результате которых были выявлены новые памятники каменного–железного века Зани-1 и Береща-3, -4.

**Summary**

*Max. M. Chernyavski*

**Investigations in the Belarusian Lakes Region in 2012**

In 2012 the author excavated the settlements Asavets-2 (Beshankovichy district of Vicebsk region) and Biareshcha-2 (Lepel district of Vitebsk region). New sites of the Stone – Iron Ages (Zani-1, Biareshcha-3, -4) were found during the explorations in Miadzel district of Minsk region, Lepel and Ushachy districts of Vitebsk region.

*Пастуніў 21.05.2013 г.*

Навуковае выданне

**МАТЭРЫЯЛЫ ПА АРХЕАЛОГІІ БЕЛАРУСІ**

**MATERIALS ON THE ARCHAEOLOGY OF BELARUS**

Зборнік навуковых артыкулаў

Выпуск 25

**Вынікі даследавання першабытных і сярэдневяковых старажытнасцей Беларусі ў 2011–2012 гадах**

**Results of the investigations of pre-historic and medieval antiquities of Belarus in 2011–2012**

Рэдактар *Н. Т. Гаўрыленка*
Мастацкі рэдактар *В. А. Жахавец*
Тэхнічнае афармленне *В. А. Тоўстая*
Камп'ютарная вёрстка *М. Э. Малярэвіч*

Падпісана да друку 24.02.2014. Фармат $60 \times 84^1/_8$. Папера афсетная. Друк лічбавы.
Ум. друк. арк. 46,27. Ул.-выд. арк. 42,4. Тыраж 150 экз. Заказ 32.

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецкі дом «Беларуская навука».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка
друкаваных выданняў № 1/18 ад 02.08.2013. Вул. Ф. Скарыны, 40, 220141, г. Мінск.